*Dy jak nie skladać pra was zdrawicy-pieśni,*
*bary sancakosyja, chwojnyja huszczy,*
*Moj kraju lubimy... Maloje Paleśsie,*
*maja niepaŭtornaja Krupszczyna.*



# малое палесьсе

*PatriaSuperOmnia*

КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ ДРУЦКА-БЯРЭЗІНСКАГА КРАЮ/2009

Шляхамі Малога Палесься /Селішча жалезнага веку на возеры Сялява /Эпізоды з гісторыі савецкай партызанкі на Крупшчыне /З лексікі вёскі Луцішча /Дыярыуш Алеся Пушкіна /Фальклёрныя запісы скаўтаў /"Пагоня" вяртаецца на Беларусь /Усталяваньне крыжа ў памяць рэпрэсаваных землякоў

# Шляхамі Малога Палесься

**Крупшчына знаходзіцца ў цэнтры так званага "Малога Палесься" – рэгіён, што ўвабраў ў сябе землі сучасных Барысаўскага, Крупскага, Сеньненскага, Талачынскага, Бялынацкага й Бярэзінскага раёнаў. А гэта быў "Край сьвятых вазёраў, цудоўных крыніцаў і старэнькіх-старэнькіх мястэчак, край, дзе гісторыя густа расьсеяла сьляды свае: тысячагадовыя каменныя крыжы пры дарогах, старасьвецкія курганы, гарадзішчы, закінутыя ў нетры лясоў. Край, з-за каторага праз тры вякі білася Масква з Беларуска-Літоўскай дзяржаваю..." . "...Спрадвеку сюдою йшлі дарогі з усходу на захад і тут яны крыжаваліся з яшчэ важнейшымі ў даўныя часы дарогамі — з поўдня на поўнач".**

гл. с. 9

Гісторыка-краязнаўчы альманах

# МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ

Друцка-Бярэзінскага Краю

*Вітаем цябе, дарагі чытач! Мы радыя, што пасьля некалькіх год, зноў выходзім ў сьвет. Таму наш трэці выпуск выглядае значна "таўсьцейшым" за сваіх папярэднікаў, а таксама зьмяніў знешні выгляд. Але ёсьць рэчы нязьменныя – па-ранейшаму, мы – гэта Харугва Скаўтаў Малога Палесься, што на Крупшчыне. Па-ранейшаму - сфэра нашага зацікаўленьня – рэгіён Малога Палесься, у які акрамя Крупскага раёну ўваходзяць землі, што ляжаць паміж рэкамі Бярэзіна і Друць – Барысаўскі, Лепельскі, Чашніцкі, Талачынскі, Круглянскі, Бялыніцкі і Бярэзінскі раёны (іншымі словамі-Друцка-Бярэзінскі Край). Адпаведна, матэрыялы, змешчаныя ў нумары адлюстроўваюць розныя старонкі гісторыі й культуры нашага рэгіёну. Неабходна заўважыць, што альманах "Малое Палесьсе" ўважае родную мову ва ўсіх формах яе бытаваньня нацыянальнай каштоўнасьцю і помнікам культуры нашага народа. Гісторыка-культурная скіраванасьць выданьня абавязвае нас зьберагаць правапісныя, графічныя і лексіка-граматычныя асаблівасьці мовы публікаваных матэрыялаў. Выказваем шчырую падзяку ўсім добрым людзям, што спрычыніліся да выданьня гэтага нумара.*




Крупкі 2009

МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ/2009 Patria Super Omnia

Гісторыка-краязнаўчы альманах Друцка-Бярэзінскага Краю

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР / Андрэй АЛЯХНОВІЧ

РЭДКАЛЕГІЯ / Валеры АРЦЮХОВІЧ, Міхал БАРАВУЛЯ, Яніна ДЭМУХ.

МАСТАЦКАЕ АФАРМЛЕНЬНЕ, МАКЕТ, ВЁРСТКА / Марцін КОЙДАН

*Пры перадруку спасылка на альманах "Малое Палесьсе" абавязковая. Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасьць прыведзенай інфармацыі.*

**Рэдакцыя**






## ЗЬМЕСТ

# Селішча жалезнага веку на возеры Сялява

*(новыя дадзеныя; скарочана)*

**АРХЕАЛЁГІЯ** / Вадзім ШАДЫРА, Інстытут гісторыі НАН Беларусі/**Аляксей МАХНАЧ**, БДУ

*У 2008 годзе Днепра-дзвінская археалагічная група Інстытута гісторыі НАН Беларусі (кіраўнік – В.І.Шадыра) у адпаведнасці з планам НДР Інстытута праводзіла палявыя даследаванні па тэме: "Матэрыяльная культура насельніцтва тэрыторыі Беларусі ў першабытную і сярэдневяковую эпохі (сістэматызацыя, класіфікацыя і інтэрпрэтацыя крыніц) і, у прыватнасці, па аўтарскаму раздзелу: "Матэрыяльная культура і заняткі насельніцтва днепра-дзвінскага міжрэчча ў І тысячагоддзі н.э. (па матэрыялах раскопак у рэгіёне возера Сялява Крупскага раёна)". Былі працягнуты раскопкі селішча ва ўрочышчы "Выспянская гара" на востраве возера Сялява каля в.Клішана Крупскага раёна Мінскай вобласці.*

Раскопкі на гэтым селішчы вядуцца з 2006 года (мал.1). Мэтай даследаванняў 2008 года з'яўлялася атрыманне навуковай інфармацыі аб характары селішча, яго культурнай прыналежнасці, храналогіі, сувязі з гарадзішчам і г.д.

Работы праводзіліся сіламі вучняў і студэнтаў з г.Крупкі, якія ўваходзяць у рэгіянальную арганізацыю "Скаўты і краязнаўцы Малога Палесся". Выказваем падзяку кіраўніку краязнаўчага згуртавання А.П. Аляхновічу, усім настаўнікам і вучням, якія прымалі ўдзел у археалагічных раскопках селішча.

Селішча знаходзіцца ў 30 м на поўнач ад гарадзішча і прыкладна ў 10-15 м ад падэшвы тэрасы, якая прымыкае да гарадзішча (мал.1). Помнік размешчаны на невысокім узвышшы, вышыня якога над узроўнем возера прыкладна з заходняга боку 1,7–2,0 м, з паўночнага прыкладна 1,0 м, з усходняга боку каля 0,5 м. Пад час паводкі селішча напалову знаходзіцца пад вадой. Трэба адзначыць, што да 1950-х гг. (да будаўніцтва ГЭС) на Сяляве ўзровень вады быў прыкладна на 1,0 м ніжэйшы і адпаведна месца, дзе размяшчалася селішча было больш высокім над узроўнем возера.

Помнік быў адкрыты ў 2001 годзе аўтарамі падчас франтальнага абследавання ваколіц гарадзішча. Селішча мае памеры 40 м (NS) х 35 м (WO). На месцы селішча траплялася ганчарная кераміка ў кратавінах і толькі пасля шурфоўкі была





**Работы праводзіліся сіламі вучняў і студэнтаў з г.Крупкі, якія ўваходзяць у рэгіянальную арганізацыю “Скаўты і краязнаўцы Малога Палесся”.**

выяўлена ляпная кераміка. Было прынята рашэнне аб правядзенні тут стацыянарных даследаванняў, што і было ажыццёўлена з 2006 года. Вынікі раскопак помніка былі апублікаваны (Шадыра 2007, 2008).

У 2008 г. было працягнута даследаванне селішча (фота 2). Спачатку быў разбіты раскоп 8 х 6 (48 кв. м) і быў прывязаны да паўночнай сценкі раскопа 2007 г. Потым ён быў пашыраны з усходняга боку на 16 кв. м.

Пасля зачысткі мацерыка на раскопе канстатавана каля 40 ям, якія можна падзяліць на гаспадарча-пабытовага характару і слупавыя. Размяшчэнне слупавых ям не носіць дакладнай строгай арыентацыі, па якой можна было б вызначыць канкрэтную пабудову. Пакуль можна толькі дапусціць меркаванне аб наяўнасці пабудовы, калі злучыць ямы з рэшткамі паваленых бярвенняў, то атрымаецца забудова з памерамі прыкладна 5 х 5,5 м з адпаведнай плошчай прыкладна 25 – 27 кв. м. На вызначаны аб'ект выпадае 70% усіх індывідуальных знаходак. Выяўленная з'ява патрабуе больш глыбокага даследавання. Калі зрабіць рэканструкцыю плана пабудовы па слупавых ямах, то атрымліваецца 5,5 х 7,5 м (37 кв. м), што адпавядае памерам сучасных вясковых дамоў.

Усяго пад час раскопак было выўлена 1346 экз. артэфактаў масавага характару, 24 індывідуальных знаходкі (Сярод якіх: 8 – з жалеза, 6 – з гліны, 6 – з каменю, 2 – са шклу, 1 – з бронзы. Найбольш прадстаўнічаю катэгорыю складаюць вы-

рабы з жалеза.), каля 40 экз. костак жывёл, некалькі дзесяткаў кавалкаў жужалю і каля 10 кавалкаў глінянай абмазкі. Аналіз матэрыялаў і праведзеных даследаванняў на селішчы засведчылі, што гэта месца засялялася ў розныя часы з перыяду эпохі бронзы, а магчыма і раней. Прыкладна ў канцы IV ст. н.э. селішча было засвоена носьбітамі традыцый культуры кіеўскага тыпу і ранняй




**Клішына-2008. Крупскі раён. Гарадзішча і селішча. Геаграфічнае размяшчэньне, сітуацыйны і схематычны план.**



**Лета 2008. Чарговы сезон раскопак.**

Банцараўшчыны-Тушамлі. З цягам часу насельніцтва банцараўскай культуры стала асноўным прадстаўніком у гэтым рэгіёне да VII-VIII ст. н.э. Матэрыялаў IX-XI стст. на дадзеным паселішчы выявіць не ўдалося. Магчыма ў гэты час селішча знаходзілася ў іншым месцы. Дарэчы, на гарадзішчы гэты адрэзак часу таксама не зафіксаваны. Аднаўленне жыцця на селішчы як і на гарадзішчы адбылося ў канцы X ст. н.э. і гэты фактар звязаны з насельніцтвам, якое ўжывала толькі ганчарны посуд.

Выяўленыя намі некалькі курганных насыпаў, якія знаходзяцца ў 150-200 м. на паўночны захад ад паселішча, з'яўляюцца, відаць, рэшткамі курганнага могільніка гэтага насельніцтва. Высвятленне гістарычнага лёсу насельніцтва гарадзішча і селішча звязана з вывучэннем гэтых курганоў. Гэты фактар відавочны і правядзенне ў бліжэйшай перспектыве даследаванняў у гэтым накірунку мае важнае навуковае значэнне.

ЛІТАРАТУРА:

Шадыра В.І., Археалагічны комплекс на воз. Сялява Крупскага р-на. // ГАЗ / Ін-т гісторыі НАН Беларусі. Мн., 2007, №23, с 212-213./ Шадыра В.І., Махнач А.І. Селішча Клішына на выспе возера Сялява. // МАБ / Ін-т гісторыі НАН Беларусі. Мн., 2009.



# Дакумэнт часоў Вялікага Княства Літоўскага

**АРХІВАРЫУС**




Як і меркаваў Ягамосць Леон Брадоўскі ў сваім артыкуле "**Моладзь з усходняй Беларусі наведала Варшаву.**" *(гл. далей, у нумары),* узрост вёскі Хацюхова сапраўды старэйшы за 430 год, што мы адсьвяткавалі ў 2003-м. Днямі, к нам у рэдакцыю, ласкава трапілі матэрыялы, якія адшукаў наш даўні сябра, гісторык-архівіст, супрацоўнік Нацыянальнага архіву Беларусі і аўтар кнігі "**Хацюхова – гісторыя невялікага паселішча Мн., 2001 – Герман Брэгер**. Працуючы з **"Літоўскай метрыкай" за 1540-1541гг.,** ён адшукаў некалькі дакумэнтаў, адзін з каторых дае нам новую дату першага ўпаміну вёскі Хацюхова – **1540 год.** Такім чынам у бягучым, 2010-м годзе мы можам ўрачыста адзначыць **470-ю гадавіну** гэтага вядомага паселішча.

Акрамя Хацюхова яшчэ ўзгадваюцца вёскі Заесье, **Халапенічы** і Альхова, што належалі ў той час князю Бартламею, каноніку віленскаму, што таксама дае нам новую інфармацыю аб уладарах мястэчка Халапенічы ў сярэдзіне XVI-га стагоддзя.




**106. Кн(я)зь Балтром*ей,* каноникъ вил*е*нск*ий,* с и(а)номъ Миколаемъ, мечъны*м*.**
[В четвергъ, декаб(ра) 23 день 1540]

Князь Бальтромей, каноникъ[1] виленский, жаловалъ на пана Миколая Петровича *(Олехновича – рэд.),* мечного г(о)с(по)д(а)рьского[2], о наездьки, о кгвальты, о грабежы, о головъщыны[3], о забранье земль, поль, лесовъ, сеножатей, о повыдиранье пчолъ и инъшые крывды, которые ся, дей, з ыменья пана Миколаева Лукомъского отъ старца[4] и отъ инъшых подданных его черезъ заруки г(о)с(по)д(а)рские деют(ь) именью кн(я)зя Бальтромеевому костельному Остапъскому и

инъшым селамъ тамошнимъ: **Заес(ь)ю, Холопиничомъ, Ольхову и Хотихову** деютъ черезъ заруки г(о)с(по)д(а)ръские, - яко жъ жалоба тая его в позъве шырей описана естъ. Пан мечъный противъ отмовялъ, ижъ онъ именье Лукомъское не одинъ держытъ, але посполу зъ Яномъ Вольменъскимъ, а такъ, дей, не повиненъ онъ самъ одинъ о сябраное именье отказывати. Князь каноникъ спиралъ его, ижъ онъ первей, до жадног(о) сябра в томъ ся не одзываючы, вступилъ с нимъ о то в право и рокъ на земли оные ку учыненю справедливости подданымъ его с подданными своими под страченьем права //[69v] прынялъ былъ и подвезалъ ся под тотъ рокъ перед княземъ бискупомъ[5], его м(и)л(о)стью, виленьскимъ, - на што жъ и выпис е книгъ кн(я)зя бискупих покладалъ князь каноникъ.

Панове, их м(и)л(о)сть, для того, ижъ светлые дни зашли, отложыли имъ рокъ праву тому – от сего дня за чотыры недели. Маютъ они на оный рокъ тутъ перед г(о)с(по)д(а)ремъ, его м(и)л(о)стью, або перед паны радами[6] ку праву стати за тыми жъ позвы теперешъними.

[1] **канонік** – манах каталіцкага манаскага ордэну (л-ра: энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага, Мн. 2006, т.2, ст.32);
[2] **мечнік гаспадарскі** – пасада ў ВКЛ у 15-18 ст. У час вялікіх урачыстасцей мечнік ВКЛ нёс перад манархам (гаспадаром) аголены меч як сімвал вайсковай улады (л-ра: там жа, т.2, ст.311);
[3] **галоўшчына ("головщизна")** – адзін з відаў пакарання, прадугледжаны крымінальным правам ВКЛ за забойства чалавека. Спаганяўся ў выглядзе грашовага штрафу. Г. была дадатковым відам пакарання (л-ра: там жа т.1, ст.489);
[4] **старац** – выбарная асоба валаснога самакіравання на тэрыторыі Беларусі да 2-й пал. 16 ст. (л-ра: там жа т.2, ст.629);
[5] **біскуп** – духоўны сан у каталіцкай царкве, які адпавядае сану епіскапа ў праваслаўнай царкве (л-ра: там жа т.1, ст.333);
[6] **паны-рада** – вышэйшы орган дзяржаўнай улады ў ВКЛ у 15-1-й пал. 16 ст. У Раду ўваходзілі вышэйшыя асобы дзяржавы (маршалак, гетман,канцлер, падскарбі, ваяводы, кашталяны, некаторыя старасты і інш.), каталіцкія біскупы, найбуйнейшыя феадалы (л-ра: там жа т.2, ст.483).



# Шляхамі Малога Палесься

***Дарогі й людзі Вялікага Княства вачыма аднаго вандроўніка***

**НА СКРЫЖАВАНЬНЯХ** / Андрэй АЛЯХНОВІЧ, Наста ХАДАСЕВІЧ.

УСТУП

## ШЛЯХІ МАЁЙ ЛІТВЫ... – ТАКІЯ Ж РОЗНЫЯ, ЯК ЛЮДЗІ.



*З найстаражытнейшых часоў наша краіна знаходзілася на скрыжаваньні розных шляхоў, на раздарожжы этнічных, рэлігійных, эканамічных і сацыяльных асаблівасьцяў розных народаў. Наша Крупшчына, наша Малое Палесьсе зьяўляецца як бы невялічкай копіяй усёй краіны. Адвеку праз яе йшлі розныя па прызначэньні шляхі-дарогі, па якіх у свой час ехалі й шлі розныя людзі: князі і просты люд, вайскоўцы і гандляры, сьвятары і дыпляматы, злодзеі і кантрабандысты, вандроўнікі і паштары, сябры і ворагі. І кожны знаходзіў сваё...*

*Крупшчына знаходзіцца ў цэнтры так званага "Малога Палесься" (рэгіён, што ўвабраў ў сябе землі сучасных Барысаўскага, Крупскага, Сеньненскага, Талачынскага, Бялынацкага й Бярэзінскага раёнаў). А гэта быў "Край сьвятых вазёраў, цудоўных крыніцаў і старэнькіх-старэнькіх мястэчак, край, дзе гісторыя густа расьсеяла сьляды свае: тысячагадовыя каменныя крыжы пры дарогах, старасьвецкія курганы, гарадзішчы, закінутыя ў нетры лясоў. Край, з-за каторага праз тры вякі білася Масква з Беларуска-Літоўскай дзяржаваю..." (1). "...Спрадвеку сюдою йшлі дарогі з усходу на захад і тут яны крыжаваліся з яшчэ важнейшымі ў даўныя часы дарогамі – з поўдня на поўнач ("З Варагаў у Грэкі")." (2).*

У сваёй працы мы зрабілі спробу паказаць гісторыю нашых мясьцін і краіны праз шлях-дарогу ў храналягічным парадку ад IX і да пачатку XIX стагодзьдзя. Мы палічылі натуральным пачаць нашу працу трохі раней за часы ВКЛ – ад часоў пракаветных, каб было бачна з чаго ўсё пачыналася й на чым грунтуецца. Наша падназва "Дарогі й людзі Вялікага Княства вачыма аднаго вандроўніка" тлумачыць форму і стыль працы, якую мы ўмоўна прапаноўваем для больш натуралёвага вандраваньня па вякох і гістарычных дакумэнтох. У ДОБРЫ ШЛЯХ. З БОГАМ!

# ПЕРШЫЯ ВОДНЫЯ Й СУХАПУТНЫЯ ШЛЯХІ КРУПШЧЫНЫ

***Дарога, усяму пачатак і надзея...***



Першым, вядомым з пісьмовых крыніц, водным шляхам праз нашу тэрыторыю быў знакаміты "шлях з варагаў ў грэкі", які ў IX-X ст. праходзіў па Заходняй Дзьвіне і Дняпры, злучаючы Паўночную і Паўднёвую Эўропу, Скандынавію і Блізкі Ўсход. Дакладней кажучы, гэта было ягонае сяляўскае адгалінаваньне, што праходзіла па маршруце: "З. Дзьвіна – Ула – Лукамка – воз.Сялява – р.Ракітаўка – волак 6 вёрстаў – Бобр – Бярэзіна – Дняпро" (3).

Доказам існаваньня гэтага шляху лічацца скарбы, знойдзеныя ў 1898 і 1903 гадох у в. Стражавічы, непадалёк ад Лукамля. Сярод шматлікіх кавалкаў срэбра і упрыгожваньняў былі знойдзены срэбныя саманідскія манэты X ст., а таксама кёльнскія, германскія і англасаксонскія манэты X-XI ст. На старажытным Лукомскім гарадзішчы быў знойдзены баявы молат, які, па сьцьвярджэньні археолягаў мог належыць скандынаўскаму ваяру. Таксама, у 2001г. скаўтамі "Малога Палесься" на раскопках гарадзішча "Выспянская гара" знойдзена некалькі пацерак бізантыйскага паходжаньня і дырхэм эпохі Саманідаў X стагодзьдзя.

Такія рэкі Крупшчыны, як Бабёр, Нача, Эса, Пліса таксама зьяўляліся першымі гандлёвымі шляхамі для нашых прашчураў. Так, па рэках Нача – Бабёр – Бярэзіна – Дняпро яны гандлявалі з Кіевам, – туды выпалены драўляны вугаль, – сабе ўпрыгожваньні і прылады працы.

Цалкам верагодна, што прататыпы сучасных шляхоў былі закладзены яшчэ пад час вялікага перасяленьня народаў.

Пачынаючы нашую вандроўку паспрабуем уявіць сабе важнасьць першых сухапутных дарог. Думаецца, – чым цяжэй было правесьці і ўпарадкаваць, чым меньш было для гэтага сродкаў і магчымасьцяў – тым больш вялікае значэньне мелі першыя дарогі ў даўніну.

Такія дарогі рабіліся, хутчэй за ўсё, агульнымі высілкамі народа, рабіліся рупліва й надоўга. Пра гэта сьведчаць рэшткі такіх шляхоў па лясах і балотах, што захаваліся й па сёньня. Мы ня ведаем наколькі дарогі былі шырокія – цяжка казаць, таму што яны зарасьлі лесам, але ж грэблі для дарог на балотах былі дастаткова шырокія і рабіліся з зямлі, камянёў і бярвеньня.

Звычайна карысталіся бродам, але былі й масты, якія рабіліся з дрэва. Таксама былі масты й каменныя – пра гэта сьведчаць рэшткі каменных сваяў, што зрэдку сустракаюцца сярод балот і на невялікіх (зараз) рэках.

Таксама сярод лясоў заўважаны вялікіх памераў, але малой глыбіні, ямы, з роўнымі донцамі, абкапаныя вакол невялікім валам з адным выездам. Такія




ямы звычайна знаходзяцца непадалёк ад дарог і таму можна уявіць сабе, што яны выконвалі ролю месца для адпачынку. І яшчэ, – паводле меркаваньняў некаторых дасьледчыкаў паказальнікамі старажытных шляхоў могуць быць курганы і камяні, на якіх выбіваліся умоўныя знакі: свастыкі, кругі, падковы, крыжы і г.д. (4). Яны і на самой справе раскіданы па ўсяму Малому Палесьсю. Курганы маглі быць, як указальнікамі, так і месцамі пахаваньня людзей, нечакана памерлых, альбо загінуўшых пад час падарожжа. Час узьнікненьня крупскіх курганаў X-XIII ст.ст. Камяні выкарыстоўваліся для тых жа самых мэтаў, што і курганы. Так, менавіта вялікія камяні-крыжы ўказваюць на існаваньне старажытнага шляху паміж вёскамі Калодніца і Харытанцы: *"...один из них "Макаровский", возле дороги из имения Язвы в деревню Харитонцы ..., другой "Моисеевский", в версте от перваго..." (5)* (мапа 1). На Крупшчыне захаваліся рэшткі Вітавай дарогі, аб якой мы распавядзем ніжэй. Мы мяркуем, што самыя першыя дарогі выглядалі прыблізна так, як і яна, але проста не захаваліся да нашага часу.

**Мапа 1. Фрагмэнт мапы ВКЛ 1613г. "Малое Палесьсе"**

# ШЛЯХІ XIV–XV СТАГОДЗЬЗЯЎ

***Я – шлях, якому век***
***няма спакою***
***ні ў чорны дзень,***
***ні ў месячную ноч...***
*Янка Купала*



Вялікая частка Малога Палесься ў гэты пэрыяд уваходзіла ў Друцкае і Лукамскае княствы, славутыя сваёй гісторыяй (мапа 2). Князі Друцкія і Лукамскія былі першымі ўладарамі нашых продкаў. Так, наша вёска Худава ўзгадваецца пад 1350 годам, як даньнікі Друцкай царквы, аб чым адпаведны запіс зрабіў князь Васіль Міхайлавіч Друцкі на вокладцы Друцкага Эвангельля. Гэта, пакуль, першы ўпамін тэрыторыі Крупшчыны ў гісторыі.

Праз Барысаўшчыну й Крупшчыну, пралягае, так званая *Вітаўка,* альбо *Вітава дарога.* Упамінаецца яна ў 1395 годзе, калі Вялікі князь Вітаўт ішоў з ваенным паходам на Воршу й Смаленск.

У вёсцы Маласаі Крупскага раёну, якую ў 30-я гады ХХст. зруйнавалі пад ваенны палігон, існавала паданьне: *"У свой час праходзіў па нашых мясьцінах кароль Віт са сваімі ваярамі і прыпыніўся палуднаваць у Маласаях. Нашыя продкі закалолі некалькі быкоў, каб накарміць войска. Але ў самой вёсцы не было студні, і жыхары разам з воямі караля выкапалі яе ды абклалі знутры камянямі. Віт аддзячыў нашым продкам па-каралеўску: дараваў ім свой прывілей, якім аслабаніў іх ад падаткаў на вякі вечныя"* (6). У сярэдзіне ХІХ ст. вядомы беларускі этнограф і краязнаўца Павал Шпілеўскі, вандруючы па нашых мясьцінах на свае вочы бачыў *"Вітаву студню"* і запісаў гэтае паданьне ад жыхароў вёскі Маласаі (7).

Акрамя вышэйзгаданых, на Малым Палесьсі захаваліся такія назвы, як *"Вітаў мост",* узгорак *"Вітагор'е", "Вітаў сталец", "Вітава ложа".* Як ні хто іншы, Вялікі князь Вітаўт пакінуў шматлікія сьляды ў народнай памяці. І вельмі характэрна, што ў паданьні ён называецца Каралём... .

Трэба заўважыць, што землі Крупшчыны лічыліся ў той час даволі глухім месцам, але не магчыма каб Вітаўт сам пракладаваў дарогі па бяскрайніх лясах і гразкіх балотах, гэтаму супярэчаць хуткасьці яго ваенных пераходаў. Таму, цалкам верагодна, што Князь карыстаўся шляхамі існаваўшымі задоўга да яго, збудаванымі яшчэ старажытнымі насельнікамі рэгіёну і падарожнікамі (8).

А што яны існавалі, мы знаходзім пацьверджаньне ў летапісах – напрыканцы XIV ст. ужо упамінаецца княская паштовая служба ВКЛ. Вялікі князь і удзельныя князі прымалі ганцоў для перасылкі паведамленьняў і указаў як словам,




/// гістарычнае ядро Друцкага княства;
● уладаньні князёў Друцкіх за межамі азначанага ядра ў XV ст;
━━━ межы тэрыторый, для якіх прасочваецца сувязь з Віцебскам ці Друцкам;
– – – межы буйных валасьцей

**Мапа 2. Друцкае Княства і яго асяродзьдзе ў XIV – XV стст.**

так і пісьмова. А княскі ганец павінен быў добра ведаць мясцовыя дарогі і арыентавацца днём і ноччу (9).

Крочым далей... На мяжы XV-XVI стст. мы “сустракаемся” з Вялікім Князем Аляксандрам, які ў 1499 годзе вёў цяжкія абарончыя войны з Маскошчынай і “...стаяў з войскам на рацэ Бобр”, адбіваючы напады захопнікаў (10).

Праз 15 год князь Канстанцін Астрожскі атрымаў бліскучую перамогу над 80-тысячным войскам маскоўскага цара Васіля III, кіруючы 30-тысячнай арміяй суайчыньнікаў! Адбылося гэта 8 верасьня 1514 году пад Воршай. Але аб гэтым ў наступнай главе.

Мы ж адзначым, што менавіта ў гэты пэрыяд пачаў усталёўвацца “Вялікі галоўны гасьцінец” нашай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, які ў рускіх дакумэнтах называўся “Пасольскай дарогай”. Гэта шлях з Масквы на Вільню праз Смаленск, Воршу, Барысаў, Лагойск, Менск і Маладэчна. Менавіта па ім праходзілі й праяжджалі ўсе тыя асобы, каторыя пакінулі ў сваіх запісках згадкі пра тэрыторыю сучаснага Малога Палесься.

# ШЛЯХІ Й ДАРОГІ XVI СТАГОДДЗЯ

***Усе шляхі маёй Літвы***
***гудуць у стомленых нагох,***
***кароль і хлоп, гэрой і трус***
***прайшоўся па яе палёх.***
*Стары ліцьвін*

Вестка аб перамозе Канстанціна Астрожскага над маскоўскім царом хутка абляцела ўсю Эўропу. Праз некалькі год (у 1520-х) была напісана вялікая карціна “Бітва пад Воршай”. Гэтая бітва ўвайшла ва ўсе сучасныя падручнікі вайсковай гісторыі. Але не ўсе ведаюць, што гэтая баталія была чацьвёртай па ліку.

Першы бой адбыўся 27 жніўня на левым беразе Бярэзіны, пад Барысавам. На наступны дзень маскоўцы цярпелі паразу ў баі над ракою Бобр, а 1 верасьня ля ракі Друць. Паслухаем летапісца:

> *“Лета Божага Нар 1514, месяца мая 6 дня за тыдзень па святым Міколе па вясне ў ваўторак, прыйшоў князь вялікі маскоўскі пад Смаленск, і стаў пад горадам, дабываючы і б'ючы з дзел, 12 нядзель.*
> *Кароль Жыгімонт, услышаўшы тое, пайшоў бараніці Смаленска і выехаў з Вільні месяца іюля 22 дня, ў суботу, за нядзелю перад Спасавымі запустамі...*



**Візіта Сігізмунда Гэрбэрштайна**

*І мала на тэм маючы, Маскоўскі паслаў людзей і войска вялікае к Воршы і к Друцку, разказаўшы ім глыбока ваяваці зямлю Літоўскую, а кароль Жыгімонт пайшоў з Менску к Барысаву, а з Барысава паслаў проціў войска Маскоўскага гетмана свайго князя Канстанціна Іванавіча Астроскага з войскам.*

*І старажавыя палкі Літоўскага войска з старажавымі палкамі маскоўскімі спаткаліся на **Бабры рацэ,** і там усю маскоўскую старожу пабілі і многа жывых паімалі.” (11).*

Але не толькі нашы ваяры, што прынесьлі неўміручую славу ліцьвінскай зброі, рушылі па “галоўнаму гасьцінцу” (мапа 3). У XVI стагодзьдзі па ім ужо крочаць дыпляматы, вандроўнікі, духовыя асобы, якія пакінулі пасьля сябе ўспаміны,




**Мапа 3. “Вялікі галоўны гасцінец”, фрагмэнт мапы 1613г.**

дзёньнікі, дзякуючы якім мы маем магчымасьць... вандраваць разам зь імі.

У 1517 годзе першы, а ў 1526 – другі раз праз нашы мясьціны ехаў пасол Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі Сігізмунд Гэрбэрштайн. Двойчы ён





*“На роднай мове літоўцаў бізон называецца зубрам; германцы завуць яго аўрокс, або урокс; імя гэта належыць буйвалу, які мае выгляд быка, тады як бізоны зусім не падобны да апошняга па свайму выгляду.”*



**Літоўскі бізон паводле Гэрбэрштайна**

узначальваў пасольствы ў Масковію, аб чым падрабязна напісаў у сваіх “Запісках аб Масковіі”. Дзякуючы ім Эўропа ўпершыню шмат даведалася аб жыцьці і норавах народаў, якія жылі на ўсход ад Віслы.

У гэты час кавалак “вялікага гасьцінцу” пасьля Барысава ў кірунку Воршы йшоў не там, дзе зараз: на Начу – Крупку – Бобр, а збочваў на поўдзень у кірунку Вялікае Горадна – Друцк і ўжо далей выходзіў на Воршу. У сваіх “Запісках...” Гэрбэрштайн тлумачыць, што за Барысавам пачынаюцца “найвялікшыя пустэчы” (12) – й, вядома ж, лясныя – і ніякай магчымасьці праехаць карацейшай дарогай (у напрамку Нача – Крупка – Бобр) няма. Так і было – да сярэдзіны XVI ст. праз Крупку і Бобр яшчэ не ўсталяваўся праежджы шлях. “Дзякуючы” гэтаму мы дакладна ведаем дату першага ўпаміну нашае вёскі Вялікае Горадна – сьнежань 1517г. (13).

У нататках падарожнікаў, пачынаючы з Сігізмунда Гэрбэрштайна, шмат месца адведзена густым, непраходным лясам, расьліннаму й жывёльнаму сьвету Літвы. Мяркуючы па іх апісаньнях, жывёльны сьвет быў надзвычай багатым: *“дзікіх звяроў там больш, чым ва ўсім хрысьціянскім сьвеце. Паколькі лясы там вялікія, то трапляецца і ловіцца шмат буйных зьвяроў: буйвалаў і лясных быкоў, якіх яны (жыхары – аўт.) на сваёй мове называюць турамі або зубрамі, дзікіх аслоў і лясных коней, аленяў, ланяў, газэляў, коз, дзікоў, мядзведзяў, куніц, вавёрак і іншых зьвяроў.” (14).* Гэрбэрштайну асабліва кінуліся ў вочы зубры, туры і ласі: *“... у Літве ёсьць наступныя звяры: бізоны, буйвалы, ласі... На роднай мове літоўцаў бізон называецца зубрам; германцы завуць яго* аўрокс, *або*

урокс; *імя гэта належыць буйвалу, які мае выгляд быка, тады як бізоны зусім не падобны да апошняга па свайму выгляду. Бо ў бізонаў калматыя грывы, шыя і лапаткі, а з падбародка звісае нешта накшталт барады. Поўсць іх смярдзіць мускусам, галава кароткая, вочы вялікія і страшныя, нібы вогненныя, лоб шырокі, рогі пераважна настолькі далёка размешчаны адзін ад другога, што паміж імі могуць усесціся тры чалавекі моцнага целаскладу... На спіне ў іх узвышаецца нешта падобнае на горб, а пярэдняя і задняя часткі цела ніжэй спіны. Той звер, якога літоўцы на сваёй мове называюць ласём, па-нямецку носіць назву* эленд, *некаторыя ж клічуць яго па-лацінску* альцэ. *У яго раздвоеныя капыты... Гэта жывёліна вышэй за аленя, у яе рэзка выступаюць вушы і ноздры, рогі яе адрозніваюцца ад рагоў аленя, колер поўсці таксама выдзяляецца большай белізной. У хадзе яны вельмі шпаркія і бегаюць не так, як іншыя жывёліны, але падобна іназодцам. Ласіныя капыты тады насілі пры сабе, каб засьцерагчыся ад падучай хваробы (эпілепсіі) (15)".*

Крочым далей і даведваемся, што рэгулярная паштовая служба ў Вялікім Княстве Літоўскім зьяўляецца ў 1557 годзе. Ад усіх вялікіх гарадоў ў розных накірунках ужо разыходзяцца паштова-гандлёвыя дарогі з паштовымі станцыямі. Такія станцыі будаваліся праз кожныя 3-7 міляў. Навакольныя сяляне павінны былі перавозіць ад станцыі да станцыі княскіх гасьцей, паслоў і дзяржаўных асобаў.

У 1568 годзе на сумесным Сойме Кароны і Вялікага Княства было прынята, што на утрыманьне ганцоў, перавозку паслоў і дзяржаўных асобаў з гарадоў і мястэчак павінен зьбірацца "ганецкі падатак". Кожнае паселішча ці вёска, што ляжалі ў межах таго ці іншага ганецкага адрэзку, павінны былі утрымліваць некалькі коней "для пасылкі іх у падводы" (16).

І ўжо пад 1575 годам сустракаем зьвесткі, што яшчэ адзін пасол Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі – Ганс Кабенцаль фон Просег – ехаў ужо карацейшай дарогай, праз мястэчкі Начу – Крупку – Бобр, а не на Друцк. Між іншым, *гэта інфармацыя дае нам падставы лічыць пакуль **1575 год** першым упамінам нашай Крупкі (17).*

Запісы падарожнікаў сьведчаць, што колькасьць паселішчаў у XVI стагоддзі ў параўнаньні з XV узрастае ўдвая. Там, дзе раней можна было ехаць два дні і дзьве ночы і не сустрэць ніводнага жыльля, цяпер трапляюцца невялічкія вёскі й мястэчкі. Вось і сябра пасольства Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі Стэфан Хайс, які ехаў праз нашыя мясьціны ў 1593г., зазначыў, што мястэчка Нача была заснавана "ўсяго 9 год таму, а яе жыхароў кароль на 20 год вызваліў ад усялякіх падаткаў і павіннасьцяў." (18).

Вядома ж, калі мястэчка – значыць гандаль. І сапраўды, у большасьці гарадоў і мястэчак паводле каралеўскіх прывілеяў рэгулярна, раз на тыдзень або некалькі разоў у год, праводзіліся шматлюдныя кірмашы, на якія прыяжджалі

свае і іншаземныя купцы. Там можна было набыць зьвярыныя скуры і мяса, вылаўленую ў рэках і вазёрах рыбу, збожжа, мёд і пяньку. Такія "таржкі" і наведаў у тым жа 1593 годзе рускі дзяк Трыфан Карабейнікаў у Бабры й Начы, калі ехаў праз нашыя землі з Масквы ў Малдову і турэцкую імпэрыю. Ён падрабязна апісаў у "Хаджэньні Трыфана Карабейнікава " свой шлях. Спачатку на Воршу, Бобр, Крупку, Начу, Барысаў, Менск, далей павярнуў на поўдзень старажытным гандлёвым гасьцінцам – праз Слуцак, Лістапады, Хвастова, Тураў – і далей, на Валынь (19).

Акрамя "Вялікага гасьцінца" праз Малое Палесьсе праходзіў яшчэ і *"Батурынскі шлях" (гл. старонку 3 вокладкі)*, г.зн. шлях нашага караля Стэфана Батуры, які ў 1579 годзе на чале 40-тысячнай арміі рушыў вызваляць Полацак ад маскоўскай няволі. Шлях гэты пралягаў з захаду на ўсход па лініі Барысаў – Хацюхова – Халапенічы – Лукамаль і далей на Полацак. І па сёння кавалкі старой дарогі паміж вёскамі Хацюхова, Гута і *Батуры* (!) старыя людзі называюць *"Батурка",* альбо *"Батурынскі шлях".* А некалькі год таму ля вёскі Батуры, пад час земляных работ, былі знойдзены рэшткі рыштунку вершніка й баявога каня часоў Інфлянцкай вайны.

*Шляхі, гасьцінцы, дарогі – якія вы розныя. Адным вы прынесьлі – славу, другім – ганьбу, трэцім – багацьце, чацьвёртым – жабрацтва, пятым – каханьне... усяго й не пералічыш. Яны такія разнастайныя, як само жыцьцё, што даравана нам Панам. Мо шлях і ёсьць сапраўдным сымбалям жыцьця? Шляхам да Бога, шляхам да сябе сапраўднага...*

# ШЛЯХІ Й ДАРОГІ XVII СТАГОДЗЬДЗЯ

Мы вандруем далей і ў 1602-1603 гадох сустракаем на "галоўным гасьцінцы" сябра пасольства Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі Гэорга Тэктандра фон Ябеля і Ёгана Брамбаха, сакратара Ганзейскага пасольства да рускага цара Барыса Гадунова. Між іншым, ён сьведчыў, што *"...з-за шматлікіх ям неаднаразова перакульваліся сані іхняга пасольства." (20).*

А сакратар пасольства Рымскай імпэрыі Ёган Гэорг Корб, які ехаў праз Начу, Крупку і Бобр у 1698-99 гадох, пісаў: "Нязьмерныя лясы, неразьежджаныя дарогі, заслоненыя дрэвамі з навіслымі галінамі, часта затрымлівалі нас. Каб пракласьці шлях, прыходзілася ламаць гальлё, сьсякаць шматгадовыя дрэвы". (21). У той небясьпечны час сяляне й нават шляхта задавальняліся ўсім сваім і выяжджалі ў іншыя мясьціны рэдка. Таму й пра стан дарог асабліва не клапаціліся. Галоўнай прычынай гэтаму мы лічым вайну 1654-67гг. *(гл. ніжэй – аўт.).*

Да таго ж яны былі блытаныя, і вось чаму. У тыя часы, як і раней, указальнікамі служылі капцы, на якія кожны падарожнік павінен быў падкінуць камень альбо сухую галінку. Часам заломваліся сукі, рабіліся насечкі, на дрэвах ці на абчасаных камянях выпальваліся магнацкія гэрбы. Разбойнікі ж усталёўвалі ілжэзнакі, каб завабіць абозы ў непраходныя нетры.

Любімым жа заняткам нашых продкаў, было паляваньне. Найбольшую цікавасьць у іншаземцаў выклікала паляваньне на зуброў, паколькі ў іншых кранах Эўропы яны ўжо не сустракаліся. Яшчэ Гэрбэрштайн пакінуў нам такое апісаньне: *"Той, хто хацеў паляваць на бізонаў, павінен быў валодаць вялікай сілай, спрытам і жвавасьцю. Найбольш зручнае месца для паляваньня там, дзе дрэвы разьдзелены між сабой прамежкамі і маюць такую таўшчыню, што іх лёгка абыйсьці навокал, але адначасова не вельмі тоненькія – каб за імі цалкам мог схавацца чалавек. Ля такіх дрэў па аднаму становяцца паляўнічыя. І калі ўзьнятыя сабакамі бізоны выходзяць на гэта месца, то кожны зь іх імкнецца кінуцца на таго з паляўнічых, які першы падвернецца на вочы. А той ухіляецца пад ахову дрэва і – наколькі можа – раніць зьвера рагацінай. Але бізон не падае нават і ад неаднаразовых удараў, толькі ўсё больш загараецца лютасьцю, размахваючы не толькі рагамі, але і языком, які ў яго такі шурпаты і жорсткі, што хапае і падчапляе паляўнічага адным дотыкам да яго адзеньня, і тады жывёла не раней пакіне паляўнічага, як заб'е яго. А калі паляўнічы выпадкам, стаміўшыся бегаць вакол дрэва і нападаць на зьвера, захоча адпачыць, то кідае яму чырвоную шапку, над якой ён лютуе і нагамі і капытамі." (22).*



*"...А калі паляўнічы выпадкам, стаміўшыся бегаць вакол дрэва і нападаць на зьвера, захоча адпачыць, то кідае яму чырвоную шапку, над якой ён лютуе і нагамі і капытамі."*

Шмат ў тыя часы на Літве вадзілася й мядзьведзяў. Той жа Ёган Корб піша, што слугі ўладальніка Бабра, князя Агінскага запэўнівалі яго, што паміж Бабром і Цяцерыным яны зацкавалі сабакамі каля пяцідзесяці мядзьведзяў.

Не сакрэт, што тады мастоў праз шматлікія рэкі амаль не было. Часьцей пераяжджалі ў брод, а ў лепшым выпадку перавозьнікі за плату перапраўлялі людзей з фурманкамі на пароме або плоскай лодцы. Масты рабіліся толькі часовыя, трымаліся, як правіла, не на сваях, а на плоскіх суднах. Вядома, праезд праз такі мост быў зьвязаны з рызыкай для жыцьця – правальваліся гнілыя насьцілы, ламаліся парэнчы. У 1678 годзе такія прыгоды напаткалі чэха Бэнгарда Танэра, які суправаджаў пасольства М. Чартарыйскага ў Маскву – не дзе-небудзь, а ў нашай Начы. А вось як апісвае Танэр тагачасных ліцьвінак: *"Большасьць жанчын па буйной круглявай фігуры не адрозьніш ад мужчыны, асабліва цікавае іх адзеньне: галаву яны прыкрываюць рагатай шапкай, а зьверху накідваюць доўгае пакрывала, носяць футра, якое зьвісае з плячэй, нібы плашч, усе абуваюцца ў боты папялістага колеру". (23).*

Усіх іншаземцам прыемна зьдзіўляла гасьціннасьць жыхароў нашага краю. Гэрбэрштайну, напрыклад, у адным з дамоў, дзе ён абедаў, паднесьлі "паводле мясцовага звычаю", падарунак. А Бэнгард Танэр адзначыў: *"Тутэйшыя жыхары*

*вельмі гасьцінныя, ... яны ўдосталь забясьпечвалі нас рознымі прыпасамі: півам, мёдам, водкай, віном, шчодра кармілі нашых коней."(24).*

Характэрны, для тых часоў, эпізод адбыўся з Гэоргам Тэктандэрам у 1602 годзе ў Менску: *"Тутэйшы начальнік, або староста, загадаў нас спытаць, адкуль мы і куды накіроўваемся, атрымаўшы ад нашага пана адказ, што ён пісаў ад Рымскага імпэратара да Вялікага князя Маскоўскага, ён пачаў сьмяяцца і зьдзеквацца над намі, гаворачы: "Няўжо ж Рымскі імпэратар не можа мець сябрам якога-небудзь больш значнага гасудара, чым маскавіта." (25).*

Якімі ж сродкамі транспарту карысталіся нашы продкі? Аўгустын Майербэрг, пасол Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі, які ў 1661 годзе ехаў воднымі й сухапутнымі шляхамі ВКЛ, занатаваў , што па Дняпры плавалі ў "чаўнах з драўлянага дупла", відаць дубовых. Па сушы ж ездзілі ў самых звычайных павозках (падводах, фурманках, "калёсах"). Яны мелі па чатыры драўляныя колы, шырыню – у сем футаў *(каля 2 мэтраў – аўт.),* а вупраж рабілася з лыка. Ва ўсёй павозцы не было ніводнага цьвіка, ніводнага кавалачка жалеза, а ва ўсёй збруі – ніводнага раменьчыка. Майербэрг падрабязна апісаў Дняпро й яго прытокі, а таксама прытокі прытокаў – ёсьць у яго нататках і зьвесткі пра нашу раку Бобр (26).



# ТРЫНАЦЦАЦІГАДОВАЯ ВАЙНА 1654-1667гг

***...Вайна крывавая, несправядлівая, без прычыны й абвяшчэньня.*** *Васпасіян Кахоўскі*

***...Стрымаць такое вялікае войскаў нашэсьце няма ніякай магчымасьці.*** *Вялікі гэтман Януш Радзівіл*

Найвялікшую трагэдыю нашага народу, трынаццацігадовую вайну з Маскоўскай дзяржавай ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя сучасьнікі трапна называлі "крывавым патопам".

Прыкрываючыся словамі пра абарону праваслаўя ад уціску "проклятых ляхов" і лісьліва абяцаючы захаваць правы й маёмасьць нашай шляхты, а таксама забясьпечыць усім праваслаўным спакойнае жыцьцё, Масква ў 1654 годзе развязала вайну, накіраваную на вынішчэньне нашага краю. Але на памежных з Расеяй землях многія спачатку паверылі гэтым абяцаньням. "Добрейший человек, славной руской души" (па В.В. Ключэўскаму), цар Аляксей Міхайлавіч Раманаў паслаў на Літву тры вялізарныя арміі, якім дапамагалі тры палкі прысланых Багданам Хмяльніцкім казакоў. "Гэтай 100-тысячнай вайсковай сіле супрацьстаяў у дзесяць разоў меншы корпус гетмана Януша Радзівіла.

Царскія ваяводы ...занялі Віцебск, Полацак, Воршу, Крычаў, Амсьціслаў, Гомель, Рэчыцу, Шклоў, Дуброўну ды іншыя гарады (27).

24 жніўня 1654 году пад мястэчкам Шэпялевічы, наш вялікі гэтман Януш Рад-

зівіл быў вымушаны даць бой насядаючаму маскоўскаму войску. Тут адбылася самая цяжкая ў ягоным жыцьці бітва, якая прынесла Радзівілу першую паразу. Загінула пад тысячу чалавек, сам гэтман быў паранены. Разьбітае войска расьсеялася па лесе. Непрыяцель забраў увесь абоз... Паранены гэтман, праведзены праз балоты Малога Палесься мясцовым селянінам, хутка зьявіўся ў Барысаве, адкуль загадаў рэшткам свайго корпуса гуртавацца ў Сьмілавічах, ...каб далей бараніць Айчыну.

Тыя ж гарады, што адмаўляліся ад капітуляцыі і мужна бараніліся, на загад цара былі разбураныя, а іх насельніцтва – вынішчанае або выведзенае ў палон. Забыўшыся на ўсе свае абяцаньні, царскія ваякі займаліся на захопленых землях рабаваньнем і гвалтам. Асабліва лютавалі яны ў безабаронных вёсках нашага краю. У адной з іх: "...осмнатцать человек ножами порезали, четырех жонок жгли и замучили насмерть, дву девок в недорослых летах изнасиловали", у другой: "дву человек срубили, дву мучили", у трэцьцяй: "шесть человек срубили на смерть", у іншых: "четыре человека мужиков срубили, а трох замучили",..."три человека мужиков до смерти сожгли", ..."мужиков семи человек срубили и четырох жонок сожгли" і гэтак далей. У сьпісе стратаў адзначалася, што па вёсках "никакова мужеска полу не узришь для жестоты Московской".

Замежнікам асабліва кідалася ў вочы нецярплівасьць маскоўскіх уладаў да іншых веравызнаньняў. Вышэйзгаданы пасол аўстрыйскага імпэратара Аўгустын Майербэрг, які езьдзіў пад час вайны ў Маскву, нават параўноўваў цара з турэцкім уладаром. Але калі турак, лічачы ўсе веравызнаньні ніжэйшымі за сваю веру, усё ж дазваляе праводзіць і каталіцкія, і праваслаўныя набажэнствы, дык "маскавіцяне толькі ўвойдуць у адкрытую браму якога-колечы горада ... адразу зьнішчаюць усялякае падабенства каталіцкай веры" (28).

Швэдзкі рэзыдэнт у Маскве Ёган дэ Родэс 14 сакавіка 1655 году даносіў свайму каралю Карлу Х, што "ў Рызе ў выніку цяперашняга поўнага разарэньня ВКЛ большасьць жыхароў пазбавілася прадуктаў" (29).

У адказ на гвалт пачаўся масавы партызанскі рух. І хоць у 1655 годзе была ўзятая Вільня, а стаўка маскоўцаў на чале з царом атабарылася ў нашай Крупцы, – гэты працэс толькі ўзмацняўся. Менавіта народна-вызвольны рух па ўсёй краіне даў пазьней магчымасьць войскам Рэчы Паспалітай перайсьці да пасьпяховых баявых дзеяньняў.

Ужо летам 1654г., адразу ж пасьля акупацыі паўночна-усходняй часткі краіны зьявіліся аддзелы самаабароны, складзеныя шляхтай ў асноўным з мясцовых сялянаў. Маскоўскія ваяводы называлі іх "шишами", "ворами", "изменниками". Такія аддзелы імкнуліся абараніць свае вёскі, перашкаджалі захопу і вываду нявольнікаў. Партызаны мелі свае сьцягі і барабаны. Бывала, што сяляне падтрымлівалі сваімі дзеяньнямі і прафэсійнае войска Вялікага Княства. *"Так, пад час апошняй наступальнай аперацыі Януша Радзівіла за Бярэзінай* (на Малым

**Вялікі гэтман Януш Радзівіл**



Палесьсі – аўт.) *разам з ягонымі харугвамі сабраліся мясцовыя "мужыкі" (30).*
Адным з першых на нашых землях паўстаў князь Самуэль Лукамскі, які сабраў корпус з навакольнай шляхты, мяшчан і сялян, і зімой 1655г. хадзіў на Вітабск, дзе спачатку быў неспадзявана пабіты, але потым сабраўся з сіламі ды ў лютым так заціснуў ваяводу Шарамецьева ў горадзе, што той ледзь вытрымаў аблогу (31).
Ужо ўвесну 1655г. мясцовыя партызаны не давалі спакою маскоўскім ваяводам ля Барысава. А з 1656 году, ва ўмовах паўсюднага голаду й пашырэньня заразных хваробаў сяляне й мяшчане масава ўцякалі ў лясы і стваралі свае ўзброеныя фармаваньні. Пад канец году сялянскім рухам быў ахоплены ўвесь Барысаўскі павет. Так, увосень 1656 г. партызанскі аддзел Багровіча з 400-500 чалавек спрабаваў завалодаць Барысавам. Працягваў актыўныя дзеяньні аддзел (пад 500 чалавек) князя Лукамскага, у якім ужо была "шляхта розных поветов да волосные мужыки, а черкас де украинных с ними нет ни одново человека" (32).

**У 1658 годзе Малое Палесьсе ўжо зрабілася адным з цэнтраў супраціву акупантам: "Віцебская, шклоўская, варшанская" и иных поветов шляхта и мещане и волосные мужики и всяких чинов люди" збіраліся для ваенных дзеянняў у Абольцах (!).**

У 1658 годзе Малое Палесьсе ўжо зрабілася адным з цэнтраў супраціву акупантам: "Віцебская, шклоўская, варшанская "и иных поветов шляхта и мещане и волосные мужики и всяких чинов люди" збіраліся для ваенных дзеянняў у Абольцах (!). У Лукамлі стаялі 2 харугвы палкоўніка Самуэля Лукамскага, 3 – Флярыяна Слонскага, 3 – Караля Лісоўскага, 2 – Міхайлы Сакалінскага і па адной – Лыкі ды Раманоўскага, а разам у іх было "конных и пеших всяких людей и с мужиками тысячи две". Бешанковічы і Лукам'е былі даўно ў руках партызанаў. І хоць цар пэрыядычна пасылаў карнае войска для расправы з "шышами и изменниками" – перамогі гэта не прыносіла. Так, у мястэчку Бешанковічы з імі правялі бой аддзелы Флярыяна Слонскага, Браніслава Прасецкага, Караля Лісоўскага і Самуэля Лукамскага, складзеныя са шляхты, чэлядзі і сялянаў. Пабітыя карнікі мусілі вяртацца ў Смаленск, а партызаны засталіся ў Бешанковічах. У студзені 1659 г. ў Лукамлі ізноў былі палкоўнікі Лукамскі, Лісоўскі, Слонскі, да якіх прыйшоў яшчэ і Самуэль Кміціч. Маючы разам блізу 3 тысячаў чалавек, яны наладзілі сувязь з Паўлам Сапегам і чакалі вялікага гэтмана да сябе.
У іншых рэгіёнах Княства вызваленчая барацьба вялася з няменьшай напругай. Выглядала, што ўсё насельніцтва задзіночылася з адной мэтай – выгнаць чужынцаў са сваіх гарадоў і паветаў (33).
Вызваліўшы Вільню ў 1661 годзе нашыя войскі паступова вярнулі большую частку тэрыторыі краіны. У 1667 г. дзьве, зьнясіленыя вайной, краіны падпісалі Андрусаўскае замірэньне, па якому Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы разам з украінскімі землямі да Дняпра адыходзілі Расейскай дзяржаве, але ўсю захопленую паўночную Беларусь і Інфлянты цар вяртаў Рэчы Паспалітай.
Вядомы ўжо нам Аўгустын Майербэрг пісаў, што зьдзекі і жорсткі гвалт маско-

ўскага войска над мясцовым людам "так адвярнулі ад маскавіцян сэрцы гэтага народа і адштурхнулі ўсялякі давер да іх, што ён выгнаў іх са сваіх земляў з такой жа нянавісьцю, з якім даверам калісьці прымаў" (34).

Гэтай вайной былі падарваныя сілы нашай краіны настолькі, што мы не адужалі й да сёньня. Гаспадарка была ў катастрафічным стане. Колькасьць насельніцтва зьменьшылася больш чым на палову. Так, у Барысаўскім павеце на 19 вёсак было толькі 14 заселеных двароў. Мястэчка Бабёр да вайны налічвала 213 дымоў – пасьля – 95. У Талачыне да вайны было 293 дымы – засталося 142. Варшаншчына ўжо ў 1655 г. была "непрыяцелем праз меч і агонь цалкам зруйнавана". Варшанскі павет страціў 328 185 чалавек, што азначае 69,3 адсоткі!?

У краіне не засталося аніводнага больш-меньш цэлага горада. Усе яны ляжалі ў попеле ды руінах. Вельмі ўражаным быў Аўгустын Майербэрг, пабачыўшы руіны Менску: *"Сумным вокам аглядалі мы разбурэньні, учыненыя гэтаму гораду маскавіцянамі",* – занатаваў ён у дзёньніку (сярод іншага ў горадзе тады загінулі старыя арыгіналы прывілеяў і шмат розных каштоўных дакумэнтаў.).

Самае ж жахлівае было ў тым, што "...пазбаўленыя сваёй эліты, вышэйшага стану, мяшчанства" – ліцьвіны ўжо тады пачалі пераўтварацца ў беларусаў – "народ з няпоўнай сацыяльнай структурай грамадзтва, народ сялянскі... Разбурэньне натуральнага механізму перадачы інфармацыі наступным пакаленням азначала падрыў асновы нацыянальнай кансалідацыі" ліцьвінаў... (35), *(трактоўка цытаты – аўт.)*

Гэта была нашая нацыянальная трагэдыя. Гарады Вялікага Княства, што паступова аднаўляліся, былі ўжо іншыя, пласт мяшчанаў і гандляроў – таксама, народ палітычны (шляхта) канчаткова выракліся свайго грунту – запусьцелага краю, адкінутага вайной на стагоддзе назад.

Так, па інвентары мястчэка Бобр 1614г. у ім налічвалася 190 дымоў і "в эту пору местечко... было исключительно... христианским, – ни одного еврея не было." (36)

Праз 100 год пасля "крывавага патопу", у 1766 годзе "здесь жили 168 евреев, имевших кагал", у 1847 годзе "Бобрское еврейское общество состояло из 723 душ", а па перапісу 1897 году "жителей 2483, из коих евреев 1479, православных 964..." (37). А рускі стольнік, паплечнік Пятра I, граф Пётра Талсты праяжджаючы праз нашыя мясьціны ў 1697 годзе занатаваў пра Бобр наступнае: "... мястэчка вялікае, і дамоў яўрэйскіх у ім багатых шмат, і месца люднае, у самога падскарбія (Сапегі – аўт.) у тым мястэчку двор невялікі, пабудова драўляная, нізкая" (38).

Сьвята месца – пуста не бывае…



LISOWCZYK.

# ДАРОГІ XVIII СТАГОДЗЬДЗЯ

***Які ж ты цяжкі –***
***шлях майго жыцьця...***
*Стары ліцьвін*

## Karl XII Sverige



Яшчэ не загаіліся раны той страшэннай вайны, як новая навала – Паўночная вайна 1700-1721гг. Расейскі цар Пётр I імкнуўся "прасекчы вакно ў Эўропу", яму ж супрацьстаяў швэдзкі кароль Карл XII. Вялікі князь літоўскі і Кароль польскі Аўгуст II Моцны быў хаўрусьнікам Пятра, але частка магнатаў Літвы на чале з Сапегамі й Пацамі падтрымала швэдаў і абрала сабе вялікім князем і каралём Станіслава Ляшчынскага, пасьля чаго ў краіне разгарэлася грамадзянская вайна.

На пачатку вайны Пётр I не ўступаючы ў бойку адступаў, "зьнішчаючы ўсё на сваім шляху. Мясцовасьць, праз якую ён праходзіў, так пусьцела, што супернік, які йшоў за ім не толькі чыстай вады, маста непабуранага і грэблі не находзіў. Нягледзячы на гэта Карл XII накіроўваецца ў Літву і 21 студзеня 1708 г. падыходзіць да Гродна. Пётр 6 дзён стрымліваў швэдаў пад горадам, а затым пайшоў на Вільню, зьнішчаючы ўсё за сабой. Далей, перайшоўшы Бярэзіну, стаў штабам у Чашніках, а пазьней у Бешанковічах.

Карл XII рушыў за ім. Праходзячы праз Менскія лясы, дзе трэба было на кожным кроку рубіць дрэвы для пракладкі дарог войску і абозам 25 чэрвеня 1708г. Карл апынуўся перад ракой Бярэзінай ля Барысава. Хітрым манэўрам пераправіўшыся праз раку кароль асноўнымі сіламі наносіць удар суперніку. Рускія не чакалі яго на гэтым баку, хутка зьняліся і адступілі да Дняпра, зьнішчаючы ўсё на сваім шляху, порцячы дарогі, каб гэтым затрымаць швэдаў. Але гэта ім не ўдалося і, у ліпені 1708 г. каля мястэчка Галоўчын пад Бялынічамі швэдзкі кароль перамог царскую армію"(39).

Так, у чарговы раз, Малое Палесьсе стала арэнай бітвы для чужынцаў. А каля вёскі Ухалода (зараз Барысаўскі раён) захаваліся рэшткі "Каралеўскай грэблі", якая была насыпана швэдзкімі жаўнерамі так добра, што й па сёньня служыць добрай пераправай.

70-тысячная расейская армія больш нагадвала сваімі паводзінамі захопнікаў, чым саюзьнікаў. Сам цар падаваў прыклад такіх паводзін, жорстка абыходзячыся з нашым насельніцтвам, духоўнымі асобамі, а 1 траўня 1710 году па яго загаду быў ўзарваны найстаражытнейшы храм нашай краіны – сабор Сьвятой Сафіі ў Полацку.

У выніку ваенных падзей наша краіна страціла кожнага трэцьцяга жыхара. Тыповай для тагачаснай Літвы карцінай былі зарослыя пустазельлем і лесам палі, пакінутыя вёскі і маёнткі.

Расейцы ўжо глядзелі на нашу краіну як на, амаль што, сваю тэрыторыю. Недзе ў 1710-х гадох імі быў складзены *"Рэестр аб трактах"*, у якім яшчэ раз акрэсьліваўся маршрут "вялікага галоўнага гасьцінца" і засноўваліся "паштовыя станы" у Лошніцы, Крупцы, Бабры, Маляўцы і Друцку (40).

Каб захаваць сваю палітычную, вайсковую і эканамічную жыцьцяздольнасьць, зьнясіленая бясконцымі войнамі Рэч Паспалітая мела вострую патрэбу ў рэформах. А для гэтага неабходна была моцная цэнтральная ўлада, якой у нас якраз і не было. У краіне панавала шляхоцкая анархія. Айчына паступовa пераўтварылася ў "заежджы дом" для суседніх дзяржаў, якія ўжо у 1764 годзе падпісалі сакрэтны артыкул, які абавязаваў падтрымліваць у Рэчы Паспалітай шляхоцкія вольнасьці і "лібэрум вэта" (дамова паміж Расеяй і Прусіяй).

Крочым жа далей па хвалях гісторыі і ўжо ў 1765 годзе сустракаем вельмі цікавы дакумэнт пад красамоўнай назвай: *"Описание торговых путей, ярмарок, таможен и товаров, провозимых контрабандно из-за границы в Полоцком воеводстве и Оршанском повете."* У ім мы знайшлі падрабязнае апісаньне аднаго з такіх шляхоў, які праходзіў праз усё Малое Палесьсе *(гл. мапу на вокладцы)*.

Дакумэнт утрымлівае шмат важнай інфармацыі аб нашых мейсцах:

*"Тракт из Могилева в Борисов...*

*...в Толочин. До Бобра, мост на р. Бобре порядочный – 8 прентов (1 прэнт = 4,87 м.- аўт). До мест. Кробки 2 мили (1 міля = 7,777 км. – аўт.), не доезжая которого в лесу мост в 8 прентов, - берут по копейке, а 2-й мост и мельница в самом городе. До Начи 2 мили, где мельница и мост в 5 прентов, – берут по копейке. До Лозницы 3 мили; не доезжая в лесу на болотах мхах, мост старый из круглого леса в несколько стай. Проезжая от Лозницы в Борисов в Немуницах, также старый мостик из круглого леса на болотах и мхах в 2 стаи. Под Борисовом мост и плотина в 15 прентов.*

*В Борисове таможенный пункт. Выезжая из Борисова на перевоз, мост на ответвлении Березины, построеный на сваях в 7 с половиною прентов. Перевоз через Березину в Минское воевод., за который евреи весной сдирают по тынфу (1 тынф = 18 срэбраных грошаў – аўт.) от лошади."*

Гэта было апісаньне звычайнай дарогі праз нашы мясьціны ў тыя часы, а ніжэй падаецца варыянт кантрабанднага шляху:

*"Оттуда – от Бобра купцы едут недавно проложенным трактом до корчмы Кричинской в Веселове, а оттуда на мост на р.р. Березине и Гайне. Тракт таковой: от Бобра направо – на Панские до Гапонович – миля, до Игришки – полмили, до Талунки – миля, до Хацюкова – миля, до Бродовки – миля, до корчмы Веселово – четверть мили, где во владении пана Хрептовича на-*

*"Дарогі ў Літве знаходзяцца ў самым першабытным стане; яны ненамнога лепш прасёлачных дарог, што выгінаюцца па лясах... Яны часта такія вузкія, што карэта з цяжкасцю можа праехаць."*
*Уільям Кокс, англьскі гісторык, 1782 г.*



*чинается новопостроенный мост через рр. Березину и Гайну, поставленный на высоких сваях свыше полумили длины, около 1 прента ширины, ровный, ибо настил из тесаных досок на сколоченных бревнах.*

*Съехав с него в Минское воеводство один тракт на Зембин в Минск, другой на Долгиново и т.д. и т.д." (41).*

Акрамя іншага, з гэтага дакумэнту мы даведваемся, што ў нашай краіне разам з літоўскімі грошамі ўжо "ходзяць" і рускія *(капейка – аўт.)*, якія зразумела ж завозілі й ўводзілі ў абарачэньне не толькі замежныя купцы й гандляры, але і свае – гэбрайскія кантрабандысты. Яны ж (гэбраі) трымалі ў сваіх рукох і ўсе прыбытковыя месцы на шляху (корчмы, масты, перавозы). Праз 70 год, ужо ў XIX стагодзьдзі ў гэтым сэнсе нічога не зьмянілася.




*"...Масты, перакінутыя праз рэчкі, зроблены так дрэнна і такія старыя, што, здавалася, яны праломяцца пад цяжарам нашай карэты, і мы лічылі сябе шчаслівымі, праехаўшы праз іх без прыгод".*

Пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе, праз Талачын, Бобр, Крупку ехаў знакаміты рускі сатырык, аўтар "Недаростка" Дзмітры Фанвізін, які адзначыў у сваім дзёньніку (1777 г.) толькі "густыя лясы за Барысавам" (42).

У 1780 годзе праз Крупшчыну й Талачыншчыну праяжджала руская імпэратрыца Кацярына II на шляху з Полацка ў Магілеў. Яна была вельмі уражаная добрай дарогай, а таксама прыгажосьцю й чысьцінёй нашых лясоў і параўнала іх з "английским парком" (43). Менавіта па яе царскаму загаду на "новадалучаных землях" пачалі пракладаць, пераважна са стратэгічнымі мэтамі, прамыя і роўныя гасьцінцы, якія абсаджвалі двума або чатырма радамі бяроз. У народзе гэтыя дарогі і сёньня часта называюць "кацярынінскімі шляхамі". Але далёка не ўсе нашыя дарогі так выглядалі.

Вось што сьцьвярджаў ангельскі гісторык Уільям Кокс, які ў 1782 годзе ехаў з Гродна праз Менск і Воршу ў Маскву: *"Дарогі ў Літве знаходзяцца ў самым першабытным стане; яны ненамнога лепш прасёлачных дарог, што выгінаюцца па лясах; таксама зусім непрыкметна, каб імкнуліся ім прыдаць акрэслены напрамак; яны*






**Гэбрайскія кантрабандысты ў ваколіцах Вільні** *(рэпрадукцыя карціны Канстантага Кукевіча, 1839г.)*

*часта такія вузкія, што карэта з цяжкасцю можа праехаць; часта трапляюцца пні і карэнні дрэў, якія перашкаджаюць ехаць; месцамі дарога такая пясчаная, што нас ледзь-ледзь маглі вывезці васьмёра коней. Масты, перакінутыя праз рэчкі, зроблены так дрэнна і такія старыя, што, здавалася, яны праломяцца пад цяжарам нашай карэты, і мы лічылі сябе шчаслівымі, праехаўшы праз іх без прыгод".*

А на Малым Палесьсі было яшчэ цяжэй: *"У некаторых месцах дарога так зарасла кустамі, што ледзь заставалася месца для карэты, і нам даводзілася адпрагаць то двух, то чатырох коней, іншы раз прыходзілася выходзіць з карэты і памагаць ямшчыку прыбіраць з дарогі паваленыя дрэвы, праводзіць коней па звілістых дарожках або шукаць дарогу ў гушчары".* Таму заначаваў ангельскі навуковец у "нейкай Наіцы" *(сучасная вёска Нача, Крупскага раёну – аўт.).* Яму *"давялося спыніцца ў адной з самых бедных халуп, якія напаткаліся ў Літве. Адзінай мэбляй у ёй быў невялікі стол, а адзіным посудам – разбіты гліняны гаршчок, у якім нам падрыхтавалі яду і які замяніў нам талеркі. Мы ўселіся за нашу нішчымную страву пры святле доўгай смалістай лучыны, якая была ўваткнута ў сцяну і звешвалася над сталом; яна ж служыла нам свечкай, бо сапраўднай свечкі нельга было дастаць у вёсцы ні за якія грошы".* Пасьля такой вячэры гісторык, грунтуючыся на сваіх назіраньнях і ў іншых мясьцінах, занатаваў у сваім дзёньніку наступныя вывады й абагульненьні:

*"Цяжка сабе ўявіць, да чаго абмежаваны патрэбы літоўскіх сялян. Яны змацоўваюць свае вазы без кавалачка жалеза; плятуць вуздзечкі і лейцы з драўлянага лыка або скручваюць іх з галінак дрэва. Пры будаўніцтве сваіх да-*

*моў і вырабе хатняга посуду і колаў яны абыходзяцца адной сякерай. Іх адзенне складаецца з тоўстай палатнянай кашулі і такіх жа штаноў, доўгай грубай даматканай верхняй адзежыны ці кажуха, круглай чорнай лямцавай шапкі, падбітай шэрсцю, і лапцяў з драўлянай кары. Хаты будуюцца з пакладзеных адно на другое бярвенняў, ад чаго ўсё выглядае, нібы прыкрытая дашкам купа драўніны на прыстані. Як мала гэта нагадвае швейцарскія дамы, пабудаваныя таксама з дрэва. Такая ж дзіўная розніца існуе ў вонкавым выглядзе швейцарскіх і польскіх сялян, у іх манеры трымацца. Гэта служыць відавочным доказам той агромністай розніцы, якая існуе ў спосабе праўлення абедзвюх краін. Швейцарац – чалавек адкрыты, шчыры, некалькі грубаваты, але гатовы аказаць вам паслугу; сустракаючыся з вамі, ён ківае галавой ці злёгку ўзнімае капялюш, але чакае такой жа ветлівасці і з вашага боку; яго абурае самая нязначная грубасць, і ён не дазваляе беспакарана прынізіць сябе. Польскія сяляне, наадварот, прыніжаныя, рабалепныя і ліслівыя: жадаючы выказаць нам сваю павагу, яны кланяліся да зямлі і, зняўшы капялюх ці шапку, трымалі яе ў руках да таго часу, пакуль мы не знікалі з вачэй; толькі пабачыўшы нашу карэту, яны адразу ж спынялі свае фурманкі; адным словам, усе іх паводзіны сведчылі аб самым агідлівым рабстве, пад ярмом якога яны стагналі; між тым у Польшчы гавораць аб свабодзе не менш, чым у Швейцарыі. Але па-球рознаму гэта адбівалася на норавах абедзвюх краін! У адной з іх свабода роўна распаўсюджваецца на ўсіх грамадзян, служачы крыніцай іх задавальнення і шчасця, тады як у другой яна распаўсюджваецца на нямногіх, з'яўляючыся горшым з відаў дэспатызму" (44).*

Вернемся ж на дарогу – у 1792 годзе французкія падарожнікі Альфонс Фарсья дэ Піль і Пьер Мары Буажэлен дэ Кердзю, што ехалі праз Дуброўну й Талачын на Менск, адзначалі, што ўвесь шлях з Смаленска да Талачына, гэта значыць да тагачаснай мяжы, *"быў добры і абсаджаны дрэвамі, далей жа, па тэрыторыі Рэчы Паспалітай, стаў дрэнны" (45).*

Але нашай краіне было не да дарог – у траўні 1792 году таргавіцкія канфэдэраты сьледам за 100-тысячнай расейскай арміяй перайшлі мяжу Рэчы Паспалітай. "Вынікам інтэрвэнцыі стаўся другі падзел дзяржавы. Расейская імпэрыя далучыла цэнтральныя літоўскія землі прыкладна па лініі Друя – Пінск (46). І пачалося "энергичное проникновение рускаго чиновника, рускай церкви и рускаго помещика" на нашы землі.

Пачалася і грандыёзная праца па пераводу нашага сялянства з роднай вуніяцкай веры ў веру "грекороссийскую", праваслаўную. Рабілася гэта хітра, гвалтоўна і нахабна. Кацярына II разглядала нашу краіну як тэрыторыю, што павінна цалкам зьліцца з Расеяй, дзеля гэтага павінен быць вынішчаны польскі (і ўвогуле заходнеэўрапэйскі ) уплыў. Менавіта ён найбольш адрозьніваў нацыянальную культуру ліцьвінаў ад рускіх. Указам ад 22 красавіка 1794 г. была скасавана царкоўная вунія, а ўсім вуніятам было прапанавана перайсьці альбо ў праваслаўе, альбо ў каталі-

цтва: *"...чтобы в наших Белорусских губерниях присоединять желающих униатов к Грекороссийской церкви, а буде бы кто из помещиков оказался препятствующим, того имение брать в секвестр" (47).* І вось ўжо расейскі чыноўнік Гаўрыла Дабрынін, які ў гэты час служыў у Магілеве, зьбіраецца на Малое Палесьсе, у Сеньненскі павет "спросить: "не желают ли?" перайсьці ў праваслаўную веру. Дамо слова самому чыноўніку:

*"По приезде в Сенно, взял я с собою земского исправника и с духовной Грекороссийской стороны депутата, по силе данного ему от команды предписания.*

*Всех церквей униатских во всем Сенненском уезде тридцать три, которых всех мы посетили. Ко всякой церкви собирали прихожан – упредительно чрез земского исправника, дабы по приезде не тратить времени; при каждой церкви читали им повеления, предписания, спрашивали о свободном расположении их к перемене веры или, лучше сказать, одного только переименования веры. Увещевали их чрез духовного депутата и не обрели ни единой души, желающей отстать от униатской и пристать к Грекороссийской церкви.*

*В три недели с проездом, возвратился я в Могилев..." (48).*

Вярнуўшыся на сваю працу Дабрынін стаў сьведкам, як з іншых паветаў ад чыноўнікаў, што таксама разьехаліся па губэрні, сталі прыходзіць весткі аб "далучэньні": *"Иной доносит: обратил церковь, две, три. И, лишь только губернское правление получит такое донесение, как вдруг с противной стороны получает другие – от униатского духовенства, от прихожан, а побочными дорогами от помещиков – что униаты принуждены побоями, что Церковь отбита насильно, и проч., и проч. И в... правлении сделалось целое наводнение униатских дел" (49).*

Паўстаньне Тадэвуша Касьцюшкі, якое выбухнула ў 1794 годзе было жорстка задушана Суворавым, які за свае крывавыя подзьвігі атрымаў ад Кацярыны II Кобрынскую воласьць ды іншыя літоўскія землі з 13279 душамі прыгонных сялянаў.

Аўстрыя й Прусія захапілі польскія, частку ўкраінскіх і летувіскіх земляў. Расея "прырэзала" сабе ўсю сучасную Беларусь і большую частку Летувы і Ўкраіны. Апошні кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі пераўтварыўся ў вязьня. Наша дзяржава зьнікла з мапы Эўропы...

І закіпела праца... Амаль такая ж камісыя для апытаньня прыхаджан аб навяртаньні ў праваслаўе прыехала 23 чэрвеня 1795 г. ў нашу вёску Нача тагачаснага Барысаўскага павету. Склад камісыі гаворыць сам за сябе: у яе ўваходзілі два праваслаўныя сьвятары, прыстаў і некалькі ўзброеных жаўнераў. Такой "прадстаўнічай" камандзе ніхто не пажадаў пярэчыць, і было прынята аднагалоснае рашэньне аб пераходзе ў праваслаўе. У той жа дзень адзін са сьвятароў асьвяціў царкву.

Між тым папярэдні вуніяцкі сьвятар Аляксандр Самовіч не пажадаў адмаўляцца ад вуніі. Употай ён працягваў спраўляць набажэнствы ў гумне ў засьценку шляхціца Юрацкага. Напэўна, ён карыстаўся аўтарытэтам сярод прыхаджан, якія працягвалі наведваць яго службу, ігнаруючы афіцыйную царкву. Гэта цягнулася цэлы год, пакуль

новы праваслаўны сьвятар не данёс на яго павятовым уладам. З Барысава прыехаў страпчы і застаў айца Самовіча на месцы "злачынства". Данясеньне аб гэтым было накіравана ў Менскае губэрнскае праўленьне, якое прапанавала Барысаўскаму земскаму суду правесьці следства па справе аб звароце прыхаджан ва ўніяцтва.

26 кастрычніка 1796 г. у Начы пачалася выязная сэсія павятовага суда. Было высьветлена, што за час пасьля зьмены веравызнаньня не былі ахрышчыны паводле праваслаўнага абраду 29 немаўлят, без адпаведнага адпяваньня пахаваны 9 нябожчыкаў. Суд вырашыў арыштаваць былога сьвятара Самовіча і найбольш актыўных яго прыхільнікаў: жыхароў сяла Нача Грышку Стасевіча, Філімона Зянькова, Астапку Трацьцяка, бабу Манусю Казлову, а таксама Сілу Мельнікава з Выдрыцы, Трахіма Лясьнічага з Вышняга Горадна, Івана Харламава з Маласаяў і Марку Сіняка з Гумнаў. Усе яны 29 кастрычніка былі прывезены ў Барысаў на гаўптвахту. На другі дзень суд вырашыў вызваліць сьвятара, а яшчэ праз дзень – аддаць на парукі сваякам хворага на сухоты Марку Сіняка, які праз некалькі дзён памёр.

Невядома, што чакала б астатніх сялян, але іх выратавала зьмена ўлады ў сталіцы імпэрыі: 6 лістапада 1796г. памерла Кацярына і на пасад узышоў яе сын Павал І.

Ён не падзяляў матчыных поглядаў наконт поўнай асыміляцыі ліцьвінаў і ўвогуле адмяніў шмат яе рашэньняў. Зьмену курса хутка адчулі і ў Барысаве. 27 лістапада ўсе арыштаваная па вуніяцкай справе былі выпушчаны.

Сьвятар Самовіч вырашыў скарыстаць момант. Разам з царкоўным старастам Пацеем Цімахвеевым ён склаў прашэньне на імя новага імпэратара, у якім прасіў аднавіць вуніяцкі прыход у Начы, які існаваў там 200 гадоў. Самовіч сьцярджаў, што рашэньне прыхаджан аб пераходзе ў праваслаўе было прынята пад прымусам: члены камісыі білі іх шаблямі і бізунамі.

Прашэньне крыху паблукала па бюракратычных лябірынтах, і ў красавіку 1797 г. у Начу прыехала новая камісыя. Яна прыйшла да высновы, што ніякага прымусу не было, мяняць папярэдняе рашэньне няма падставаў. Усіх ахрышчаных Самовічам дзяцей нанова ахрысьцілі ў праваслаўе.

Тым часам імпэратар Павал распачаў паездку па нядаўна далучаных літоўскіх землях. Па дарозе з Воршы на Менск ён павінен быў праехаць праз Начу. Напярэдадні сялян папярэдзілі, каб яны не спрабавалі выкарыстаць гэты момант для нейкай акцыі пратэсту ці непасрэднай апэляцыі да цара: гэта будзе расцэнена як бунт. Але сяляне чыноўнікам не паверылі, – Статут ВКЛ не ўтрымліваў такой нормы, а новыя расейскія законы былі ім невядомы.

Цар выехаў з Воршы 8 траўня 1797 г. і ўвечары таго ж дня прыбыў у Начу. Ён наведаў царкву, што стала яблыкам раздору. У гэты час дэлегацыя сялян паспрабавала перадаць яму пэтыцыю. Царская "міласьць" пасьледавала імгненна – ахова адразу ж схапіла ўдзельнікаў акцыі Міхайлу Гайдука з Начы, Сілу Мельнікава з Выдрыцы і Трахіма Сіняка з Горадна. Для "спыненьня беспарадкаў" Павал загадаў увесьці ў Начу роту грэнадзёраў. Сялян вымусілі прынесьці прысягу на вернасьць

цару, пасьля чаго айца Самовіча адпусьцілі.

Лёс трох арыштантаў быў больш сумны. Іх адвезьлі ў Барысаў, дзе ўжо 12 траўня павятовы суд прыгаварыў усіх трох да жорсткага пакараньня: высекчы на месцы "злачынства" 50 бізунамі, вырваць ноздры і кляйміць (50;51). Так адбылося асабістае знаёмства нашых сялян з новым імпэратарам і новымі парадкамі. Праўда, у тым жа годзе Павал усё ж аднавіў вунію. Можа й выпадак ў Начы адыграў тут сваю ролю? Але ж сяляне Нацкага прыходу так і засталіся ў праваслаўі.




А з Расеі ў наш край, які пачалі называць "Западные провинции Российской империи", паехалі ахвіцэры гэнэральнага штабу, картографы, навукоўцы і іншыя з мэтай глыбейшага вывучэньня дзеля хутчэйшага і сапраўднага далучэньня...

Адным з першых па нашых землях, у 1802 годзе, праехаў акадэмік Васіль Севяргін, які пакінуў вельмі красамоўныя *"Записки..."*. Ён імкнуўся больш, ці менш аб'ектыўна апісаць тое, што бачыў. Некалькі старонак у яго кнізе прысьвечана Маламу Палесьсю, якія мы хочам амаль цалкам прывесьці напрыканцы нашай вандроўкі па шляхох Вялікага Княства, – настолькі яны выразныя й характэрныя. І пачнем рухацца ад нашай сучаснай сталіцы:



**Борць (дрэва з калодамі і самабіткамі ад мядзьведзя)**

*"Мы приехали в губернский город Минск 2-го Мая. ...заметим, что и здесь Жиды составляли главных промышленников, как то: так называемых факторов, торгашей, брадобреев и пр. В прочем жители здесь суть Поляки, несколько Россиан и весьма мало Немцов. Сверх Католических монастырей находятся здесь и Российския церкви. Мы нашли также довольно хороших каменных строений, изрядной гостиной двор и книжную лавку.*

*Из Минска ехали мы через Иохнову корчму (17 вёрст), Шмелевичи (17 в.), Жадино (17 в.), Борисово (20 в.), Лосницу (18 в.), Крупки (23 в.), Малявку (20 в.), Толочин (20 в.) и Коханово (28 в.), в Оршу (17 в.), куда прибыли 5-го.*

*... Почти на каждом шагу встречаются на соснах ульи, иногда по два и по три на одном дереве. Поелику в сих же лесах водятся медведи, то защищают здесь сии улья от них следующим образом. В некотором разстоянии от земли надевают на сосну защиту в виде бороны; но токмо плотной, из досок составленной с обращенными в низ деревянными спицами. Оне называются здесь палатками. Когда лакомый до меду медведь влезет до некотораго разстояния, иногда сажени две, на дерево, то такая палатка его наконец удерживает. Он старается лапою проломить ее; но обращенныя в низ спицы ему сие препятствуют. Таким образом после многих усилий возвращается без добычи. Но случается иногда, что ударив по палатке лапою удачно, проламывает ее, и тогда добыча*

*его почти верная. Другой образ ловления их есть здесь посредством железных орудий или западней, называемых капканами, кои ставят в лесах, и кои так защемляют им лапу, когда попадут, что при всех усилиях освободиться не могут. Третий образ ловления их в Литве состоит в том, что ставят в лесу нарочно мед смешанный с горелкою, коего медведь объевшись засыпает так крепко, что его застают и убивают.*

*Либо четвертое, ставят мед в довольно глубокую яму, где зашедшаго медведя замыкают опускаемою с верху захлопкою. Наконец вставляют также в отверстие Бортей железные петли, так что когда медведь просунет в оное голову, то защемляют оне его так, что он должен висеть, пока его не убъют или живаго не достанут. Но во всех случаях наибольший вред меду причиняет наипаче малый род медведей, называемых в Литве Бортниками. Сказывали мне наконец, что в сих лесах водятся и рыси, коих ловят в ямах подобно как волков" (У лесе капалі глыбокую яму, па берагах яе ашчаціньвалі калкамі, а ў сярэдзіне забівалі вялікі кол. Зімой яму прыкрывалі галлём і саломай, затым усё гэта прыцярушваў сьнег. Тады да кала прывязвалі гуску або качку, каб сваім голасам яна прываблівала зьвяроў. Воўк кідаўся на птушку і тут жа падаў у яму. Іншы раз іх там зьбіралася да пяці штук. Адсюль, як мяркуе Севяргін, і пайшла прымаўка: "І гусь цэлая, і воўк злоўлены".).*

*"...Я должен приметить здесь, что и по сей также дороге во всех селах и малых городах былі многие Унеяты и Унеятския церкви".*

Далей ён піша, што тут бедны просты народ належаў да вуніятаў, а багатая шляхта – да католікаў. Як і праваслаўныя, вуніяты называлі сябе "рускімі" (у адрозьненьне ад католікаў). Аднак у цэрквах, куды ён заходзіў, па-руску не маглі гаварыць нават сьвятары. Службы яны служылі на стараславянскай мове, дома ж гаварылі па-беларуску. Да праваслаўя ж належалі пераважна "вялікаросы", якія жылі ў гарадах.

*"Борисов есть изрядный городок при реке Березовке, впадающей в Днепр. По сей речке кроме лесу и некоторых других товаров, приходят сюда барки с солью из Подолии, так что в Борисове находится главная складка поваренной соли, которая отсюда доставляется потом в Вильну и другие Литовские города. В Борисове кроме Унеятской церкви находится также и Российская, ибо городок сей по причине помянутаго торга многолюдное имеет стечение народа. В самой день нашего сюда приезда был базар, на котором находились для продажи деревенския колеса, соль весьма нечистая, жито, овес, ячмень, холст и табак. Крестьяне и крестьянки продававшия сии вещи, покупали вместо того платки, ленты, бусы и материи, коими торгуют здесь в деревянных лавках Жиды и Жидовки. Временем привозят сюда также липец в кусках (мед – аўт.).*

*Из Борисова в Лосницу ведут паки сосновыя леса, между коими встречаются березник и ивняк. Земля на пашнях была темносерая, при осязании нарочито*

*грубая глина с мелкими зернами сераго кварца, желтаго и краснаго полеваго шпата и листками черной роговой бленды. По сей же дороге в другом месте земля сия достопамятна была тем, что слипается в виде довольно правильных разной величины шариков. Здесь в первые почти видел я употребление лаптей. Скотоводство состояло в худых коровах, козах и свиньях. Из Лосницы в Крупки тот же и еще крупнейший сосновый лес продолжается. Почва песчаная. Местами встречаются луга и болота с черною землею и березником. По сей дороге попадается также опять много кругляков (валуноў – аўт.). Между Лосницею и Крупками находится речка Нача с пильною мельницею и небольшею деревушкою сего же имени.*

*Крупки составляют здесь границу Минской Губернии, и начало Губернии Могилевской или Белоруской. Поелику мы таким образом Минскую Губернию оставляем, то должно мне еще возвратиться к некоторым предметам, дабы подать о ней общее понятие. Мы можем уже заключить из предъидущаго, что она составляет страну богатую лесом, каковаго мы ни в Литовской, ниже в других предшедших Губерниях приметить не могли. Лес есть большею частию крупной сосновой, и сказывали мне, что есть также и дубы. Полей обработаных, вероятно по причине лесов, менше нежели в Литовской Губернии и четверть ржи стоит здесь три рубли, а овса полтора рубли серебром. Между тем есть здесь винокурни. Как винокурение, так и пивоварение исправляют Жиды. Пчелы в лесах доставляют изобильно меду и воску, также и того рода меду, которой известен под именем липца. Луга здешние довольно доставляют пасствы; но многия из них мокры и нездоровы, от того может быть и коровы здесь мелки и худы, хотя лошади и изрядны. Почва большею частию песчано глинистая с многими камнями; но со многими болотами. Кажется, что воды здешния менее имели стоку нежели в предъидущих Губерниях. Кажется, что они остановлялись здесь более по смытии песков, кои вероятно прежде сего страну сию также покрывали, и смылись потом в другия соседственныя страны. Кажется, что оставшаяся по смытии их сырая песчаноглинистая почва потому имеет здесь столь крупныя и многочисленныя леса, что лучше потом могла удерживать и разверзать семена древесныя и потом укоренить и сохранить самыя деревья."*

**А яшчэ акадэміку вельмі спадабалася сялява, азёрная рыба, белага колеру, падобная да селядца, велічынёй да паўлокця і болей, што й па сёньня ловіцца на нашым возеры Сялява.**

*В Крупках видел я употребление корня болотнаго растения Аиры коим настаивают здесь водку, изрезав оной для сего в мелкия куски. Мне сказывали, что сей корень особой целительной силы не имеет; но сообщает водке Ароматической запах и вкус. Ребятишки выдирают его в здешних болотах. Из Крупок в Малявку сперва сосновый лес продолжается; но почва несколько переменялась, ибо местами видны были большие гранитные обломки. Лес был сосновой смешанной с березником. Возле самых Крупок находится пильная мельница для пиления лесу. Протекающая здесь речка Бобровка изобилует рыбою; особливо водятся в ней*

*окуни, щука и плотва. Кажется, что здесь было и более охотников до рыболовства, нежели в преидущих местах".*

А яшчэ акадэміку вельмі спадабалася сялява, азёрная рыба, белага колеру, падобная да селядца, велічынёй да паўлокця і болей, што й па сёньня ловіцца на нашым возеры Сялява. Елі яе сьвежай, вэнджанай і салёнай. Вучоны прапаноўваў разводзіць гэту смачную рыбу за межамі Літвы.

*"Помянутая речка Бобровка имеет местами крутые песчанные берега, подобно как река Немень, а особливо близ городка Бобра, находящагося на дороге между Крупками и Малявкою. На ней построена пильная мельница для пиления лесу. Бобр есть городок весьма простой с деревянными строениями и Унеятской церковью. Жители здесь суть Поляки, и множество Жидов, отправляющих разные торги. Скотоводство по дороге к Малявке состояло из довольно изобильного числа коров, но мелких, из овец, коз и свиней и свиней. Малявка, где почтовая станция отделена от самой деревни, примечательна весьма чистою своею водою. Близ Малявки течет речка Малявица.*

*Из Малявки в Толочин почва еще больше переменяется. Близ самой Малявки находится множество кругляков, между коими я особо заметить мог: 1), настоящий древний гранит; 2) слюдистые сложенные камни; 3) сложенный кварц; 4) порфир; 5) настоящий Лидийской камень Карстена (Lapis Lydius) и наконец 6) гранитные кругляки переменяющиеся в агат; а именно кварц в халцедон, полевой шпат в яшму, а слюда выветривалась. Внутри сих кругляков видны еще все состовляющия части гранита. Подобные сим кругляки продолжаются до самаго Толочина. Почва песчаная холмистая. Пахатная зямля глинистопесчаная. Лес состоит из хорошей сосны; но потом встречались ель, ольха, береза, ива, черемуха, орешник, и из редка дикия яблони. В болотах находилась брусника и черника".*

Далей Севяргін сцьвярджаў, што на Магілёўшчыне вадзіліся, акрамя мядзьведзяў, ваўкоў і рысяў, яшчэ і ласі, сарны, барсукі, лісіцы, зайцы, бабры і выдры, а на Гарадзеншчыне яшчэ чорныя й белыя лісіцы, расамахі, собалі, куніцы й норкі. Пра зубра ён паведамляў, што яго цяжка забіць – хіба што трапіш куляй у адно месца на патыліцы. Мяса яго лічылася добрым, сала – вельмі добрым, а скура – моцнай. Зубр сам на людзей не кідаўся, хіба што яго вельмі раздражняць. Прыручыць яго было цяжка, але вучонаму распавядалі, што двох свойскіх зубранят вазілі дзеля размнажэньня ажно ў Саксонію.

А вось якіх птушак убачыў акадэмік у Літве: жаўрукоў, перапёлак, амялушак, рабчыкаў, рэмезаў, шпакоў, кулікоў, дзергачоў, драздоў, пататуек, дзікіх качак, галубоў, чыжоў, каршуноў, ястрабаў, чаек, крываносаў, сокалаў, дзікіх гусей, буслоў, зязюль і курапатак, радзей – вераб'ёў, шчыглоў, чачотак, цецерукоў, глушцоў, соек, варон, малых арлоў, сычоў, яшчэ радзей – чыранак. Вельмі уразіла яго незвычайнае мноства буслоў. Ён пісаў, што *"ва ўсёй гэтай старонцы імкнуцца столькі ж разводзіць буселяў, колькі ў нас, у Маскве, дзікіх галубоў".*

*“Пашен особливо близ Толочина, так как и лугов было довольно, и огородов против предъидущих мест больше. Пчеловодства я не приметил. В разных местах были запруды для водяных мельниц. Деревни против предъидущих встречаются здесь чаще; но бедность больше”. Вандроўнік прыкмеціў у вёсках шмат курных (“чорных”) хат з нізкай стольлю і без падлогі. Нястача хлеба прымушала селяніна шукаць нейкія яго замяняльнікі. Адным з іх вучоны называе грыбы: “карэньне балотнай расьліны, якую называюць бабоўнікам і якую сушаць, таўкуць і, зварыўшы ў вадзе, ужываюць у ежу”.*

Паводле Севергіна, на Сеньненшчыне “некаторыя займаліся таксама садоўніцтвам”, сустракаліся добрыя агароды, у якіх “асабліва многа было маку”. А, ўвогуле, ў агародах расьлі бульба, капуста, буракі, боб, гарох, морква, агуркі, рэдзька, мак, часнок, цыбуля, хрэн, пятрушка, сельдэрэй, пастарнак.

“Хоць збожжа ў гэтых краях, – пісаў навуковец пра Малое Палесьсе, – расьце добра, аднак жыхары больш займаюцца вырошчваньнем ільну як па даўнейшай да таго звычцы, так і таму, што ў некаторыя гады бывае ён у добрай цане”. Найбольш распаўсюджанымі гатункамі ільну былі раньні “праглец”, пазьнейшы “арловен” і самы лепшы “велькалён” – высокі, з буйнымі галоўкамі.

Севяргін падрабязна апісаў ўвесь працэс апрацоўкі ільну ў Літве:

> *“Пакуль ён яшчэ не зусім дасьпеў, вырываюць яго з карэньнем і, адрэзаўшы галоўкі, мочаць у лужынах, вазёрах і балотах, а больш у лужынах, лічачы гэта лепшым, бо мочаны ў вазёрах і балотах не моцны, і на яго трапляе ржа; у вадзе ён ляжыць праціснуты кавалкамі дрэва 4 альбо 5 дзён. Пасьля таго вымаюць лён і сьцелюць на палёх, дзе ён ляжыць ад 3 да 5 тыдняў. Потым яго мнуць у зробленых для гэтага мяльніцах, чысьцяць шчоткамі і, падрыхтаваўшы, адсылаюць у Рыгу і інш. З пакульля ж робяць суравое палатно; галоўкі сушаць і выбіваюць, семя прадаюць у Рыгу, а алей не робяць”.*
>
> *“Толочин есть изрядное небольшое местечко, где была прежде сего Польская пограничная таможня, коей каменное строение еще и до ныне видно. Прочие дома суть бедные, деревянные, по большей части жидовские. Впрочем есть здесь три Унеятския и одна Католическая церковь.*
>
> *Перед самым Толочином протекает довольно широкая речка Друть или Друец, выходящая из болот в 14 верстах от Толочина и впадающая в Днепр близ Рогачева во 120 верстах отсюда. В реке сей водятся подлещики, язи, щука и окуни, в прочем она здесь не судоходна. В Толочине видел я прекрасные стальные ножи и вилки со стальными черенками. Меня уверяли, сто делают их в Смолянах в 35 верстах отсюда по Витебской дороге, где для сего железо скупают. Пара сих ножей стоит 35 копеек медными деньгами. Из Толочина в Каханово, так как и из Каханова в Оршу песчаноглинистые холмы переменяются полями и мелким березником. По всей сей дороге небольших речек находится гораздо больше, нежели в прежних странах, и рыболовства больше. Пред самою Оршей находится*

*глубокая, реке подобная сухая рытвина. Орша есть неправильный город со многими худыми деревянными строениями. Каменныя строения суть почти только одни казенные домы. Река Днепр протекает подле самой Орши; а речка Ршица течет по середине города. В Днепре водятся здесь в разныя времена вырезуб, щука, лещи, язи, рыба называемая здесь мурены (от 12 да 20 фунтов весом – 1 фунт = 400 гр. - аўт.), уклейки, плотва, окуни, сомы, ерши, рыба называемая здесь ментузой (от 3 до 4 фунтов), корюшка, судаки и головли. Весьма вкусная рыба вырезуб и окуни ловились во время нашего здесь пребывания. В Орше находится монастырь Езуитов с изрядным садом, лабораториею и Аптекою. Кроме того есть здесь монастырь Бернардинов и пр. Жители суть Поляки и служащие Россияне; но Жиды составляли и здесь главных промышленников" (52;53).*



## ЗАКАНЧЭНЬНЕ

***Схіляю прад табою галаву –***
***шлях, дадзены мне Богам***
***у памяць тых, хто тут прайшоў,***
***з пашанай тым, хто яшчэ пройдзе...***
*Стары ліцьвін*

Вось і скончана наша вандроўка па шляхох Малога Палесься. Мы імкнуліся прайсьці і праехаць дарогамі Вялікага Княства разам з нашымі вандроўнікамі і ўбачыць нашу краіну такой, якой бачылі яе іншыя й паспрабаваць уявіць сабе якой яна была.

Цяжкасьці, што мы сустрэлі па дарозе чымсьці нагадваюць тыя рытвіны, ямы й завалы, што сустракаюцца на старых дарогах – недахоп пісьмовых і ілюстраваных крыніц, часам вельмі скажоная інфармацыя, а то і проста замоўчваньне некаторых відавочных фактаў. Але, як казалі нашы продкі *"ты галоўнае не прыпыняйся – коні вынесуць..."*.

**Наста Хадасевіч:** *"Прайшоўшы гэтымі шляхамі я пераканалася, наколькі цікавая і непаўторная наша гісторыя. Шмат чаму можа яна навучыць усіх нас – было б толькі жаданьне...*

*Для сябе асабіста я зрабіла адну вельмі важную выснову – усё было на нашым шляху: і славутыя перамогі, і горкія паразы, й нават, страшная трагэдыя, але наша багатая мінуўшчына, – гісторыя Вялікага Княства Літоўскага – гэта гісторыя Нашай Дзяржавы, і вучыць яна нас не адракацца й забывацца на яе урокі, а шанаваць, зьбіраючы па крупіцах – тады толькі й зможам горда называць сябе Ліцьвінамі!".*

***2004 год.***

ЛІТАРАТУРА:


1. Смоліч А. Географія Беларусі. Мн. 1993. ст. 313.
2. там жа.
3. Іваноўскі А. Фарміраванне сеткі шляхоў зносін Крупскага раёна. Курсавая праца студэнта IV курса БДУ, Мн. 2003. Архіў Харугвы скаўтаў "Малое Палесьсе" (АХСМП), захавальнік Аляхновіч А.
4. Татур Г. Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и ея археологическое значение. Мн. 1892. с. 203.
5. Аникиевич К. Сенненский уезд Могилевской губернии. Могилев. 1907. с. 75.
6. Легенды і паданьні Крупшчыны (тэчка №3). АХСМП
7. Шпилевский П. Путешествие по Полесью и белорускому краю. Мн. 1992. с. 166.
8. Татур Г. ... . с. 205
9. Колосов Л. Почтовые дороги Белоруссии. Мн. 1982. с. 6
10. Полное собрание русских летописей. М. 1975. т 17. с. 100
11. там жа. т 17. с. 289-290; 346-348
12. Герберштейн С. Записки о Московии. М. 1988. с. 255
13. там жа. с. 240
14. Грыцкевіч В. Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн. 1980. ст. 28.
15. там жа. с. 29
16. Колосов Л. ... с. 7
17. Вержбовский Ф. Материалы к истории московского государства в XVI и XVII столетиях, вып. I. Посольство Иоанна Кобенцеля в Москву в 1575-1576 гг. Варшава, 1896
18. Хейнс С. Описание путешествия в Московию посла римского императора Николая Варкоча. "Чтение Общества истории древностей российских" ("ЧтОИДР"), 1874, кн. 4
19. Коробейников Т. Хождение... "Православный Палестинский сборник", вып. 27. С-Пб. 1889
20. Брамбах И. Отчет о поездке Ганзейского посольства из Любека в Москву и Новгород в 1603 г. У кн.: Сборник материалов по руской истории начала XVII века. С-Пб. 1896
21. Корб И. Г. Дневник путешествия в Московию. С-Пб., 1906
22. Герберштейн С. . . . . с. 195
23. Таннер Б. Описание путешествия польского посольства в Москву в 1678г. "ЧтОИДР", 1891, кн. 3
24. там жа.
25. Тэктандер Г. Путешествие в Персию через Московию в 1602-1603 гг. "ЧтОИДР", 1896, кн. 2.
26. Майерберг А. Путешествие в Московию... "ЧтОИДР", 1873, кн. 3.
27. Арлоў У. Герасімовіч Зм. Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя. Sl. 2003. с.184
28. Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654 - 1667. Мн. 1995. с. 64; 73
29. Грыцкевіч В. Мальдзіс А. .... с. 69
30. Сагановіч Г. ... . с. 76
31. Иловайский Д. История России. М. 1905. т. 5. с. 159
32. Саганович Г. ... . с. 78
33. там жа . с. 80-82
34. Майерберг А. ... .
35. Саганович Г. .. . с. 133
36. Довгяло Д. Историко-юридические материалы из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Витебск. 1900. вып. 28. с. 11
37. Каценельсон Л. Еврейская энциклопедия. С-Пб., 1912. т. 4. с. 688.
38. Толстой П. Путешествие... "Русский архив", 1888. кн. 2
39. Tyszkewicz J. Opisanie powiatu Borysowskiego. WILNO. 1847. s. 63
40. Асіноўскі С. "Вялікі галоўны гасцінец". "Беларуская мінуўшчына", 1996. №2. с. 42
41. Зборнік "Белоруссия в эпоху феодализма". Мн. 1960. т. 2. с. 351-352. дакумэнт №239
42. Грыцкевіч В. Мальдзіс А. .... с. 112
43. Аникиевич К. ... . с. 139
44. Грыцкевіч В. Мальдзіс А. . . . . с. 85
45. там жа с. 85-86

46. Арлоў У. Герасімовіч Зм. … . с. 201.
47. Теплова В. Зуева З. Уния в документах. Мн. 1997. с. 414
48. там жа с. 414-415
49. там жа с. 415
50. Насевіч В. Пад уладай расійскага цара. Мн. 1993. машынапіс. (АХСМП)
51. Даўгяла Зм. Урадавыя адносіны да унітаў на Меншчыне ў часы Паўла І. Мн. 1927
52. Севергин В. Записки Путешествия по западным провинциям Российскаго государства в 1802 г. Спб. 1803. с. 124-138
53.Грыцкевіч В. Мальдзіс А. … . с. 115; 116; 118; 121; 162; 183; 194; 195; 198; 203; 204





# Легенда пра Стаячае возера

**НЕЗНОЙДЗЕНЫЯ СКАРБЫ** / Іван ШАШОК



**Возера Стаячае. Сучасны выгляд.**

*У рэдакцыю "Малога Палесься" трапіў цікавы матэрыял – 11 старонак машынапіснага тэксту аб краязнаўчых пошуках аўтара, Івана Шашка, супрацоўніка тагачаснай Крупскай раённай газэты. Прадмет яго даследавання – Стаячае возера і падзеі вайны 1812 году. Папера жоўтая, пранумераваная, фармату А4, краі загнутыя, на першай старонцы злева ўверсе надпіс чарніламі сіняга колеру – 1964 г. На гэтай жа старонцы ўверсе пасярэдзіне тымі ж чарнілямі закрэсьлена друкаваная назва –Легенда пра Стаячае возера і зьверху напісана сінімі чарнілямі новая назва – Па слядах легенды. Набор тэксту выкананы на друкарскай машынцы з рускім альфабэтам – замест (і) беларускага - (и), замест (ў) беларускага - проста (у). Матэрыял выглядае як падрыхтаваны артыкул для друку ў прэсе. Скарочаны яго варыянт сапраўды быў апублікаваны (гл. газэта "Чырвоная Змена" №77 ад 20 красавіка 1968г.). Ніжэй мы падаем атрыманы матэрыял без зьмен і скарачэньняў (выправіўшы толькі (і) ды (ў), а таксама дадаўшы сучаснае фота Стаячага возера.*



# ПА СЛЯДАХ ЛЕГЕНДЫ



*Гэта здарылася марозным восеньскім днём 1812 года. Французкая армія адступала па Смаленскай дарозе. За экіпажам Напалеона цягнуўся абоз у некалькі дзесяткаў павозак з награбленнымі каштоўнасцямі горада Масквы. Падзеі разгортваліся так, што напалеонаўскім заваёўнікам трэба было хутчэй бараніць сваю галаву, чым думаць аб вывазе каштоўных рэліквій старажытнасці: зброі, золата, разукрашаных дарагакаштоўнымі камнямі рыз, чаш і іншых. Усё гэта багацце пад назвай "Маскоўская здабыча" было ўтоплена ў возеры. І рэчы, каштоўнасць якіх не змерыш мільёнамі, зніклі бясследна. . . .*

Стаячае возера. . . . На Крупшчыне яно не выклікае асаблівых пачуццяў, як месца летняга адпачынку. Для старых словы "Стаячае возера" успрыймаюцца трывожна. У часы грамадзянскай вайны ля возера хаваліся бандыты, у пасляваенныя гады тут знаходзілі прытулак жулікі, якія выходзілі з лесу на дарогу і абдзіралі людзей, выварачвалі кішэні.

Пра Стаячае возера ходзіць легенда, што ў яго апусцілася царква. Калі прылегчы на беразе і прыкласці вуха да зямлі, можна пачуць, як звоняць званы. Аб гэтым сцвярджаюць веруючыя бабулькі з навакольных вёсак.

З незапамятных часоў,





ЛЕГЕНДА
ПРА
СТАЯЧАЕ
ВОЗЕРА

# Passage-de-la-Beresina

з пакалення ў пакаленне, перадаецца яшчэ легенда аб утопленым у Стаячае возера французамі залатога крыжа.

Хто стварыў легенду? Якія яе крыніцы і змест? – такія пытанні зацікавілі мяне. Стаячае возера размешчана ў двух кіламетрах ад цэнтра гарадскога пасёлка Крупкі. Яно ляжыць у дрыгве, што зацянула ўвесь вадаём. Да 50 метраў даходзяць берагі, пружыністыя, нібы матрац. На дрыгве вакол возера растуць невялічкія сасонкі. Толькі ў цэнтры яго свінцова-мутная вада моршчыцца ад подыху ветра, а на ўзбярэжжы шуршыць асака, нібы расказвае тайну больш як паўтаравяковай даўнасці. . . .

З усходу да возера ўшчыльную падступае стары цяністы лес. З поўдня – нешырокая палоска пасаджанай хвоі аддзяляе яго ад чыгуначнага палатна. З поўначы таксама палоска лесу. Яна хавае невялікі вадаём ад людскіх вачэй і падступае возера менш, чым на 100 метраў да шашы Масква-Мінск. Толькі з захаду, з боку станцыі Крупкі, што ў пяці кіламетрах ад райцэнтра, бераг возера выходзіць на невялікую палянку, дзе можна ў летні час пасядзець, палюбавацца маляўнічай

*“Абоз, нягледзячы на многае ўжо згубленае, на цяжкасць перавозкі і на строгія напалеонаўскія загады, усё яшчэ складаўся з вялікага ліку фур, падвод і калёс. . . 29-га лістапада імператар пакінуў пагубныя берагі Беразіны. . . ”.*

прыродай. Ад паўночна-усходняга вугла возера адыходзіць канава, якая напалавіну сваёй даўжыні цягнецца амаль паралельна старой Смаленскай дарозе, потым крыху паварачвае ўправа і паўз прысядзібныя ўчасткі выходзіць у лагчыну. На берагах канавы параслі елі, якія стаяць сцяною. У вярхоўі канавы гэтыя елі – дрымучыя, старыя; у нізоўі – маладыя. Зацягнутая ілам, паросшая мохам гэта канава дае сцёк вады ў паводкі або пры вялікіх дажджах.

*"На возеры было ўстаноўлена вялікае кола з прычэпленымі да яго вёдрамі, якімі падымалі ваду ў канаву. Пачалі асушваць. З гразі ля берагоў выцягвалі калёсы, здаравенныя такія, з вялікімі драўлянымі коламі. Дрэва было пачарнеўшае, але не пагніло. Знаходзілі зброю – "крамнёўкі" французкіх салдат ды ўсялякае ваеннае снаражэнне".*

Хто капаў канаву? З якой мэтай? – таксама загадка. Працягласцю да двух кіламетраў, шырынёй у сярэднім 1,5-2 метры, а ў іншых месцах і да 3 – гэта гіганцкая работа.

Пошукі легенды пачаліся са станцыі Крупкі. Жыхар пенсіянер Васілевіч сустрэў мяне падазрона. Калі я спытаў, што ён ведае пра Стаячае возера і канаву, субяседнік адразу загаварыў:

*- Чуў, чуў. . . . У Стаячае возера французы укінулі залаты крыж. Я прыехаў сюды жыць у 1917 годзе, тады ішла вялікая гаворка пра гэта. Нібы памешчык капаў канаву, хацеў асушыць возера. Многа затраціў сродкаў і памёр. З памешчыка-нябожчыка сяляне смяяліся: "хай бы яшчэ пажыў ды пакапаўся ў гразі".*

*- Здорава тады пра памешчыка гаварылі, - падкрэсліў пенсіянер, - лепш за ўсіх раскажа Адзінец, які працаваў на вадакачцы, - параіў у заключэнне Васілевіч.*

*Незадаволены скупымі звесткамі першага носьбіта легенды, я кінуўся да Адзінца, думаючы, што вазьму ўсе неабходныя звесткі.*

Гаспадар хаты аказаўся больш гаваркім, чуць не спецыялістам па Стаячаму возеру. Каетан Палікарпавіч Адзінец годам старэй Васілевіча. З 1930 года да пачатку Вялікай Айчыннай вайны працаваў на вадакачцы, што знаходзілася на Стаячым возеры і падавала ваду на чыгуначны вакзал. Там, ля вадакачкі, знаходзіўся драўляны домік, дзе жыў ён са сваёй сям'ёй.

Я ўявіў сабе, што гэты сівы чалавек, жывучы там дзесяць год, наслухаўся ўсяго. Вечарам, калі праменні заходзячага за гарызонт сонца кладліся на гладзь амаль безжыццёвага возера, у вадзе гарэла чырвань, магчыма, тады Адзінцу здавалася, што гэта не вячэрняя зара, а блішчыць са дна золата, утопленае Напалеонам ў лістападзе 1812 года.

Тут, седзячы за сталом і слухаючы субяседніка, я ўявіў, што крыж знойдзен. Невядомыя дагэтуль Крупкі становяцца цэнтрам увагі сусветнай грамадскасці. Бясцэнная знаходка выстаўлена ў прасторнай зале гістарычнага музея. У каго з экскурсантаў не з'явілася б радасная усмешка, гордасць за рускі народ! Радасць ахоплівае мяне. Адзінец гаворыць упэўнена, не спяшаючыся:

*- Расказваў мне адзін чалавек з вёскі Вялікая Слабада, што нехта з той вёскі працаваў на рыцці канавы тры гады. Сяляне з навакольных вёсак прыходзілі з лапатамі і ўручную капалі зямлю. Зараблялі ўдзень няблага – па 30 капеек на тыя грошы. На возеры было ўстаноўлена вялікае кола з прычэпленымі да яго вёдрамі, якімі падымалі ваду ў канаву. Пачалі асушваць. З гразі ля берагоў вы-*

*цягвалі калёсы, здаравенныя такія, з вялікімі драўлянымі коламі. Дрэва было пачарнеўшае, але не пагніло. Знаходзілі зброю – "крамнёўкі" французкіх салдат ды ўсялякае ваеннае снаражэнне.*

*- Потым работы па асушцы возера былі спынены, - патлумачыў Каетан Палікарпавіч, - бо памёр памешчык. У яго быў сын у Пецярбургу. Той прыехаў харaніць бацьку. Рабочыя спыталі ў сына, ці прадоўжыць ён пачатую бацькам справу? Сын адказаў, што ён адказваецца. Быццам бы сніўся яму благі сон, што ён памрэ, калі зоймецца асушкай возера.*

*- Што памешчыка заставіла рабіць гэта? – пытаю я.*

*- Рабочыя, як расказваў мне жыхар вёскі Вялікая Слабада, пыталі ў памешчыка аб гэтым. Той тлумачыў, што французы пры адступленні, калі іх пераняліі на рацэ Беразіна у г.Барысаве, утапілі ў возеры залаты крыж, зняты з калакольні Івана Вялікага. Гэты залаты крыж весіць 12 пудоў, - падкрэсліў Адзінец.*

*Аб часе правядзення работ субяседнік нічога канкрэтнага не сказаў. Далей Адзінец апавядаў:*

*- Як памятаю, вясной 1934 года на возера прыязджала з Масквы экспедыцыя ў складзе чатырох чалавек. Яна абследавала возера. Глыбіня яго да трывалага дна аказалася 14,5 метра, чыстай вады было да 10 метраў. Тыя спецыялісты гаварылі паміж сабою, калі б устанавіць помпу, якая б выкачвала ў гадзіну 120 кубаметраў вады, то за 45 сутак можна было б адкачаць узровень вады ў возеры да трох метраў.*

*- Я думаў, абавязкова зоймуцца гэтым возерам, але пачалася вайна і ўсё скончылася, - закончыў свой расказ Каетан Палікарпавіч.*

У той дзень я пабываў у вёсцы Навахросты і сустрэўся са старэйшым жыхарам Рыгорам Навахростам. Мне хацелася пагутарыць з мясцовым чалавекам, паколькі Васілевіч і Адзінец – наезжыя. Рыгор Іванавіч пасля першай рускай рэвалюцыі працаваў стрэлачнікам на чыгунцы. Ён не ўдаваўся ў вялікую размову, але ўпэўнена выказаўся, што залаты крыж вагой 75 пудоў быў зняты французамі з калакольні Івана Грознага і ўкінут у Стаячае возера пры адступленні Напалеона. Трэба было даведацца прозвішча таго чалавека, які расказаў Адзінцу аб возеры яшчэ ў 30-я гады. Наўрад, ці застаўся ён жывым. Пэўна, памёр па старасці. Прыйшлося адпраўляцца ў вёску Вялікая Слабада. Пасля доўгіх пошукаў людзей, якія ведаюць, хто з іх дзядоў і прадзедаў працаваў на копцы канавы ад Стаячага возера, усё ж даведаўся, што жыў такі чалавек – гэта Кузьма Багамолаў. Гэта падцвердзіў 75 гадовы Петр Кузміч Драніца.

*- І я чуў у дзяцінстве, – пачаў размову Драніца, – што памешчык памёр, а сын не ўзяўся прадоўжыць справу. Пра гэта гаварыў мне мой бацька Кузьма Прохаравіч, які памёр звыш 30 гадоў назад. Работы па асушцы возера праводзіліся да адмены прыгону. У часткова асушаным Стаячым возеры знаходзілі катлы ад вайсковых кухань, зброю – "падпякалкі".*



Тут жа Петр Кузьміч успамніў, што нешта чытаў пра “Напалеонаўскі клад”.
*- Хацеў сам напісаць у рэдакцыю, каб пашукалі золата ў нашым возеры, а не пад Масквой, - гаворыць ён.*
Пасля гэтай размовы я кінаўся ў бібліятэку і ў падшыўках “Камсамольскай праўды” знайшоў матэрыялы аб “Маскоўскай здабычы”. Але, к майму няшчасцю, там нічога не гаварылася аб Крупках.
Прышлося зноў прадоўжыць пошукі людзей, хто б выказаў што-небудзь новае, цікавае, канкрэтнае, указаў бы прозвішча памешчыка, назваў прыкладна час пошукаў залатога скарбу.



**Каля Бабра. 23 лістапада 1812 года. Мастак Х.В. Фабэр дзю Фор. 1830-е гг.**

Старэйшы па ўзросту жыхар вёскі Новае Жыццё, што ў кіламетры ад райцэнтра, Гаўрыла Ісакавіч Ермаловіч, якога я наведаў вечарам, капаючыся ў памяці, мог толькі ўспомніць, што нейкі памешчык асушваў возера, а калі нічога не знайшоў, дык згубіў розум і памёр. Ермаловіч жыве ў вёсцы з 1909 года. Ён чуў ад некага, што работы па асушцы вадаёма праводзіліся ў сакрэце ад царскіх улад. У саміх Крупках ведаў аб гэтым толькі адзінураднік, які з нецярпеннем чакаў, пакуль знойдуць залаты крыж. Тады б ён атрымаў за “сакрэт” багатую узнагароду. Але мары яго і надзеі не здзейсніліся....
Пасля гутаркі з Ермаловічам я згубіў усялякую надзею знайсці ісціну, сустрэцца з чалавекам, які б сваім расказам зачараваў.
Аднойчы тэхнік лясніцтва Віктар Шэршань параіў звярнуцца да пенсіянера А.Ф. Гайковіча, жыхара г.п.Крупкі. І вось я на кватэры яшчэ аднаго, на маю думку, носьбіта легенды.
Па сутнасці справы Гайковіч не мог нічога сказаць. У юнацтве ён працаваў у Крупках лакеем ва ўпраўляючага памешчыка Свяцкага. Калі збіраліся вялікія госці да ўпраўляючага, гаворкі пра возера тады, у пачатку 20-га стагодзя не было. Значыць кіраўніцтва па асушцы Стаячага возера вялося не мясцовымі “начальнікамі”. Гайковіч накіраваў мяне да жыхара райцэнтра І.С. Каралькова. Каралькоў ахвотна згадзіўся паведаміць свае тайны аб залатым крыжы:
*- Мой дзед Якім памёр яшчэ ў 1896 годзе. Я быў хлапчуком. Вось ён і расказваў нам многа цікавага пра французаў, пра возера. Дзед гаварыў, што пасля вайны 1812 года з Масквы прыехалі ў Крупкі два купцы. Яны чуць не асушылі ўсё возера, заставалася адна ямка з вадой. Але не знайшлі загадкавага скарбу. Вядома, гэтыя купцы вычыталі ў кнігах, што французы ўтапілі ў возеры залаты крыж і бачонак з золатам. Нябожчык дзед расказваў, што ў Крупкі напалеонаўскія салдаты прыйшлі 21 лістапада 1812 года. На асушцы возера працавала многа беднякоў з вёскі Вялікая Слабада. Працавалі там сваякі і браты Сманцары, якія ў тых купцоў былі даверанымі асобамі. Быццам бы гэтыя дружныя браты знайшлі золата, бо пасля таго вельмі разбагацелі. Сманцары потым скуплівалі зямлю, пазычалі грошы тутэйшым памешчыкам. Да гэтага ж браты і сваякі Сманцары былі беднякамі.*

Каралькоў расказаў яшчэ і пра тое, што адзін купец адурнеў. Ён настолькі разарыўся, што не было чым плаціць рабочым. Аб гэтым паведаміў таксама дзед Якім.

*- Паколькі сам жыву ўвесь час у Крупках, то ведаю, што ў 30-я гады Сманцараў з вёскі Вялікая Слабада усіх раскулачылі і выслалі. Адзін толькі нашчадак застаўся. Гэта Віктар Іванавіч Сманцар. Ён вярнуўся з Сібіру, - гаворыць Іван Каралькоў.*

Пасля такіх вестак зноў з'явілася жаданне прадоўжыць легенду. Віктар Сманцар – вось хто скажа ўсё. Але дружалюбны візіт да яго быў не больш, як халастым стрэлам: сівы дзед з вялізнай барадою крактаў у ложку. На пытанне дачкі, ці помніць ён што пра Стаячае возера, крыху узняўшы з пасцелі галаву, як качаном, пакруціў некалькі разоў, то ў адзін, то ў другі бок. А гэта значыла: "Нічога не помню".

*"Мой дзед Якім памёр яшчэ ў 1896 годзе. Я быў хлапчуком. Дзед гаварыў, што пасля вайны 1812 года з Масквы прыехалі ў Крупкі два купцы. Яны чуць не асушылі ўсё возера, заставалася адна ямка з вадой. Але не знайшлі загадкавага скарбу".*

Надзея знайсці яшчэ каго-небудзь з нашчадкаў Кузьмы Багамолава цяплілася ў душы маленькім-маленькім вугельчыкам. На радасць, знайшоўся унук Багамолава – Павел Данілавіч. Перагортваючы ў галаве напластаванне гадоў, Павел Багамолаў расказаў наступнае:

*- Мой бацька Даніла быў адзіным сынам у Кузьмы. Дзед памёр у 1920-м ва ўзросце 75-80 гадоў. Ён расказваў, што французы утапілі ў возеры крыж і бачонак з золатам. Быццам бы адзін чалавек займаўся асушкай возера. Потым ён кінуў работу. Наняўся другі і памёр, не давеўшы справу да канца. Па расказах дзеда, у часткова асушаным возеры знаходзілі зброю няўдалых французкіх заваёўнікаў. Плацілі за работу добра, людзі ўдосталь папівалі гарэлкі.*

Тут Багамолаў пачаў пералічваць радаслоўную Сманцаравых, аб якіх расказваў Каралькоў.

*- Былі такія браты, - падцвердзіў ён: Іван, Ігнат і Міхаіл. Вось Іванаў сын Віктар жыве і цяпер, але хворы… . У гэтых трох братоў бацька зваўся Якавым. Якаў добра ведаў пра гэта. У 1917-м годзе Ігнат памёр у пажылым узросце. У Якава быў брат Даніла.*

Я ўявіў, што, магчыма, гэта былі тыя самыя Сманцары, якія ўпотай ноччу на кані пад'ехалі к берагу крыху асушанага возера і адкралі ад купца скарб – не інакш, як бачонак з золатам… .

Цяпер было ясна, што К.Адзінец расказваў мне успаміны былых жыхароў вёскі Вялікая Слабада. І Кузьма Багамолаў, і Якаў Сманцар, і яго сын Ігнат, пэўна, працавалі самі на копцы канавы. Заставалася высніць час правядзення гэтых работ.

Прайшоўшыся па берагах канавы, я прыкмеціў, што на самым высокім насыпе берага ўзняліся плячыстыя елі. Для доказаў спілаваў адно дрэва. Пасля "аперацыі" выявілася, што самае тоўстае дрэва мела 93 гады. Калі прыкінуць да гэтага, што елка магла расці некалькі год пазней пасля стварэння пясчанага берагу, ды і кальцавыя слаі утвараюцца не з першага году, то, увогуле, дрэву каля сто год.

Такім чынам, аб тым, што гаварыў Драніца, аб чым ўспаміналі мае субяседнікі, падцвярджаецца: работы па асушцы Стаячага возера, што размешчана паміж г.п.Крупкі і ст.Крупкі, вяліся ў 60-я гады мінулага стагодзя.
*- Хто вёў: купец ці памешчык? – ніхто не даў канкрэтнага адказу.*
Пра прозвішча шукальнікаў залатога скарбу гаварыць не прыходзіцца – яно пакуль што застаецца невядомым.
Цяпер звернемся да архіўных дакументаў. У запісках Вальтэра Скота "Жыццё Напалеона Банапарта, імператара французаў" гаворыцца: "Вялікі крыж з калакольні Івана Вялікага, вышэйшы ва ўсёй Маскве, быў зняты з вялікай працай, каб павялічыць сабой трафеі, вельмі ўжо цяжкія". А ў мемуарах удзельніка рускага паходу Марэнгонэ можна знайсці: *"Напалеон патрабаваў забраць брыльянты, жэмчуг, золата і срэбра, якое было ў цэрквах. Ён нават патрабаваў зняць пазалочаны крыж з купала Івана Вялікага".*

*"Вялікі крыж з калакольні Івана Вялікага, вышэйшы ва ўсёй Маскве, быў зняты з вялікай працай, каб павялічыць сабой трафеі, вельмі ўжо цяжкія".*



З падцвярджэння слоў Вальтэра Скота бачна: *"Ад Гжацка да Міхайлаўскай вёскі, што раскінута паміж Дарагабужам і Смаленскам, у імператарскай калоне не адбылося нічога значнага, калі не лічыць таго, што нам прыйшлося кінуць у Семлеўскае возера вывезеную з Масквы здабычу: гарматы, старажытную зброю, упрыгожванні Крамля і крыж Івана Вялікага".*
У мемуарах Армана дэ Каленкура, аднаго з удзельнікаў пахода на Расію, ёсць такая фраза: *"з Вязьмы Напалеон выступіў 1-га лістапада; 2-га лістапада мы былі ў Семлеве, 3-га ў Слаўкаве, дзе ўбачылі першы снег… ".* Значыць Напалеон тапіў "Маскоўскую здабычу" каля Вязьмы.
Але пойдзем далей па сачыненні Вальтэра Скота: *"6-га лістапада пачалася суровая руская зіма, жаху якой французы яшчэ да гэтага часу яшчэ не адчулі, хаця надвор'е было халоднае, марознае і суровае".*
Бяслаўна цягнулася напалеонаўская армія на Захад па старай Смаленскай дарозе: *"дывізія імператара выйшла са Смаленска вечарам 13-га і раніцай 14-га лістапада",* - чытаем далей.
І вось французы ўжо каля Барысава. *"Пры прераходзе цераз гэту раку (Беразіну) ён (Вінтгенштэйн) знішчыў мост цераз яе ў Барысаў, так што гэты горад, хоць і знаходзіўся ў руках французаў, не мог служыць ім для пераправы, і імператар, даведаўшыся аб гэтым, павінен быў задаволіцца тым, каб перайсці цераз Беразіну ў Студзёнцы, як удасцца. Выкананне гэтага зрабілася лягчэй пры надзеі, што расстроеная, разбітая яго армія будзе ўмацавана атрадамі… . Між тым, рыхтуючыся да паходу, імператар абмежаваў усіх афіцэраў, нават самага вышэйшага чына, адным экіпажам; і загадаў знішчыць палавіну павозак, каб усе застаўшыяся затым коні і запрэжаныя валы, былі скарыстаны пад артылерыю і пад зарадныя яшчыкі. Павінна меркаваць, што гэта жаданне было выканана",* - чытаем мы ў сачыненні Вальтэра Скота. І далей: *"На працягу 26-га і 27-га чысла Напалеон перавёў цераз Беразіну частку сваіх войск…".*

Апісваючы пераправу, Вальтэр Скот гаворыць: *"Абоз, нягледзячы на многае ўжо згубленае, на цяжкасць перавозкі і на строгія напалеонаўскія загады, усё яшчэ складаўся з вялікага ліку фур, падвод і калёс… 29-га лістапада імператар пакінуў пагубныя берагі Беразіны… ".*

Аналізуючы ход дзеянняў адступаючага імператара французаў са сваімі войскамі, бачым, што яго "Маскоўская здабыча" паступова гублялася ў дарозе. Магчыма, каштоўны пазалочаны крыж з калакольні Івана Вялікага быў давезен і да Крупак, бо далей цераз Беразіну яго пераправіць было ўжо нельга.

Чаму іменна на Крупшчыне ходзіць легенда аб залатым крыжы? Такая ж легенда бытуе каля Вязьмы, толькі аб залатой карэце.

Каля вёскі Семлева, якую ўпамінае ў сваіх запісках Вальтэр Скот, ёсць таксама Стаячае возера. Гадоў 80 таму назад памешчык Шагараў, збудаваўшы калодзежны зруб, апусціў яго ў Стаячае возера, што каля Семлева, а потым выкачваў ваду і ўсаджваў туды вадалаза. Пераносячы з месца на месца зруб, такім чынам, памешчык абшныраў усё возера. Але нічога не знайшоў.

Калі ёсць доля праўды ў Крупскай легедзе, то, магчыма, крыж быў апушчаны сярод возера. Па апісанню к 20-му лістападу стаялі страшэнныя халады. Незакончаныя работы па асушцы Стаячага возера не маглі раскрыць поўнасцю яго таямнічасць. Ды каму б па адной легендзе прыйшло ў галаву займацца рыццём такой грандыёзнай для таго часу канавы? Бачна, той хто займаўся пошукамі Маскоўскіх каштоўнасцей, карыстаўся і архіўнымі матэрыяламі, а, магчыма, расказам (па сакрэту) каго-небудзь з удзельнікаў вайны 1812 года.

Усё гэта гаворыць за тое, што тайна Стаячага возера яшчэ застаецца нераскрытай. Слова за беларускімі краязнаўцамі і гісторыкамі. Што яны скажуць па гэтаму пытанню?



*Мінская вобласць,*
*г.п.Крупкі, Чыгуначная, 6, Шашок Іван Герасімавіч,*
*Супрацоўнік раённай газеты /подпіс/ "Ленінскім курсам"*





# Архітэктура маёнткаў Крупшчыны

**А Р Х І Т Э К Т У Р А** / Валеры АРЦЮХОВІЧ



*Шляхецкія маёнткі з часоў ВКЛ да пачатку XX ст. – неад'емная частка архітэктурнага ландшафту Беларусі. Даволі значная колькасць такіх сядзібаў існавала на тэрыторыі сучаснага Крупскага раёна. Тлумачыцца гэта наяўнасцю тут прыватнаўласніцкіх зямельных уладанняў.*

*Пад маёнткам у нашым артыкуле маецца на ўвазе комплекс пабудоў сядзібы землеўладальніка – двор. Цэнтральнай пабудовай ў ім з'яўляўся панскі дом (палац). Недалёка размяшчаліся гаспадарчыя будынкі, вадаём і інш. У склад сядзібы, як правіла, ўваходзілі парк і сад.*

*У Крупскім раёне да нашага часу захавалася два сядзібных дома – у г.Крупкі і в.Язбы (другі значна перабудаваны). Толькі гэтыя помнікі атрымалі архітэктурную характарыстыку ў літаратуры. Пры тым яна абмяжоўваецца (не ўлічваючы простых згадак) трымя апісаннямі палаца ў Крупках[1] і адной публікацыяй звестак пра палац у Язбах[2]. Інфармацыя пра прысядзібныя паркі прадстаўлена толькі згадкамі пра рэшткі парка ў г.Крупкі[3]. Архітэктурнае вывучэнне астатніх сядзібаў абцяжарана іх фрагментарнай захаванасцю. Таму для далейшага даследавання панскіх двароў на Крупшчыне мы вымушаны звяртацца да розных відаў крыніц.*

*Самым перспектыўным з іх з'яўляюцца архіўныя дакументы. Так вопіс маёнтка Хацюхова 1844 г. утрымлівае апісанне ўсіх яго будынкаў[4]. Можна меркаваць, што ў архівах знойдзецца шмат інфармацыі пра іншыя панскія сядзібы на Крупшчыне. У мемуарах А. Багдановіча ўдалося адшукаць падрабязную характарыстыку Халопеніцкага маёнтка[5]. Акрамя архіваў і мемуараў вынікі могуць даць археалагічныя даследаванні на месцах былых двароў. Але патрэбна прыняць меры для прадухілення іх забудовы і разворвання. Вялікую каштоўнасць прадстаўляюць старыя фотаздымкі. Шмат інфармацыі можна атрымаць з расповядаў мясцовых жыхароў. Такім нам бачыцца сучасны стан і перспектывы вывучэння сядзібнай архітэктуры на Крупшчыне.*

*Ніжэй прыведзены матэрыял - адзін з раздзелаў напісанага ў 2003г. экзаменацыйнага рэферата па школьным прадмеце “Сусветная мастацкая культура” (кіраўнік Чэўс Н. Л.). Аснову яго склалі пералічаныя вышэй публікацыі. Акрамя таго выкарыстаны звесткі са справаздачы А.Т.Федарука пра абследаваныя ім сядзібы Крупшчыны[6]. Яны друкуюцца ўпершыню. Артыкул не прэтэндуе на паўнату і грунтоўнасць прыведзеных звестак. Мэта дадзенай публікацыі – пазнаёміць шырокія колы з адной са старонак архітэктурнага летапісу нашага рэгіёна. Можна будзе лічыць, што артыкул перавыканаў пастаўленую мэту, калі ён у кагосці выкліча разуменне каштоўнасці і неабходнасці зберажэння нешматлікіх рэшткаў былых маёнткаў.*

* * *

Архітэктура маёнткаў Крупшчыны з’яўляецца часткай агульнабеларускай архітэктуры і развівалася пад яе ўплывам. Шляхецкія маёнткі, як і іншыя помнікі архітэктуры, адлюстроўваюць светапогляд і ідэалы пэўных культурна-гістарычных эпох: барока, рамантызму, гістарызму.

Далучэнне Вялікага Княства Літоўскага ў XV-XVII стст. да працэсаў агульнаеўрапейскага культурна-асветніцкага развіцця моцна паўплывала на характар і аблічча маёнткаў. Яны мелі, як правіла, выразную ландшафтна-пляніровачную структуру: сад, да якога пазней далучаецца і парк, алеі, баскеты, пляцоўка з клумбай перад ганкам. З супрацьлеглага боку палаца размяшчаўся гаспадарчы двор. У агульную кампазыцыю сядзібы актыўна ўключаліся разнастайныя ірыгацыйныя сістэмы: сажалкі, каналы, пратокі. Агароджа сядзібы, як правіла, таксама мела архітэктурнае вырашэнне.

Планіроўцы маёнткаў былі ўласцівыя часцей за ўсё прынцыпы цэнтрычнасці і сіметрыі: у цэнтры – сядзібны дом (палац), перад парадным ганкам – курданер, далей – уязная алея, паабапал якой баскеты, сад і парк. Парадная паркавая тэрыторыя аддзялялася ад гаспадарчай агароджай (прысадамі).

У архітэктурным вырашэнні палацаў спачатку дамінавалі гатычныя і абарончыя рысы. Запазычаная ў готыкі замкавая суровасць яшчэ пераважала над свецкай прыгажосцю: фасады фланкуюцца вежамі, глухія сцены неахвотна саступаюць месца вокнам. У XV-XVII стст. архітэктура палацаў паступова набывае свецкія, цывільныя рысы.

Хуткаму распаўсюджванню палацавых рыс у забудове маёнткаў спрыяла барока. У пачатку XVIII ст. склаўся пэўны і досыць устойлівы тып планіроўкі сядзібнага палаца: парадны ганак з порцікам на слупах, вестыбюль-аванзала, якая пераходзіць у парадную залу, анфілады пакояў па баках. Праз бакавыя галерэі палац злучаецца з флігелямі. Развіваецца ярусная пабудова палацаў. У цокальных паверхах размяшчаюцца кладоўкі, кухня, топкі каларыфераў, на

другім ці мансардным паверхах – гасцёўні, кабінеты, сталовыя, залы, спальні. Змяняецца і аб'ёмнае вырашэнне палацаў. Простыя, двух-чатырохсхільныя дахі саступаюць месца вальмавым, з мансардамі і мезанінамі, люкарнямі і алькеджамі. Павялічваюцца памеры вокнаў і іх колькасць. Аблічча палаца набывае святочнасць і элегантнасць.

Барочная летуценнасць прыйшла ў сядзібныя сады і паркі. Лічылася модным вырошчваць розныя экзоты, выстаўляць па паркавых алеях цёплаю парою года ў кадушках расліны з заморскіх краін. Сістэма пасадак, каналаў, сажалак, альтанак і гротаў ставіла мэтай стварыць атмасферу рамантыкі, натхнення, паэтычнай узнёсласці.

У канцы XVIII – пачатку XIX ст. у архітэктуру маёнткаў і панскіх сядзіб прыходзіць класіцызм. На змену мудрагелістаму ракако прыходзіць стрыманая велічнасць, манументальнасць. У Беларусі ўплыў класіцызму найперш адбіўся на буйных аб'ектах. Сярэднія і дробныя маёнткі ўжо ў першай трэці XIX ст. будуюцца ў стылі так званага гістарызму, або рамантызму, калі эклектычна спалучаліся архітэктурныя формы папярэдніх эпох. У пачатку XX ст. у архітэктуры Беларусі з'яўляецца стыль мадэрн, які і дамінуе ў будаўніцтве маёнткаў гэтага часу.

Калі ў абліччы мураваных сядзіб і палацаў адбіліся рысы еўрапейскага дойлідства, то драўлянае сядзібнае дойлідства зберагала народныя, нацыянальныя традыцыі і адметнасці. Уласна панскі дом невялікага маёнтка па планіроўцы нагадваў традыцыйную сялянскую хату на два бакі: хата-сенцы-хата. Сенцы мелі выхад як на парадны ганак, так і на гаспадарчы двор. Паабапал іх – жылыя пакоі. Усё вяршыў чатырохсхільны ці вальмавы дах. Будаўнікамі такіх сядзібаў былі мясцовыя майстры-цесляры (дойліды), якія кіраваліся спрадвечным вопытам і традыцыямі.

«Цудоўным помнікам багатай і разнастайнай палацава-сядзібнай спадчыны Беларусі з'яўляецца **палац у Крупках**. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. у неабарочным кірунку стылю мадэрн. У стылявых адносінах будынак палаца набыў асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Да тарцовага левага фасада двухпавярховага прамавугольнага ў плане будынка далучана цыліндрычная 2-ярусная вежа, якая ўзвышаецца над яго вальмавым дахам. Яе верхні васьмігранны ярус накрыты самкнутым гранёным паўсферычным купалам, які завершаны нізкім ліхтаром такой жа формы; грані яруса аформлены круглымі люкарнамі, размежаванымі лапаткамі. Супрацьлеглы тарцовы фасад атрымаў асіметрычную крапоўку – бакавы ўваходны рызаліт фланкіраваны невысокімі чацверыковымі вежачкамі з машыкулямі – рамантычны матыў сярэдневяковай замкавай архітэктуры; цэнтральны рызаліт завершаны фігурным франтонам з бакавымі барочнымі валютамі і авальнай люкарнай па цэнтры. Стылізаваныя валюты выкарыстаны і ў афармленні вокнаў рызаліту. Архітэктурна-пластычны эфект плоскасных фасадаў ствараецца вылучэннем на іх

жоўтым фоне пабеленых элементаў дэкору – вуглавой рустоўкі, "замковых" камянёў і геаметрызаваных ліштваў прамавугольных вокнаў і ламбрэкенаў у іх прасценках. У афармленні фасадаў выкарыстана характэрнае для мадэрна супастаўленне гладкай муроўкі сцен з фактурнай апрацоўкай панеляў, ніш, філенгаў, ліштваў вокнаў, франтонаў. Дынамічную арытмію фасадам надае выкарыстанне аконных праёмаў разнастайнай канфігурацыі і спалучэння – адзінарных, падвоеных, патроеных, прамавугольных, круглых, квадратных, авальных, лучковых. Цэнтральны ўваход з боку галоўнага фасада вылучаны не-



**Палац у Крупках**

**Фрагмента ўнутранага аздаблення – печ з дэкорам у стылі мадэрн**

глубокім рызалітам, які завершаны атыкам. Уваходная частка бакавога правага фасада будынка фланкіравана 2 невялікімі вежамі. Планіроўка мяшаная. Паверхні калідорна-анфіладнай планіроўкі злучаюць тры лесвіцы, цэнтральная з якіх упрыгожана поручнямі з балясін і поясам геаметрычнага арнаменту (чыгуннае ліццё)»[7].

Захаваўся фотаздымак фрагмента ўнутранага аздаблення палаца – печы. На ім бачна, што кафля і дэкор таксама выкананы ў стылі мадэрн.

За палацам калісьці знаходзіўся маляўнічы парк, ад якога захаваліся толькі фрагменты: «...адзінокія ліпы, сосны, топаль канадскі позні, зараслі спірэі Біяры»[8].

Сядзіба з першай паловы XIX ст. і да 1918 г. належала Міхаілу, а потым яго сыну Карлу, Свяцкім.



Парк пры палацы ў Крупках

Сядзіба графа Красніцкага ў **в. Язбы** «фарміравалася ў першай палове XIX ст. у духу класіцызму. Уключала сядзібны дом, парк, сад, гаспадарчы двор, бровар, млын, дзве брамы. Захаваліся невялікія фрагменты»[9].

Сядзібны дом пабудаваны ў стылі позняга класіцызму, мураваны, аднапавярховы. «Цэнтральны ўваход вылучаны мансардавым порцікам з 4 калонамі і 3-вугольнымі франтонамі. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Цяпер перабудаваны, узведзены другі паверх»[10].

*«...адзінокія ліпы, сосны, топаль канадскі позні, зараслі спірэі Біяры».*

Парк «займаў роўную тэрыторыю, якая была апрацавана лёгкім тэрасаваннем па восі. Праглядваецца цэнтральная алея (лістоўніца, ліпа) па восі сядзібы, якая за паркам вяла да возера. Захаваліся адзінкавыя ліпы, у мінулым фармаваныя, у старых баскетах зараслі дэкаратыўнага хмызняку (бружмель татарская, ружа найкалючая, бэз, рабіннік рабіналіставы), некалькі дрэў на ўяздной алеі, зарослы вадаём. У лепшым стане невялікая частка краявіду з паўднёвага боку сядзібы з адзінкавымі дрэвамі, якая часткова забудавана дамкамі летняга тыпу. Прысады здзічэлі»[11].

Шляхецкі маёнтак у **м. Халопенічы** вельмі красамоўна апісвае ў сваіх успамінах Адам Ягоравіч Багдановіч:

*«Теперь мы подошли к помещичьей усадьбе, к панскому двору, который назывался просто “двор”, без всяких пояснений, как нечто самодовлеющее и само собой понятное...*

*Он расположен был от местечка не более 100 сажен на взгорке, полого склонённом к сыроватой низине, где были вырыты сначала два (старое возера), а затем и третий пруд, ныне спущеный и высохший...*

*...К усадьбе вели “прысады”, - алеи из дубов, клёнов, ясеней, лип* (гл. 4-ю стар. вокладкі - рэд.)*. И к ним примыкал, расположенный на первом плане, старый фрукто-*



**Сядзіба графа Красніцкага ў в. Язбы. Выгляд да перабудовы.**

*вый сад, с оранжереей, парниками и погребами для фруктов и овощей, занимая около 3-4-х десятин. По другую сторону, примыкая к пруду, роскошный шёл огород для капусты, огурцов, свеклы, моркови с водокачалкой для поливки...*

*...Пройдя алею, вы встречали при "офіцыне" контору, дом для конторщиков, писаря "правантового" (амбарного) и других рангов и назначений, и дом для садовника, огородника и их подручных. Далее, за куртинами декоративных деревьев, открывался панский дом, который слыл под претенциозным именем "палаца". И мне он казался в детстве по внешности величественным..., а внутри полным очарования и невиданых чудес. Когда меня, мальчика лет 5-ти, босоногого, дядька Онуфрий, панский лакей, провёл через все покои в свою комнатушку позади, видимо, не без намерения удивить и поразить, он вполне достиг цели: я шёл по блестящему и скользкому паркету, высоко подымая ноги, как по водам, и всё озирался по сторонам и вверх и вниз, и когда увидел большое трюмо, я совсем растерялся от несказанного изумления...*

*...Этот дом, по уходе немцев, сожгли (1918 г. – А.В.). Надо думать, что, простояв 70 лет он был уже староватым и сильно зажит, но ещё постоять мог бы.*

*Ничего в нём, разумеется, величественного не было: самый обыкновенный помещичий дом. Деревянный, одноэтажный, в 8 комнат и комнатушек. Но что ему придавало внушительность – это каменный фундамент и крыльцо из тёсаного гранита, а также мезонин со шпицем и "галкой" (шаром) наверху.*

*...Обширная кухня с кладовыми и комнатами для поваров стояла отдельно: близ дома, но с некоторым промежутком...*

*...За домом был разбит в десятину с небольшим "Новый сад" с палисадником. Это сделано во времена пана Лапы, как и дом при нём же построен.*

*"Прысады" и старый сад выходили ко временам Хрептовича, и от тех времён*

*сохранились защитные алеи по бокам и куртины старых, двухсотлетних дубов, а может быть и трёхсотлетних дубов, стало быть, помнивших время панования Халецких...*
*...Несколько в стороне, влево от палаца, стоял “провэнт” – амбар с хлебом, мукой, крупой, солью, постным маслом и прочим...*
*...Несколько подале, но всё же близко к панским покоям стояла конюшня (стайня) для выездных лошадей вместе с каретником и пуней для кормов и подстилки...*
*...Вот и всё типичное для панского двора средней руки, в части, обслуживающей “покои”, т.е. панов, их “официалистов” (представителей) и дворню разных сортов.*
*Это одна часть усадьбы, как бы “чистая половина” в доме. Но была другая часть, основная, хозяйственная, на которой базировалась эта показная половина...*
*...Хозяйственные постройки были самых разнообразных назначений: молотильные сараи, с обширными складами разного рода снопов, сенные сараи, “оборы” или скотные дворы со стойлами и приспособлениями для кормов и водопоев...*
*...По окраинам стояли: бровар, пивоварня, - и их обслуживающие подвал и бочкарня, а также особый двор для рабочих волов и откармливаемых на убой – на месте или в городе – бычков, быков и свиней...*
*...Тут же была мельница с наклонным зубчатым колесом, по которому ходили два быка, вращая его своей тяжестью и упором ног, а оно, задевая зубьями, вращало лежащий вал с большой шестерней, которая в свою очередь вращала стоячую шестерню, накрепко соединённую стержнем с верхним жерновом.*
*Это мельница, так сказать, постоянного значения. А то была высокая, каменная, ветряная, которая пользовалась дармовой энергией, но, разумеется, работала не постоянно.*
*Близко к жилым помещениям вздымалась, как сторожевая башня “салька” или “венглярня”, в два и три этажа...*
*...Поблизости стояла и коптильная будка в форме четырёхугольной усечённой пирамиды...*
*...Это было довольно крупное имение и оно достаточно типично по своему построению: почти все имения средней руки строились так же. И более мелкие, по возможности, самодовлеющий целостный тип сохраняли, конечно в менее крупном масштабе.*
*...Около 15-ти десятин земли, а может быть и 20, занимала Холопеничская усадьба»*[12].

*“...Тут же была мельница с наклонным зубчатым колесом, по которому ходили два быка, вращая его своей тяжестью и упором ног, а оно, задевая зубьями, вращало лежащий вал с большой шестерней, которая в свою очередь вращала стоячую шестерню, накрепко соединённую стержнем с верхним жерновом.”*

Да нашага часу захаваліся толькі прысады, падмуркі гаспадарчых пабудоў і рэшткі “Новага саду”.
Панскі маёнтак у **в. Хацюхова,** паводле вопісу 15 чэрвеня 1844 г. *«...з вялікім садам і паркам быў агароджаны драўляным плотам на падмуроўцы з мураванымі слупамі. У двор вялі ўязныя вароты на мураваных пілонах з весніцамі. Пасярод двара стаяў вялікі панскі дом, пабудаваны з брусоў на каменным*

*падмурку і пакрыты гонтам. Перад уваходам у дом была пабудавана галерэя на драўляных слупах; у доме было дванаццаць даволі вялікіх пакояў, а пад домам – мураваны склеп. Памер дома 13 × 7,5 сажаняў. Побач з домам стаялі двухпавярховая драўляная лядоўня з пакоем на другім паверсе і мураваная васьміпакаёвая афіцына з кухняй, пакрытая дахоўкай, памерамі 9 × 5 сажаняў. Пры афіцыне знаходзіліся старыя драўляныя птушнік і варыўня. Троху далей ад дома стаяў мураваны будынак стайні і вазоўні са свіранкам для захоўвання вупражы, пакрыты дахоўкай, памерамі 16*5 сажаняў. Побач стаялі пад адным саламяным дахам драўляныя стайня для рабочых коней і адрына для гаспадарчага начыння, нядаўна пабудаваныя. Вялікае мураванае гумно з галерэяй на мураваных жа слупах і вялікім склепам унізе для захоўвання гарачага віна (брагі), пакрытае дахоўкай, мела памеры 13 × 7 сажаняў. Тут жа знаходзілася новая драўляная ізба з кафельнай печкай.*

*Адразу за панскім дваром на невялікім ручаі, які ўпадае ў р. Начу, быў устроены стаў, а пры ім пабудаваны невялікі, з цёсаных брусоў млын на адзін камень, пакрыты дахоўкай. Побач са ставам стаяў мураваны двухпавярховы бровар з трыма галерэямі (ганкамі) на мураваных слупах, пакрыты дахоўкай. У бровары былі два вялікія пакоі, саладоўня і піваварня з паравой машынай. Памеры будынка былі 9 × 7 сажаняў. Пры бровары знаходзіўся асобны мураваны будынак лядоўні; пакрыты дахоўкай, памерамі 8 × 4,5 сажаняў. Непадалёк знаходзіўся драўляны жылы дом для пастухоў на две паловы з сенцамі і склепам.*

*Фальварак, які знаходзіўся побач з панскім дваром, уключаў наступныя гаспадарчыя пабудовы. Абора для жывёлы была збудавана з бярвення ў квадрат, якая ўключала ў сябе адзінаццаць хлявоў і мела памеры 24 × 24 сажані. Будынак на две асеці з токам з драўлянымі сценамі паміж цагляных філяраў і з двума варотамі. Асеці былі пакрыты дахоўкай, а ток – саломай. Старая драўляная адрына для захоўвання хлеба ў снапах. Пуня для складвання сена і адрына для засыпкі зерня, абедзве драўляныя. Сушыльня на дзве асеці для апрацоўкі льну і вырабу пянькі, складзеная з сасновых бярвенняў»*[13].

Сядзіба пачала разбурацца з 1918 г. Да нашага часу ад былога маёнтка захавалася толькі гумно. Насупраць двара праз стаў ля дарогі захаваліся рэшткі мураванай пабудовы. Відаць, гэта была згаданая ў інвентары лядоўня пры бровары, дзе захоўваліся бочкі з гарэлкай.

Сядзібны дом пана Барталамея ў **м.Бобр** быў *«...Г-падобны ў плане, драўляны аднапавярховы сіняга колеру, займаў высокі пагорак на тэрасе р.Бобр. Схіл узгорка, на якім знаходзіўся парк, быў добра апрацаваны і тэрасаваны. Прысады з вялікімі марыландскімі таполямі здзічэлі…»*[14]. Амаль зніклі ці здзічэлі наступныя пароды дрэў – таполя Сімона, таполя духмяная, таполя лаўралістава̀я, таполя гібрыдная, ясень пенсільванскі, спірэя, клён сярэбраны. Вадаём спушчаны. На месцы сядзібнага дома зараз адміністрацыйны будынак. За-

хаваліся (па стану на 1992 г.) спіртзавод і гаспадарчыя пабудовы двара, якія пабудаваны ў 1901 г.): 3 стайні, 2 склады[15].

Сядзіба каля **в. Вялікія Хальнявічы** *«...займала маляўнічы высокі бераг воз. Сялява* (дакладней Абіда – А.В.)*. . . Захаваліся фрагменты ўязной алеі з ліпаў, адзінкавыя дрэвы, пладовыя дрэвы, зараслі хмызнякоў. На месцы сядзібнага дома* (пасля 1945 г. – А.В.) *пабудаваны цагляны будынак (захаваліся рэшткі сцен)»[16].*

Ад сядзібы ў **в. Худаўцы** засталіся: гаспадарчая пабудова (свіран), фрагменты ўязной алеі з дуба і фрагменты саду[17].

Шляхецкія маёнткі знаходзіліся таксама ў вёсках **Абчуга, Шчаўры, Лісічана.** Нажаль, яны страчаны поўнасцю за савецкім часам. Стайня маёнтка **Абчуга** збурана мясцовымі жыхарамі ў другой палове 90-х гг. ХХ ст.

*Пры напісанні працы выкарыстаны фотаздымкі з Архіву Харугвы Скаўтаў Малога Палесся, захавальнік Андрэй Аляхновіч.*

[1] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобласць. Мн., 1987. Кн.1. С. 228; Кулагін А. М. Архітэктурная даўніна // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Крупскага раёна. Мн., 1999. С. 575; Кулагін А. М. Эклектыка. Мн., 2000. С. 205 – 206

[2] Кулагін А. М. Архітэктурная даўніна. С. 575

[3] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. С. 228; Кулагін А. М. Архітэктурная даўніна. С. 575

[4] Брэгер Г. Хацюхова: Гісторыя невялікага паселішча. Мн., 2001. С. 123 – 124

[5] Богданович А.Е. Мои воспоминания // Неман. 1994. № 5. С. 30 – 32

[6] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Крупского раёна. Мн., 1992, (копія) // Архіў Харугвы Скаўтаў Малога Палесся. Захавальнік Андрэй Аляхновіч

[7] Кулагін А. М. Архітэктурная даўніна // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка крупскага раёна. Мн., 1999. С. 575

[8] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Крупского раёна. С. 1

[9] Тамсама. С. 3

[10] Кулагін А.М. Архітэктурная даўніна. С. 575

[11] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Крупскага раёна. С. 3 – 5

[12] Богданович А.Е. Мои воспоминания // Неман. 1994. № 5. С. 30 – 32

[13] Брэгер Г. Хацюхова: Гісторыя невялікага паселішча. Мн., 2001. С. 123 – 124

[14] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Крупского раёна. С. 5

[15] Тамсама. С. 5.

[16] Тамсама. С. 8.

[17] Тамсама. С. 8.

# Пачаткі народнай адукацыі у мястэчку Крупкі



**З АРХІВАЎ** / Андрэй АЛЯХНОВІЧ

*На просьбу настаўнікаў Крупскай СШ №1 адшукаць дату адкрыцьця першай школы ў нашым мястэчку аўтарам была праведена пошукавая праца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У выніку мы атрымалі дату першага упаміну школы ў Крупках -* ***1885г.*** *На жаль у 2006 годзе для святкаваньня юбілею СШ №1 мае калегі прагматычна абралі іншую, не першую дату, а менавіта 1906 год.Такім чынам, у часе урачыстага святкаваньня 100-годзьдзя школы фактычна святкавалася 121 гадавіна… Хаця вялікай бяды ў гэтым няма. Можна ў 2010 годзе адзначыць ужо 125-годзьдзе! Верагодна, далейшыя пошукі дадуць нам больш ранейшую дату. А пакуль мы маем наступныя дадзеныя:*

**Школа № 1 г. Крупкі**



**I. КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ:** "МОГИЛЕВСКИЕ ЕПАРХИАЛЬНЫЯ ВЕДОМОСТИ", **1885г.,** №1 – 36., часть официальная, стр. 240 – 242: "Школы церковно-приходския и школы грамотности Могилевской епархии.

Сенненскаго уезда и благочиния. 4-й округ. **Крупецкаго прихода:** в м. Крупках 25 учеников."

**II. КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ:** "МОГИЛЕВСКИЯ ЕПАРХИАЛЬНЫЯ ВЕДОМОСТИ", **1887г.,** стр. 46 – 47: "Четвертый округ благочиния. **Крупецкаго прихода:** в м. Крупке – школа помещается в устроенном обществом доме, всем предметам обучает священник Павел Охотский безплатно; учащихся 15 мальчиков и 9 девочек."

**III.** КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ: "МОГИЛЕВСКИЕ ЕПАРХИАЛЬНЫЯ ВЕДОМОСТИ", **1888г.,** стр. 84: **"Крупковскаго прихода** – церковно-приходская школа в м. Крупке; помещается она в устроенном для нея доме, учителем и законоучителем состоит местный священник Павел Охотский, он же обучает и пению, безплатно; учащихся 13 мальч. и 5 девочек."

**IV.** КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ: "МОГИЛЕВСКИЕ ЕПАРХИАЛЬНЫЯ ВЕДОМОСТИ", **1889г.,** стр. 69 – 70: "Четвертый округ благочиния. **Крупецкаго прихода** – церковно-приходская школа в. м. Крупке; помещается она в устроенном для нея доме, учителем и законоучителем состоит священник Павел Охотский безплатно; учащихся 17 мальчиков и 7 девочек.

Того же прихода школа грамотности в дер. Панском; помещается она в наемном доме, учителем состоит солдат Федор Карпов, получает 20 рублей за учебное время; учащихся 20 мальчиков.

Население прихода 1326 душ; учащихся 44; 1 учащ. – на 30 чел."

*Там жа, на старонцы 226:* "Назначение в должность учителей церковно-приходских школ. По журналу Епархиальнаго Училищнаго Совета от 16 августа, утвержденному Его Преосвященством 4 сентября, ***перемещены:*** ... учительница Литвиновичской школы Рогачевскаго уезда, Валентина ***Лепешинская*** – в Крупковскую школу, Сенненскаго уезда;"

**V. КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ:** "МОГИЛЕВСКИЕ ЕПАРХИАЛЬНЫЯ ВЕДОМОСТИ", **1890г.,**стр. 95 – 96: "Лучшия церковно-приходския школы следующия: ...в Сенненском уезде: ... Худовская, Косеничская, *Крупецкая,* Щавровская и Шийковская;"

Там жа на старонцы 244: **"Крупецкаго прихода** – преобразованная церковно-приходская школа в м. Крупке; помещается она в устроенном для нея доме, учительницей состоит окончившая курс в епархиальном женском училище ***Анна Елиашевич,*** получает от общества 50 руб. и от Епархиального Училищнаго Совета 100 р.; законоучителем состоит священник ***Павел Охотский;*** учащихся 36 мал. и 6 дев."

*Там жа на старонцы 359:*

"Епархиальный Училищный Совет, согласно своему журнальному постановлению от 2 сего ноября, утверждённому Его Преосвещенством 5 ноября, выражает свою благодарность: . . . учительницам школ: . . . Крупковской, Сенненскаго уезда, ***Валентине Лепешинской,*** . . . за их усердное и успешное обучение в названых школах. . . ."

**VI. КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ:** "ПАМЯТНАЯ КНИЖКА МОГИЛЕВСКОЙ ГУБЕРНИИ НА 1907 ГОД", **1906г.,** старонка 93: "Одноклассныя школы: **Крупковская.** Учительница – Надежда Плещинская окончила женское епарх. училище."

a Patria Super Omnia Patria Super

# Пошукі праўды пра калектывізацыю на Крупшчыне (1929-1934)

**ЧЫТАЮЧЫ "ПАМЯЦЬ"** / Андрэй АЛЯХНОВІЧ



***Гэта не мільёны людзей былі ворагамі Савецкай ўлады і Савецкай дзяржавы! Гэта Савецкая ўлада і савецкая дзяржава былі ворагамі мільёнаў людзей!***
*Т. Малевіч, беларускі гісторык*

*У 1999 годзе Менскае выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" выпусьціла ў сьвет чарговую кнігу сэрыі гісторыка-дакументальных хронік гарадоў і раёнаў Беларусі: "Памяць. Крупскі раён". Тыраж у 2,500 тыс. экз. разыйшоўся па школах, установах, бібліятэках і чытачах на працягу 5-7 год. Зараз на кніжных паліцах горада Крупкі і раёна гэтай кнігі ўжо не знойдзеш. Цяжка перааценіць тую станоўчую ролю, якую выконвае гэта выданьне ў патрыятычным выхаваньні нашай моладзі і школьнікаў. Фактычна, гэта першая аб'ёмістая праца па гісторыі Крупскіх земляў. Але, чым глыбей чытаеш нашу кнігу "Памяць", тым болей узьнікае пытаньняў.*

Зацікавіўшысь пытаньнем калектывізацыі і раскулачваньня сялянства нашай роднай Крупшчыны, з непрыемным пачуцьцем адкрылі для сябе на ст.125, што: ***"У 30-я гады ў раёне былі высланы ў Сібір або на Далёкі Усход 14 сем'яў"?*** Памножыўшы 14 на 5 (адмыслова (!) зніжаную намі сярэднюю колькасьць чалавек ў аднэй тагачаснай сямы) атрымалі ***70 рэпрэсаваных асобаў?*** Не можа быць!... Памылка!... Абдрукоўка!...

Але ўбачыўшы далей на ст.151 спіс ***"Ураджэнцы Крупскага раёна, якія былі раскулачаны і высланы на спецпасяленне ў 1930-я гады",*** дзе было ўсяго 65 прозьвішчаў, зразумелі – не памылка....

Добра памятаючы, што, амаль усе артыкулы змешчаныя ў кнізе, у свой час (1992-1997г.г.) друкаваліся ў раённай газэце "Ленінскім курсам" – пачалі шукаць ў падшыўках мінулых гадоў. І знайшлі – той жа аўтар (кандыдат гістарычных на-

вук, складальнік і навуковы рэдактар кнігі "Памяць. Крупскі раён" Хромчанка Дз.М.) у 1994 годзе ў артыкуле "Крупшчына ў люстэрку гісторыі" (№53 ад 16 ліпеня) сцьвярджаў іншае: *"У 1929 годзе было раскулачана і выслана за межы раёна* ***115 гаспадарак, у 1930 – 173, у 1931г. – 145.*** *Затым некалькі год амаль не высылалі, але ў 1935-1936 гг. пачаліся палітычныя рэпрэсіі."* У суме атрымоўваецца ўжо ***433*** гаспадаркі, а не ***14***. Памножыўшы 433 зноў на 5 атрымалі ***2165 рэпрэсаваных сялян-землякоў за тры першых гады калектывізацыі (1929-1931)!*** Вядома, што гэта умоўны падлік па-мінімуму, таму што даваенная беларуская сялянская сямья складалася ў сярэднім з 6-8 асобаў.

Колькі ж імёнаў з гэтай лічбы ў 2165 асобаў нам вядома зараз? Кніга "Памяць" падае імёны й прозьвішчы 175 чалавек, рэпрэсаваных у перыяд з 1929 па 1934 гг. на Крупшчыне. Папрацаваўшы 4 месяцы з адкрытымі крыніцамі (кнігі, перыядычны друк, інтэрнэт) нам ўдалося адшукаць яшчэ 108 імёнаў. Такім чынам на сяньня мы маем імёны толькі 284 рэпрэсаваных земляка за перыяд 1929-1934, – гэта толькі, як мінімум, сёмая частка. А дзе яшчэ амаль дзьве тысячы бязьвінных? Адказ вядомы – у архівах спэцслужбаў, пад замком. Мы паспрабавалі, абапіраючыся на ўсю сабраную інфармацыю, прааналізаваць вядомую нам, сёмую частку ад усіх рэпрэсаваных у той перыяд.

СЯЛЯНСКАЯ ГАЗЭТА Ц. К. КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (б.) БЕЛАРУСІ.

**Ні адзін пан не застанецца**

**ПА САЦЫЯЛЬНАМУ СТАНОВІШЧУ ЎСЕ 284 АСОБЫ ПАДЗЯЛЯЮЦЦА НА НАСТУПНЫЯ ГРУПЫ:**

Сяляне – 193

Шляхта – 62

Сьвятары – 14

Інтэлігенцыя – 7

Дзяржаўныя служачыя – 6

Рабочыя – 2

Зь іх усіх дзяцей да 16 год – 42.

**ПА ГАДОХ РЭПРЭСАВАНА:**

1929 – 11

1930 – 204

1931 – 23

1932 – 22

1933 – 20

1934 – 4

**ЗЬ ІХ ЗАГІНУЛІ ЦІ БЫЛІ РАССТРАЛЯНЫЯ:**

**1930г. – 6 асобаў. Вось іх імёны:**

**Кухта Сьцяпан Нічыпаравіч,** н. ў 1852 у в.Малое Хацюхова, селянін-аднаасобнік. Асуджаны 6.3.1930 за "садейнічаньне бандытам" да вышэйшай меры пакараньня. Рэабілітаваны 6.5.1992.

**Кухта Сямён Сьцяпанавіч,** н. ў 1896 у в.Малое Хацюхова, селянін-аднаасобнік. Асуджаны 6.3.1930 за "садейнічаньне бандытам" да вышэйшай меры пакараньня. Рэабілітаваны 6.5.1992. (сын і бацька – гл. вышэй – аўт.).

Мамыка Пётр Васільевіч, н. ў 1890 у в.Ігрушка Крупскага р-на ў сялянскай сям'і. Сьвятар. У 1920-я г. верагодна, служыў у Канстанцінаўскай царкве в. Салаўі (Вялікія Салаўі), цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. Быў жанаты, меў трое дзяцей. Арыштаваны 13.1.1930 са сьвятарамі Полацка-Віцебскай епархіі Леа-

нідам Кліндуховым, Дзмітрыем Розавым, Міхаілам Саракалетавым і інш. Асуджаны асобай нарадай пры АДПУ за "антысавецкую агітацыю" да вышэйшай меры пакараньня. Расстраляны. Рэабілітаваны 29.9.1989 пракуратурай Віцебскай вобл. Асабовая справа М. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**Пракудзін Назар Савельевіч,** н. ў 1867 у в.Гарадзішча, селянін-аднаасобнік. Асуджаны 6.3.1930 да вышэйшай меры пакараньня. Расстраляны. Рэабілітаваны 23.6.1989.

**Рухлінскі Сямён Цімафеевіч,** н. ў 1873 у в.Каменка, селянін-аднаасобнік. Асуджаны 9.3.1930 да вышэйшай меры пакараньня. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.5.1989.

**Скалубовіч Усцін Фёдаравіч,** н. ў 1881 у мяст.Халапенічы, селянін-аднаасобнік. Асуджаны 5.3.1930 да вышэйшай меры пакараньня. Рэабілітаваны двойчы: 28.12.1989. і 19.5.1992.

**1931г. – 1 асоба:**
**Гліннік Захар Максімавіч,** н. ў. 1908, сын М.М.Гlінніка, загінуў па дарозе на высылку.

**1934г. – 2 асобы:**
**Залескі Аляксандр Мартынавіч,** н. ў 1894 у сялянскай сям'і. Свяшчэннаслужыцель. З 1915 служыў псаломшчыкам ва Успенскай царкве в.Грэбень сучаснага Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. Рукапаложаны ў дыякана (1919). Пераведзены ва Успенскі храм у мяст. Дукора, цяпер вёска Пухавіцкага р-на. З 1925 служыў у Касма-Даміянаўскай царкве в. Выдрыца Крупскага р-на. Рукапаложаны ў іерэя (1931). Арыштаваны і высланы за межы БССР (1933 ?). Загінуў у зняволенні ў 1934-м.
Жонка святара Наталля Адамаўна (н. ў 1894) жыла ў 1970-я г. ў Мінску. Памерла ў 1979.

**Сас Міхаіл Міронавіч,** н. 8.11.1911 у в.Журавы, жыў у г.Масква на вул.Вялікай Дарагамілаўскай 23-9, безпрацоўны. Арыштаваны 31.10.1934. Асуджаны 5.12.1934, абвінавачаны ў "шпіянажы" да вышэйшай меры пакарання. Растраляны 6.12.1934 на Ваганькаўскіх могілках, Масква. Рэабілітаваны 28.1.1958.

***Усяго 9 асобаў. Зь іх сялян – 6, сьвятароў – 2, рабочы – 1.***

**НА БЯЗЬМЕЖНЫХ РАСЕЙСКІХ АБШАРАХ РЭГІЁНЫ ВЫСЫЛАК НАШЫХ ЗЕМЛЯКОЎ НАСТУПНЫЯ:**
Краснаярскі край, Хабараўскі край, Свярдлоўская вобл., Іркуцкая вобл., Кіраўская вобл., Мурманская вобл., Пермская вобл., Амурская вобл., Казахстан

**ПОЎНАСЬЦЮ ЦІ ЧАСТКОВА БЫЛІ ВЫСЛАНЫЯ НАСТУПНЫЯ СЕМЫ ШЛЯХТЫ:**
**1929** – Станкевічы – 4 асобы.
**1930** – Бельскія – 5 асобаў, Вернікоўскія – 4 асобы, Гарэцкія – 3 асобы, Грыгыровічы – 3 асобы, Красоўскія – 3 асобы, Пратасевічы – 5 асобаў, Радзішэўскія – 3 асобы, Сяліцкія – 4 асобы, Хаецкія – 5 асобаў.
**1931** – Сьвідэрскія – 6 асобаў.
**1932** – Хрыпач – 2 асобы.

**СЕМЫ СЯЛЯН:**
**1929** – Дзямідчыкі – 5 асобаў.
**1930** – Асташка – 4 асобы, Багадзяж – 5 асобаў, Гарэлікі – 4 асобы, Грабянцовы – 7 асобаў, Івановы – 4 асобы, Карані – 4 асобы, Карасі – 4 асобы, Ксяндзовы – 2 асобы, Макрыцы – 11 асобаў, Пліскі – 3 асобы, Рухлінскія – 11 асобаў, Салаўёвы – 4 асобы, Сідаравы – 2 асобы, Сманцары – 7 асобаў, Таўкачы – 2 асобы, Хрушчоўскія – 6 асобаў, Чырыкавы – 7 асобаў, Шапловы – 4 асобы, Шышаноўскія – 7 асобаў.
1931 – Гліньнікі – 5 асобаў.

1932 – Бабкі – 5 асобаў, Цярэшчанкі – 7 асобаў.
1933 – Шаўчэнкі – 3 асобы.

***Агулам – 36 семьяў.***

**ПА НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАХ КРУПШЧЫНЫ АТРЫМАЛАСЯ ТАКАЯ КАРЦІНА КОЛЬКАСЬЦІ РЭПРЭСАВАНЫХ:**

**Мястэчкі:** Крупкі – 1, Бобр – 1, Абчуга – 1, Халапенічы – 17.

**Вёскі:** Каменка – 19, Мачулішча – 18, Матошка – 12, Каралёва – 10, Самаседаўка – 9, Красноўка – 8, Вострава – 8, Малое Хацюхова – 7, Узнацк – 6, Лагі – 6, Лютыя – 5, Яджар – 5, Кляновічы – 5.

З 8-мі вёсак рэпрэсавалі па 4 асобы.
З 7-мі весак – па 3 асобы.
З 11-ці вёсак – па 2 асобы.
З 35-ці вёсак – па 1 асобе.

***З Крупшчыны ўвогуле (паселішча даведацца не ўдалося) – 36 асобаў.***

*Як мінімум, кожная трэцяя вёска ў раёне мела сваіх бязвінна асуджаных ( 80 вёсак з 232).*

Наколькі усе гэтыя лічбы мінімальныя, сьведчыць безліч прамых і ускосных фактаў. Напрыклад, з успамінаў старажылаў вёскі Янаўшчына, вядома, што суседняя “шляхецкая вёска Клішана” была выселеная поўнасьцю да 1935 году, а потым заселеная наноў жыхарамі навакольных “сялянскіх вёсак”. І толькі старыя каталіцкія могілкі засталіся… . А ў кнізе “Памяць. Крупскі раён” – ні слаўца. А там жа жылі Маліноўскія, Станкевічы, Тышкевічы, Хрыпачы, – збяднелая шарачковая шляхта… . Як і ў вёсцы Крыштопаўшчына і ў навакольлі жылі вялікімі семьямі – Бабіцкія, Бараноўскія, Казлоўскія, Марцінкевічы, Цяцерскія, а зараз адзінкі, цудам выжыўшыя.

Ці ўзяць вёску Матошка. Мы ведаем аб 12 рэпрэсаваных яе жыхарах: Вернікоўскіх – 4 асобы, Гарэцкіх – 3 асобы, Красоўскіх – 3 асобы, Сарапас – 1 асоба, Юбко – 1 асоба. А наш вядомы пісьменьнік-зямляк Мікола Целеш, сьведка тых падзей, піша: *“Ці ты чытала што-кольвек пра Матошку? Зь дзевятнаццаці двароў застаўся цэлым толькі адзін: васямнаццаць вылюднены, павысланы, зьнішчаны. І старых і малых – усіх разам!”.* Калі зноў скарыстацца мінімальным падлікам – 18 двароў памножыць на 5, атрымаем 90 чалавек! А мы пакуль ведаем толькі 12… . Між іншым, дакладна вядома, што ў 20-х гадох у Матошку наведваўся да сваіх сваякоў наш знакаміты пісьменьнік Максім Гарэцкі, які пазьней (1939г.) таксама загінуў у Гулагу. А ў дарэвалюцыйныя гады ў гэтай вёсцы настаўнічала будучая жонка Янкі Купалы.

Прыцягваюць асаблівую ўвагу лёсы нашых землякоў, якія былі рэпрэсаваны двойчы й тройчы, пачынаючы з 1929 году. Цяжка чытаць гэтыя сухія радкі, за якімі бачыш, як пісаў Уладзімер Высоцкі: “…чью-нибудь судьбу”. І сапраўды: “Я радуюсь – когда статья не очень, ведь всё же повезло кому-нибудь.” Але вязло далёка не ўсім.

З 33 асобаў у ніжэйпададзеным сьпісе: 17 чалавек – расстралялі, 15 чалавек – далейшы лёс невядомы, і толькі пра аднаго чалавека ёсьць зьвесткі аб далейшым жыцьці!?

**ДВОЙЧЫ РЭПРЭСАВАНЫЯ: 1930Г.**

**Батура Даніла Паўлавіч,** н. ў 1876 на Крупшчыне. Раскулачаны ў 1930-м і высланы ў Краснаярскі край. Жыў у в.Сакалоўка Ніжне-Інгашскага р-на Краснаярскага краю. Працаваў конюхам на Малінаўскай МТС. Другі раз арыштаваны 14.5.1938. Асуджаны 11.6.1938 за “контррэвалюцыйную дзейнасць і агітацыю”

да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 22.8.1938 у Канску. Рэабілітаваны 27.4.1995 пракуратурай Краснаярскага краю (П-21724).

**Вернікоўскі Людвіг Гвідонавіч,** н. ў 1910 у в.Матошка, селянін-аднаасобнік. Асуджаны 12.3.1930 да высылкі на Поўнач Расіі. Пасля ссылкі пражываў у г.Чусавы Пермскай вобл. Паўторна арыштаваны 11.3.1938. Асуджаны 19.9.1938 да 10 год канцлагера па абвінавачанню ў "шпіёнскай і контррэвалюцыйнай дзейнасці". Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.5.1989.

**Гарэцкі Вікенцій Міхайлавіч,** н. ў 1869 (1874?) у в.Матошка, селянін-аднаасобнік. Асуджаны 12.3.1930 да высылкі на Поўнач Расіі. У 1937 жыў па адрасе: г.Кіраўск Мурманскай акругі Ленінградскай вобл., Хібінагорскае шасэ, барак №55. Працаваў вартаўніком арцелі "Вена". Другі раз арыштаваны 28.8.1937 па артыкулу 58-10-11 КК РСФСР. Асуджаны нарадай НКВД і пракурорам СССР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 15.10.1937 у Левашоўскай пусташы. Рэабілітаваны двойчы: 1.8.1960 Ваенным трыбуналам Ленінградскай ваеннай акругі, і 31.5.1989 на Беларусі.

**Гарэцкі Мікалай Вікенцьевіч,** н. ў 1912 у в.Матошка, селянін-аднаасобнік. Асуджаны 12.3.1930 да высылкі на Поўнач Расіі. У 1937 жыў па адрасе: г.Кіраўск Мурманскай вобл., вул.Індустрыяльная, д.55. Працаваў кацельшчыкам абагачальнага завода камбіната "Апаціт". Другі раз арыштаваны 1.3.1938 па арт. 58-10 КК РСФСР. Асуджаны 25.7.1938 Ленінградскім абл. судом да 5 гадоў канцлагера. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 23.11.1961 Вярхоўным судом РСФСР. ( сын і бацька – гл. вышэй – аўт.)

**Іаан Варанец (Іван Васільевіч),** н. 20.6.1864 у мяст.Халапенічы. Свяшчэннамучанік. Пратаіерэй. З сям'і святара. Пасля сканчэння Мінскай духоўнай сэмінарыі служыў псаломшчыкам у Спаса-Праабражэнскім храме в.Скіп'ёва Слуцкага пав., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. Рукапаложаны ў іерэя (25.3.1888) і прызначаны ў Міхайлаўскую царкву в. Людзяневічы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. З 1891 настаяцель Троіцкага, з 1905 – Георгіеўскага храмаў у мяст.Смілавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. У 1920-я гг. благачынны 1-й акругі Ігуменскага пав. Узнагароджаны набедранікам (да 1901), залатым нагрудным крыжам (1912). 11.8.1914 духавенствам 1-й акругі Ігуменскага пав. выбраны дэпутатам на епархіяльны з'езд. Падчас 1-й сусветнай вайны за духоўнае выхаванне салдат узнагароджаны ордэнам св. Анны 2-й ступені. У 1929-30, з пачаткам калектывізацыі, неаднаразова, падчас казанняў адкрыта абураўся падманам і абрабаваннем сялян. Арыштаваны 16.2.1930. Абвінавачваўся ў "неаднаразовых выказваннях супраць палітыкі партыі". 18.4.1930 асобай нарадай пры АДПУ асуджаны да 3 гадоў высылкі ў Чарнігаў з пазбаўленнем правоў жыць у 12 вызначаных месцах. Пасля ссылкі вярнуўся ў Смілавічы. Выконваць святарскія абавязкі становілася ўсё складаней. В. неаднаразова выклікалі ў органы НКВД. У 1935 зачынена царква, і святар вымушаны тайна ладзіць службы па дамах прыхаджанаў. Падчас Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1937 года заклікаў вернікаў не баяцца ўладаў і запісвацца ў анкетах хрысціянамі. Незалежны характар святара і



павага да яго з боку жыхароў Смілавіч моцна азлабляла ўлады. Зноў арыштаваны 17.7.1937. Падчас допытаў нікога не агаварыў і вінаватым сябе не прызнаў. Асуджаны 12.8.1937 са святаром Міхаілам Плышэўскім і інш. тройкай НКВД за "антысавецкую агітацыю" да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 19.8.1937 у Мінскай турме НКВД. Верагодна пахаваны ва ўрочышчы "Курапаты" пад Мінскам. Па першай справе (№29754-с) рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 12.12.1989, па другой (№21673-с; захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі) пракуратурай БССР 31.3.1989. У 1999 Сінодам Беларускай праваслаўнай царквы кананізаваны і далучаны да ліку святых новапакутнікаў.

19.2.1930 у в.Пушкава Смілавіцкага р-на Мінскай вобл. арыштаваны **Варанец Сяргей** (н. ў 1891 у мяст.Смілавічы, скончыў Мінскую духоўную сэмінарыю (1913), сын Іаана Варанца. Падчас арышту працаваў юрыстам, гадаваў двое дзяцей. 18.4.1930 калегіяй АДПУ асуджаны з бацькам за "антысавецкую агітацыю" да высылкі за межы БССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 28.12.1989 пракуратурай Мінскай вобл.

**Кавалёнак Восіп Іванавіч,** н. ў 1905 на Крупшчыне. У 1930 высланы ў Сібір. Жыў у в. Собалеўка Цяжынскага р-на Заходне-Сібірскага краю. Селянін-аднаасобнік. Арыштаваны 27.4.1933. Асуджаны 16.6.1933 асобай тройкай ПП АДПУ па арт. 58-1-11 КК РСФСР да 5 гадоў канцлагера. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 11.10.1989 пракуратурай Краснаярскага краю (П-17587).

**Карань Дзмітрый Нічыпаравіч,** н. ў 1884 у в.Выдрыца, селянін-аднаасобнік. Беспартыйны, адукацыя – царкоўна-прыходская школа. Асуджаны 1930 да высылкі на поўнач Расіі. Жыў у г.Канск Краснаярскага краю. Працаваў у заггасе лесазавода. Паўторна арыштаваны 27.4.1933. Абвінавачваўся па арт.58-7-11 КК РСФСР. Справа спыненая. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 26.7.2001 пракуратурай Краснаярскага краю.

**Карань Міхаіл Савельевіч,** н. ў 1873 у в.Выдрыца. Селянін-аднаасобнік. Раскулачаны ў 1930 (?) і высланы ў Іркуцкую вобл., Расія. Пражываў у с.Нова-Шэлехава Тайшэцкага р-на Іркуцкай вобл. Паўторна арыштаваны 30.7.1937. Асуджаны 20.10.1937 па арт. 58-10-11 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 21.10.1937 у Іркуцку. Рэабілітаваны 5.9.1959 Іркуцкім аблсудом. Асабовая справа №10252 захоўваецца ў архіве УФСБ Іркуцкай вобл.

**Карань Ананій Сямёнавіч,** н. ў 1889 у в.Жаўняк. Раскулачаны ў 1930 (?) і высланы ў Сібір. Пражываў на ст.Абляпіха Усходне-Сібірскай чыгункі Іркуцкай вобл. Працаваў рабочым прамарцелі "Прагрэс". Паўторна арыштаваны 12.2.1940. Асуджаны 21.9.1940 за "антысавецкую агітацыю" да 5 гадоў ссылкі ў Краснаярскі край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 17.7.1989 пракуратурай Іркуцкай вобл. Асабовая справа №15760 захоўваецца ў архіве УФСБ Іркуцкай вобл.

**Карань Алена Якаўлена,** н. ў 1897 у в.Малое Горадна. Раскулачана ў 1930 (?) і выслана ў Сібір. Жонка А.С.Караня (гл. вышэй – аўт.). Пражывала на ст.Абляпіха Усходне-Сібірскай чыгункі Іркуцкай вобл. Паўторна арыштавана 12.2.1940. Асуджана 21.9.1940 за "антысавецкую агітацыю" да 5 гадоў ссылкі ў Краснаярскі край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 17.7.1989 пракуратурай Іркуцкай вобл. Асабовая справа №15759 захоўваецца ў архіве УФСБ Іркуцкай вобл.

**Крэмень Іаан Іванавіч,** н. ў 1886 у в.Калодніца ў сялянскай сям'і. Святар. У 1920-я г. настаяцель Пакроўскай царквы в.Дудаковічы, цяпер Круглянскі р-н Магілёўскай вобл. Быў жанаты, меў двое дзяцей. Арыштаваны 10.2.1930 у в.Пасырава Круглянскага р-на. Асуджаны 12.3.1930 за "антысавецкую агітацыю супраць калгасаў і рэлігійную агітацыю сярод моладзі" да 5 гадоў канцлагера. Зноў арыштаваны 23.4.1936 у Воршы Віцебскай вобл. Прыгавораны 6.9.1936 са святаром Пятром Жукоўскім паводле пастановы калегіі НКВД за "антысавецкую агітацыю" да 5 гадоў канцлагера і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Па першай справе (№20944-п; захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.) рэабілітаваны 20.11.1989 пракуратурай Віцебскай вобл., па другой (захоўваецца тамсама) 11.3.1992 прэзідыумам Вярхоўнага суда Беларусі.

**Леванoвіч Пахом Іванавіч,** н. ў 1876 у в.Забалацце тагачаснай Ухвальскай воласці. Селянін-аднаасобнік. У 1930 раскулачаны і за сабатаж асуджаны да 1 года канцлагера ў Сібіры. Тэрмін адбыў. Пражываў у в.Кальцова Абанскага р-на Краснаярскага краю. Другі раз арыштаваны 22.11.1937. Асуджаны 3.12.1937 за "антысавецкую агітацыю" да вышэйшай меры пакарання. Растраляны 15.12.1937 у г.Канску. Рэабілітаваны 12.9.1989 пракуратурай Краснаярскага краю. Асабовая справа П-16541.

**Мілеўскі Іван Пятровіч,** н. ў 1900 у в.Каменка ў шляхецкай сям'і. Раскулачаны і высланы ў 1930. Жыў у г.Чусавы, Пермскай вобл., Расія. Другі раз арыштаваны 22.12.37. Асуджаны 15.1.1938 за "шпіёнскую і антысавецкую дзейнасць" да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 17.2.1938 каля г.Екацірынбурга (Свярдлоўска), пахаваны ў брацкай магіле на 12 кіламерты Маскоўскай шашы. (У 1990-я на гэтым месцы зроблены Мемарыял ахвярам сталінскіх рэпрэсій). Рэабілітаваны.

**Пракулевіч Уладзімер Міхайлавіч,** н. ў снежні 1887 у в.Красналукі Халапеніцкай воласці Барысаўскага павета Мінскай губерніі. Беларускі палітычны дзеяч, публіцыст, журналіст, юрыст. У 1912 скончыў Маскоўскі універсітэт. Падчас вучобы быў сакратаром марксісцкага часопіса "Возрождение", загадчыкам аддзела хронікі ў газеце "Копейка". З 1912 працаваў у Мінскай казённай палаце, з 1914 у Мінскім акруговым судзе. З пачаткам 1-й сусветнай вайны эвакуіраваўся ў Маскву. Вярнуўся ў Мінск у ліпені 1917. У 1918 абраны старшынёй Слуцкага з'езда міравых суддзяў. У 1919-1920 міравы суддзя мяст. Вызна (цяпер Чырвоная Слабада). Адзін з кіраўнікоў Слуцкага антыбальшавіцкага паўстання 1920. У 1921 выехаў у Вільню. У 1922 у ліку 33 беларускіх дзеячоў высланы польскімі ўладамі з Вільні; пераехаў у Каўнас. Са жніўня 1923 дзяржаўны сакратар урада БНР на чале з А.Цвікевічам, разам з якім пераехаў у Прагу. З мая 1926 жыў у БССР. Працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР; быў сакратаром бібліяграфічнай камісіі Інбелкульта і БелАН. Арыштаваны ДПУ БССР 19.7.1930 па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Пастановай калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1932 сасланы на 5 гадоў у Перм, Расія. Зноў арыштаваны УНКВД па Свярдлоўскай вобл., 9.1.1938 і 10.7.1938 прыгавораны да расстрэлу. Растраляны 20.8.1938 НКВД Свярдлоўскай вобл. . Па першым прыгаворы рэабілітаваны 10.6.1988; па другім – 26.4.1989.



З КНІГІ УЛАДЗІМЕРА АРЛОВА "ІМЁНЫ СВАБОДЫ" МН. 2007 СТ.146-147:

*...1920 – ты засьпеў яго на пасадзе судзьдзі ў Слуцку. 14 лістапада пачаў свае паседжаньні гістарычны Беларускі зьезд Случчыны, які абраў прыхільніка Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў Пракулевіча старшынём Рады. Праз тыдзень рада Случчыны выдала незалежніцкую дэклярацыю. Яшчэ праз тыдзень 1-я Слуцкая брыгада войскаў БНР атакавала бальшавіцкія аддзелы...*

*Пасьля Слуцкага паўстаньня Пракулевіч выехаў у Вільню, адкуль неўзабаве быў высланы польскімі ўладамі. На Бэрлінскай Усебеларускай канфэрэнцыі ён быў сярод тых, хто, паверыўшы ў Беларускі дом пад уладаю саветаў, падпісаў рэзалюцыю аб ліквідацыі незалежніцкага Ўраду.*

*Лёс былога кіраўніка слуцкіх паўстанцаў пасьля прыезду ў БССР быў ужо тыпова прадвызначаным. Невысокая пасада ў Дзяржаўнай бібліятэцы, арышт у 1930-м па справе Саюзу вызваленьня Беларусі і высылка на пяць гадоў у Расею. Людзі кшталту Пракулевіча не мелі шанцаў выжыць. Паўторны арышт у 1938-м прывёў да расстрэльнага прысуду.*

*Зь яго фатаграфіі ў судовай справе пазірае барадаты шыракатвары беларус з глыбокімі разумнымі вачыма...".*

**Прышчэпаў Дзмітрый Філімонавіч,** н. 21 лістапада 1896 у в.Калодніца ў беднай сялянскай сямы. Беларускі дзяржаўны і грамадскі дзеяч, публіцыст. У 1914-16 настаўнік у роднай вёсцы Калодніца. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. З 1916 у арміі, прапаршчык. У 1919-20 у Чырв. Арміі, потым нам. Старшыні Сенненскага пав. выканкама, старшыня Веліжскага пав. Рэўкома. У 1922-23 старшыня Аршанскага павятовага выканкама. Намеснік старшыні Віцебскага губернскага выканкама, член Часовага Беларускага бюро ЦК РКП(б) у 1924 годзе. З 12 снежня 1924 па 6 красавіка 1929 – наркам земляробства БССР, намеснік старшыні Дзяржплана БССР, старшыня сельскагаспадарчай сэкцыі Інстытута беларускай культуры. Прыхільнік новай эканамічнай палітыкі на вёсцы, свабоды выбару сялянамі форм землякарыстання. Дзейнасць Дмітрыя Філімонавіча пакінула глыбокі след і добрую памяць сярод беларускага сялянства. На яго кватэры ў доме каля Чырвонага касцёла часта збіраліся Янка Купала, М.Чарот, Д.Жылуновіч, В.Кнорын, У.Ігнатоўскі. У 1926 годзе сельская гаспадарка Беларусі дасягнула даваеннага узроўню. Арыштаваны 19.7.1930 за прыналежнасць да "Саюза вызвалення Беларусі" і удзел у эсэраўскім руху". 18 сакавіка 1931 асуджаны Калегіяй АДПУ БССР па арт. 58 п.2, 11 УК РСФСР да 10 год зняволення на Поўначы Расіі. Адбываў пакаранне на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала, потым у Поўначусходлагу. Вызвалены з лагера 27.7.1937. Зноў арыштаваны 13.8.1937 у Магадане і



***Дз.Ф.Прышчэпаў і жонка Л.А.Прышчэпава (Гарнакова)*** *падчас дзесяцідзённага спаткання ў 1932-м (Беламорканал, канцлагер п.Мядзьвежая Гара, Карэлія).*

ў студзені 1939 этапаваны ў Мінск дзе Ваенным трыбуналам Беларускай асобай ваеннай акругі 20 лістапада 1939 па арт.68а,69,76 УК БССР ("абвінавачаны ў шпіянажы на карысць Польшы") прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Да растрэлу не дажыў – сканаў на ложку турэмнай лякарні 31.1.1940 ад параліча сэрца з абвастрэннем сухотаў. Па першаму абвінавачанню рэабілітаваны 14.6.1988 Вярхоўным судом БССР. Па другому – рэабілітаваны 11.3.1956 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

З УСПАМІНАЎ ФАІНЫ МАКАРАЎНЫ КЛІШАНЕЦ, 1927 Г.Н. В.КАЛОДНІЦА (іх сям'я жыла па суседству з сям'ёй бацькоў Прышчэпава на пасёлку Малінаўка):

*"Маці Дмітра – Захараўна, Марына Захараўна, калі не памыляюся – была вельмі добрая, спачувалай душы чалавек. А Хвілімон працаваў да рэвалюцыі на мельніцы у графіні Красніцкай. Яна й упанаравіла яго сына Дмітра, кемлівы быў, і разам з іншымі дзецьмі вучыла яго грамаце. Вось так і пайшоў ён у свет.*

*У Калодніцы ўсе называлі Дмітра Філімонавіча не йначай, як – Прышчэп. Калі ён прыязжаў у Калодніцу ўжо стаўшы вялікім начальнікам у Мінску, дык заўсёды, сустрэўшыся са сваёй матусяй (хроснай) цалаваў ёй рукі, абдымаў і дзякаваў… добры быў чалавек.*

*Малінаўку заснаваў Дмітра, калі пачаў сваю "прышчэпаўшчыну". Бацькі яго першыя пераехалі з Калодніцы, а за імі і мае бацькі. Наша хата насупраць іхнай стаіць. А гэны каштан пасадзіў Дмітра ў адзін са сваіх прыездаў з Мінску.*

*Неяк увосень, калі пачалі ўжо высяляць, ну гэта калектывізацыя пачалася – дык прыехалі з Мінску канфіскоўваць – глянулі, як бедна жывуць бацькі Дмітра і нічога не ўзялі – паехалі назад. У іх хаце нават стала не было – калода стаяла, а спалі на нарах, ложкаў таксама не было. Так бедна жылі, а добрыя былі – Хвілімон усім дапамагаў, хто звяртаўся".*

З КНІГІ УЛАДЗІМЕРА АРЛОВА "ІМЁНЫ СВАБОДЫ" Мн. 2007 ст.218-219:

*"Калі ў дзяцінстве мы прыяжджалі да сваякоў у вёску і мой тата бачыў занядбаную хаціну або нейкую калгасную развалюху, ён зазвычай скрушліва казаў: "Прышчэпава на іх няма". Бацька працаваў пракурорам, і, магчыма таму я думаў, што Прышчэпаў – нейкі самы галоўны пракурор. Аднак, калі пытаўся, што гэта за Прышчэпаў, у адказ гучала уніклівае: "Вырасцеш, даведаесься".*

*Аднаго разу, яшчэ не пасьпеўшы падрасьці, я пачуў пра загадкавага Прышчэпава і нешта новае: як выявілася, каб ня ён, дык і наш Полацак і ўся Віцебская вобласьць знаходзіліся б не Беларусі, а ў Расеі. Я быў перакананы, што тут заўсёды была Беларусь, але бацька паказаў мне свой пашпарт, дзе было напісана, што ён нарадзіўся ў Віцебскай вобласьці РСФСР.*

*Праз шмат гадоў, калі таты ўжо даўно не было на сьвеце, я пераканаўся, што Зьміцер Прышчэпаў ня толькі ад імя губвыканкаму падпісаў у 1924-м акт пра вяртаньне Віцебскай губэрні (адарванай бальшавікамі ад Беларусі ўзімку 1919-га) у склад БССР, але і меў іншыя заслугі перад Бацькаўшчынай.*

*У 1920-я ён быў наркамам земляробства рэспублікі, прычым не сьпяшаўся выконваць маскоўскіх дырэктываў, а вёў сваю незалежніцкую палітыку, дзе стаўка рабілася на развіцьцё хутарской сыстэмы і абарону моцных сялянскіх гаспадарак пры абмежаваньні калгаснага ладу. Справа Саюзу вызваленьня Беларусі, якая распачала ў рэспубліцы масавыя рэпрэсіі супраць "нацдэмаў", прывяла і да арышту былога наркама. Пасьля страшных катаваньняў ён*

*спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, але паўжывога яго выцягнулі зь пятлі, каб засудзіць на дзесяць гадоў лягераў".*

З АРТЫКУЛУ Я. ЧАПЛІ "САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ КАЦЁЛ", газета "Звязда" №267 ад 20.10.1990 ст.4:
*"У 1925 годзе…Прышчэпаў… накіраваў сакрэтны ліст усім загадчыкам акруговых зямельных аддзелаў. "У вашых акругах, - гаворыцца ў ім, - ёсць выпадкі насільнага навязвання сялянам форм землекарыстання і забароны сяліцца на хутарах і адрубах. Не мяняючы ўвогуле нашай палітыкі па гэтаму пытанню, Наркамзем прапануе ніякіх перашкод не рабіць і пры выбары хутароў і адрубаў. Адначасова катэгарычна забараняецца арганізоўваць буйныя пасёлкі, якія ў нашых умовах ніякага гаспадарчага эфекту не даюць, і прапануецца праводзіць стварэнне дробных пасёлкаў". А ў асобным цыркуляры зямельным органам указвалася: "не дапускаць уключэння хутарскіх участкаў у пасёлкі без згоды (пісьмовай) саміх хутаран".*

З КНІГІ ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА "ГУТАРКІ З АНТОНАМ ШУКЕЛОЙЦЕМ", Варшава, Вільня 2003, ст. 53: (першыя дні вайны, чэрвень 1941 – аўт.)
*"Па дарозе я начаваў у розных пасёлках. Там вялікі палігон за Крупкамі, прышчэпаўскія пасёлкі былі сарганізаваныя. Дык там і гэтыя пасёлкі пазносілі, але недзе йшчэ вішняк нейкі расьце, недзе грушка нейкая стаіць, нейкая адрынка, часта склеп (заставаліся па тых пасёлках). І людзі, што там жылі некалі, некаторыя вярнуліся. Вось так я ў адно гумно трапіў. Дзядзька гадоў 45. Я спытаў, ці можна будзе пераначаваць. Ён кажа: "Добра пераначуй. Тут курыць няможна, таму што агонь відаць з самалёта, могуць тады бамбіць. Так што ціха ляжы." Мы так зь ім гаворым. Ён хваліць Прышчэпава: "От Прышчэпаў – гэта быў чалавек! Гэта ня тое, што Купала Сталіну песьні сьпяваў. А Прышчэпаў дзьвінуў лёзунг: "На сьвіньні – да сацыялізму!" І так мы ўсе й працавалі. Сьвіньня на стале мусіць ляжаць у кожнага гаспадара".*

З УСПАМІНАЎ ЖЫХАРА В. ЛЮТЫЯ КРУПСКАГА Р-НА І. НІКІФАРАВА Ў 1992 ГОДЗЕ:
*"Прышчэпаў пачаў праводзіць, як народ ахрысціў, шырокапалосіцу – "прышчэпаўшчыну". Вялікія вёскі дзяліліся на пасёлкі, выбіралася месца для іх. Дзякуючы талаце пасёлкі перавозілі, і яны раслі даволі хутка. Жыць там стала лепш. Так у нашым раёне з вёскі Стары Бобр выдзеліліся пасёлкі Замкі, Доўгае. А ўсяго іх шмат было – вось бы падлічыць зараз у архівах тыя пасёлкі. Але у 1929-30 г.г. началася калектывізацыя, шырокапалосіца была асуджана, а яе аўтар быў сасланы на Поўнач".*

**Пятухова Матрона Аляксееўна,** н. ў 1887 у Мінскай губ. Раскулачана у в.Сомры Крупскага р-на ў 1930-м. Ад высылкі збегла ў Партызанскі р-н Краснаярскага краю. Арыштавана 19.7.1937, утрымлівалася ў Краснаярскай турме. Асуджана 25.10.1937 за "антысавецкую агітацыю"да 10 гадоў канцлагера. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 30.3.1989 пракуратурай Краснаярскага краю. Асабовая справа П-15091.

**Русецкі Павал Сцяпанавіч,** н. ў 1888 у в.Грыцкавічы ў сям'і псаломшчыка. Скончыў Мінскую духоўную сэмінарыю (1912). 8.12.1913 рукапаложаны ў іерэя і прызначаны настаяцелем Уваскрасенскага храма ў мяст. Азарычы сучаснага Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл. У сярэдзіне 1920-х настаяцель Мікалаеўскай царквы в.Магільна Уздзенскага р-на. Некаторы час, верагодна, служыў у

Крыжаўздзвіжанскім храме в. Коўбча, цяпер Клічаўскі р-н Магілёўскай вобл. Арыштаваны 30.1.1930. Асуджаны (верагодна, у тым жа годзе) калегіяй АДПУ да 5 гадоў канцлагера. Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму. Працаваў чорнарабочым у Магілёўскім "Камунбудзе". Зноў арыштаваны 26.2.1938. Прыгавораны асобай нарадай пры НКВД 21.9.1938 за "за ўдзел у шпіёнска-паўстанцкай арганізацыі" да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Магілёскай турме НКВД. Па першай справе рэабілітаваны 16.1.1989, па другой (№5070, групавая; захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) пастановай трыбунала БВА 24.12.1957.

**Рухлінскі Рыгор Васільевіч,** н. ў 1912 у в.Каменка, высланы ў 1930 у Свярдлоўскую вобл. У 1937 жыў у г.Краснакамск, Пермскай вобл. Арыштаваны 2.1.1938. Справа спынена за атсутнасцю склада злачынства. Вызвалены 30.12.1938. Далейшы лёс невядомы.

**Салаўёў Антон Конанавіч,** н. ў 1903 у в.Каменка. Селянін-аднаасобнік. Раскулачаны ў 1930 і высланы ў Мурманскай вобл., Расія. У 1939 пражываў па адрасе: г.Кіраўск Мурманскай вобл., вул.Будаўнічая, д.3, пак.9. Працаваў кладаўшчыком аддзела капітальнага будаўніцтва камбіната "Апаціт". Другі раз арыштаваны 28.2.1940 па арт.58-10 КК РСФСР. Асуджаны 3.6.1940 асобай нарадай НКВД СССР да 5 гадоў канцлагера. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 6.5.1989 пракуратурай Мурманскай вобл.

**Фралоў Парамон Сцяпанавіч,** н. ў 1871 на Крупшчыне. У 1930-м раскулачаны, пазбаўлены выбарчых правоў і сасланы ў Краснаярскі край. Другі раз арыштаваны ў 1937-1938 у Тыгрыцкім сельсавеце Мінусінскага р-на Краснаярскага края. Асуджаны 9.3.1938 да расстрэлу па справе Ф.Ф.Няпомняшчага (3 чал.). Рэабілітаваны ў 1957 Краснаярскім крайсудом.

**Хаецкі Антон Дамінікавіч,** н. ў 1902 у в.Жаберычы. Раскулачаны ў 1930. Жыў у г.Перм, Расія. Арыштаваны 3.1.1938. Асуджаны 7.2.1938 за "шпіёнскую дзейнасць" да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 8.3.1938 каля г.Екацірынбурга (Свярдлоўска), Расія. Пахаваны ў брацкай магіле на 12 кіламерты Маскоўскай шашы. (У 1990-я на гэтым месцы зроблены Мемарыял ахвярам сталінскіх рэпрэсій). Рэабілітаваны.

**Хрушчоўскі Антон Францавіч,** н. на Крупшчыне, раскулачаны ў 1930 і высланы ў Ленінскі р-н Архангельскай вобл., на Поўнач Расіі. Разам з ім былі раскулачаны жонка,




**Хрушчоўская Вера Захараўна,** н. ў 1882; сыны – Антон, Іван, Уладзімір і дачка Ала. У 1933 сям'і дазволілі вярнуцца на Беларусь, але ў 1937 А.Ф.Хрушчоўскі быў зноў арыштаваны. Далейшы лёс невядомы.

**Якаўлеў Іван Мікалаевіч,** н. ў 1904 у в.Гапонавічы, селянін-аднаасобнік. Асуджаны ў 1930 да высылкі на Поўнач Расіі. Сын М.Я.Якаўлева (гл. вышэй – аўт.). Жыў па адрасе: г. Кіраўск Мурманскай вобл., зав.Нагорны, д.10, кв.15. Працаваў бойлершчыкам Кіраўскага горнахімічнага тэхнікума. Другі раз арыштаваны 27.5.1948 па арт.58-10 КК РСФСР. Асуджаны 8.12.1948 Мурманскім абл. судом да 10 гадоў канцлагера. Да-

лейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 24.4.1991 пракуратурай Мурманскай вобл.

**1931г.**

**Каршакевіч Васіль Міхайлавіч,** н. 13.2.1892 у в.Сакол на Крупшчыне. У 1931 раскулачаны, пазбаўлены палітычных правоў, асуджаны да 2 гадоў кацлагера і 5 гадоў ссылкі. Пражываў у с.Заазёрны Рыбінскага р-на Краснаярскага краю. Працаваў цесляром на слюдафабрыцы. Другі раз арыштаваны 14.5.1938. Асуджаны 11.6.1938 тройкай УНКУС Краснаярскага краю за "антысавецкую дзейнасць і контррэвалюцыйную агітацыю" да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 22.8.1938 у г.Канску. Рэабілітаваны 6.10.1956 Краснаярскаім крайсудам (асабовая справа П-5043).

**1932г.**

**Бабок ?,** нарадзіўся на Крупшчыне. У 1932 раскулачаны і высланы разам з сям'ёй ў Каргасокскі р-н Томскай вобл. За лета 1932 пабудавалі ў тайзе, разам з іншымі высланымі, часовае жыллё, якое пазней стала называцца пасёлакам Усць-Чурулька. Працаваў лесааб'езчыкам. Паўторна арыштаваны восенню 1945. Асуджаны па арт.58-10 да 8 гадоў канцлагера. Далейшы лёс невядомы.

**Кошалеў Андрэй Іванавіч,** н. ў 1892 у в.Худаўцы Крупскага р-на ў сялянскай сям'і. Святар. Меў чацвёра дзяцей. Арыштаваны 1.3.1932 у в.Нарэйша Сенненскага р-на Віцебскай вобл., (вёска ўжо не існуе). Асуджаны 5.6.1932 з псаломшчыцай Бешанковіцскай царквы Аленай Магер і старастам Васілём Талстым асобай нарадай пры АДПУ за "антысавецкую агітацыю" да 3 гадоў высылкі ў Казахстан. Пасля вызвалення вярнуўся на радзіму. 20.7.1939 у час знаходжання ў турме НКВД у Магілёве абвінавачаны ў "контррэвалюцыйнай агітацыі" і 8.2.1940 прыгавораны да 5 гадоў канцлагера. Этапаваны ў Карагандзінскі канцлагер МДБ Казахскай ССР. Вызвалены 1.1.1945. Далейшы лёс невядомы. Па першай справе (№2-0811-п; захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.) рэабілітаваны 27.11.1989 пракуратурай Віцебскай вобл., па другой (№ 13454; захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.) 18.4.1990 прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР.

**Цярэшчанка Васіль Ігнатавіч,** н. ў 1893 у мяст.Халапенічы. Меў хату, лазню, агарод, карову, сьвіней, птушку, свой ветраны млын (вятрак); каталі валёнкі. Граў на кларнэце. Раскулачаны ў 1932 і высланы разам з сям'ёй (жонка і 5 дзяцей) ў Каргасокскі р-н Томскай вобл. За лета 1932 пабудавалі ў тайзе, разам з іншымі высланымі, часовае жыллё, якое пазней стала называцца пасёлакам Усць-Чурулька. Паўторна арыштаваны восенню 1945. Асуджаны па арт. 58-10 да 8 гадоў канцлагера. Вярнуўся летам 1953. Рэалібітаваны ў 1953. З ліпеня 1953 вывез сям'ю у Паўладарскую вобл. Казахстан, на сталае месца жыхарства. Памёр у 1970.

**Шылаў Пётр Рыгоравіч,** н. ў 1878 у в.Верацея на Крупшчыне (?). Ваяваў у грамадзянскую вайну, быў у палоне. Пазбаўлены выбарчых правоў і раскулачаны ў 1932. Жыў у в.Пакроўка Ніжне-Інгашскага р-на Краснаярскага краю. Арыштаваны 10.2.1938. Асуджаны 23.2.1938 тройкай УНКВД Краснаярскага краю да 8 гадоў канцлагера. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ў 1960 Краснаярскім крайсудом.

**1933г.**

**Гардзіеўскі Юрый Гаўрылавіч,** н. ў 1898 у в.Кляновічы, працаваў у калгасе імя Дзяржынскага. Асуджаны двойчы: у 1933 да высылкі на 5 гадоў у г. Мурманск, Поўнач Расіі і

29.10.1937 да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Воршы Віцебскай вобл. Рэабілітаваны 7.3.1962.

**Шафранскі Мікіта Філіпавіч,** н. ў 1875 у в.Кіявец у мяшчанскай сям'і. Дыякан. Служыў у адной з цэркваў Магілёва. Быў жанаты, меў дачку Алімпіяду (н. ў 1907) і сына аляксея (1919). Арыштаваны 27.1.1933. Асуджаны калегіяй АДПУ 9.6.1933 за "антысавецкую агітацыю" і як "удзельнік царкоўна-паўстанцкай арганізацыі" да 3 гадоў канцлагера. 8.9.1937 тройкай НКВД Смаленскай вобл. Прыгавораны за "контррэвалюцыйную дзенасць" да 8 гадоў канцлагера. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 17.7.1989. Групавая справа Ш. і інш. №27605-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ТРОЙЧЫ РЭПРЭСАВАНЫЯ:**

**1929г.**

**Дзямідчык Васіль Захаравіч,** н. ў 1875 на Крупшчыне. У 1929 асуджаны за "невыкананне дзяржплацяжоў" да 2 гадоў канцлагера ў Расіі. У 1935 раскулачаны у в. Зімнікі Абанскага р-на Краснаярскага краю. Маёмасць канфіскавалі і з сям'ёй (4 асобы) саслалі ў Бірылюскі р-н Краснаярскага краю. Чарговы раз арыштаваны 8.7.1937. Асуджаны 22.10.1937 за "контррэвалюцыйную агітацыю" да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 31.10.1937 у г.Канску. Рэабілітаваны 7.6.1989 пракуратурай Краснаярскага краю. Асабовая справа №П-17982.

**1933г.**

**Вакуноў Спрыдон Ілліч,** н. ў 1911 на ст.Крупкі. Арыштаваны ў 1933 у г.Ленінградзе. Асуджаны 5.11.1933 па арт.59-3 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання, з заменай на 10 гадоў канцлагера. Адбываў пакаранне ў канцлагеры на Салаўках. Паўторна асуджаны 11.8.1937 па арт.59-3 Галоўным судом Карэльскай АССР да 10 гадоў канцлагера з паглынаннем папярэдняга тэрміну. Праз тры месяцы (25.11.1937) асуджаны тройкай УНКВД па Ленінградскай вобл., да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў Ленінградзе 8.12.1937.

**1934г.**

**Леанід Біруковіч,** н. ў 1866 (?) у в.Ухвала Крупскага р-на ў сямы святара. Свяшчэннамучанік. Пасля заканчэння Мінскай духоўнай сэмінарыі служыў псаломшчыкам у Мікалаеўскім храме мяст. Смалявічы, цяпер райцэнтр Мінскай вобл. 7.10.1894 (паводле інш. звестак 8.11.1894) рукапаложаны ў іерэя да Успенскай царквы в. Сморкі (з 1978 в.Зорычы Барысаўскага р-на). З 1900 ва Успенскім храме в.Брадзец, дзе да гэтага настаяцелем быў яго бацька Платон Біруковіч. Узнагароджаны набедранікам, скуф'ёй (1914). Быў жанаты, меў чацвёра дзяцей. Арыштаваны ў 1934. Абвінавачваўся ў "захоўванні ў сваёй хаце залатых манет царскай чаканкі". Праз шэсць тыдняў вызвалены. Зноў арыштаваны ў красавіку 1935 за арганізацыю прыхаджан на абарону храма ад закрыцця. Асуджаны 21.10.1935 з Ганнай Собаль паводле пастановы калегіі НКВД за "антысавецкую агітацыю" да 6 гадоў канцлагера. Вызвалены датэрмінова з-за рэзкага пагаршэння стану здароўя. Зноў арыштаваны 17.7.1937 у в.Брадзец Бярэзінскім раённым аддзелам НКВД. Адмовіўся даваць паказанні, але пасля катаванняў паставіў под-



пісы пад пратаколамі допытаў. 22.8.1937 прыгавораны тройкай НКВД за "контррэвалюцыйную агітацыю" да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 25.8.1937 у Мінскай турме НКВД. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 26.3.1989, пленумам Вярхоўнага суда БССР 22.12.1989. Справы Б. №29321-с (з фотаздымкам) захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі. У 1999 Сінодам Беларускай праваслаўнай царквы кананізаваны і далучаны да ліку новапакутнікаў.

Паводле некаторых звестак сын святара Аляксандр расстраляны бальшавікамі ў падлеткавым узросце.

***З гэтага сьпісу ў 33 асобы атрымалася: вяскоўцаў – 23, сьвятароў – 6, дзяржаўных служачых – 2, рабочы – 1.***

# АНТЫСАВЕЦКІ СУПРАЦІЎ НА КРУПШЧЫНЕ

**АСОБНА ХОЧАЦЦА ПРЫПЫНІЦЦА НА ПЫТАНЬНІ ПАСІЎНАГА Й АКТЫЎНАГА СУПРАЦІВУ МАІХ ЗЕМЛЯКОЎ У ГЭТЫ ПЕРЫЯД.** Фактычна антысавецкі супраціў на Крупшчыне пачаўся ўжо восеньню 1918-га. Ачольвалі яго два славутых атамана тэй пары Лукаш Семянюк і Юрка Моніч, якія стварылі антысавецкія партызанскія аддзелы БНР і пасьпяхова вялі ўзброеную барацьбу з бальшавікамі ў 1918-1923 гадох *(гл. дадатак ).* >



**ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ партызанскі аддзел войскаў БНР начале з камандзірам ЛУКАШАМ СЯМЕНІКАМ (у цэнтры, пазначаны крыжыкам) і начальнікам штаба ЮРКАМ МОНІЧАМ (праваруч Лукаша Сяменіка). Астатнія ваяры, ў большасці, таксама з Крупшчыны.**

**ПОШУКІ ПРАЎДЫ ПРА КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЮ НА КРУПШЧЫНЕ (1929-1934).**

АНТЫСАВЕЦКІ СУПРАЦІЎ

***Калектывізацыя на Крупшчыне (тэрыторыя складалася з земляў тагачасных Крупскага й Халапеніцкага раёнаў) пачалася, як і па ўсёй Савецкай Беларусі з пісьма ЦК КП(б)Б ад 28 чэрвеня 1929г., у якім адмянялася раней прынятая пастанова аб свабодным выбары форм землекарыстаньня. Катэгарычна забаранялася стварэньне хутарскіх й адрубных гаспадарак, быў аб'яўлены курс на арганізацыю калгасаў. Адначасова пачалося "выцясненьне кулака як класа" адміністратыўнымі й рэпрэсыўнымі мерамі.***

Трэба ўдакладніць, што сялянства Крупшчыны на тэй перыяд складалася з 35% беднякоў і 65% заможных і сераднякоў (таксама, як ў сярэднім і па рэспубліцы).

Тэрмінова мясцовыя партыйцы пачалі штампаваць "наказы выбаршчыкаў" Крупскага раёна да дэпутатаў, што выбіраліся ў Саветы розных узроўняў у 1929г. Між іншым, як клішэ па ўсёй рэспубліцы, там гучала: *"узросшая варожасць кулацкіх і антысавецкіх элементаў у вёсцы з прычыны перажываемых дзяржавай цяжкасцей патрабуе ад дэпутатаў, якіх выбіраюць, яшчэ больш рашучай барацьбы з варожымі элементамі на вёсцы, якая павінна выказваца не толькі ў абароне, а галоўным чынам у наступленні на кулака і знішчэнні варожасці антысавецкіх элементаў".* Зразумела, што ўлады маглі абапірацца толькі на бяднейшую частку насельніцтва, а таксама на партыйныя і камсамольскія ячэйкі. Але камуністаў і камсамольцаў у раёне было толькі 140 чалавек на 34,5 тысячаў жыхароў. Не спраўляліся. І на дапамогу прыйшлі рабочыя. Вось што пісаў мясцовы краязнавец Васіль Самцэвіч з в.Дакудава ў артыкуле "Халапеніцкі раён на шляху суцэльнай калектывізацыі" (часопіс "Наш край" №5-6 за 1930г.): *"Пашырэньне колгаснага руху ў раёне ў значнай меры зьвязана з працай рабочых брыгад фабрыкі "Чырвоная Бярэзіна" (Барысаў) і саюзу друкароў (Менск). Сельсаветы ў большасьці сваёй прымалі досыць слабы здел у калектывізацыі … і не стаялі на чале колгаснага руху ў сельсаветах. Працавалі паасобныя члены сельсаветаў, але сельсаветы, як савецкія ўстановы, як органы пралетарскай дыктатуры ў вёсцы не змаглі належным чынам актывізаваць і організаваць беднату, … і наладзіць кіраўніцтва і будаўніцтва колгасаў. … у колгасы часта праходзілі кулакі і вядомыя варожыя да Савецкай улады элементы … . Раскулачваньне кулакоў не заўсёды праводзілася цьвёрда і энэргічна. У некаторых сельсаветах раскулачваньне ішло міма сельсаветаў; сельсаветы толькі рэгістравалі факты раскулачваньня кулакоў, якое праводзілася беднатой пры ўдзеле і кіраўніцтве рабочых брыгад".*

Шырака прымяняліся ўладамі такія рэпрэсіўныя меры, як перасяленьне не жадаючых уступаць ў калгас на горшыя землі і ў іншыя сельсаветы, нявыдача хлеба тым, хто не ўступіў у калгас. Даходзіла да бязпраў'я. Напрыклад, у вёсцы

Сакалавічы сакратар Крупскага РВК **Яцук** арыштаваў серадняка, які адмовіўся ўступіць у калгас.

Зразумела – сяляне пачалі пратэставаць. Формы супраціву былі розныя: адмова ад уплаты падаткаў *("адказалася плаціць заможная частка в. Лужа, але пасьля складвання вопісей маёмасьці грошы на падатак унесла".);* агітацыя супраць стварэньня калгасаў *("У вёсках Захараўка, Узнаж, Стары Сакол, Ухвала перад сялянамі выступалі прыезжыя агітатары М.І. Лявуха і І. Цэхавы. Яны зачытвалі вытрымкі з Біблії, з Кнігі Прароцтваў і растлумачывалі іх такім чынам, што ўсе беды ад калгасаў, агітавалі, каб бацькі не аддавалі сваіх дачок замуж за калгаснікаў. У вёсках Ігрушка, Выдрыца агітацыю супраць калектывізацыі ўзначальвалі мясцовыя святары".); масавы забой уласнай жывёлы;* стварэньне ілжэкалгасаў *("заможныя сяляне в.Ігрушка стварылі ілжэкалгас".).* Нават члены сельсаветаў далёка не заўсёды уступалі ў калгас *("Верамей Парамон з в. Шамкі"),* але яшчэ агітавалі сярод другіх супраць і абаранялі інтарэсы заможных *("член сельсавету в. Мхерына Марцінкевіч")* . Той жа Васіль Самцэвіч далей піша: *"Прыкладаў, калі члены сельсаветаў выступалі супроць колектывізацыі, можна прывесьці шмат, але мы на іх спыняцца не будзем".*

Цікава будзе ўзгадаць, як прыклад народнай мудрасьці даволі распаўсюджаныя выпадкі напісаньня агульнай заявы аб выхадзе з калгасу ўвесну 1930г. (пасьля вядомага артыкула Сталіна "Галавакружэннне ад посьпехаў"). *"На вялікую круглую талерку клалі паперу і абразалі нажніцамі па коле. Потым пісалі заяву і пачыналі ўсе падпісвацца. Называлася гэта – падпісалі талерку. На такой заяве не было бачна – хто першы падпісаў. Адчувалі людзі, што дабром гэта калектывізацыя не кончыцца"* – успаміналі Хрыпач Барбара Піліпаўна з в.Астроўкі і Баравік Еўдакія Трафімаўна з в.Лагі).

Неўзабаве пачаліся адкрытыя формы супраціву. Так, у вёсцы Язбы быў забіты брыгадзір, а ў в.Дзянісавічы ноччу быў зроблены напад на хату калгаснага актывіста Сямёна Кляшчонка. У в.Лазоўка 9 бядняцкіх гаспадарак аб'ядналіся ў калгас "Іскра". За гэта іх хаты спалілі. Гэты выпадак трапіў на старонкі усесаюзнай газэты "Праўда": *"Оршанский суд приговорил к 5 годам заключения 4 кулаков дер.Лозовка Крупского района за поджог нового колхоза "Искра" и уничтожение 9 дворов колхозников".* Ніжэй сталічны карэспандэнт абураўся на суд за разгледжаньне гэтай справы, толькі як крымінальнай і выкрываў яе палітычны характар. У 1930г. заможнымі сялянамі быў забіты старшыня калгасу "Гарадзішча" Радзівон Рубец. У в.Язбы заможныя сяляне, браты Барсуковы забілі ўпаўнаважанага сельсавету. У в.Пліса натоўп абураных жанчын з віламі сілай прагнаў калгаснікаў з поля. Такія ж выпадкі былі ў вёсках Сьвірыдаўка, Малыя Жаберычы, Прошыка, Радзіца, Шчаўры, Гумны, Хатюхова і інш. У в.Клён Фёдар Кур'ян параніў са стрэльбы сельскага актывіста. У калгасах імя Варашы-

**ПОШУКІ ПРАЎДЫ ПРА КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЮ НА КРУПШЧЫНЕ (1929-1934).**
АНТЫСАВЕЦКІ СУПРАЦІЎ

лава, "Нача", у в.Харытанцы абураныя сяляне спалілі калгасныя будынкі. У в.Узнацк падпалілі хату калгаснаму актывісту.

Вядома, што сялянскі супраціў не быў арганізаваны, а супрацьстаяла яму камуністычная рэпрэсыўная махіна усёй сваёй магутнасьцю КП(б)Б, ЛКСМБ, ГПУ-НКВД. А таксама ва ўсю моц праявіліся "лепшыя якасьці" бяднейшага сялянства, выхаванага за 12 год савецкай ўлады ў духу нянавісьці і данасіцельства. Спецыяльна створаная пад калектывізацыю газэта "Калгаснік Беларусі" зьмяшчала, сярод іншых, часьцяком ананімныя "сігналы" з Крупшчыны. Вось толькі некалькі назваў за 1933 год: *"Калі на калгаснай канюшні няма бальшавіцкага вока, дык там гаспадарыць кулак"* і рашучая выснова: *"Трэба рашуча ударыць па шкодніках!"; "Кулак-злодзей Сідараў не пакараны"* і зьнізу патрабаваньне: *"Прыцягнуць да суровай адказнасьці вінаватых у тым, што на працягу доўгага часу марынуецца справа на кулака Сідарава. Праверыць і аздаравіць склад праўлення калгасу "Новы мір"; "Разбіць кулацкую агітацыю"* і загад: *"Рамашку і Кляшчонка за зрыў і агітацыю прыцягнуць да суровай адказнасьці" (№20 ад 23.02.). "Не месца ў калгасе кулакам і ўраднікам"* і выснова рэдакцыі: *"Зараз-жа заняцца ачысткай калгаса ад былых людзей. Шкоднікі павінны сесці на лаву падсудных" (№136 ад 13.10). "Бульба псуецца пад дажджом"* і на прыканцы: *"Ці доўга яшчэ будзе працягвацца такое становішча на Бобраўскім адгрузачным пункце?" (№141 ад 19.10.). "Чаму маўчыць крупскі пракурор?"* і катэгарычна: *"Канягубаў як Максімаў, Патапаў і Кавалеўскі – на лаву падсудных." (№165 ад 21.11.).*

На сяньня вядома толькі некалькі прозвішчаў арганізатараў і кіраўнікоў калектывізацыі ў раёне. Гэта, згаданы вышэй сакратар Крупскага РВК **Яцук,** сакратар Крупскага РК КП(б)Б **Г.М.Брыгневіч** (рэпрэсаваны ў 1935) Старшыня Крупскага РВК **Аноцкі** (рэпрэсаваны ў 1937), старшыня Халапеніцкага РВК **А.Р. Кіш** (рэпрэсаваны ў 1938), 1-шы сакратар Халапеніцкага РК КП(б)Б **А.М. Місьнікевіч** (рэпрэсаваны ў 1938).

***P.S. Пад час працы над гэтым артыкулам (красавік 2008г.) у інтэрнэце адшуканы прозьвішчы яшчэ 22 землякоў, рэпрэсаваных ў 1929-1934гг. Пошук працягваецца.***

**СЕМЕНІК ЛУКА ДЗМІТРЫЕВІЧ,** н. ў 1880 у в.Траянаўка Халапеніцкай воласьці. З сялянскай сямы. Беларускі атаман-паўстанец. Перад пачаткам 1-й сусветнай вайны працаваў настаўнікам у Халапенічах. У 1914-18 на фронце. Паўстанцкая дзейнасьць С. пачалася ў сакавіку 1918 з пачаткам нямецкай акупацыі Барысаўшчыны і Крупшчыны. Стварыўшы партызанскі аддзел ён падрыхтаваў і пачаў сялянскае паўстаньне супраць немцаў у жніўні 1918, якое ахапіла землі сучасных Сеньненскага, Крупскага і Барысаўскага раёнаў. Немцы задушылі паўстаньне з дапамогай бальшавікоў. Восеньню 1918, пасьля адыходу немцаў сяляне Халапеніцкай воласьці абралі С. сваім ваенным камісарам. Па прыходзе бальшавікоў С. быў арыштаваны і адпраўлены ў Менскую турму вясной 1919. З-пад варты збег. Нягледзячы на шматлікія пастановы сялянскіх сходаў аб вызваленьні Семянюка, Рэўтрыбунал г.Барысава завочна прысудзіў яго на кару сьмерці 27 траўня 1919. Арганізаваў "Першы Беларускі партызанскі аддзел" для змаганьня з бальшавікамі. У студзені 1920 у чыне капітана, разам са сваім аддзелам залічаны ў склад БВК ураду БНР. У 1920-21 адзін з арганізатараў вайсковага сялянскага руху пад кіраўніцтвам "Зялёнага Дубу". Прымаў чынны ўдзел у Палесскім паходзе генэрала Булак-Булаховіча. У Слуцкім Паўстаньні камандаваў Грозаўскім палком. Па некаторых звестках загінуў у 1921. Па іншых – яшчэ ў 30-х гадах жыў у Ленінградзе.





**МОНІЧ ЮРЫЙ АДАМАВІЧ,** н. ў 1890 у в.Малыя Жаберычы на Крупшчыне. Праваслаўны. З сялянскай сямы. Беларускі атаман-паўстанец. Перад пачаткам 1-й сусьветнай вайны скончыў Мінскую настаўніцкую сэмінарыю і працаваў настаўнікам ў роднай вёсцы. З 1915 па 1918 на фронце. Быў неаднаразова паранены і за асабістую мужнасьць узнагароджаны Георгіеўскім крыжам і медалём. У чыне паручніка вярнуўся дамоў і працаваў настаўнікам. Улетку 1919 арыштаваны Барысаўскім ваенным камісарам А.Л.Бенгерам. У той жа дзень асуджаны ім за "контррэвалюцыйную агіцыю" да вышэйшай меры пакараньня. З-пад расстрэлу зьбягае. Сыходзіць ў лес, стварае антысавецкі партызанскі аддзел і пачынае барацьбу. На беспартыйнай канфэрэнцыі ў Халапенічах у кастрычніку 1920 з яго ініцыятывы сяляне прынялі рэзалюцыю: ***"Жадаем мірным шляхам вызваліць Беларусь ад польскіх і савецкіх войскаў і даць ёй магчымасьць самавызначыцца без чыёй бы там ні было дыктатуры".*** У студзені 1920 разам са сваім аддзелам залічаны ў склад БВК ураду БНР. Восеньню 1920, як начальнік штаба Першага Беларускага аддзелу прымае актыўны удзел у Слуцкім Збройным Чыне. У 1920-23 узначальваў узброены антысавецкі сялянскі рух на Крупшчыне і Барысаўшчыне. На вясну 1924 рыхтаваў сялянскае паўстаньне ў Савецкай Беларусі. Забіты агентамі ГПУ 23.5.1924. Месца пахаваньня невядома.

ЛІТАРАТУРА І КРЫНІЦЫ:


1. Арлоў Уладзімер. Імёны свабоды. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.
2. Архіў Харугвы Скаўтаў Малога Палесся, захавальнік Аляхновіч А. Крупкі.
3. Архіў прыватны, захавальнік Баравуля М. в.Старая Слабада, Крупскі р-н.
4. Архіў прыватны, захавальнік Лапацін В. в.Дакудава, Крупскі р-н.
5. Біябібліяграфічны слоўнік Беларускія пісьменнікі. Т.2-6. Мінск, 1993-1995.
6. Богданович Адам. Мои воспоминания. “Неман”, №№5-8 за 1994г. Минск.
7. Бондаренко К.А., Брыль А.К., Алехнович А.П. Холопеничи, документально-историческое повествование. (На правах рукописи). Адэса, 1989-1990.
8. Віцьбіч Юрка. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. Вільня, 2006.
9. Возвращённые имена. Сотрудники АН Беларуси постадавшие в период сталинских репрессий. Минск, 1992.
10. Врублевский А.П. Протько Т.С. Из истории репрессий против белорусского крестьянства 1929-1934гг. Минск, 1992.
11. Карпілаў Рыгор. Расстраляныя ў Маскве і Ленінградзе. Індэкс ураджэнцаў Беларусі, расстраляных у Маскве і Ленінградзе ў 1920-1950-я гг. Мінск, 2002.
12. Кузьняцоў Ігар. Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920-1950-я гг. у Заходняй Сібіры. Мінск, 2002.
13. Лукашук Аляксандр. За кіпучай чэкісцкай работай. З жыцьця катаў. Менск, 1997.
14. Маракоў Леанід. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі 1794-1991. Т.1. Мінск, 2003.
15. Маракоў Леанід. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Рэпрэсаваныя настаўнікі. Т.4. кн.1-2. Мінск, 2007.
16. Маракоў Леанід. Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі 1917-1967. Т.1-2. Мінск, 2007.
17. Маракоў Леанід. Ахвяры і Карнікі. Мінск, 2007.
18. Пазьняк Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. Варшава-Вільня, 2003.
19. Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 27-28 лютага 1998г.), складальнік Стужынская Н.І. Мінск, 1998.
20. Памяць. Барысаў. Барысаўскі раён. Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Складальнік Гілевіч Ж.В. Мінск, 1997.
21. Памяць. Крупскі раён. Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Складальнік Хромчанка Дз.М. Мінск, 1999.
22. Памяць. Лепельскі раён. . Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Укладальнікі Ланікіна В.Я, Стэльмах А.У. Мінск, 1999.
23. Памяць .Чашніцкі раён. Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Складальнік Кіндзяева Н.Т. Мінск, 1997.
24. Романовский И.Ф. Гудов М.В. Антисоветское подполье в Беларуси в 1919-1925 гг. Минск, 2002.
25. Самцэвіч Васіль. Халопеніцкі раён на шляху суцэльнай колектывізацыі. Артыкул у часопісе “Наш Край”, №5-6 за 1930г. Менск, 1930.
26. Слоўнік асабовых імёнаў. Беларуска-рускі і руска-беларускі. Укладальнік Сарока У.А. Мінск, 2000.
27. Слуцкі збройны чын 1920г. у дакумэнтах і ўспамінах. Укладальнікі Гесь Аляксандра, Ляхоўскі Уладзімер, Міхнюк Уладзімер. Мінск, 2006.

28. Спадчына. Часопіс Беларускага Фонду Культуры і Міністэрства Культуры Рэспублікі Беларусь №2. Мінск, 1995.
29. Стужынская Ніна. Беларусь мяцежная. З гісторыі антысавецкага ўзброеннага супраціву 20-я гады XX стагоддзя. Вільня, 2000.
30. Целеш Мікола. Хмары над Бацькаўшчынай. Нью-Ёрк, 1995.

---

1. http://www.ntspi.ru/memory/
2. http://www.vi.krsk.ru
3. http://www.vi2.krsk.ru
4. http://www.memo.ru/
5. http://www.memo.ru/memory/altai/index.htm
6. http://www.memo.ru/memory/voronezh/index.htm
7. http://www.memo.ru/memory/komi/index.htm
8. http://www.memo.ru/memory/kurgan/index.htm
9. http://www.memo.ru/memory/lipeck/index.htm
10. http://www.memo.ru/memory/magadan/index.htm
11. http://www.memo.ru/memory/mari/index.htm
12. http://www.memo.ru/memory/jauza/index.htm
13. http://www.memo.ru/memory/vagankovo/index.htm
14. http://www.memo.ru/memory/donskoe/index.htm
15. http://www.memo.ru/memory/butowo/index.htm
16. http://www.memo.ru/memory/communarka/index.htm
17. http://www.memo.ru/memory/tagil/index.htm
18. http://www.memo.ru/memory/samara/index.htm
19. http://www.memo.ru/memory/samara/families/index.htm
20. http://www.memo.ru/memory/Saratov/index.htm
21. http://www.memo.ru/memory/ekater/index.htm
22. http://www.memo.ru/memory/kazan/index.htm
23. http://www.memo.ru/memory/tver/index.htm
24. http://www.memo.ru/memory/tula/index.htm
25. http://www.memo.ru/memory/tumen/index.htm
26. http://www.memo.ru/memory/simbirsk/index.htm
27. http://www.memo.ru/memory/almaata/index.htm
28. http://www.memo.ru/scripts/project2.dll
29. http://stalin.memo.ru/index.htm
30. http://www.memo.ru/history/polacy/vved/index.htm
31. http://www.pstbi.ru
32. http://www.sakharov-center.ru/projects/bases/
33. http://www.archiv.ab.ru/r-pol/repr.htm
34. http://www.memo.ru/memory/altai/index.htm
35. http://www.amurobl.ru)
36. http://www.solovky.ru/cgi-bin/list.cgi?type=7
37. http://www1.adm.astranet.ru/Memo/default.htm
38. http://repressii.avo.ru
39. http://www.memorial.ru/

# Гісторыя газетным радком



**ПРАЗ ЛЮСТЭРКА ПЕРЫЁДЫКІ** / Падборка Андрэя АЛЯХНОВІЧА




*У дадзенай публікацыі збольшага сабраны нататкі, якія звычайна не трапляюць ў афіцыйныя выданьні па гісторыі нашай краіны. Па розных прычынах – ад гумарыстычных – да трагічных і палітычных. Сапраўды лёгка й весела чытаецца паведамленьне ў газэце "Оршанский весник" ад 21 верасьня 1917 году (гл. ніжэй). І зусім іншыя пачуцьці выклікаюць публікацыі ў газэце "Факел", ад 16.06.1920г. і ў газэце "Звезда" ад 06.09.1920г.*

*Агульнай асаблівасьцю газэтных публікацый першага перыяду накідваньня Савецкай улады на Беларусь зьяўляецца іх адкрытасьць – амаль не адчуваецца, ці ўвогуле адсутнічае афіцыйная цэнзура. Тыя з вас, хто гартаў старонкі савецкіх газэт, нават ўжо 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя – адразу заўважа розніцу. Пра пазьнейшы перяд няма й гаворкі.*

*Менавіта адкрытасьць сабраных нататак і ёсьць каштоўнасьцю, бо гэта – праўда гісторыі.*

ГАЗЭТА " НАША НІВА", № 22, 1913 ГОД 31 МАЯ, СТ.4:

**ПАЖАР.**

*У вёсцы Грыцкавічы, Барысаўскага павету узняўся пажар, каторы змёў каля 150 будоўлёў. Пагарэло ўсё, увесь дабытак, людзі асталіся без куска хлеба пад голым небам.*

ГАЗЭТА "ОРШАНСКИЙ ВЕСНИК", № 397, 21.09.1917Г., СТ.3:

**МЕСТНАЯ ЖИЗНЬ.**

*Задержание краденой лошади.*

*В м. Любавичах на базаре милиционером Лисовским задержана краденая лошадь.*

ГАЗЭТА "ОРШАНСКИЙ ВЕСНИК",, № 973, 27.12.1917Г., СТ.2:

**ПО КРАЮ. ГОЛОД В БОРИСОВЕ.**

*Областным Советом получена из Петрограда следующая телеграмма: " Из Борисова телеграфируют об ужастном продовольственном кризисе. Начались голодные бунты. Просим из получаемого по нарядам хлеба удовлетворить в первую очередь Борисов.*



Няхай жыве Саюз рабочых і сялян!

БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА

СЯЛЯНСКАЯ ГАЗЭТА Ц. К. КОМУ... ...УСІ.

80 (249) ... Субо...

Ні адзін пан ...

**Што чуваць у Менску.**

**31 вагон краміны для беларускіх сялян.**

Беларуская Управа Уэутранага Гандлю закупіла для Беларусі ... месяц сьнежань 31 вагон рознай краміны (мануфактуры). У першу... гэтымі таварамі будуць здаволены вясковыя кооперативы, каб хаць ... масьць забясьпечыць недарагой краміной сялян.

**Тав. Прышчэпаў—Народны Камісар Земляробства Беларусі.**

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларусі пастанавіў, заміж адазванага на другую працу тав. Гельтмана, Народным Камісарам земляробства Беларусі зацьвердзіць тав. Прышчэпава.

**115 тысяч рублёў на бу... вага дому для Беларус... ... Унівэрсытэту.**

Гэтымі днямі для Б... Дзяржаўнага Унівэрсытэту ... 115 тысяч рублёў на будо... ску новага дому-памешка... Унівэрсытэту.

**У вёскі паслана 100 сялянскіх бібліотэчак па саніта...**

ГАЗЭТА "НАБАТ" Г.ОРША №217, 19.07.1919Г., СТ.2:

**ВРЕДИТЕЛИ.**

*1. "Крестьяне относятся крайне враждебно ко всяким коммунам и артелям…."*

*2. Красноармейцы, стоящие в имениях чинят большой вред им. Разрушают, ломают всё что есть…. двери конюшен, амбаров топятся(печка) изгороди ломаются…*

ГАЗЭТА "НАБАТ" Г.ОРША №253, 01.09.1919Г., СТ.2:

**МАРОДЁРСТВО.**

*23 сего августа на ст.Славное Александровской железной дороги с проходившего поезда №60 соскочило несколько красноармейцев и ограбили там всех торговок, у одной из них даже схватили кошелёк с деньгами. Какой части были эти красноармейцы установить не удалось.*

ГАЗЭТА "НАБАТ" Г.ОРША №278, 02.10.1919Г., СТ.2:

**КРАСНАЯ АРМИЯ.**

*Товарищи красноармейцы… к вам наша просьба. Относитесь к населению, как к своим братьям труженникам, без разбора национальности.*

*Товарищи красноармейцы, среди нас есть жалкие людишки, которые занимаются гнусными делами; воровством и грабежом из огородов, по ночам воруют картошку и другие овощи от обывателя тащат… последнюю курицу и поросят…. Позор.*

*Политком 1строевого полка.*

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" № 8, 16.6.20Г., СТ.36:

**ВСТРЕЧА ОСВОБОДИТЕЛЕЙ.**

*Во всех политсводках … дивизии констатируется, что население освобождаемых нами местностей Белоруссии с радостью и бурным ликованием встречает наши войска. Стар и млад записываются в Красную Армию. Крестьяне со слезами на глазах передают красноармейцам кошмарные подробности панского владычества. Отдельные партизанские отряды целиком вливаются*

*Газэта "Беларуская вёска", **№80, 13.12.24г., ст.4: ШТО ЧУВАЦЬ У МЕНСКУ. Тав.Прышчэпаў – Народны Камісар Земляробства Беларусі. Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларусі пастанавіў, заміж адазванага на другую працу тав. Гельтмана, Народным Камісарам земляробства Беларусі зацьвердзіць тав. Прышчэпава.***

*в наши ряды, оказывая огромные услуги в разведке.*

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" № 11, 19.06.20Г., СТ.2:

**БОРЬБА С ДЕЗЕРТИРАМИ:**

*Реввоенсовет запфронта предписал конфисковать половину имущества всех дезертиров, их семейств и укрывателей тех, кто не явится 30 июня и остальную половину имущества не явившихся 15 июля.*

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА №14, 23.06.20Г., СТ.4:

*тийные конференции, на которых ведётся агитация в пользу мобилизации. (Запфронтроста)*

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" №24, 04.07.20Г. СТ.4:

**СЛЕДУЕТ ОРГАНИЗОВАТЬСЯ**

*Местечко Крупки, Сенненского уезда довольно большое. Население трудовое еврейское – молодёжь более развита, чем молодой русский рабочий или крестьянин, и до сего времени не имеет своего союза, где бы она могла понять и учится новой жизни. Невольно хочется сказать: молодые товарищи местечка Крупки! Пора бы подтянутся и взять пример не только с городов, но и глухих заводов Урала, где союзы молодёжи работают очень оживлённо и приносят большую помощь своим старшим т.т. рабочим в их борьбе за торжество трудящихся.*

Газэта "Звезда" № 29, 10.07.20г., ст.4:

**В ОСВОБОЖДЁННЫХ МЕСТАХ. НЕТ МОЛОДЁЖИ.**

... ГДЕ ЖЕ БУНТАРИ? ГДЕ ЖЕ МОЛОДЁЖЬ БУЙНАЯ, РЕВОЛЮЦИОННАЯ?

*Часть её сражается в рядах Красной армии, другая же часть – это молодые восемнадцатилетние парни, угнанные поляками или же постарше – дезертиры, скрывшиеся от мобилизации, об'явленной Советской властью ещё в 1919 году, и взятые тоже поляками... И тут им приходится переживать сильную душевную драму, так как им ясно, что в рядах панов они сражаются за то, чтобы их отцы оставались и впредь такими же невежественными, тёмными и голодными какими они были при царском правительстве и при " освободителях" панах....*

*Газэта "Набат" г.Орша №319, 26.11.1919г., ст.2:*

***ПЕРЕСТАРАЛСЯ. В м.Крупки красноармеец снял с ученика школы... шинель, мотивируя тем, что у него таковой нет. Такие выходки недопустимы и недостойны красноармейца. Очевидец.***

ПО ЗАПАДНОМУ КРАЮ.

**ЖАЛОБЫ КРЕСТЬЯН**

*Многие крестьяне... жалуются, что политработники игнорируют их и поступают так как будто бы в Белоруссии малоземельных крестьян совсем нет, как будто бы раньше там были только помещики и рабочие.*

*Многие политработники, по словам крестьян не входят в нужду крестьянской бедноты и считают её чуть ли не кулачеством.*

*Там жа:*

**МОБИЛИЗАЦИЯ.**

*Для подготовке крестьян к об'явленной мобилизации 1901 года во всех волостях Оршанского уезда устраиваются беспар-*

ГАЗЭТА "ФАКЕЛ", М.СЯННО, №29 АД 16.06.1920Г., СТ.2:

ИЗ ЖИЗНИ КРАСНОЙ МОЛОДЁЖИ. **БОЕВАЯ РЕЗОЛЮЦИЯ.**

*Члены бобрской волостной организации Российского Коммунистического Союза Молодёжи, на общем собрании 28 июня,*

*выслушав доклад по текущему моменту и по ряду других вопросов Коммунистич. Союза Молодёжи, постановили: работать неустанно: еженедельно устраивать субботники; организовать чтение лекций, докладов и т.п. и вообще направить все свои силы к тому, чтобы как можно скорее уничтожить контрреволюцию и перейти к мирному строительству новой и светлой коммунистической жизни.*
*Да здравствуют труд и знание!*

*… Трудовая и путевая повинности проходят слабо в виду того, что поляками было угнано значительное число лошадей.*
*Настроение крестьян… к Советской власти хорошее… партийных работников, выступающих на митингах встречают восторженно.*
*В Борисовском уезде как и во многих других местах не хватает людей для работы по Советскому строительству.*



ИЗ ЖИЗНИ КРАСНОЙ МОЛОДЕЖИ.

БОЕВАЯ РЕЗОЛЮЦИЯ.
Члены бобрской волостной организации Российского Коммунистического Союза Молодежи, на общем собрании 28 июня, выслушав доклад по текущему моменту и по ряду других вопросов Коммунистич. Союза Молодежи, постановили: работать неустанно; еженедельно устраивать субботники; организовать чтение лекций, докладов и т. п. и вообще на-

ИСКЛЮЧЕНИЕ ИЗ СОЮЗА.
Боевая резолюция бобрского Коммунистического Союза Молодежи не осталась только бумажной резолюцией.
По первому предложению бобрской коммунистической ячейки выделить одного товарища на польский фронт—организация тотчас же мобилизовала Риву Певзнер.
Но Рива Певзнер отказалась.

Газэта "Факел", м.Сянно, №29 ад 16.06.1920г., ст.2:
**ИЗ ЖИЗНИ КРАСНОЙ МОЛОДЁЖИ.**
**БОЕВАЯ РЕЗОЛЮЦИЯ.** ИСКЛЮЧЕНИЕ ИЗ СОЮЗА.

*Боевая резолюция бобрского Коммунистического Союза Молодёжи не осталась только бумажной резолюцией. По первому предложению бобрской коммунистической ячейки выделить одного товарища на польский фронт – организация тотчас же мобилизовала Риву Певзнер. Но Рива Певзнер отказалась. Тогда общее собрание с позором исключило её из своих рядов. И поделом. Боишься фронта – не иди в коммунисты. Интересно кем заменили шкурницу Риву Певзнер?*

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" № 3, ЛІПЕНЬ, СТ.4:
**ТРУДОВОЕ ДОБРОВОЛЬЧЕСТВО.**
*м.Бобр Сенненского уезда. Субботник – 200 человек с красными флагами и оркестр – работали 6 часов – на склады поступило 1000 пудов скоропортящихся продуктов.*
*Там жа:*
**ЗА СОВЕТЫ.** *(Сенненский уезд)*
*Все за Советскую власть… приказ о добровольной явке дезертиров дал прекрастные результаты… - 2040 человек. Во всём уезде дезертира не сыщешь.*

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" № 6, 14.08.1920Г., СТ.3: ПО СОВЕТСКОЙ БЕЛОРУССИИ. **БОРИСОВСКИЙ УЕЗД.**

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" № 8, 17.08.1920Г., СТ.4: ВОЕННО-РЕВОЛЮЦИОННЫЙ ТРИБУНАЛ.
**МАРОДЁРА К СТЕНКЕ.**
*Выездная сессия Ревтрибунала Мозырской группы приговорила к расстрелу командира Н-ской роты Н-ского батальона войск ВОХР Александра Пупышева за пьянство, наложение на деревни контрибуции, ранение красноармейцев, присвоение части красноармейских подарков, продажу реквизированного табаку и другие должностные преступления.*

*Газэта "Звезда", 1925г., № 206, ст.4:* ***Бобрская кооперация в погоне за "спецами" приглашает на службу лиц без разбора. Так, например, приглашён ею Певзнер, первый спекулянт м. Бобра.***

Газэта "Звезда", 1925г., № 203, ст.2:
***В Бобрском коопера-тиве, при взвешивании отпускаемого товара, не принимается в расчёт бумажная тара. Лот бумаги для 5 фунтов соли, конечно пустяк, но лот бумаги на пол-фунта сахару – явление недопустимое. Это – обвес.***
***Лейзеровский.***

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" № 9, 18.08.1920Г., СТ.3:
ПО СОВЕТСКОЙ БЕЛОРУССИИ.
**АГИТПУНКТЫ НА МЕЛЬНИЦАХ.**
*Приступая к водворению Советского строя в Белоруссии мы сразу не сумеем удовлетворить деревню. Взимание излишков, отсутствие соли, мануфактуры и т.п. заставят кулацкие элементы выразить своё неудовлетворение Советской власти.*
*В некоторых местах Белоруссии тёмными личностями уже начинается антисоветская агитация. . . .*

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" № 17, 27.08.1920Г., СТ.3:
**КАК ЖИВЁТ ДЕРЕВНЯ.**
*В местечке Холопеничах состоялось собрание митинг представителей деревень Холопеничской волости. Присутствовало около 200 человек. С докладом выступил. . . тов. Мохов. Собрание постановило всеми силами защищать и поддерживать Советскую власть.*
ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" № 26, 06.09.1920Г., СТ.4:
РЕВТРИБУНАЛ. **ДЕЛА О ДЕЗЕРТИРАХ.**
*Кондратовичи Иван и Николай и Антон – расстреляны.*
*Иссак Печень, Сергей Гайдук, Пётр Букатык, Степан Серажонок, Николай Швайбович и Захар Чичин – штрафрота. Виктор Кондратович и Мартин Саковский – штрафрота.*
***(І гэтак амаль у кожным восеньскім нумары. Але ў гэтым – ўсе прозьвішчы Халапеніцка-Крупскія! Дзяжурная назва той пары у кожным нумары – "Смерть дезертирам-предателям трудящихся!" – рэд.)***

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА" № 79, 21.11.1920Г., СТ.3:
**НА БОРЬБУ З БАНДИТИЗМОМ.**
*. . . у нас неспокойно, "шалят" чуть ли не в окрестностях самого Минска. Банды дезертиров и грабителей терроризуют деревни и мешают нам в нашей провинциальной работе. Они нередко дают нашим небольшим регулярным отрядам форменные сражения, они даже, по слухам, организуются для соединения с наиболее крупной дезертирской шайкой – шайкой Булаховича. . . .*

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА", АД 15.01.1922Г., СТ.4:
**УЧИТЕСЬ НЕНАВИДЕТЬ.**
*. . . Это поколение необходимо воспитать в ненависти к буржуазии, - вот одна из важнейших наших работ.*
ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА", №43, 19.02.1922Г., СТ.2:
**АМНИСТИЯ БАНДИТАМ.**
*Приказ Рев. Воен. Совета Минского района. . . . с 23 февраля по 10 марта.*
*Теперь, может быть в последний раз. . . правительство даёт возможность одуматься каждому и выбрать. . . .*
*. . . принять все меры к широкому осведомлению всего населения.*
*Командующий войсками Минского района: Эйхе*
*Член Реввоенсовета: Адамович*
*Начальник штаба: Янсон*

ГАЗЭТА "ЗВЕЗДА", №130, 03.06.1922Г., СТАРОНКА 2:
**К ИЗ'ЯТИЮ ЦЕРКОВНЫХ ЦЕННОСТЕЙ.**
*. . . В Борисовский уфинотдел сдано. . . Осовская церковь – 4 фунта серебра;. . . и добровольные пожертвования Холопеничской волости (крест с цепью и 2 монеты по 15 копеек) – 60 золотников, 60 долей.*
ГАЗЭТА "БЕЛОРУССКАЯ ДЕРЕВНЯ", №63, 14.10.22Г., СТ.3:

*и будет в Слониме пока не улажу вопрос с квартирой. Простите, что в мае м-це не выслал денег, не представилась возможность. В июне м-це после 15-го числа вышлю. Меня очень интересует как вы живете. В ответном письме опишите подробно: 1) Как [неразборчиво] Иван, Влад[?]? 2) Как дело обстоит с платежами, с переселением? 3) Пишет ли письма Володя? 4) Как дела в колхозе? 5) Засеяли огород. 6) Опишите жизнь Докудово. Отвечайте по адресу. БССР, город Белосток, п/я №26 Военная Прокуратура Орловскому. Пока досвидание, ко всем с приветом, привет тещи и всей семье. Ожидаю ответа».*

- Ураджэнец в.Крыштопаўшчына БАЧЫШЧА Іван Захаравіч (1906), прапаў без вестак 05.1942
- Ураджэнец в.Дакудава (пражываў – Восава) БУРЫ Аляксандр Мікалаевіч (1918) радавы, прызваны 22.06.1941, прапаў без вестак у пачатку вайны
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Аляксандр Паўлавіч (1921), лётчык, у Чырвонай Арміі з 1940
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Васіль Паўлавіч (1908) радавы, прызваны 27.06.1941, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)
- Ураджэнец в.Восава (пражываў – Барысаў) БУРЫ Гаўрыла Адамавіч (1911), радавы, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Кірыл Іванавіч (Бураў) (1909), сяржант, прызваны 23.06.1941, служыў на Паўночным флоце, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 09.1941)
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Максім Кузьміч (1908) радавы, прызваны 22.06.1941, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Міхаіл Паўлавіч, у Чырвонай Арміі з 1939.
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Сідар Кузьміч (1916), радавы, прызваны у 1939 або 1940, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944 або 12.1944)
- Ураджэнец в.Ярашэўка БЫКАЎ Дзям'ян Іванавіч (1918), прызваны 15.10.1940, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)
- Ураджэнец в.В.Жаберычы ДЫКА Сямён Емяльянавіч (1908), радавы, прызваны 23.06.1941, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)
- Жыхар (?) в.Малыя Жаберычы (пражывала жонка?) ІВАНОВІЧ Мікалай Ціханавіч (1916), малодшы лейтэнант, у Чырвонай Арміі з 1933, 7 танкавы полк 4 танкавай дывізіі, прапаў без вестак у пачатку вайны
- Ураджэнец в.Клён КАПТУР Анатоль Гаўрылавіч, (22.12.1923), малодшы лейтэнант, у Чырвонай Арміі з 27.10.1941, памёр ад ран 01.01.1944 або 06.01.1944, (†) пас.Жоўтая Рака, Крыварожскі раён
- Ураджэнец в.Дакудава КАСЦЮКЕВІЧ Аляксандр Піліпавіч (1918), лейтэнант 31 танкавай брыгады 278 танкавага батальёна, загінуў 16.08.1942, (†) в.Лябёдка Смаленскай вобл.

*Па словах жыхароў в.Дакудава: «Брат старшыні калгаса Касцюкевіча Віктара Піліпавіча не загінуў, а трапіў у палон. Пасля вайны апынуўся ў Канадзе. Недзе ў 60-ых гадах прыязджаў у Дакудава. З-за таго, што ён не вярнуўся на Радзіму пасля вызвалення саюзнікамі з палону, ягонаму брату, старшыні нашага калгаса В.П.Касцюкевічу не далі, як спачатку збіраліся зрабіць, Залатую Зорку Героя Сацыялістычнай Працы. Здаецца, і мемарыяльную дошку з помніка загінуўшым аднавяскоўцам нехта зняў з нагоды таго, што КАСЦЮКЕВІЧ Аляксандр Піліпавіч не загінуў і, больш за тое, аказаўся здраднікам Радзімы» (?!)*

- Ураджэнец в.Крыштопаўшчына КАСЦЮКЕВІЧ

Дзмітрый Дзмітрыевіч (1921), радавы, прызваны ў 1940, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 09.1941)

- Ураджэнец в.Дакудава КАСЦЮКЕВІЧ Уладзімір Аляксеевіч (1917), радавы, прызваны 02.02.1939, старшына, прапаў без вестак у пачатку вайны пры абароне Брэста (афіцыйна прапаў без вестак 09.1941)
- Ураджэнец в.Клён або в.Малыя Жаберычы КРУЧОК Аляксандр Дзмітрыевіч (1914/1916), прызваны ў г.Масква, радавы 8 асбр 219 сп, загінуў у марскім баі у Фінскім заліве 03.12.1941
- Ураджэнец в.Клён КРУЧОК Васіль Захаравіч (1920), радавы, прызваны 10.1939, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 11.1944)
- Ураджэнец в.Клён КРУЧОК Якаў Гаўрылавіч (1904), радавы, прызваны ў Маскоўскай вобласці 17.08.1941, прапаў без вестак 10.1941
- Ураджэнец в.Восава КУР'ЯН Мікалай Пятровіч (1913), радавы, прызваны ў 1939, 544 сп 152 сд, малодшы лейтэнант з 18.08.42, прапаў без вестак 1943
- Ураджэнец хут.Гарнач (маці пражывала – Клён) КУР'ЯН Уладзімір Сяргеевіч (1915/1919), радавы, прызваны ў 1939, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 03.1944)
- Ураджэнец в.Дакудава КУХТА Віктар Тарасавіч (1921) радавы, прызваны ў 1940, прапаў без вестак у пачатку вайны у Літве або Латвіі
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ЛАПАРЭВІЧ Іван Рыгоравіч (1910) (на фота), радавы, прызваны 05.12.1941 у г.Масква, прапаў без вестак 06.1942



- Ураджэнец в.В.Жаберычы ЛЫЦІН Міхаіл Іванавіч (1920), малодшы сяржант 1010 сп, прапаў без вестак 28.03.1944 каля с.Руменскае, Вазнесенскі раён Адэская вобласць
- Ураджэнец або жыхар в.Клён (пражывала сям'я) МАКАРЭВІЧ Мікалай Міхайлавіч (1909/1919), радавы, прызваны 23.06.1941, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)
- Ураджэнец в.Жаберычы МАЛАХАЎ Рыгор Елісеевіч (1895), радавы, 16 Армія, прапаў без вестак 18.07.1941 каля г.Ярцава
- Ураджэнец в.В.Жаберычы МАРДАС Іван Яфімавіч (Аўхімавіч) (1907), радавы, прызваны 22.06.1941 прапаў без вестак у пачатку вайны у бранскіх лясах (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)
- Ураджэнец в.В.Жаберычы МАРЦЫНКЕВІЧ Браніслаў Міхайлавіч (1901), радавы 311 гв.сп 108 гв.сд, памёр ад ран 24.07.1943, (†) х.Маёрскі
- Ураджэнец (?) в.Восава (пражываў – Студзёнка, Барысаўскі раён) МЕЛЬНІК Дзмітрый Арцёмавіч (1917), радавы, прызваны 06.1941, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)
- Ураджэнец в.Восава МЕЛЬНІК Сяргей Арцёмавіч (1918), радавы, прызваны 1940, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)
- Ураджэнец в.Восава МЕЛЬНІК Ягор Арцёмавіч (1919/1921), радавы, прызваны 10.1940, загінуў пад Ленінградам у пас.Неўская Дубраўка 13.02.1943
- Ураджэнец в.В.Жаберычы МОНІЧ Анатоль Міхайлавіч (1923), радавы, прапаў без вестак 11.1943
- Ураджэнец в.В.Жаберычы МОНІЧ Іван Цітавіч, радавы, прапаў без вестак 25.08.1941
- Ураджэнец в.В.Жаберычы МОНІЧ Міхаіл Рыгоравіч (1918), лейтэнант 7 танкавай брыгады, загінуў 10.10.1941, (†) х.Цапачкоў, Каламацкі раён, Хар-

каўская вобласць
- Ураджэнец в.В.Жаберычы МОНІЧ Уладзімір Аляксандравіч (1913), старшы тэхнік, загінуў 20.02.1943, (†) в.Маркава Пскоўскай вобл.
- Ураджэнец в.Крыштопаўшчына МОНІЧ Уладзімір Аляксандравіч (1917/1913), ваентэхнік 1 ранга 395 эскадрыллі 463 авіяпалка, загінуў 10.02.1943
- Ураджэнец в.Шыялоўка (пражываў – Ржэў) МОНІЧ Уладзімір Сафронавіч (1912), радавы, прызваны 23.06.1941, загінуў 29.12.1943
- Ураджэнец в.Восава ПАТРУЧУК Уладзімир Васілевіч (1912), радавы 305 сд, загінуў 14.01.1942, (†) д.Сітна, Наўгародскі р-н, Ленінградская вобл.
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ПЫТКО Іван Яфімавіч (1919), радавы 58 сп 52 сд, прапаў без вестак 15.09.1941
- Ураджэнец в.Дакудава ПЯТРОЎСКІ Аляксандр Аляксандравіч (1917), радавы 136 сд, загінуў 28.08.1942 каля г.Усць-Тоска, Ленінградская вобласць
- Ураджэнец в.Дакудава ПЯТРОЎСКІ Станіслаў Адамавіч (1905), радавы 375 сд, прапаў без вестак 06.07.1943
- Ураджэнец в.Дакудава ПЯТРОЎСКІ Фама Іванавіч (1906), радавы, прапаў без вестак 03.1944
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы СІДЛЯРОНАК Аляксей Паўлавіч (1920/1915), ст.сяржант 50 інжэнернага батальёна 34 арміі, загінуў 22.08.1942, (†) в.Анціпава, Палаўскі раён Ленінградскай вобласці
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы СІДЛЯРОНАК Мікалай Паўлавіч (1918), лейтэнант 158 сд, у Чырвонай Арміі з 29.10.1939, памёр ад ран 15.03.1943, (†) Смаленская вобласць
- Ураджэнец в.Жаберычы (пражываў – Маскоўская вобласць) СІДЛЯРОНАК Мікалай Рыгоравіч (1909), прапаў без вестак 05.1942
- Ураджэнец в.Жаберычы СІДЛЯРОНАК Фёдар Мікітавіч (1921), старшы лейтэнант 62 гв.сд, загінуў 09.01.1944, (†) в.Броды, Смалянскі раён, Чаркаская вобл.
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы СІДЛЯРОНАК Фёдар Мікітавіч (1922), загінуў у 1942
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы СІДЛЯРОНАК Фёдар Рыгоравіч (1917), танкіст, загінуў у 1942
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы СМАНЦАР Міхаіл Яфімавіч (1912/1922), радавы, прызваны 23.06.1941, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)
- Ураджэнец в.Восава (Дакудаўскі сельсавет?) ТОЎСЦІК Адам Раманавіч (1901?), радавы 88 сд, загінуў 31.03.1943
- Ураджэнец в.Дакудава ТОЎСЦІК Ілля Цімафеевіч (1921), радавы 11 арміі, прапаў без вестак у пачатку вайны
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ТОЎСЦІК Міхаіл Несцеравіч (1924), радавы, прызвны 15.10.1940, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)
- Ураджэнец в.Дакудава ФРЫДМАН Ава Іудавіч, старшы лейтэнант 3 гв.стралковай брыгады 2 гв.кавалерыйскага корпуса, прапаў без вестак 19.02.1942
- Ураджэнец в.Дакудава (пражываў – Свярдлоўская вобласць) ХАДАСЕВІЧ Антон Андрэевіч (1910), радавы 141 сп 85 сд, загінуў 14.10.1943, (†) г.Ленінград
- Ураджэнец (?) в.Дакудава (прызваны ў 1941 з Днепрапятроўскай вобласці) ХАДАСЕВІЧ Валянцін Сцяпанавіч, лейтэнант, загінуў 23.01.1944
- Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Васіль Андрэевіч, радавы, прапаў без вестак 09.1941
- Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Васіль Іванавіч (1918) мал. лейтэнант, 10.1938, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)
- Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Іван Іванавіч (1920/1918) *(на фота)*, радавы, прызва-

ны ў 1940 або <u>23.06.1941</u>, прапаў без вестак у пачатку вайны ў канцлагеры каля г.Магілёў (афіцыйна прапаў без вестак 07.1944)

•Ураджэнец в.Дакудава (пражываў – г.Слуцк) ХАДАСЕВІЧ Іван Ціханавіч (1911), прызваны <u>23.06.1941</u>, радавы 10 сп 113 сд, прапаў без вестак у пачатку вайны

•Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Мікалай Міхайлавіч (1912/1915), радавы, прызваны ў 1941, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)

•Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Мікалай Фёдаравіч (1921), лейтэнант, памёр ад ран 01.05.1943, (†) ст.Белы Калодзеж, Харкаўская вобласць

•Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Міхаіл Ціханавіч (1920), радавы, прызваны ў 1940, прапаў без вестак у пачатку вайны

•Ураджэнец в.Дакудава (пражываў – г.Орша) ХАДАСЕВІЧ Рыгор Еўдакімавіч (1902), радавы, прызваны 12.07.1941, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 08.1944)

•Ураджэнец в.Шыялоўка (пражываў – Рудзенск) ХАДАСЕВІЧ Стэфан Сямёнавіч (1916), радавы, прызваны 1939, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 09.1941)



•Ураджэнец в.Брышча ХАДАСЕВІЧ Уладзімір Міхайлавіч, радавы, прызваны 04.1941, прапаў без вестак 08.1942 пры абароне Ленінграда

•Ураджэнец в.Восава ХАРКАВЕЦ Пётр Фёдаравіч (1911) *(на фота)*, 242 сд 30 армія, <u>расстраляны па прысудзе ваеннага трыбунала 07.09.1941</u>

•Ураджэнец в.В.Жаберычы ХАРЫТАНОВІЧ Іван Пятровіч (1919), радавы, прызваны ў 1939, прапаў без вестак у пачатку вайны

•Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ЧАРНЯЎСКІ Аляксей Сямёнавіч (1922), радавы, прызваны ў 1941, прапаў без вестак у пачатку вайны

•Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ЧАРНЯЎСКІ Іван Апанасавіч, старшына, прызваны ў 1939, прапаў без вестак у пачатку вайны (афіцыйна прапаў без вестак 1944)

•Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ЧАРНЯЎСКІ Якаў Андрэевіч (1911/1913), радавы, прапаў без вестак 12.1941

•Ураджэнец в.В.Жаберычы ШАПЧЫЦ Гаўрыла Емяльянавіч (1914), радавы, прызваны 23.06.1941, прапаў без вестак у пачатку вайны

•Ураджэнец в.В.Жаберычы ШПІЛЕЎСКІ



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| МИГАЛ Владимир Васильевич | -"- | | | г.д.Денисовичи,Шипкий с/с.,Крупского ,Минской области |
| КЛЕЩЕНОК Яков Кондратьевич | -"- | | | г.д.Денисовичи,Шипкого с/с.Крупского ,Минской области |
| ХАРЬКОВЕЦ Петр Федорович | -"- | | - | 1911г.Минская обл.Крупский р-н,Почаский с/сов. дер.Осово. |
| ДАВЫДЕНОК Филипп Филиппович | -"- | | -" | 1909г.Минская обл.Крупский р-н,Шиповский с/с, д.Попарно. |
| ОСТРОУМОВ Алексей Григорьевич | -"- | | - | 1907г.Минская обл.,Крупский р-н,д.Березовка |

**Фрагмент спіса ваеннаслужачых 30-й арміі – ураджэнцаў Крупскага раёна, расстраляных па прысуду ваеннага трыбунала 07.09.1941**

Анатоль Апанасавіч (1919/1921), радавы, прызваны 12.1939, прапаў без вестак у пачатку вайны

- Ураджэнец в.Восава ШЫШЛА Іван Герасімавіч (1917/1920), радавы, прызваны 1941, прапаў без вестак у пачатку вайны
- Ураджэнец в.Восава ШЫШЛА Уладзімір Герасімавіч (1920), радавы, прапаў без вестак у пачатку вайны
- Ураджэнец в.Восава (пражываў – Саратаўская вобласць) ТОЎСЦІК Аляксандр Аляксандравіч; малодшы сяржант 3-яй гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі, прызваны ў 1943 годзе; загінуў 08.05.1944; (†) в.Какутэній, акруга Валі, Румынія. Апошні загінуўшы (роўна за год да Перамогі).

**Неабходная заўвага.** Звычайна на зніклых без вестак асоб ваенкаматы складалі па запыту родных анкеты, куды заносіліся ўсе неабходныя даныя, у тым ліку звесткі аб атрыманых роднымі апошніх лістах ад ваеннаслужачага дадому. Потым рабіліся спробы знайсці саслужбоўцаў зніклага без вестак і апытаць іх пра лёс чалавека. Пасля гэтага ваенком рабіў выснову аб тым, калі прапаў без вестак або загінуў чырвонаармеец. Звычайна ваенком вызначаў дату пагібелі або знікнення чалавека у тым жа месяцы (або на месяц пазней), на які прыпадала сведчанне аб тым, что ваеннаслужачы быў яшчэ жывы. Потым анкета накіроўвалася ў Маскву ў Галоўную управу па кадрах Чырвонай Арміі. І менавіта там у адносінах да тых, хто прапаў без вестак, дата іх знікнення зрушвалася на больш позні тэрмін – ад некалькіх месяцаў да трох гадоў. Гэтая дата і лічыцца афіцыйна прызнанай датай, калі чалавека выключалі са спісаў вайскоўцаў. Таму ў многіх з тых, хто прапаў без вестак у самым пачатку вайны (загінуў, трапіў у палон або знік нейкім іншым чынам), афіцыйная дата знікнення прыпадае ажно на кастрычнік 1944 года. Магчыма, гэта было выклікана надзеяй на тое, што чалавек адшукаецца сярод партызанаў, або сярод вызваленных палонных, або сярод жыхароў вызваленых раёнаў. Але трэба памятаць, што дзяржаўныя грошы на выплату дапамогі ягонай сям'е, якая належыла ёй па законе, пачыналі ійсці менавіта з моманту прызнання ваеннаслужачага зніклым без вестак.

**10.05.1944 (50 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

На аэрадроме Дакудава (з 12.04.1944) базуецца 2-я эскадрылья аператыўная групы 2-й вучэбнай паветранай дывізіі (Einsatzgruppe der 2. Flieger-Schul-Division – скарочана: 2./Einsatzgruppe der 2. FSD). Штаб аператыўная групы знаходзіцца на аэрадроме Барысаў.

**11.05.1944 (49 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**



На фотаздымку (18.04.1944): Крукоўскі Антон Яўстаф'евіч і яго жонка Мар'яна (Марыя) Фёдараўна (бацькі франтавіка Крукоўскага Мікалая Антонавіча) на фоне склепа, у якім вымушаны былі жыць падчас акупацыі, бо хаты былі немцамі ўзяты пад свае патрэбы:



**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

**Рэшткі аэрадромнага будынка (магчыма, ангара) на паўднёвым ускрайку Дакудава**


ПРОПИСКА—ПРАПІСКА

Einwohner von Dokudowo 2






хата Моніч Дані Пятроўны – склад патронаў і узрыўчаткі; хата М.П.Хадасевіч– кухня-казіно; хата Анастасіі Мінаўны Хадасевіч – склад абутку і абмундзіравання; хата А.М.Хадасевіч – жыў гаўптман Хорст; хата Голуба – шпіталь; хата Ф.Барабанава – пост аховы гарнізона (пост абнесены калючым дротам, умацаваны, устаноўлена кругласутачнае дзяжурства); хата Тэафіла Лапарэвіча – камендатура (грамадзянскім асобам тут таксама выпісвалі даведкі, пасведчанні).

### 12.05.1944 (48 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)

Фрагмент старонкі савецкага пашпарта, у якім акупацыйныя ўлады паставілі сваю адзнаку аб месцы жыхарства чалавека. Пашпарт Тоўсціка Цімафея (Цімоха) Халімонавіча *(на здымку з сямейнага фотаархіва)* – выдадзены Крупскім аддзелам міліцыі 08.01.1936 года тэрмінам на 5 гадоў (да 08.01.1941). З дапамогай друкавальнай машынкі напісана: "Einwohner von Dokudowo 2" (у перакладзе з нямецкай мовы – "Жыхар Дакудава 2"). Лічба 2, найбольш верагодна, абазначае нумар абшчыны (Дакудава дзялілася на дзьве абшчыны, на чале кожнай з якіх быў свой

стараста). На пячатцы запісаны нумар (аналаг савецкай ваенна-палявой пошты - ?): “Feldpostnummer L10729”. Дзеці уладальніка пашпарта Тоўсціка Цімафея Халімонавіча: сын Уладзімір (1921) – чырвонаармеец з 03.07.1944, вярнуўся з вайны з двума баявымі ордэнамі: Славы 3-й ст. і Чырвонай Зоркі; сын Іван (1923) – папаў на службу да власаўцаў у РВА, пасля вайны быў асуджаны на 25 гадоў, але быў вызвалены ў 50-х гадах, вярнуўся дадому; памёр ад туберкулёзу; дачка Клаўдзія (1925) – забіта немцамі ў 1943 годзе ў в.Восава, пры спробе уцячы ад вывазу ў Германію.

Дадатковыя звесткі: *Тоўсцік Цімафей (Цімох) Халімонавіч. Нарадзіўся і жыў спачатку ў в.Восава. Пасля ўсталявання савецкай улады ўваходзіў у “ячэйку”, але калі ад камунараў – сяброў ячэйкі – сталі патрабаваць жыць па камунарскіх прынцыпах, не захацеў падпарадкавацца і перасяліўся ў Дакудава. Дзяцей у яго было нашмат больш, але астатнія чамусьці не былі ўпісаны ў пашпарт.*

**13.05.1944 (47 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Партызаны з атрада імя Шчорса (камандзір Белы) здзейснілі дыверсію на чыгунцы каля в.Нача: пушчаны пад адхон паравоз.

**14.05.1944 (46 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Шмат хто з вяскоўцаў сышоў у партызаны і змагаўся з ворагам.

Дакудава партызанскае (*матэрыял, які сабрала Драніца Валянціна Мікалаеўна*):

Драніца Павел Дзмітрыевіч : *“Сыход у партызаны першай групы: Касцюкевіч Віктар Піліпавіч і Арлоўскі Іван Сідаравіч працавалі на лясной дзялянцы - секлі лес. Да іх вышлі дэсантнікі. Сярод іх была і Алена Колесава. Яны і прапанавалі хлопцамісці ў партызаны. Сыход у партызаны другой групы: прыйшлі на вечарынку сувязныя з атрада, незнаёмыя і не назваліся. Дамовіліся, дзе сустрэнуць будучых партызан. Неўзабаве сышлі Хадасевіч Соф'я, Хадасевіч Марыя, Хадасевіч Іван Іванавіч, Хадасевіч Павел, Гайдук Соф'я, Лісакоўская Ф., Самцевіч А., Гайдук Гр., Арлоўская Т., Арлоўскі Іван.*

*“беларускамоўныя” старонкі савецкага пашпарта*

Моніч Данута Пятроўна: *“Аэрадром ахоўвала рота РВА (Руская вызваленчая армія – РОА) пад камандаваннем Любімава. З Заполля ў госці да Моніч Д.П. прыходзіла Сініцына Фаня і Марыя Кручок. Яны пачалі агітацыю сярод роты РВА. “Народнікі” пеазнаёміліся з моладдзю, некаторыя знайшлі “жонак”. Фаня звязала з атрадам Сінькова Моніч Д.П., Хадасевіча Косціка. Вырашылі 1 мая 1943 года сысці ў партызаны разам з “народнікамі”, але Фаня не прыйшла (яна была арыштаваная ў Прыяміне і расстраляная). Даня і Косцік пабеглі ў Млехава да Шыдлоўскага Івана (другі сувязны). Прыйшлі ў Дакудава, але “народнікі” перадумалі. У партызаны сышлі яшчэ Касцюкевіч Іван, Хадасевіч Жорж і Мікалай, браты Куляшовы, Янчанка Міхаіл, Хадасевіч Ніна Лявонаўна, Самцэвіч Валянціна, Хадасевіч Віктар Ціханавіч, Хадасевіч Павел Канстанцінавіч, Хадасевіч Іван Аляксандравіч. Пайшлі лясамі на Ратуцічы, Зачысце, Барань. Праз двое сутак іх сустрэлі партызаны на фурманках і давезлі да лесу каля в.Сівы Камень, дзе быў лагер. Там жа вынеслі зімовую блакаду”.*

На фота: партызан Хадасевіч Канстанцін Васілевіч (Косцік), фотаздымак ад 13.05.1987 (з

сямейнага архіву – Кухты Васіля Тарасавіча).

Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Пасля зыходу ў партызаны вялікай групы моладзі з Дакудава сагналі немцы амаль усіх жыхароў на "гору" (каля хаты старасты Хадасевіча Рыгора Яўменавіча). Мужыкоў асобна, баб з дзеткамі і старых асобна. Расстралялі б. Але сярод немцаў быў адзін у чыне: ён яшчэ ў першую міравую з рускімі ваяваў, мову рускую няблага ведаў. Дык ён перашкодзіў карнікам – нікога не забілі"*





На фота: партызан Дыка Нікано р(?) з в.Вялікія(?) Жаберычы (з сямейнага архіву – Барабанавай Марыі Прохараўны).

**15.05.1944 (45 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Каля вёскі Малыя Жаберычы загінуў СВІРЫДАЎ Рыгор Сямёнавіч (Свиридов Григорий Семёнович) – камандзір аддзялення партызанскага атрада "За Радзіму".

Біяграфічная даведка: *нарадзіўся ў 1914. Жыў у станіцы Новадзмітрыеўская Северскага р-на Краснадарскага краю. Інфармацыя з данясення аб беззваротных стратах партызанскага атрада "За Радзіму": забіты 15.05.1944 (па раённай кнізе "Памяць. Крупскі раён" – 16.05.1944). Пахаваны: Барысаўскі раён, в.Майсееўшчына, воінскае пахаванне ў цэнтры вёскі, воінскае пахаванне № 79.*

**16.05.1944 (44 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Фашысты жорстка каралі за сувязь з партызанамі: адпраўлялі ў Германію за дзяцей, якія пайшлі ў партызаны, іх суродзічаў, або арыштоўвалі іх і саджалі ў канцэнтрацыйны лагер. Адпраўленыя з Дакудава ў Германію за дзяцей, якія пайшлі ў партызаны: ХАДАСЕВІЧ Васіль Нічыпаравіч з жонкаю ХАДАСЕВІЧ Марыяй (баба Васіліха); ХАДАСЕВІЧ Соф'я (Сяргея Кухты жонка)і яе сястра ХАДАСЕВІЧ Марыя – бацькі і сястра зышоўшага ў партызаны Хадасевіча Канстанціна Васільевіча; ХАДАСЕВІЧ Іван Міхайлавіч ("Кулеш") – бацька сыноў-партызанаў; ХАДАСЕВІЧ Лявон Рыгоравіч (загінуў) з жонкаю ХАДАСЕВІЧ (САМЦЭВІЧ) Надзеяй Андрэеўнай.



**17.05.1944 (43 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Партызаны з атрада імя імя Варашылава здзейснілі дыверсію на чыгунцы каля в.Кладзі: пушчаны пад адхон цягнік (знішчаны паравоз і 3 вагоны). 2-я аператыўная група 2-й вучэбнай нямецкай паветранай дывізіі пакінула аэрадром Дакудава *(новае месцазнаходжанне - на аэрадроме Барысаў).*

**18.05.1944 (42 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Партызаны з атрада імя Варашылава (камандзір Вукалаў) здзейснілі яшчэ адну дыверсію на чыгунцы у 1,5 км ад ст.Прыяміна: пушчаны пад адхон эшалон.

**19.05.1944 (41 ДЗЕНЬ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

За час акупацыі загінулі партызаны і падпольшчыкі: падпольшчык ЛАПАРЭВІЧ Емяльян Антонавіч (1904) загінуў у Мінскім канцлагеры

Ураджэнец в.Брышча ХАДАСЕВІЧ Канстанцін Аляксандравіч (1923), які ў час акупацыі працаваў машыністам на станцыі г.Орша, затым стаў партызанам 1-й брыгады імя К.С.Заслонава. Загінуў пры выкананні задання.

Жыхар в.Дакудава ЯНЧАНКА Міхаіл Мікітавіч (ЯНЧЕНКО Михаил Никитич), нарадзіўся ў 1912 годзе ў Сібіры, г.Ачынск Краснаярскага краю. Быў прызваны ў Чырвоную Армію яшчэ да вайны. Апошняе месца жыхарства і працы перад арміяй - г.Алма-Ата, ст.Тангар, школа МТС. Прымаў удзел у фінскай вайне. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны апынуўся на акупаванай тэрыторыі Беларусі. Прыжыўся ў в.Дакудава. У ліпені 1942 года ў яго новай сям'і нарадзіўся сын Леанід (будучы настаўнік Малажабярыцкай і Дакудаўскай школы Янчанка Леанід Міхайлавіч), у Ачынску таксама у яго была сям'я – жонка і дачка. З групай дакудаўскай моладзі сышоў у партызаны у 1943 годзе (фактычна быў прызваны як дзеючы ваеннаслужачы). Стаў байцом партызанскага атрада імя Кірава. Загінуў у баі 05.08.1943. Пахаваны ў брацкай магіле разам з іншымі партызанамі ў в.Глыбочыца Барысаўскага раёна. Упамянуты: *«Книга памяти. Красноярский край. Том 5»*: ЯНЧЕНКО Михаил Никитич, род. 1912. Партизан. Погиб в бою 05.08.1943. Похоронен в д.Глыбочица Борисов-

**20.05.1944 (40 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

## За час акупацыі загінулі мірныя жыхары (даныя з кнігі "Памяць. Крупскі раён")

Ураджэнка в.Малыя Жаберычы АКУНЕВІЧ Паліна Мікалаеўна (1914) загінула ў 1942 пры спробе уцячы ад немцаў у лес; (†) в.М.Жаберычы
Ураджэнец в.Малыя Жаберычы АСІПОВІЧ Аляксей Савельевіч (1920)
Ураджэнец в.В.Жаберычы БАБІЦКІ Людвіг (1915)
Ураджэнка в.Клён БАБІЦКАЯ Марыя Іванаўна (1912) загінула у 1942; (†) в.Клён
Ураджэнец в.Клён БАБІЦКІ Людвіг Паўлавіч (1923) загінуў у 1942; (†) в.Клён
Ураджэнка в.Малыя Жаберычы БАБІЦКАЯ Марыя Іванаўна
Ураджэнка в.Клён БАБІЦКАЯ Марыя Паўлаўна (1926) загінула у 1942; (†) в.Клён
Ураджэнец в.В.Жаберычы БУДНІК Аўдзей Рыгоравіч (1864) расстраляны
Ураджэнка в.В.Жаберычы БУДНІК Любоў Мікітаўна (1902) расстраляна
Ураджэнец в.В.Восава БУРЫ Аляксандр Цімафеевіч (1910)
Ураджэнец в.В.Восава БУРЫ Цімафей Цімафеевіч (1900)
Ураджэнец в.Шыялоўка ГРАМЯНОК Іван Іосіфавіч (1919)
Ураджэнец в.В.Жаберычы ЕРМАЛОВІЧ Міхаіл (1891)
Ураджэнец в.Прыклёнак ЕРМАЛОВІЧ Мікалай Міхайлавіч
Ураджэнец в.Прыклёнак ЕРМАЛОВІЧ Міхаіл Апанасавіч
Ураджэнец в.Крыштопаўшчына ЗАРОЎСКІ Сцяпан Апалінаравіч (1898) расстраляны
Ураджэнец в.В.Восава КАПТУР Канстанцін (1904)
Ураджэнец в.В.Жаберычы КАПЫТОК Піліп Васілевіч (1865) расстраляны
Ураджэнец в.Дакудава КАСЦЮКЕВІЧ Іван Якаўлевіч расстраляны ў 1944
Ураджэнец в.Дакудава КЛЯЧКОЎСКІ Казімір Данілавіч (1924)
Ураджэнец в.Дакудава КЛЯЧКОЎСКІ Кароль Данілавіч (1927)
Ураджэнец в.В.Восава КРУЧОК Антон Антонавіч (1888)
Ураджэнец в.Дакудава КУЛІК Уладзімір Васілевіч расстраляны
Ураджэнец в.Дакудава КУНЦЭВІЧ Іван (1916)
Ураджэнец в.Прыклёнак ЛІСЕЦКІ Раман
Ураджэнец в.Малыя Жабery-

ского р-на. (Дарэчы, у раённай кнізе памяці памылкова прыведзены дадзеныя зусім іншага чалавека - ЯНЧАНКА Міхаіла Максімавіча).

**21.05.1944 (39 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Апынуліся у канцэнтрацыйных лагерах:
Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Сідар Пятровіч (1883) загінуў у канцлагеры
Ураджэнка в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Вольга Канстанцінаўна загінула ў канцлагеры.
Асвенцым. Загінула ХАДАСЕВІЧ Ксенія – жонка Хадасевіча Івана Міхайлавіча.
Бухенвальд. ХАДАСЕВІЧ Васіль (вярнуўся).
Трасцянец. Загінулі:

КУХТА Тарас Ціханавіч (1898) быў арыштаваны за сувязь з партызанамі; КУХТА Тарас Ціханавіч *(фотаздымык зроблены да 1917г., падчас службы ў царскай арміі);*



ХАДАСЕВІЧ Ярош (Яраслаў) Іванавіч (1927) – сын Хадасевіча Івана Міхайлавіча і Хадасевіч Ксеніі – загінуў у 1944 годзе;

АРЛОЎСКІ Сідар Паўлавіч (1890) і яго жонка ураджэнка в.Дакудава

**20.05.1944 (40 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

чы ЛОСЕЎ Аляксей (1910)
Ураджэнец в.Дакудава ЛУШЧЫК Андрэй (1921)
Ураджэнец в.Малыя Жаберычы МІСКЕВІЧ Аляксей Піліпавіч (1901)
Ураджэнец в.Прыклёнак МАКРЫЦКІ Мартын Васілевіч
Ураджэнец в.Крыштопаўшчына МАРЦЫНКЕВІЧ Людвіг Паўлавіч
Ураджэнка в.Крыштопаўшчына МАРЦЫНКЕВІЧ Марыя Маркаўна
Ураджэнка в.Крыштопаўшчына МАРЦЫНКЕВІЧ Марыя Паўлаўна
Ураджэнец в.Малыя Жаберычы селянін СІДАРАХАН Павел Савельевіч (1888)
Ураджэнец в.Дакудава САМЦЭВІЧ Пётр Андрэевіч забіты на смерць гумовымі палкамі ў г.п.Халопенічы, верасень 1941
Ураджэнец в.В.Жаберычы СТАРАДУБЕЦ Васіль (1916)
Ураджэнец в.Прыклёнак СТАРАДУБЕЦ Васіль Міхайлавіч (1918) расстраляны у 1943 в.Прыклёнак, (†) в.Клён
Ураджэнец в.Клён СТАРАДУБЕЦ Васіль Міхайлавіч (1916) селянін
Ураджэнец в.Прыклёнак СТАРАДУБЕЦ Міхаіл Якаўлевіч (1885) расстраляны у 1943 в. Прыклёнак, (†) в.Клён
Ураджэнка в.Малыя Жаберычы СТАРАДУБЕЦ (ЛЫЦІНА) Софія Мацвееўна (1920) загінула у 1942 сялянка, (†) в.М.Жаберычы
Ураджэнка в.Дакудава ТОЎСЦІК Клаўдзія Цімафееўна (19-25) расстраляна (забіта) у 1943 годзе ў в.Восава, пры спробе уцячы ад вывазу ў Германію
Ураджэнец в.Малыя Жаберычы УСОШЫН Міхаіл Мікітавіч (1869)
Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Аляксей Аляксеевіч (1927)
Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Васіль Мікалаевіч расстраляны у 1944
Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Дзмітрый Іванавіч (1922)
Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Канстанцін Аляксандравіч расстраляны за сувязь з партызанамі
Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Мікалай Дзям'янавіч (1927)
Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Міхаіл Аляксеевіч (1939)
Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Пётр Усцінавіч (1928)

АРЛОЎСКАЯ Наталля (1892) – маці партызана Арлоўскага Івана Сідаравіча (загінуў на фронце 15.02.1945) зніклі без вестак (па даных раённай кнігі Памяць – загінулі ў лагеры ў 1944 годзе)

Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Лявон Рыгоравіч (1883) загінуў у 1944 годзе

**22.05.1944 (38 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Апынуліся за кратамі і загінулі: ураджэнец в.Няраўшчына БУДНІК Яўген Апанасавіч (1923) расстраляны у 1943 годзе ў г.Крупкі за сувязь з партызанам; (†) Крупкі; ураджэнец в.Шыялоўка ГРАМЯНОК Іван Станіслававіч загінуў у турме г.Барысаў; ураджэнец в.Клён ЕРМАЛОВІЧ Мікалай Міхайлавіч (1919) расстраляны у 1942 годзе ў г.Барысаў; ураджэнец в.Клён ЕРМАЛОВІЧ Міхаіл Сідаравіч (1879) расстраляны у 1942 г.Барысаў; ураджэнец в.Восава МЕЛЬНІК Уладзімір Яфрэмавіч (1924) расстраляны ў г.Крупкі; ураджэнец в.Дакудава ЦЯЦЕРСКІ Серафім Іванавіч расстраляны ў турме г.Барысаў

**23.05.1944 (37 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Нямецкі нагрудны "Пяхотны штурмавы знак". Заснаваны 20 снежня 1939 г. для пяхоты, а 1 чэрвеня 1940 г. для матарызаваных частак пяхоты. Пехацінцы насілі срэбны клас знака, а матарызаваныя часткі – бронзавы. Знак уручаўся за ўдзел у трох і больш атаках або контратаках, за ўдзел у трох і больш разведвальных аперацыях, за ўдзел у рукапашнай сутычцы. Прымацоўвался на левай нагруднай накладной кішэні. Знак уяўляе сабой вянок з дубовага лісця; па дыяганалі ўяўнага прамавугольніка – вінтоўка (мадэлі К98); уверсе – арол, які трымае ў лапах свастыку. Знак пашкоджаны: у арла адламана галава.

**24.05.1944 (36 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Пачалася карная аперацыя "Стракаты дзяцел", мэта якой – знішчэнне партызан у лесным масіве паміж ракой Начай і в.Радзіца (тэрытарыяльна да вайны уваходзіла ў склад Малажабярыцкаага сельскага Савета) з улікам таго, што тэрыторыя Крупскага раёна ў выпадку наступлення Чырвонай Арміі станавілася прыфрантавой зонай, а ў 3-5 кіламетрах ад названага ляснога масіва знаходзіўся палявы аэрадром Дакудава.



**На фота: знойдзены ў 2005 годзе ў Дакудаве пры апрацоўцы агароду бронзавы "Пяхотны штурмавы знак".**

З дакументаў *(цытуецца па кнізе "Памяць. Крупскі раён"):* Данясенне аб выніках карнай аперацыі «Стракаты дзяцел», 27 мая 1944 г: «*24 мая 1944 г. была проведена давно запланированная операция «Пестрый дятел». Нужно было очистить лесной массив в 3 км юго-западнее Радицы (9557) от бандитов и разрушить находящиеся там предположительно базы бандитов. Операция началась под руководством 825-го батальона ополчения и при поддержке авиачасти из Докудова, зенитной части из Дубешни, 559-го армейского конного парка, истребительного взвода местной комендатуры и местного отряда. Подробный доклад представится возможным дать лишь через 1-2 дня, так как после окончания операции совещание не проводилось и ход всей операции не*

*известен. Необходимо подождать доклад 825-го батальона ополчения.*

*Предварительные результаты: убито 7 чел. противника, 1 пленный, 6 лагерей бандитов разрушено, захвачено 3 лошади и 3 жеребенка, а также 4 винтовки, 1 автоматическая винтовка, 2 пистолета-автомата и 1 пистолет. Во время прочески дер.Радица были захвачены 64 трудоспособных лица и переданы на биржу труда в Крупки.*

*Командир отряда оберштурмфюрер СС*

Данясенне аб выніках карнай аперацыі «Стракаты дзяцел», 31 мая 1944 г.: *«В качестве приложения направляю боевое донесение об операции «Пестрый дятел», которая была проведена 25 мая 1944 г. 825-м батальоном ополчения при поддержке авиасоединения из Докудова, зенитной части из Дубешни, 559-го армейского конного парка, а также истребительных взводов оберквартирмейстера, местной комендатуры (мест.) Крупки и отряда «Крупки».*

В дополнение сообщается: «*После состоявшегося 24 мая 1944 г. совещания участвующие в операции части, а также 38 местных охранников выехали на грузовых автомашинах в мест. Боровые (9554) и оставались там до 1 час. 15 мин., когда был получен приказ о выступлении. Так как в мест. Боровые часто наведываются бандиты, возникла необходимость усиленной охраны. Отряд и охранники охраняли северный выход. Около 22 час. 40 мин. передовой пост сообщил о приближении нескольких повозок, которые остановились на опушке леса. Немецкие части в этом районе не располагались и, таким образом, речь могла идти только о бандитах. Обойти незаметно обоз и захватить его врасплох было невозможно, тем более, что лес был очень густой и ночь ограничивала видимость до 100 м. Возникла опасность, что свои люди обстреляют друг друга. На окраине деревни, на дороге, ведущей в лес, было установлено зенитное орудие калибром 2 см и 2 гранатомета. Местность была освещена ракетами, и зенитное орудие обстреляло лес. Бандиты ответили редкими винтовочными выстрелами и побежали. Несколько залпов из гранатометов было послано им вслед.»*



**25.05.1944 (35 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Ноччу адбыліся асноўныя падзеі карнай аперацыі "Стракаты дзяцел".

З дакументаў *(цытуецца па кнізе "Памяць. Крупскі раён")*: Данясенне аб выніках карнай аперацыі «Стракаты дзяцел», *31 мая 1944 г.* ***(працяг): «****В 1 час. 15 мин. около 20 чел. из гражданского населения мест. Боровые были сведены в отряд и как команда миноискателей должны были идти впереди подразделений, так как надо было ожидать, что дорога могла быть заминирована.*

*Исходные позиции были заняты без каких-либо препятствий в 2 час. 45 мин. В 3 час. 15 мин. началась проческа лесного массива в 3 км юго-западнее Радицы (9557). Дальнейший ход операции описан в приложенном донесении 825-го батальона ополчения. После окончания операции местный отряд и охранники прочесали дер.Радицу, при этом были захвачены, кроме 64 трудоспособных лиц, 2 разыскиваемых отрядом пособника бандитов.*

*В 12 час. 00 мин. прибыли в свои помещения. Боевая готовность и степень участия в операции всех военнослужащих и охранников были одинаковыми.*

*Командир отряда - оберштурмфюрер СС*

**26.05.1944 (34 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Адным з самых вядомых дакудаўцаў з'яўляецца КАСЦЮКЕВІЧ Віктар Піліпавіч. Нарадзіўся ў 1923 г. у в.Дакудава. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1942 г. – сувязны, дыверсійны разведчык партызанскага атрада. З ліпеня 1944 г. - на фронце. Кулямётчык 19-га сп 20-й сд**.** Быў цяжка паранены. З 1945 г. працаваў у калгасе, пасля заканчэння Вышэйшай партыйнай школы



**- інстуктар РК КПБ, з 1960 г. - старшыня калгаса “Бальшавік”. Узнагароджаны ордэнамі У.І.Леніна, Айчыннай вайны 2-й ступені, Чырвонай Зоркі, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Жыў у в.Дакудава. Памёр у 1992 годзе. Пахаваны на вясковых могілках.**

З матэрыялаў Дакудаўскай школы: *“Калі пачалася вайна, яму не было яшчэ і 18 гадоў. У ліпені 1942 года Віктар Піліпавіч становіцца дыверсійным разведчыкам партызанскага атрада. Пасля вызвалення Беларусі з баявымі часцямі Савецкай Арміі кулямётчыкам стралковага палка В.П.Касцюкевіч пайшоў на захад дабіваць ворага. За тры месяцы да Перамогі быў цяжка паранены. Толькі ў маі 1946 года вярнуўся ў сваю вёску. На грудзях зіхацелі ордэны Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны 2-ой ступені, баявыя медалі. Васемнаццацігадовым юнаком са сваім сябрам Іванам Арлоўскім Віктар у 1942 годзе пайшоў у партызаны. Абоіх вайна застала за школьнай партай: не здалі выпускных экзаменаў, не атрымалі атэстат сталасці. Як толькі фашысты прыйшлі ў Дакудава, хлопцы сабралі радыёпрыёмнік і настроілі на Маскву. Слухалі зводкі Саўінформбюро, ад рукі пісалі лістоўкі і распаўсюджвалі іх сярод мясцовага насельніцтва. Аднак, не маючы вопыту падпольнай работы, хлопцы вельмі хутка папалі пад падазрэнне ворагаў: гестапаўцы схапілі іх і адправілі ў Барысаўскую турму. Адтуль ім цудам удалося збегці. У чэрвені 1942 года яны сустрэліся з дыверсантамі групы Г.Я.Сарока, ваявалі ў яго складзе, былі звязаны з групай А.Колесавай”.*

З успамінаў баявых сяброў.

*Г.Я.Сарока: “Нягледзячы на тое, што ўсе дэсантнікі павінны былі прайсці спецыяльную падрыхтоўку, Віктар, не маючы яе, быў прыняты ў групу. Ён адным з першых знайшоў нас пасля прызямлення. Я доўга вагаўся, прыглядваўся да вясковага хлопца і не хацеў яго браць, але, відаць, чуццё падказала, што гэта будзе сапраўдны разведчык – і не памыліўся. Віктар выдатна ведаў мясцовасць, і па гэтаму стаў правадніком у групе: не было такой сцежкі ў лесе , якой бы ён не ведаў. На ліку Касцюкевіча не адзін знішчаны эшалон праціўніка з баявой тэхнікай і жывой сілай фашыстаў. Толькі за два месяцы група пусціла пад адхон 19 нямецкіх цягнікоў. У гэтым вялікая заслуга Віктара: ён лепш за ўсіх ведаў падходы да “жалезкі” . З дапамогай Касцюкевіча была створана агентурная сетка – у групах нават у гарнізонах былі свае “вушы і вочы”.*

Клаўдзія Міларадава (ваявала разам з Героем Савецкага Саюза Аленай Колесавай): *“Дорогой боевой друг Витя, здравствуй! Вместо того, чтобы приехать к тебе, пишу письмо…*

*В эту ночь мы проходили через Докудово. Ты и Ваня Орловский забежали к родным: живы-здоровы, воюем. Шли обратно, обстрелял фрицевский холуй Бельчик. В перестрелку не вступили, группу могли окружить. Забрались в лесную чащу, по очереди поспали… Чуть рассвело, заняли наблюдательный пункт над магистралью. Записывали время прохождения автоколонн, предполагаемый груз. В час дня напротив нас остановилась машина, высыпали фрицы и моментально начали жрать. Подходит только это слово. Помнишь, как немец с остервенением рвал мясо вареной курицы. Кто-то из вас предложил перебить этих зверей, но тогда задание было бы сорвано. Шли параллельно железной дороге, осторожно вслушиваясь в каждый звук. Вдруг … едут телеги , движется тёмная масса людей. Время было упущено, и скрываться нам было поздно. Крикнув «кто идёт», пошли навстречу. Ответом было «свои, всем стоять на месте, один ко мне». Оказалось, это отряд Баранова идёт из-за линии фронта. Ты и Ваня рассказали им, как безопаснее двигать-*

*ся к месту назначения. . . . Витя, а помнишь, как прорывались назад по топкому болоту! Так пришли в Чёрное Осово, где нас встретила группа Лёли Колесовой. Все вместе тогда и вернулись в лагерь. Ох, Витя, сколько всего можно вспомнить, но не на бумаге. Окончилась война, не вернулся домой Ваня Орловский. Давай, Витя, вспомним его добрым словом. Хороший был товарищ. Нет с нами и Лёли Колесовой, и Антона Берёзки. В наших воспоминаниях они остались вечно молодыми, смелыми, задорными. . .*

*Знаешь, Витя, а я фрицам никак не могу простить".*

## 27.05.1944 (33 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)

**Партызанскі рух, пачаўшыся з невялікіх атрадаў, якія былі арганізаваныя адмыслова пакінутымі дзеля гэтага ў тылу ворага людзей з партыйна-савецка-камсамольскага актыву спачатку былі малакольқаснымі, папаўняліся ў асноўным за кошт акружэнцаў. Але пасля разгрому гітлераўцаў пад Масквой у Беларусь сталі закідваць разведвальна-дыверсійныя групы. І вакол іх фармаваліся партызанскія атрады, у якія прыходзілі людзі з ліку мясцовых жыхароў. Мясцовыя жыхары адрознівалі дэсантнікаў і мясцовых партызан па іх паводзінах у дачыненні да людзей.**

**З успамінаў мясцовых жыхароў:** *"Хорошыя былі партызаны "спушчаныя" [маюцца на увазе дэсантаваныя з-за лініі фронту]. Аднойчы бацька трывожны прыйшоў з лесу, дзе працаваў: гатуйце яшчэ ежы –кажа. Праз нейкі час прыйшлі яны, дэсантнікі, у хату. Накармілі іх. Падзяквалі яны. Зыходзячы, папярэдзілі, каб нікому ні-ні, інакш... Можна было і не казаць: самі разумелі, что маўчаць аб іх трэба. Але з сабой нічога не забралі*

*А нашыя мясцовыя. . .*

*Іван Лідзін прыйшоў да Мельніка Арцёма: давай, кажа, паўкажушок. А той: не дам, бо няма. Дык вывялі яго басога на снег. А ён усё роўна – няма, кажа, ідзіце – шукайце. Быў яшчэ Косцік, Габрусёў Іван. У ямку палезлі – дзіцячую адзёжу, усё пабралі.*

*А свае ж былі людзі!.. Навошта так?..*

*У Восаве калі жылі, дык карову забралі. Авечку зарэзалі – забралі!*

*Віця Ціханаў абабраў людзей – а яго сястра Шура на сябе ўсё гэта насіць.*

*Аднойчы жабярыцкі партызан прыйшоў – Рынкоўскі. Прынёс да Валодзі мае туфлі, сукенкі – купі, кажа. А той пазнаў мае рэчы. Дык яны панеслі ў Восава – там прадалі ".*

*"Партызаны-дэсантнікі прыйшлі да нас: бабуля, каб вы далі нам чаго паесці ды на анучы якую матэрыю – просяць. Накармілі мы іх, рушнікі на анучы далі. Падзяквалі, пайшлі с хаты, з сабой больш нічога не ўзялі – а мы прапаноўвалі!*

*А "свойскія партызаны" забіралі і ежу, і адзёжу: жылі па лясах – трэба ж неяк было і ім жыць, бо многія цэлымі сем'ямі ў партызаны зыходзілі. З Восава, напрыклад, Хацкевічы Уладзімір і Іван Яфімавічы разам са сваімі жонкамі. А Хацкевіч Захар Іванавіч – разам з дзвюма дачкамі – здаецца, Надзя і Вольга іх звалі.*

*А кароў пабралі – што партызаны, што немцы. . .".*

*"З Восава кароў, коней у Дакудава на ноч прыганялі, каб ноччу партызаны не забралі".*

*"Што з Восава? – з Клёну прыганялі! А цялушку аднойчы хацелі адабраць – маці абхапіла яе, плача, галосіць: хаця забіце – не аддам. Адстаяла ўсё ж!.."*

**Хадасевіч У.М. (запіс 1994 года, Драніца Валянціна Мікалаеўна):** *"Партызаны ў нас лішняе не бралі. Памятаю, коні патрэбныя былі тэрмінова. 12 канёў узялі, распіскі далі. Спалілі іх (распіскі) людзі, баяліся, што немцы знойдуць і пакараюць за дапамогу партызанам"*

**28.05.1944 (32 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**
Былі звезены ў Германію на прымусовую працу дзяўчаты.

Першая група з Дакудава: ХАДАСЕВІЧ (у замужжы – КАЗЛОЎСКАЯ) Надзея Міхайлаўна; ЛІСАКОЎСКАЯ Антаніна Карпаўна; ПЯТРОЎСКАЯ Яніна; ЦЯЦЕРСКАЯ Ганна; ТАРАЗЕВІЧ Зінаіда Іосіфаўна; ЛУКАШЭВІЧ Зінаіда Мікалаеўна; ХАДАСЕВІЧ (у замужжы – КАНОПКІНА) Ніна Іванаўна; КАСЦЮКЕВІЧ Марыя Піліпаўна; МІЦКЕВІЧ Лукер'я Мікалаеўна.

Першая група з Восава: БУРАЯ Ганна Міхайлаўна; БУРАЯ Любоў Цімафееўна; ТОЎСЦІК Марыя Фядосаўна; ХАЦКЕВІЧ Ефрасіння (Фрося) Захараўна; БУРАЯ Анастасія Рыгораўна *і яшчэ*

ГАЙДУК Зінаіда Іванаўна; ХАДАСЕВІЧ Ганна Мікалаеўна; ХАДАСЕВІЧ (у замужжы – ЕРМАЛОВІЧ) Надзея Аўрамаўна; (?) ГАЙДУК Соф'я (сама з Восава) – забралі, калі нацкія паліцаі забілі Тоўсцік Клаўдзію пры спробе ўцячы ад "хапуна".

З успамінаў мясцовых жыхароў. Міцкевіч Таісія Міхайлаўна, 1931 г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Восава( запісана ў 2009 годзе): *"Адразу пасля пачатку вайны, калі немцы пачалі бамбіць Барысаў, у Восава да родных вярнуліся дзяўчаты, што да вайны жылі і працавалі ў горадзе: Бурая Ганна Міхайлаўна, Бурая Любоў Цімафееўна, Тоўсцік Марыя Фядосаўна, Хацкевіч Ефрасіння (Фрося) Захараўна, Бурая Анастасія Рыгораўна. Калі было загадана вызначыць людзей для адпраўкі на працу ў Германію, дык восаўскі староста вырашыў, што няхай "чыста мясцовыя" застануцца, а няхай забіраюць гэтых пяцёх дзяўчат. Іх і звезлі немцы з вёскі".*

Хадасевіч (у замужжы – Казлоўская) Надзея Міхайлаўна (05.01.1924), ураджэнка і жыхарка в.Дакудава ( запісана ў 2009 годзе): *"У пачатку 42-га мяне арыштаваў прыезджы паліцай па імю Валодзя і мясцовы староста Хадасевіч Павел. Яны асабіста адвезлі мяне ў Крупкі і здалі ў камендатуру. Немцы заахвочвалі такую ініцыятыву: плацілі маркі за кожную здадзеную "галаву".*

**29.05.1944 (31 ДЗЕНЬ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**
Былі звезены ў Германію і дакудаўскія юнакі (магчыма, спіс утрымлівае памылкі): АРЛОЎСКІ Уладзімір Васільевіч; ДРАНІЦА Віктар Дзмітрыевіч; БАБІЦКІ Пётр Сцяпанавіч; САДОЎСКІ Міхаіл Кузьміч; ЛОБАЧ Павел Марцінавіч; ТОЎСЦІК Іван Цімафеевіч (не "Цюшкін", а "Цімохаў"); (?) ХАДАСЕВІЧ Пётр Канстанцінавіч. Гэта першая група, а потым яшчэ: КЛЯЧКОЎСКІ Казімір Данілавіч; КЛЯЧКОЎСКІ Станіслаў Данілавіч; ХАДАСЕВІЧ Павел Уладзіміравіч; КРУКОЎСКІ Васіль Антонавіч *а таксама* МОНІЧ Апанас (з Клёну, пахаваны ў Дакудаве).

З успамінаў мясцовых жыхароў. Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Здаецца, адбылося гэта напрыканцы восені 1942 года. Схапілі немцы шасцярых юнакоў: Арлоўскага Уладзіміра, Драніцу Віктара, Бабіцкага Пятра, Садоўскага Міхаіла, Лобача Паўла і Тоўсціка Івана. Заперлі ў хлеве ў Кляшчонка. Жорстка збівалі іх там. Іхнія маці сабраліся, рыдалі, галасілі – ніхто з катаў іх не слухаў. Звезлі хлопцаў у Германію. А потым ужо прымусілі іх пайсці да власаўцаў: паставілі перад выбарам – або бярэце зброю ў рукі, або пойдзеце на рудні працаваць. Лобач Павел адмовіўся – яго паслалі на нямецкія шахты.*

*Яшчэ да прыходу Чырвонай Арміі прыслалі хлопцы ў Дакудава да сваіх фотаздымак, дзе яны былі апранутыя ў варожую ваенную форму.*

*Калі пасля вайны вярнуліся хлопцы – судзілі іх за здраду Радзіме, далі вялікія тэрміны – да 25 гадоў".*

Лобач Зінаіда Мікалаеўна (1958 г.нар.), жыхарка в.Дакудава – запісана ў 2009 годзе: ***"Свёкар заўсёды вельмі хваляваўся – ажно да слёз – калі прыходзілася расказваць аб мінулым. Не любіў ён успамінаць: цяжка! Але што-нішто за-***



**На фота: Бабіцкі Пётр і Драніца Віктар. Фотаздымак з Сібіры ад жніўня 1954 года, дзе хлопцы адбывалі пакаранне (фотаархіў – Пятроўскага Віктара).**

*помнілася з таго, аб чым ён казаў.*

*Іх было некалькі чалавек, што працавалі на рамонце маста ў Начы. І аднойчы іх прама з працы і забралі. Звезлі ў Германію. Вызвалілі саюзнікі, вярнуўся дадому, а тут сталі правяраць – да і паслалі ўжо на свае работы – у шахту, у Данбас. Там пры выбуху падчас работы яго і кантузіла. Толькі тады вярнуўся на сваю малую радзіму – толькі ўжо без таго здароўя, з якім вымушаны быў яе пакінуць. Заўсёды лічыў, што абыйшліся з ім вельмі несправядліва".*

Пятроўскі Віктар *(на фота)*, ураджэнец в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Па глупству атрымалі хлопцы тэрмін: сфатаграфаваліся юнакі ў нямецкай форме – за гэта ім і далі вялікі тэрмін".*

Кулік (дзявочае прозвішча – Арлоўская) Зінаіда Васільеўна, 1938 г.нар, жыхарка в.Дакудава, родная сястра Арлоўскага Уладзіміра Васільевіча (запісана ў 2009 годзе): *"Забралі немцы хлопцаў, каб пераганалі коней, – ды й не вярнуліся. Асудзілі брата пасля вайны на 25 гадоў, але ў 53-ім годзе, як памёр Сталін, вярнуўся дадому".*





**Арлоўскі Уладзімір (з правага боку – у марацкай форме) падчас адбыцця тэрміну зняволення пад Мурманскам**

**30.05.1944 (30 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Былі ў вёсках не толькі свае партызаны, але і свае паліцаі.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Гмыза (Хадасевіч) Аляксандра Дзям'янаўна *(*1928 г.нар.), ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Бельчык – гэта Барабанаў Рыгор [Іван - ?]. Яго жонка Марыя не была ў хаце, калі прыйшлі партызаны (іх было трое): схавалася побач – пільнавала. А партызаны кінулі ў хату гранату, тая ўзарвалася – хата загарэлася. Так загінулі дзеці Бельчыка – Клаўдзія і Ячык. А Бельчык, якога таксама не было дома, пачуў выбух, убачыў пажар, прыбег, стрэліў і параніў аднаго з партызан – гэта быў Касцюкевіч Віктар Пяліпавіч".*

Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе):

*"Ніякай паліцэйскай формы ў іх не было. Бралі прымусова мужыкоў на ахову (напрыклад, чыгункі). Прапаноўвалі ўзяць у рукі стрэльбы, але ўзялі толькі Бельчык ды й Касцюкевіч Сцяпан. Апошні быў прызваны ў войска адразу, як прыйшлі нашы і загінуў потым на фронце [прызваны 01.07.1944, загінуў 17.04.1945]. А астатнія не бралі зброю. Арлоўскі Фёдар не браў. І калі ахоўваў чыгунку, дык не перашкаджаў партызанам зрабіць дыверсію.*

*Бельчык думаў, што пры немцах жыць зможа лепш, калі пойдзе да іх служыць. Кар'еру хацеў зрабіць. Але дрэннага людзям нічога не рабіў.*

*Быў толькі выпадак – падстрэліў партызана Касцюкевіча Віктара Піліпавіча. Тыя адпомсцілі – кінулі гранаты ў хату: жонка Бельчыка не пацярпела, а дваіх дзетак забіла. Бельчыка ж у хаце не было, і партызаны аб гэтым ведалі.*

*Казалі, што сышоў Бельчык з немцамі і знік невядома куды. Але нікуды ён не знік – жыў у Барысаве: працаваў ахоўнікам аўтамабільнага маста праз Бярэзіну. Толькі некаторыя ягоныя сваякі аб гэтым ведалі, больш ніхто. А аднойчы пасля вайны сам Кулеш, які быў у лагеры за сыноў-патрызанаў, нават сутыкнуўся з ім каля Нацкага сельсавета, але не адразу пазнаў, а калі ўспомніў, выйшаў з сельсавета – таго ўжо не было".*

Міцкевіч Таісія Міхайлаўна (1931 г.нар.), ураджэнка і жыхарка в.Восава (запісана ў 2009 годзе) : *"У Восаве наогул сваіх паліцаеў не было. А з'ўляліся ў асноўным нацкія…"*

З успамінаў мясцовых жыхароў *(матэрыял, апрацаваны ў 1995 годзе)*. Драніца Валянціна Мікалаеўна: *"Бельчык параніў партызана Касцюкевіча Віктара Піліпавіча, калі той наведаў у вёсцы сваіх родных. Каб адпомсціць, шэсць-сем партызанаў прыйшлі ў сяло і кінулі праз вакно ў хату паліцая гранату: загінулі дзеці – Клава і Аляксандр (16 і 17 гадоў)".*

**31.05.1944 (29 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Былі ў кожнай вёсцы і свае старасты, а ў Дакудаве нават два – на кожную абшчыну. КАСЦЮКЕВІЧ Іван Сцяпанавіч – стараста 1-й абшчыны ў Дакудаве (брыгадзір); ХАДАСЕВІЧ Рыгор Яўменавіч – стараста 2-й абшчыны ў Дакудаве; ГРАМЯНОК Іван Станіслававіч – стараста в.Шыялоўка; МАРОЗ Фёдар – стараста в.Няввераўшчына.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава ( запісана ў 2009 годзе): *"Хадасевіч Рыгор Яўменавіч - быў перад акупацыяй калгасным старшынёй. І вось сабраліся людзі на гары (каля яго хаты), каб па загаду немцаў абраць сабе старасту і абралі яго: "быў старшынёй – будзь і старастам"*

**01.06.1944 (28 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Ахвярамі акупацыі можна лічыць і зусім не павінных людзей.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Хадасевіч Анастасія Мінаўна (запіс 1994 года), Драніца Валянціна Мікалаеўна: *"Сыночак мой (было яму пяць гадоў) гуляў на вуліцы з Марусяй Іўлевой ды і патрапіў пад машыну, на якой немцы палонных везлі. Старэйшы мой, Саша, схапіў яго ды і аднёс у шпіталь. На парозе немец затвор ператоргвае – страляць хоча. Ніны Стэпанідзіной маці Сашу ў сарай ўкінула, а дзіцё мне панесла. Ды дзе тамака! Ён і скончыўся тут жа"* [далей па словах Бурага Віктара Віктаравіча - што ен чуў пра гэты выпадак] *"Немцы прыходзілі. Далі грошы, каб устроіць пахаванне".*

**02.06.1944 (27 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

У Германіі ў гэты час знаходзіліся нашыя землякі, што ваявалі ў Чырвонай Арміі і трапілі ў палон: КРУКОЎСКІ Мікалай Антонавіч. Нарадзіўся 01.04.1922 у в.Дакудава; беларус; адукацыя 7 класаўПрызваны ў Чырвоную Армію 17.06.1941; ваенную прысягу прыняў 27.06.19-



41. Стралок 726-га сп (з 06.1941); гарматны 19-га асобнага зенітна-артылерыйскага дывізіёна (з 07.1941); камандзір гарматы 106-й асобнай зенітнай батарэі 271-й сд (з 09.1941); 333-га асобнага дывізіёна знішчальнікаў танкаў (з 08.1942). 25.10.1944 трапіў у палон. Быў накіраваны ў Германію (м.Ганерсдорф) на прымусовую працу. Пасля Перамогі быў ізноў прызваны ў Армію. Дэмабілізаваны 12.12.1946. Вярнуўся ў Дакудава. Працаваў у калгасе.

**03.06.1944 (26 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ) - 07.06.1944 (22 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

З успамінаў мясцовых жыхароў. Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Пасля таго, як у Халопенічах загінуў Пётр Андрэевіч Самцэвіч, спрабуючы сярод сабраных фашыстамі некалькіх соцень яўрэяў знасці і выратаваць ад пагібелі сваю жонку-яўрэйку, яго брат Адам забраў да сябе ў Дакудава яго дзяцей – сваіх пляменнікаў: Яўгена (каля 1930-31), Лявона (каля 1932) і Іну (каля 1936). Але нядоўга дзеці прабылі ў дзядзькі: прыехалі аднойчы паліцаі (не з нашых; адзін, ведаю, быў з Начы), забралі дзяцей і недзе ў лесе забілі. Магчыма, сярод чалавечых рэшткаў, што былі знойдзены нядаўна каля маста на ўскрайку дарогі з Вялікіх Жаберыч на Дакудава, былі і гэтыя дзеткі. А астатнія належалі іншым людзям: можа, паліцаі яшчэ каго дзе захапілі. Жонка Пятра, якая выратавалася пры расстрэле яўрэяў, прыязджала пасля вайны даведацца аб лёсе сваіх дзяцей, даведалася і з'ехала. Больш не з'яўлялася. А Адама Самцэвіча і яго жонку Марыю Міхайлаўну захапілі фашысты пасля таго, як іх дачка Валянціна зышла ў партызаны, і адправілі ў канцлагер. Там яны абодва і загінулі"*



**08.06.1944 (21 ДЗЕНЬ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

З успамінаў мясцовых жыхароў. Міцкевіч Таісія Міхайлаўна, 1931 г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Восава (запісана ў 2009 годзе): *"Некаторыя дакудаўцы вымушаныя былі перасяліцца ў Восава да сваіх родных, бо іхнія хаты ў Дакудаве занялі немцы. Сярод такіх была і Тоўсцік Клаўдзія. Паліцаі забралі некалькі чалавек для адпраўкі ў Германію: маю сястру Марыю, Гаўрылішніну Соню, Бурага Васіля Кузьміча і Клаўдзію – і павялі праз балота па сцежцы ў Дакудава. Клаўдзія кінулася ў сярэдзіне дарогі ў хмызняк, каб уцячы, але яе дагнала куля, і яна загінула"*

**09.06.1944 (20 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

На паўночным ускрайку вёскі Дакудава недзе з вясны 1942 года немцы ўстроілі лагер для ваеннапалонных. Лагер займаў плошчу ў 2-3 гектары. Палонныя жылі ў бараках. Была кухня, бункеры, ахоўныя вышкі. Лагер быў абнесены двайным радам калючага дроту, які мацаваўся на металічных слупах. У лагеры знаходзілася больш за дзве сотні полонных, якіх немцы выкарыстоўвалі на работах па будаўніцтву аэрадрома. Маюцца звесткі аб тым, што сярод ваеннапалонных Дакудаўскага лагера немцы знаходзілі і людзей для навучання ў школе абвера, якая знаходзілася ў Барысаве і рыхтавала агентаў для работы ў савецкім тыле.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Адзін з ваеннапалонных памёр. Астатнія зрабілі труну, крыж і ім дазволілі пахаваць яго на дакудаўскіх могілках. Пахавалі побач з лётчыкам Фацеевым. І яшчэ тры пахаванні – з маленькімі крыжамі, але таксама без прозвішчаў – былі за канаваю на поўнач ад вёскі. Пасля вайны ўзаралі*

*там зямлю пад калгаснае поле. Зараз ужо і не знойдзеш, дзе былі тыя магілы.*

*Палонныя жылі ў голадзе. Немцы зрабілі ў хаце Хадасевіча Агафона Лявонавіча нешта падобнае на гандлёвую лаўку, дзе былі зробленыя палоннымі рэчы – грабянцы, напрыклад, дзіцячыя цацкі, розныя іншыя вырабы. Мясцовыя куплялі што-нішто з гэтага, але не за грошы – за прадукты, хлеб. Неяк я ўзяла хлеб, падышла да лагернай агароджы, заклала рукі з хлебам за спіну і прытулілася да сцяны хлява, каб не было ахоўнікам бачна хлеба. Потым, калі ахова не глядзела ў мой бок, кінула хлеб праз агароджу. Палонныя адразу кінуліся гуртом да яго. Дык прыбег немец, разгарлаўся на іх і давай палкай моцна збіваць. Вельмі моцна – а без ніякай літасці! На ўсё жыццё запомніла я гэта, ды так, што калі б прыйшлося раптам выдаваць дачку замуж за немца, дык ні за што ніколі б не згадзілася!*

*Здаецца, вясной 1943 года вялікая група савецкіх палонных салдат здолела ўцячы з лагера. Было іх каля 30 чалавек. Дапамог ім ажыццявіць уцёкі Хадасевіч Іван Аляксандравіч. Немцы пасля гэтага ў міжраддзе агароджы дадалі яшчэ адзін рад – з кручанага калючага дроту. Кажуць, што агароджа была пад напругай. Да лагера нікога не падпускалі. Аднойчы наш конь падышоў, дык яго застрэлілі. Праўда, наўзамен немцы далі нам другога – кароснівага, і яшчэ карову"*

*Хадасевіч Анастасія Мінаўна(запіс 1994 года), Драніца Валянціна Мікалаеўна: "Пачынаючы ад цяперашняй хаты Хадасевіча Паўла Аляксеевіча ўсе агароды (метраў 500 у дыяметры) былі абнесеныя калючым дротам. Сюды змясцілі палонных. Яны пашыралі аэрадром. У маі 1942 года 27 чалавек зрабілі падкоп і збеглі. Іх не знайшлі."*

*Кунцэвіч Анастасія Адамаўна(запіс 1994 года), Драніца Валянціна Мікалаеўна: "Як гэтыя палонныя жылі? Лагер калючым дротам абгароджаны. Не мыліся, не сцііралі. Ужо блыхаў тамака на зямлі гэтулькі развялося, што побач хата калі згарэла - паўгода мінула, а ідзеш па тым месцу, дзе лагер быў, а яны на вачах на цябе так і скачуць! Узімку толькі згінулі"*

**10.06.1944 (19 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ) - 12.06.1944 (17 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Магчыма, увечары і ноччу адбылася бамбардзіроўка аэрадрома Дакудава савецкай авіяцыяй.

З ваенных мемуараў Костенко Ф.А. «Корпус крылатой гвардии»: *"Чтобы всемерно ослабить авиационную группировку противника в Белоруссии, авиация дальнего действия за шесть суток до начала наступления провела воздушную операцию по уничтожению самолетов на его аэродромах. В течение четырех ночей (в ночь на 13, 14, 15 и 18 июня) ударам подверглись восемь основных аэродромов, на которых базировалось до 60 процентов самолетов 6-го воздушного флота.*

*К началу наступления перед 3-м Белорусским фронтом противник имел около 360 самолетов, в том числе на передовых аэродромах Борисов, Докудово, Балбасово, Могилев до 200 самолетов".*

**18.06.1944 (11 ДЗЕНЬ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ) - 21.06.1944 (8 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Аэрадром Дакудава становіцца месцам знаходжання 3-й групы нямецкага (палка) 10-й штурмавой авіяэскадры непасрэднай падтрымкі войскаў (скарочана – III./SG 10) ў складзе 7-й, 8-й, 9-й эскадрылляў (усяго – каля 40 самалётаў). У складзе групы самалёты FW-190 F-8 і (па некаторых звестках) FW-190 G-3.

Камандзір групы – маёр Хельмут Ляйхт (Helmut Leicht, 18.10.43-02.07.1944). У 1941 г. на Ўсходнім фронце быў цяжка паранены. Загінуў 22.06.1944 г., калі яго FW-190F-8 быў збіты ў раёне Віцебска – таму вышэй прыведзеная дата 02.07.1944 сведчыць проста аб тым, што да гэтага дня яшчэ не быў прызначаны іншы камандзір групы.

## 22.06.1944 (7 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)

Дакладна невядома, калі разам з немцамі пацягнуліся і тыя, хто апасаўся прыходу Чырвонай Арміі за тое, что пры акупацыі дапамагаў фашыстам, але, магчыма, гэта адбывалася у апошні тыдзень да Вызвалення. З немцамі зышлі (звесткі сабрала Драніца Валянціна Мікалаеўна) памагатыя немцаў: БАРАБАНАЎ Рыгор Васілевіч (“Бельчык люты” – як звалі яго ў вёсцы) – паліцай. ХАДАСЕВІЧ Уладзімір Паўлавіч – паліцай. Лёс невядомы. КАСЦЮКЕВІЧ Іван Сцяпанавіч – стараста 1-й абшчыны ў Дакудаве (брыгадзір). Лёс невядомы. МАРОЗ Фёдар – стараста ў в.Няверайшчына. Але зышлі не ўсе. Нехта застаўся, палічыўшы, што не рабіў шкоды для людзей і краіны.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Хадасевіч Васіль Марцінавіч (запісала ў 1994 годзе Драніца Валянціна Мікалаеўна): *“На падвор’і Хадасевіч Вольгі Мікітаўны Стахван жыў. Выслалі яго пры раскулачванні. Дзеці яго па вярбоўцы ездзілі, але вярнуліся і па акрузе рассяліліся: Аляксандр, Васіль, Мікола, Пеця, Павел, Уладзімір. Уладзімір зажыў у сваёй сядзібе. У вайну далучыўся да іх спачатку Аляксандр, потым Васіль. Павел пайшоў на фронт дабраахвотнікам. У Уладзіміра былі дзеці: Васіль, Маруся, Аляксандр, Коля, Вера, Пеця. Сам Уладзімір стаў у вайну старастай, быў нашымі арыштаваны і звезены. Вярнуўся Павел з фронта і стаў жыць.*

## 23.06.1944 (6 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)

На аэрадроме Дакудава базуецца штаб 10-й штурмавой авіяэскадры Schlachtgeschwader 10 (скарочана - Stab/SG 10). Камандзір – падпалкоўнік Хельмут Відэбант (Obstlt Helmut Viedebantt, 12.43 - 07.44). Штабная эскадрылля таксама складаецца з самалётаў FW-190 F-8 і FW-190 G-3.



**На фота: нямецкі штурмавік FW-190G з 500-кілаграмовай бомбай у піке**

1-ы гвардзейскі знішчальны авіяцыйны корпус рабіў спробы блакаваць аэрадромДакудава. З ваенных мемуараў - Костенко Ф. А.

«Корпус крылатой гвардии»: *“Боевая задача, поставленная корпусу [маецца на ўвазе 1-ы гвардзейскі знішчальны авіяцыйны корпус] на первый день операции — 23 июня, — заключалась в следующем. Во-первых, в течение дня летчики корпуса должны были активно блокировать вражеские аэродромы Балбасово, Соколка, Докудово, уничтожать авиацию противника в воздухе и на аэродромах; завоевать и удержать за собой господство в воздухе в полосе наступления 11-й гвардейской и 31-й армий...”*

*16:30 Старшы лейтэнант Чарнавусаў з 63-га гвардзейскага знішчальнага авіяпалка, што будзе праз тыдзень месціцца на аэрадроме Дакудава, збіў нямецкі самалёт-разведчык “хеншэль-126”.*

*Баявыя дзеянні вёў і 102-і аіяцыйны полк дальняга дзеяння (102 ап ДД), які пазней – ў ліпені-верасні – месціўся на аэрадроме Дакудава.*

## 24.06.1944 (5 ДЗЁН ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)

Ураджэнец в.Малыя Жаберычы, разведчык 36-га асобнага танкавага палка (3-я армія, 1-ы

Беларускі фронт) радавы АКАЛОВІЧ Іван Илліч у баях каля сёлаў Канопліца, Пятроўка, Фалевічы, Гарадзец (Рагачоўскі раён Гомельскай вобласці) у перыяд 24-26.06.1944 ліквідаваў трох і паланіў двух варожых салдатаў, вынес параненага афіцэра з падпаленага танка. За свой подзвіг радавы АКАЛОВІЧ быў прадстаўлены да свайго першага Ордэна Славы.

Біяграфічная даведка. *<u>Поўны кавалер Ордэна Славы АКАЛОВІЧ Іван Ілліч</u>. Нарадзіўся 15.06.1922 у*




*в.Малыя Жаберычы ў сям'і працоўнага. Беларус. Адукацыя пачатковая. Працаваў ва ўправе Інькучанскай капальні Якутыі. У Чырвонай Арміі і ў баях з сакавіка 1943.*

*Быў узнагароджаны медалём "За адвагу" за тое, як адзначалася ва ўзнагародным лісце, што "он в пеиод боев с 11 июня по 15 сентября 1943 г. доставлял ценные сведения о противнике». 20.07.44 узнагароджаны ордэнам Славы 3-й ступені (№1-85010). У 1946 дэмабілізаваны ў званні саршыны. Пражываў у г.Тулун Іркуцкай вобласці. Працаваў цесляром. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені, другім Ордэнам Славы 3-й ступені, медалямі. Упамянёны ў кнігах: Навечно в сердце народном, Минск, 1984; Костенков А.Г. Славен их путь боевой. Калининград, 1987; Сомов В.М. Солдатская доблесть. Якутск, 1970; Лобода В.Ф. Солдатская слава. М., 1963. Кн. 1.*

Аэрадром Дакудава становіцца базай для FW-190A з 3-яй групы (III./JG11) ў складзе штаба, 7-й, 8-й і 9-й эскадрылляў пад агульным кіраўніцтвам капітана Хорста-Гюнтэра фон Фасанга (Horst-Günther von Fassong, 05.44 - 01.01.45) – нямецкага аса, які за час вайны атрымаў 132 паветраныя перамогі. Загінуў 01.01.45

**25.06.1944 (4 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Загінуў ураджэнец в.Вялікія Жаберычы МОНІЧ Васіль Кірылавіч (1913; пражываў - Чыцінская вобл.) лейтэнант 813 сп 239 сд; (†) в. Баева, Пскоўскі раён.

***З аэрадрома Орша на аэрадром Дакудава перабазуецца 1-я група 51-й знішчальнай авіяэскадры "Мёльдэрс" (I./JG51) у складзе штаба групы, 1-й і 3-й эскадрылляў. У складзе групы самалёты-знішчальнікі "Месершміт Bf 109G". 2-я эскадрылья з Оршы была накіравана ў Германію. Магчыма, гэта выклікана тымі вялікімі стратамі самалётаў, якія панесла група падчас налёту савецкай авіяцыі на аэрадром Орша яшчэ да таго, як група пачала пералёт на аэрадром Дакудава. Вось як аб гэтым гаворыцца ў нямецкім штабным дакуменце 51-й знішчальнай авіяэскадры:*** *"25.06.44 аэрадром Орша быў падвергнуты моцнаму бамбаванню. Нягледзячы на папярэджанні аб з'яўленні самалётаў праціўніка, ні адна машына не змагла падняцца ў паветра... Камандны пункт эскадры ў выніку прамога трапленне згарэў, і кіраванне часцямі на некаторы час было страчана"*

Камандуючы групы - маёр *Эрых Ляйе (Maj Erich Leie,* 18.1.43 - 28.12.44) – нямецкі ас, які атрымаў 118 (па іншых звестках – 121) паветраных перамог, з якіх 75 - на Усходнім (савецкім) фронце, куды ён як ас-знішчальнік быў пераведзены 18.01.1943. Загінуў 07.03.1945, калі быў збіты ў выніку сутыкнення з падбітым савецкім Як-9 *(магчыма, гэта быў наўмысны таран невядомага савецкага героя-лётчыка, спыніўшага нямецкага аса цаной уласнага жыцця).* Эрых Ляйе змог пакі-

нуць падбіты на вышыні 1500 метраў самалёт толькі тады, калі да зямлі заставалася каля 70 метраў, але яго парашут ужо не паспеў раскрыцца.

11:06/ Фельдфебель 3-й эскадрыллі 51-га знішчальнага авіяпалка (3./JG-51) *Ханс Цахер (Zacher Hans)* збіў савецкі Як-7 у квадраце 05 376. За час вайны Ханс Цахер атрымаў 7 паветраных перамог (першая - 26.03.44, апошняя - 25.08.44). Загінуў 17.10.1944



**Эмблема 11-й знішчальнай авіяэскадры Люфтвафэ**

**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

11:55/ Лейтэнант 3-й эскадрыллі 51-га знішчальнага авіяпалка (3./JG51) *Вальтэр Вэфер (Wefer Walther)* збіў савецкі Як-7 у квадраце 05 375. Нямецкі ас. За час вайны Вальтэр Вэфер

**Эмблемы 51-й знішчальнай эскадры (дывізіі) "Мёльдэрс" JG51**





**Эмблема 1-й (1./JG51 – злева) і 3-й (3./JG51 – справа) эскадрылляў 1-й групы (палка) 51-й знішчальнай авіяэскадры "Мёльдэрс"**









**Эмблема 1-я групы (палка) 51-й знішчальнай авіяэскадры "Мёльдэрс" (I./JG51)**

**Самалёт з эскадрыллі 3./JG51, на якім бачныя эмблемы эскадрыллі і групы (палка)**

атрымаў 44 (па іншых звестках - 60) паветраныя перамогі (першая - 19.06.43, апошняя - 30.06.44). Загінуў 10.04.1945.

12:04/ Лейтэнант 3-й эскадрыллі 51-га знішчальнага авіяпалка (3./JG51) Вальтэр Вэфер (Wefer Walther) збіў савецкі штурмавік Іл-2 у квадраце 05 382.

17:10/ Лейтэнант 1-й эскадрыллі 51-га знішчальнага авіяпалка (1./JG51) *Гюнтэр Ёстэн (Josten Günther)* збіў савецкі Як-9 у квадраце 05 389. Нямецкі ас. За час вайны Гюнтэр Ёстэн атры-



Загінуў 21.12.1944.



***Пікіруючы бамбардзіроўшчык Пе-2. У кабіне размяшчаўся лётчык, штурман-бамбардзір. У штурмана мелася дубляванае кіраванне. Стралок-радыст размяшчаўся ў фюзеляжы.***

17:30/ Лейтэнант 1-й эскадрыллі 51-га знішчальнага авіяпалка (1./JG51) Гюнтэр Ёстэн (Josten Günther) збіў савецкі Як-9 у квадраце 05 442. Аэрадром Дакудава быў падвергнуты бамбёжцы пікіруючымі бамбардзіроўшчыкамі Пе-2.

З ваенных мемуараў Зимина Г. В. "Истребители": *"25 и 26 июня было нанесено несколько ударов по основным вражеским аэродромам. Пикировщики Пе-2 бомбили аэродромы Борисов, Докудово и Орша".*

З ваенных мемуараў Костенко Ф.А. «Корпус крылатой гвардии»: *"25 июня 1944 г. в штаб корпуса поступили две заявки на разведку. Штаб 1-й воздушной армии интересовался аэродромами противника Борисов, Докудово, Орша. На выполнение этой ответственной задачи с аэродрома Коробки вылетело звено Як-9 под командованием гвардии лейтенанта А.И.Борисова. На летном поле Докудово стояло восемь двухмоторных и шесть одномоторных самолетов. Один «мессершмитт» заходил на посадку. Разведчикам не рекомендовалось ввязываться в бой с противником, но на этот раз гвардии лейтенант решил не упускать удобного случая. Он спикировал и атаковал заходившего на посадку фашиста. После первой же очереди «мессер» вспыхнул и врезался в землю.*

маў 178 паветраных перамог (першая - 22.03.43, апошняя - 25.04.45).

17:10/ Фельдфебель 1-й эскадрыллі 51-га знішчальнага авіяпалка (1./JG51) *Вольфганг Оль (Ohl Wolfgang)* збіў савецкі Як-9 у квадраце 05 397. За час вайны Вольфганг Оль атрымаў 9 паветраных перамог (першая - 14.08.43, апошняя - 10.07.44).

Пасля 20:35 лейтэнант А.І.Барысаў на самалёце Як-9 (1-ы знішчальны авіякорпус) збіў "месершміт", які заходзіў на пасадку на аэрадром Дакудава. Самалёт упаў у кіламетры ад аэрадрома.

**26.06.1944 (3 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**
07:55/ Унтэр-афіцэр 8-й эскадрыллі 10-га штурмавога авіяпалка (8./SG 10) Ханд (Hand) збіў савецкі самалёт ЛаГГ-9 у квадраце 95 287
09:20/ Лейтэнант 9-й эскадрыллі 10-га штурмавога авіяпалка (9./SG 10) Штарке (Starke) збіў савецкі самалёт ЛаГГ-9 у квадраце 08 213
11:45/ Обер-фельдфебель 3-й эскадрыллі 51-га знішчальнага авіяпалка (3./JG51) Баройтэр Херберт (Bareuther Herbert) збіў савецкі самалёт амерыканскай вытворчасці "Аэракобра" у квадраце 95 121. Нямецкі ас. За час вайны атрымаў 55 (па іншых звестках – 56) паветраных перамог (першая перамога – у першы дзень вайны: 22.06.1941). Загінуў 30.04.1945
11:47/ Лейтэнант 1-й эскадрыллі 51-га знішчальнага авіяпалка (1./JG51) Гюнтэр Ёстэн (Josten Günther) збіў савецкі самалёт амерыканскай вытворчасці "Аэракобра" у квадраце 96 467

Самалёт "фоке-вульф 190 А-7", яким кіраваў унтэр-афіцэр 12-й эскадрыллі 11-га знішчальнага авіяпалка (12./JG11) Хельмут Хеккес (Helmut Heckes), быў збіты над Дакудавам 26.06.1944 савецкім самалётам ЛаГГ-5 (або Пе-2) адразу пасля ўзлёту. Пілот быў сур'ёзна паранены, шэсць месяцаў правёў у шпіталі і ўжо не змог лятаць да канца вайны. Дзьве дзевяткі (18 самалётаў) савецкіх бамбардзіроўшчыкаў з 35-га гвардзейскага бамбардзіровачнага авіяпалка пад кіраўніцтвам маёра Паўла Іванавіча Свенскага і Леаніда Васілевіча Жолудава здзейснілі налёт на аэрадром Дакудава. Аэрафотаздымкі паказалі, што у выніку налёту быў знішчаны 31 самалёт праціўніка, у тым ліку і чатырохматорны цяжкі бамбардзіроўшчык "фоке-вульф кур'ер". У налёце прымалі таксама ўдзел Ігар Капейкін, маёр Іван Іванавіч Сакалоў (начальнік паветрана-стралковай падрыхтоўкі).

З ваенных мемуараў. Леонид Васильевич Жолудев «Стальная эскадрилья»: *«24 и 25 июня полк наносил бомбовые удары по резервам противника, а 26 получил более ответственное на аэродроме Докудово, расположенном близ города Борисова, враг концентрирует большие силы авиации. Нашему 35-му гвардейскому полку было приказано нанести по нему бомбовый удар, вы-*




**Экіпаж машыны баявой.**
**Злева направа (здымак 1942 г.):**
**Л.В.Жолудзеў, І.В.Капейкин,**
**Н.Ф.Аргуноў.**

вести из строя взлетно-посадочную полосу и уничтожить находившиеся там самолеты.

К моменту вылета погода резко ухудшилась, низкие облака закрыли горизонт, ливневые дожди до предела снизили видимость. В такое ненастье нельзя было рассчитывать на прикрытие, да и дальность полета не позволяла истребителям сопроводить нас до цели и обратно. Нашими союзниками оставались лишь облака, маневр и тактическая смекалка.

На задание вылетели две девятки. Первую повел майор Свенский, вторую – я с майором И.И.Соколовым и Игорем Копейкиным. Иван Иванович Соколов хотя и занимал должность начальника воздушно-стрелковой подготовки, но душой и телом оставался штурманом, отменным мастером бомбового удара. Мы с Павлом Семеновичем Свенским (на фота) заранее договорились выходить на аэродром врага с тыла, чтобы удар был неожиданным. Перед рекой Березиной удалось набрать 800 метров, как раз ту безопасную высоту, с которой можно было сбрасывать бомбы крупного калибра. Шли по-прежнему под нижней кромкой облаков, маскируясь ее неровностями. Выбор направления захода на цель оказался весь-



## БІЯГРАФІЧНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ РАБЕРЫ ІРЫБАРНЕ






**Нарадзіўся 27 верасня 1918 у Баёне (дэпартамент Атлантычныя Пірэнэі). Пасля заканчэння прыватнай авіяцыйнай школы ў лістападзе 1938 года паступіў на дзяржаўную ваенную службу, быў прыняты ў ВПС і ў лютым 1939 года атрымаў кваліфікацыю лётчыка. У верасні 1939 года быў сяржантам авіягрупы, якая базавалася ў Аране (Алжыр). У сувязі з гэтым, ён не меў магчымасці ўдзельнічаць у баявых дзеяннях супраць фашыстаў да перамір'я.** *Пасля паражэння Францыі ў вайне служыў у вішысцкай авіяцыі у Паўднёвай Францыі. Дэзертыраваў адтуль у сакавіку 1943. Яму пашчасціла дабрацца да Паўночнай Афрыкі і далучыцца да руху "Вольная Францыя", а ў кастрычніку ён выказаў жаданне ваяваць супраць фашыстаў на савецкім фронце.*

*07 лютага 1944 года, у складзе чарговай групы французскіх лётчыкаў-добраахвотнікаў, прыбыў у Расію для працягу барацьбы з фашызмам. Асвоіўшы знішчальнік Як-9, ваяваў у складзе 4-й эскадрыллі "Руан" у званні аспіранта. 25 лістапада 1944 года атрымаў званне "малодшы лейтэнант". Як і шматлікія пілоты "Нармандыі", Ірыбарн лётаў з талісманам - маленькім плюшавым медзведзянём. Лётаючы на Як-9 (на фота), ён атрымаў 3 перамогі, а потым яшчэ 4 пасля таго, як полк быў пераўзброены на новыя Як-3. Сваю першую перамогу атрымаў 26 чэрвеня 1944 года, збіўшы FW-190 на поўдзень ад аэрадрома Дакудава.*

*У кастрычніку павялічыў свой асабісты баявы рахунак, знішчыўшы яшчэ адзін "Фоккер" у раёне г.Гумбінен (Усходняя Прусія).*

*ма удачным. На боевом курсе успели все хорошо разглядеть: плотные ряды самолетов, людей, спокойно передвигавшихся по летному полю. От посадочной полосы к стоянке рулил тяжелый четырехмоторный «фокке-вульф» «Курьер».*

*Вражеские зенитчики открыли огонь уже после того, как мы сбросили бомбы. Стреляли они беспорядочно и никакого урона нам не принесли. При отходе от цели на развороте я посмотрел вниз. Сквозь сплошную пелену дыма и пыли пробивались языки пламени от горящих самолетов. Огромный «фокке-вульф» «Курьер» лежал на крыле и дымился. Окончательный итог подвели аэрофотоспециалисты по снимкам, сделанным замыкающими экипажами группы; они установили, что на аэродроме Докудово уничтожен 31 самолет противника. Это был довольно серьезный успех.*

## АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ

**Немцы пакідаюць аэрадром Дакудава: 3-я група 10-й штурмавой авіяэскадры (III./SG 10) пералятае на аэрадром Пакрафанава (Pacrafanowo), 1-я група 51-й знішчальнай авіяэскадры "Мёльдэрс" (I./JG51) – у Баяры (Bojary), 3-я група 11-й знішчальнай авіяэскадры (III./JG-11) – у Кармелаву (Karmelawa).**

**Каля 20:00 французскі лётчык Рабер ІРЫБАРН з авіяпалка "Нармандыя" атрымаў у небе на поўдзень (5 км) ад Дакудава сваю першую паветраную перамогу. Французскія знішчальнікі з палка "Нармандыя, што уваходзіў у склад**

***Усяго, за перыяд сваёй дзейнасці ў складзе палка "Нармандыя - Нёман", Робер ІРЫБАРН знішчыў 7 самалётаў праціўніка, з іх 4 асабіста. Узнагароджаны Ваенным медалем, Ваенным Крыжом (французскія ўзнагароды), ордэнам Чырвонай Зоркі, ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені (савецкія ўзнагароды).***






*У студзені 1945 гады, у перыяд лютых баёў за Ўсходнюю Прусію, Робер атрымаў яшчэ 3 перамогі - 17 студзеня збіў два FW-190 (зноў каля г.Гумбінен), а праз два дні - яшчэ адзін. Талент маладога лётчыка-знішчальніка толькі пачаў раскрываецца. Камандаванне ўскладала на яго вялікія надзеі. Але... ваеннае шчасце часам бывае вельмі зменліва. Свой апошні паветраны бой ён правёў 11 лютага 1945 года, калі група "Якаў" уступіла ў бой з варожымі FW-190 у заходнім рэгіёне Цынтэн (Zinten) у раёне горада Бладау (Усходняя Прусія). Яго самалёт быў падбіты і лётчык загінуў.*

*У родным горадзе Баёне яго імя ўшанавана ў назве «Вуліца Рабера Ірыбарна».*




У 1976 годзе каля дарогі, што вядзе на аэрадром Іткасу (дэпартамент Атлантычныя Пірэнэі, Францыя), усталяваная стэла ў памяць аб Раберы Ірыбарне.

савецкай 303-й знішчальнай авіядывізіі, суправаджалі 50 бамбардзіроўшчыкаў Пе-2 з 125-га гвардзейскага авіяпалка, мэтай якіх была бамбардзіроўка ў раёне Барысава. Было каля 20.00, калі яны сустрэліся з нямецкімі самалётамі-знішчальнікамі. Ірыбарн адкрыў лік сваіх асабістых перамог, збіўшы "фоке-вульф 190" на поўдзень ад Дакудава. Хутчэй за ўсё гэта быў самалёт з ліку тых, што ў гэты дзень базаваліся на аэрадроме Дакудава. Усе савецкія бамбардзіроўшчыкі, экіпажы якіх складаліся з жанчын, дзякуючы прыкрываўшым іх

*"Немцы застигают врасплох Лемара и Гастона. У Лемара повреждено управление, в фюзеляже самолета зияет огромная пробоина. Самолет Гастона поврежден более серьезно. Он переворачивается в воздухе, оставляя за собой дымный след. Мы не спускаем с него глаз. Секунда — и все кончено. Наши сердца наполняются гневом и яростью. Прощай, Гастон! Но бой требует полного напряжения всех сил. Муане и Табюре яростно преследуют двух фрицев. Муане за несколько секунд превращает немецкий истребитель в пылающий факел. Это месть за Гастона!*

***Францускі лётчык з авіяпалка "Нармандыя" Жак Гастон. Пахаваны ў брацкай магіле ў в.Славені Талачынскага раёна.***



***Французскі лётчык дэ Жофр, аўтар кнігі мемуараў аб палку "Нармандыя", у кабіне свайго ЯКа .***



знішчальнікам вярнуліся на базу без страт.

Каля 20:00 французскія лётчыкі з авіяпалка "Нармандыя" вылецелі на блакаванне аэрадрома Дакудава. "Нармандыя" з камандзірам палка на чале нанесла масіраваны ўдар па нямецкім аэрадроме Дакудава. 37 знішчальнікаў Як-9 не толькі праштурмовалі стаянкі але і знішчылі ў паветры шэсць FW190. Усяго за гэты дзень полк зрабіў 72 самалёта-вылеты і збіў 8 варожых самалётаў цаной пагібелі аспіранта Жака ГАСТОНА двух страчаных і двух пашкоджаных "Якаў": нямецкія "фоке-вульфы" яшчэ да таго, як самалёты дасягнулі Дакудава (недзе ў раёне паміж Крупкамі і Талачынам), збілі Як-9, якім кіраваў Гастон, і пашкодзілі Як-9 пад кіраваннем Лямара. Для Гастона гэты бой стаў першым і . . . апошнім – лётчык загінуў.

З ваенных мемуараў. Де Жоффр Ф. "Нормандия-Неман. Воспоминания военного летчика":

*Шалль и Микель носятся над Борисовом [памылка, трэба - над Дакудавам] в головокружительном хороводе. Вот Шалль сбивает один самолет противника, затем Микель подбивает другой. Но фриц, перед ем как признать себя побежденным, пытаясь выйти из крутого виража, стреляет длинной очередью и серьезно повреждает машину Микеля, который приземляется с убранным шасси в районе Орши.*

*Да, это была настоящая потасовка. Жаль одного: 3-я эскадрилья не принимала участия в этом бою. Вот о чем я думаю ночью, когда командир полка сообщает о результатах сегодняшнего боя: семьдесят три вылета, семь сбитых вражеских самолетов. Гастон погиб, но Микель спасся.*

*Дорогой старина Гастон! Война, участия в которой он добивался долгое время, окончилась для него в первом же бою."*

Каля 20:00 французскі лётчык аспірант Марыс

Шаль (Maurice Challe) з авіяпалка "Нармандыя" таксама атрымаў у небе на паўночны ўсход ад Дакудава сваю першую паветраную перамогу, збіўшы FW-190, – яму, як нікому іншаму з французскіх лётчыкаў, патрэбна было як мага хутчэй адкрыць свой асабісты рахунак збітых нямецкіх самалётаў, бо… у яго ужо быў на рахунку збіты самалёт, але… савецкі…

Даведачны матэрыял. Біяграфічныя звесткі аб Марысе ШАЛЕ ***(на фота)***: *Нарадзіўся 18 чэрвеня 1911 года ў Рэймсе. У авіяцыі з 1933 года, служыў на 104-й паветранай базе ў Ле-Буржэ. Марыс і яго родны брат Рэне вырашылі добраахвотнікамі ваяваць на Ўсходнім фронце. З сакавіка 1944 года ваявалі ў складзе палка «Нармандыя». 8 чэрвеня 1944 года ў адным з першых баявых вылетаў ён, па памылцы, атакаваў самалёт суседняга палка Васіля АРХІПАВА, прыняўшы яго за варожы. Архіпаў бачыў, што яго атакуе «Нармандзец» і перадаў аб гэтым па радыё свайму вядзёнаму. Затым спрабаваў калыханнем крылаў даць зразумець, што ён - свой. Але Марыс увайшоў у рызыку і тут жа зрабіў другі заход... Як-9 падарваўся ў паветры. Архіпаў, які меў на сваім рахунку ўжо 12 самалётаў ворага, загінуў.*

**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**



***Лёс Марыса Шаля застаецца невядомы дагэтуль...***



***Савецкі лётчык Васіль Архіпаў, які загінуў па віне Марыса Шаля*** *(злева)*

*Пасля некаторых разважанняў савецкае камандаванне вырашыла не караць французскага лётчыка і пакінуць яго ў палку - даць яму магчымасць загладзіць сваю віну. Марыс Шалль даказаў, што ён - адзін з лепшых пілотаў "Нармандыі". Ён збіў у бязлітасных паветраных сутычках больш за 10 варожых самалётаў. Памылку сваю загладзіў, але маральнай віны з сябе не зняў. Да самога апошняга дня ён вышукваў найболей гарачыя кропкі і як апантаны лез у самую гушчу сутычкі. Ён сапраўды быў добрым лётчыкам - сярэдняга пілота пры той сталай апантанасці, з якой ён лез у пекла, збілі бы ў другім-трэцім бою. Але збіваў ён. Яго ўзнагародзілі ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, потым - 1-й ступені.*

*За дасягнутыя баявыя поспехі быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга - адной з самых ушанаваных франтавікамі ўзнагарод. І пасля кожнага ўзнагароджання Марыс Шаль пачынаў ваяваць яшчэ люцей.*

*Ён загінуў 27 сакавіка 1945 года, незадоўга да канца вайны, калі французы ўжо рэдка неслі страты. Ніхто не ведае, што з ім здарылася, - Марыс не вярнуўся з баявога задання і лічыцца прапаўшым без вестак. Яго брат, Рэне Шаль, які збіў 7 варожых самалётаў, узімку 1945 года быў цяжка паранены і пасля выгаення вярнуўся ў вызваленую Францыю. Лёс жа Марыса Шаля застаецца невядомы дагэтуль...*



Каля 20:00 французскі лётчык аспірант Жак КАЗАНЁЎ (Casaneuve) (на фота) з авіяпалка "Нармандыя" таксама атрымаў у небе на поўдзень ад Дакудава сваю чарговую (чацвёртую над фашыстамі, але першую

| | в строю в начале месяца | | Получено | | | Выбыло | | | | в строю на конец месяца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | к-во | тип | новых | из ремонта | из других частей | от действий врага | по другим причинам | в ремонт | в другие части | к-во |
| I./JG51 | 44 | Bf 109G-6 | - | 5 | - | 14 | 6 | - | 1 | 28 |
| III./JG11 | 2 | Fw 190A-7 | - | - | - | 1 | 1 | - | - | 0 |
| | 26 | Fw 190A-8 | 20 | - | 2 | 2 | 6 | - | - | 40 |
| III./SG10 | 44 | Fw 190F-8 | 3 | 2 | - | 1 | 5 | - | 18 | 25 |
| Stab/SG10 | 4 | Fw 190F-8 | - | - | - | 2 | 1 | - | - | 1 |
| | 1 | Fw 190G-3 | - | - | - | - | - | - | 1 | 0 |

– на савецкім фронце) паветраную перамогу, збіўшы FW-190. Нажаль, гэта перамога аказалася для Жака і апошняй у вайне – у кастрычніку 1944 года ён загінуў.

**Страты самалётаў немцамі**
**ў чэрвені 1944 года:**
*(толькі з тых авіяпадраздзяленняў, што пабывалі на аэрадроме Дакудава)*

III./SG 10 – 6 самалётаў
Stab/SG 10– 3 самалёты
I./JG51– 20 самалётаў
III./JG11 – 10 самалётаў

Такім чынам за месяц страчана 39 самалётаў, з якіх 20 – знішчаны савецкімі войскамі, 19 страчана па іншых прычынах.

**27.06.1944 (2 ДНІ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Штаб 10-й штурмавой авіяэскадры (Stab/SG 10) пералятае на аэрадром Пакрафанава. Гэта было апошняе авіяпадраздзяленне немцаў, якое месцілася на аэрадроме Дакудава.

У гэты дзень (?) ноччу была спалена вёска Дакудава.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Моніч Данута Пятроўна (запісала ў 1995 годзе Драніца Валянціна Мікалаеўна): *"Ужо ў траўні 1944 на хатах сталі ставіць чырвоныя крыжы (паліць: знак). Папярэджаныя чэхамі і добрасардэчнымі немцамі (былі і такія), людзі схаваліся ў лесе. Вярнуліся праз двое сутак: хаты згарэлі, за сялом нямецкі танк захраснуў, а ў сяле савецкія салдаты ў форме".*

Хадасевіч Надзея Ігнатаўна (запісала Драніца Валянціна Мікалаеўна): *"Чэхі нас папярэдзілі: сыходзіце ў лес, спалім вёску ўначы. Мы і сышлі, кароў толькі забралі з пашы. Уначы выгарэла сяло дашчэнту".*

Варановіч Аляксандра Рыгораўна (прадставіла свае ўспаміны сама): *"Раптам у чэрвені 1944 года немцы сталі хутка адыходзіць. З насельніцтвам яны не паспелі расправіцца: уся вёска кінулася - хто ў балота, хто ў лес. Бачым: а вёска ўся гарыць. І тут з'явіліся нашы самалёты. Колькі было*

*радасці! Павылазілі ўсё з гэтых балот. Прыйшлі ў вёску - і няма куды дзецца: адны печы стаяць на "пагарэлішчах". А на агародах засталіся зямлянкі немецкія, мабыць, выкарыстоўваліся імі як склады. Яны аказаліся замініраванымі. Але нашы салдаты размініравалі іх, і людзі сталі ў іх жыць".*

Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Перад самым вызваленнем пахаваліся ўсе ў навакольных мясцінах. Спачатку і мы – на Лысай ніве. З боку Восава наляцелі нашы самалёты. Пралятаючы над намі пачалі страляць. Нам здалося, што па нас. Але ніхто нават паранены не быў. Стралялі, мусіць, усё ж па аэрадроме, які быў у кілометры далей. І пачалі яны бамбаваць аэрадром: сталі ў круг і бамбяць, бамбяць. Адзін такі моцны налёт быў. Вельмі страшна было. Вырашылі перайсці падалей – у Дучкар. А ноччу з'явіліся партызаны. Сярод іх і нашы дакудаўскія былі. Паадымалі ў людзей што-нішто з таго, што людзі з сабой у балота ўзялі. А днём па грэблі грукат – танкі прайшлі. Вёска ў гэты дзень згарэла".*

**28.06.1944 (1 ДЗЕНЬ ДА ВЫЗВАЛЕННЯ)**

Сярод воінаў, што вызвалялі Крупскі раён знаходзіўся і ўраджэнец в.Ерашоўка танкіст 3-га гв. Кацельнікаўскага танкавага корпуса Восіп Паулавіч ЕРМАЛОВІЧ *(на фота)*.



ЕРМАЛОВІЧ Восіп Паулавіч. Нарадзіўся 01.01.1918 г. у в.Ерашоўка Крупскага р-на. У Чырвонай Арміі з 1939 г. Радавы, сяржант. На фронце з чэрвеня 1941 г. Палітрук роты, камісар арт.дывізіёна, батальёна, нам. камандзіра палка па паліт. часткі. У складзе 3-га гв. Кацельнікаўскага танкавага корпуса вызваляў у 1944 г. Беларусь, у тым ліку 28 чэрвеня - Крупскі раён. Ваяваў таксама ў Прыбалтыцы.

**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

Узнагароджаны ордэнам Айчынай вайны 1-й ступені, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, медалём "За баявыя заслугі". Падпалкоўнік. Выйшаў у адстаўку у 1960 г. Жыў і працаваў у г.Краснадар. Памёр і пахаваны ў г.Краснадары.

**29.06.1944 - ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ**

Чырвоная Армія заняла ўсю тэрыторыю сучаснага Дакудаўскага сельсавета. Праз в.Брышча па шашы Масква-Мінск прайшла 3-я гвардзейская танкавая брыгада, 250-ы і 252-і гвардзейскія стралковыя палкі 83-й гвардзейскай стралковай дывізіі. Праз в.Вялікія Жаберычы і в.Дакудава - 247-ы гвардзейскі стралковы полк 83-й гвардзейскай стралковай дывізіі.

Гістарычная даведка. *83-я гвардзейская стралковая Гарадокская дывізія. Сфармаваная 10.04.1943 шляхам пераўтварэння 97-й стралковай дывізіі (другога фарміравання). Удзельнічае ў Беларускай стратэгічнай наступальнай аперацыі, Вільнюскай наступальнай аперацыі, Каўнаскай наступальнай аперацыі, Гумбінен-Гальдапскай наступальнай аперацыі, Інстэнбургска-Кенігсбергскай наступальнай аперацыі, прымае ўдзел у штурме Кенігсберга, узяцці Пілау. Завяршыла баявыя дзеянні на Балтыйскай касе. Падначаленне: 11-я гвардзейская армія, 16-ы гвардзейскі стралковы корпус. Склад: 248-ы гвардзейскі стралковы полк; камандзір палка – (23.08.1943 - 24.07.1944) Сіроткін Дзмітрый Іванавіч. 250-ы гвардзейскі стралковы полк; камандзір палка – (25.08.1944 - 24.03.1945) Басыраў Закуван Мударысавіч, загінуў 24.03.1945. 252-ы гвардзейскі стралковы полк; камандзір палка – (00.06.1943 - 26.02.1945) Яблакаў Васіль Міхайлавіч. Камандзі-*

*ры дывізіі: генерал-маёр Маслаў Аляксей Рыгоравіч (28.02.1944 - 20.07.1944), палкоўнік Сокалаў Аляксей Пятровіч (21.07.1944 - 28.07.1944), генерал-маёр Маслаў Аляксей Рыгоравіч (29.07.1944 - 09.05.1945).*



З ваенных мемуараў. К.Н.Галицкий "В боях за Восточную Пруссию": *"Хочется здесь вспомнить добрым словом Алексея Григорьевича Маслова (на фото). Это был вполне сформировавшийся военачальник, один из храбрейших генералов нашей армии. Он лично не раз водил гвардейцев в атаку, поднявшись во весь свой двухметровый рост. В то же время это был хладнокровный человек, с уравновешенным характером, умеющий разобраться в боевой обстановке и понять главное в бою."*

З успамінаў мясцовых жыхароў. Міцкевіч Таісія Міхайлаўна, 1931 г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Восава (запісана ў 2009 годзе): *"Нашы прыйшлі: усталыя, усе ў пыле. А здалося, што усё неба "развязалася" – стала светлым. А да гэтага цёмна было…"*

Ніводны савецкі салдат не загінуў пры вызваленні тэрыторыі сучаснага Дакудаўскага сельсавета. Не менш за восем гітлераўцаў знайшлі ў гэты дзень сваю пагібель на дакудаўскай зямлі: шасцёра забітых немцаў – каля дарогі з Радзіцы ў Вялікія Жаберычы, прама перад вёскай. Закапалі іх мясцовыя тут жа – на ўскрайку дарогі. Яшчэ два трупы фашыстаў былі на поўнач ад аэрадрома – ляжалі на полі на Лысай Ніве. Іх таксама проста закапалі, але не адразу, а значна пазней.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Забітыя на Лысай Ніве немцы долга ляжалі. Адзін з нашых хлопцаў утыкнуў у зямлю над шыяй аднаго з фашыстаў конскую дугу, быццам бы прыцiснуўшы таго да зямлі. А другі ляжаў побач, з добра расшчыпленай дзеля здзека шырынкай. Ніхто і не падумаў іх закапаць. Доўга так яны ляжалі, разлагацца пачалі. Але патрэбна было поле перад восенню апрацаваць, дык паслалі камсамольцаў закапаць трупы. Тыя і закапалі там жа. А дзе – ніхто ўжо і не ведае дакладнага месца".*

## 30.06.1944 (313 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)

Прапаў без вестак у чэрвені 1944 ураджэнец в.Вялікія Жаберычы МОНІЧ Аляксандр Васілевіч (1916); чырвонафлоцец; у Чырвонай Арміі з 09.1938 (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944).

Палявымі ваенкаматамі пачалася мабілізацыя ў Чырвоную Армію мужчын прызыўнага ўзросту, які на той час пражывалі на тэрыторыі сучаснага Дакудаўскага сельсавета.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Да нашых мужыкоў чырвонаармейцы дрэнна ставіліся: сядзелі, маўляў, пад фашыстам пры сваіх бабах, працавалі на іх, а мы кроў пралівалі – і запісвалі ўсіх без разбору ў войска. Легла сям'я спаць, а калі раніцай прачнулася я – бацькі ўжо няма: забралі ў войска".*

Міцкевіч Таісія Міхайлаўна, 1931 г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Восава (запісана ў 2009 годзе): *"У армію усіх мужыкоў адразу пабралі. Пакінулі толькі старых ды тых, хто маладзейшы за 18 гадоў быў. Засталіся бабы без дапамогі".*

Услед за наступаючай Чырвонай Арміяй рухаліся падраздзяленні чэкістаў (НКУС-НКВД), у задачу якіх уваходзіла абарона тылоў Чырвонай Арміі ад рэшткаў варожых войскаў, ахова асобных аб'ектаў, выяўленне калабарацыяністаў (памагатых акупантаў).

## 01.07.1944 (312 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)

Палявымі ваенкаматамі працягвалася мабілізацыя ў Чырвоную Армію мужчын прызыўнага

**У МНОГІХ ЖЫХАРОЎ ЗАХАВАЛІСЯ ФОТАЗДЫМКІ ЧАСОЎ АКУПАЦЫІ.** Фотаапараты былі толькі ў немцаў: яны па просьбе жыхароў і фатаграфавалі, і рабілі фотаздымкі, а потым давалі людзям. Часам на гэтых фотаздымках былі разам з мясцовымі жыхарамі і самі акупанты. Пасля вызвалення стала небяспечным захоўваць такія сведчанні "неварожых" адносінаў з прадстаўнікамі варожага боку.



**На фотаздымку 1942 года з фотаархіва Хадасевіча Анатоля Уладзіміравіча (в.Нявераўшчына):** бацькі Анатоля – маці на пярэднім плане, бацька – з правага боку, аднавяскоўцы, жыхары з в.Вялікія Жаберычы. І яшчэ дзве асобы: чэх Людвіг са складу акупацыйнага войска (трэці з правага боку) і немец Ганс (пяты з левага боку). Бачна, што над галавой апошняга з фотаздымка выдалена маленькая частка – гэта быў вайсковы галаўны ўбор з выявай, па якой можна было ўстанавіць прыналежнасць чалавека да нямецкага войска, што ў сваю чаргу магло пацягнуць непрыемнасці для сямейства Уладзіміра Хадасевіча. Таму фатаздымак і падвергнуўся "карэкціроўцы". Фота, дарэчы, зроблена не ў хаце (яе займалі акупанты), а ў пуні, дзе вымушана была жыць сям'я. На сцяне – рэлігіяныя выявы.

ўзросту, які на той час пражывалі на тэрыторыі сучаснага Дакудаўскага сельсавета.

Французскія лётчыкі з палка "Нармандыя" меркавалі, што ім давядзецца зрабіць аэрадром Дакудава сваёй базай.

З ваенных мемуараў де Жоффр Ф. "Нормандия-Неман. Воспоминания военного летчика": *"Ходят также слухи, что нас направят в район Докудово, где базируются три советских истребительных авиационных полка… [дадзеных аб знаходжанні на аэрадроме яшчэ двух, акрамя 63 ГЗАП, знішчальных авіяпалкоў знайсці не атрымалася. Вядома, што два астатнія палкі 3-й гвардзейскай знішчальнай авіяцыйнай дывізіі – 32 ГЗАП і 137 ГЗАП – з 27 чэрвеня базаваліся на аэрадроме Саколка. Хутчэй за ўсё французскі лётчык нешта пераблытаў]. В ожидании перебазирования командир полка Пуйяд использует наше непродолжительное бездействие, чтобы уточнить подробности гибели Гастона и Фалетана. Де Панж и Пистрак на По-2 совершают воздушную разведку до самого Докудово.*

**02.07.1944 (311 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**
Палявымі ваенкаматамі працягвалася мабілізацыя ў Чырвоную Армію мужчын прызыўнага ўзросту, які на той час пражывалі на тэрыторыі сучаснага Дакудаўскага сельсавета.

**03.07.1944 (310 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Палявымі ваенкаматамі працягвалася мабілізацыя ў Чырвоную Армію мужчын прызыўнага ўзросту, які на той час пражывалі на тэрыторыі сучаснага Дакудаўскага сельсавета.

Пасля вызвалення акупаваных тэрыторый органы НКУС пачалі праводзіць праверку насельніцтва па выяўленню тых, хто падчас акупацыі супрацоўнічаў з немцамі – з'яўляліся старастамі, паліцаямі, служачымі ў акупацыйных установах, настаўнічаў у школах і інш. Некаторыя людзі былі арыштаваныя (даныя патрабуюць удакладнення):

ВАРАНОВІЧ Рыгор – староста 2-й абшчыны ў Дакудаве. Прызнаны невінаватым; ГРАМЯНОК Іван Станіслававіч – староста ў в.Шыялоўка. Сын – партызан. Бацька арыштаваны органамі НКУС; ХАДАСЕВІЧ Уладзімір Фёдаравіч – староста, сын *(патрабуецца ўдакладненне!)* раскулачанага і высланага селяніна. Арыштаваны органамі НКУС.; КАСЦЮКЕВІЧ Іван Сцяпанавіч.

**04.07.1944 (309 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Палявымі ваенкаматамі працягвалася мабілізацыя ў Чырвоную Армію мужчын прызыўнага ўзросту, які на той час пражывалі на тэрыторы сучаснага Дакудаўскага сельсавета.

63-і гвардзейскі знішчальны авіяполк пакінуў аэрадром Дакудава (пераляцеў на аэрадром Сляпянка пад Мінскам, які стаў базай і для іншых палкоў (напрыклад, 32 ГЗАП) 3-яй гвардзейскай знішчальнай авіядывізіі, якую з 02.06.1944 узначальваў Васіль Сталін.

**05.07.1944 (308 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Палявымі ваенкаматамі працягвалася мабілізацыя ў Чырвоную Армію мужчын прызыўнага ўзросту, які на той час пражывалі на тэрыторы сучаснага Дакудаўскага сельсавета.

**08.07.1944 (305 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Камандаванне 11-ай гвардзейскай арміі (у склад якой уваходзіла 84-ая гв. стралковая дывізія, куды была накіравана большая частка мабілізаваных аднавяскоўцаў) завяршыла распрацоўку плана фарсіравання Немана.

**09.07.1944 (304 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Недзе ў ліпені аэрадром Дакудава стаў да сярэдзіны верасня базай для 102-га аіяцыйнага палка дальняга дзеяння (102 ап ДД). Тэхнічным забеспячэннем дзейнасці палка займаўся 1028-мы батальён аэрадромнага абслугоўвання (БАО 1028). У палку на пасадзе старшага тэхніка служыў М.М.Гарнастаеў, які пакінуў свае вельмі добрыя і інфарматыўныя мемуары: пра дакудаўскі аэрадром у іх гаворыцца найбольш падрабязна.

З ваенных мемуараў. Горностаев Н.М. "Мы воевали на Ли-2": *"Подходим к Докудову. Вьется знакомая по карте железная дорога из Борисова в Смоленск. Снижаемся. Чуть слышная посадка, рулим к стоянкам, подготовленным переброшенными сюда раньше механиками по вооружению. Частые переброски с места на место уже стали привычными, и потому обживаемся на одном аэродроме быстро. Вокруг лежат небольшие болота, зеленеют перелески, рыжеют песчаной почвой поля. На них кое-где зреет лен, картофель, овес. Поблизости находится деревушка, в которой почти не осталось жителей. Лишь изредка увидишь старуху в лаптях или кого-нибудь из ребятишек. Что стар, что мал неразговорчивы, замкнуты. Волей-неволей читаешь в их глазах вопрос: «Как же это могло случиться, что вы ушли, а мы остались здесь, под фашистом?!» Может, и нет того вопроса, но чудится он каждому, жжет душу. В Докудове был вражеский аэродром с грунтовой ВПП, лежащей на большом ровном поле. На краю аэродрома вдоль опушки леса выстроились крепкие бараки, обшитые внутри оргалитом или прессованным картоном с известью. Полы деревянные, высокие чугунные печи готовы служить в любой мороз. В бараках разместились штаб,*

*кухня и столовая, экипажи. Технический состав, как всегда, когда на всех жилья не хватает, обживает палатки и землянки у стоянок машин. Охрану несут техники-мотористы и сержанты из резерва летного состава. Как говорится, жить можно.*

**11.07.1944 (302 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Абсалютная большасць мабілізаваных землякоў трапіла ў 247-ы гвардзейскі стралковы полк (меншая частка – у 245-ы гвардзейскі стралковы полк) 84-й гвардзейскай стралковай дывізіі. На той час парторгам 247-га палка быў Пётр Пшанічны, які амаль штодзень рабіў кароткія дзённікавыя запісы аб падзеях, што адбываліся ў палку.

З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА:

*"11–15 июля. Двигаемся по 35 км в день, вошли в Литовскую ССР. Население зажиточно, настроено враждебно. Организовали штурмовой батальон по форсированию Немана, который от нас в 45 км. Нас начинают бомбить самолеты противника, но на земле он оказывает слабое сопротивление. Литовцы распускают слухи о том, что немцы хотят заманить нас в грандиозный «мешок». Мы настораживаемся, у нас мало боеприпасов, их не подвозят, коммуникации растянуты. Мучительно и тяжело было, когда мы стояли под Москвой; еще более мучительно и опасно, когда мы сегодня находимся в 60 км от границ Восточной Пруссии."*

**12.07.1944 (301 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**

Варожы бамбардзіроўшчык скінуў на ўзлётна-пасадачную паласу аэрадрома Дакудава касеты з мінамі, у выніку чаго частка самалётаў 102-га авіяпалка дальняга дзеяння вымушана была прызямляцца на іншым (запасным) аэрадроме. Некаторыя ваеннаслужачыя з батальёна абслугоўвання былі паранены.

**13.07.1944 (300 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

Загінуў ураджэнец в. Крыштопаўшчына ГОЛУБ Пётр Апанасавіч (1916); радавы; в.Камокі, (†) г.Алітус, Літва

Мабілізаваныя ў Чырвоную Армію землякі прымаюць воінскую прысягу (у прыватнасці будучы кавалер Ордэна Славы Тоўсцік Уладзімір Цімафеевіч, прызваны ў войска напрыканцы чэрвеня, залічаны ў 247 гв.сп 84 сд).

Гістарычная даведка. *84-я гвардзейская стралковая Карачаўская Чырванасцяжная ордэна Суворава дывізія. Сфармаваная 18.12.1942 шляхам пераўтварэння 110-й стралковай дывізіі. З чэрвеня 1944 года ўдзельнічае ў Беларускай стратэгічнай наступальнай аперацыі, у рамках якой вядзе баі ў Віцебска-Аршанскай наступальнай аперацыі і Мінскай наступальнай аперацыі. З ліпеня 1944 года ўдзельнічае ў Вільнюскай наступальнай аперацыі. Удзельнічала ў вызваленні гарадоў Орша, Маладзечна, паспяхова фарсіруе Нёман, вызваляе Алітус. 27.07.1944 адведзеная ў тыл. 31.07.1944 зноў у дзейсным войску. У ліпені-жніўні 1944 года ўдзельнічае ў Каўнаскай наступальнай аперацыі.16.10.1944 перайшла мяжу Ўсходняй Прусіі. У кастрычніку 1944 года ўдзельнічае ў Гумбінен-Гальдапскай наступальнай аперацыі. У 1945 году ўдзельнічае ў Інстэнбургска-Кенігсбергскай наступальнай аперацыі, прымае ўдзел у штурме Кенігсберга, узяцці Пілау. Завяршыла баявыя дзеянні на Балтыйскай касе. Узнагароды і найменні: 15.08.1943 - прысвоена ганаровае найменне "Карачаўская". 21.12.1943 - узнагароджаная ордэнам Суворава 2 ступені. 12.08.1944 - узнагароджаная ордэнам Чырвонага Сцяга . Падначаленне: 11-я гвардзейская армія, 36-ы гвардзейскі стралковы корпус . (27.05.1944) 3-га Беларускага фронта, (13.02.1945) 1-га Прыбалтыйскага фронта, (25.02.1945) 3-га Беларускага фронта - Земландская група войскаў. Склад: 243-ы гвардзейскі стралковы полк; 245-ы*

*гвардзейскі стралковы полк ; 247-ы гвардзейскі стралковы полк ; 186-ы гвардзейскі артылерыйскі полк; 88-ы гвардзейскі асобны самаходна-артылерыйскі дывізіён (88-й гвардзейскі асобны знішчальна-процітанкавы дывізіён); 85-я гвардзейская разведрота; 93-і гвардзейскі сапёрны батальён; 115-я гвардзейскі асобны батальён сувязі; 448-ы (87-ы) медыка-санітарны батальён; 86-я гвардзейская асобная рота хімічны абароны; 739-я (89-я) аўтатранспартная рота; 597-я (82-я) палявая пякарня; 545-ы (83-й) дывізіённы ветэрынарны лазарэт; 754-я палявая паштовая станцыя; 599-я палявая каса Дзяржбанка. Камандзіры дывізіі: Герой Савецкага Саюза (05.05.1945, медаль № 5373) генерал-маёр* ***Петэрс Георгій Барысавіч*** *(камандзір 84-й гвардзейскай стралковай дывізіі 10.04.1943 - 27.10.1944) У Чырвонай Арміі з 1918 года. Скончыў школу чырвоных камандзіраў. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1924 году скончыў Маскоўскую ваенна-інжынерную школу, у 1929 году – Ваенную акадэмію імя М.У.Фрунзе. У канцы 1930-х гадоў быў рэпрэсаваны і звольнены з арміі. З 1941 годы – ізноў у арміі. На франтах Вялікай Айчыннай вайны з ліпеня 1941 года. З ліпеня 1942 года - намеснік камандзіра, з лістапада 1942 па кастрычнік 1944 года – камандзір 110-й стралковай дывізіі, якая з 10 красавіка 1943 года стала 84-й гвардзейскай стралковай дывізіяй. У баях на Нёмане яго раніла ў галаву, але камдыў застаўся ў баях. Аднак неўзабаве яго кантузіла, і прыйшлося ўсё жа з'ехаць у шпіталь. А калі праз два месяцы Петэрс вярнуўся ў 11-ю гвардзейскую армію, яго прызначылі камандзірам 5-й гвардзейскай стралковай дывізіі. З гэтай дывізіяй ён прайшоў да канца вайны. З студзеня 1945 года і да канца вайны – камандзір 5-й гвардзейскай стралковай дывізіі. Узнагароджаны трыма ордэнамі Леніна (19.04.45; 5.05.45; 6.11.47), пяцію ордэнамі Чырвонага Сцяга (9.03.42; 12.03.43; 29.02.44; 03.11.44; 19.11.51), ордэнамі Суворава 2-й ступені (04.07.44), Кутузава 2-й ступені (27.08.43), медалямі. Генерал-маёр* ***Шчарбіна Ян Кузьмі*** *(камандзір 84-й гвардзейскай стралковай дывізіі 28.10.1944 - 09.05.1945).*



Тэхнікі 102-га авіяцыйнага палка дальняга дзеяння вылецелі пад Вільнюс для рамонта Лі-2, які быў пашкоджаны ў баі. Адрамантаваны самалёт вярнуўся на базу ў Дакудава праз суткі.

**15.07.1944 (298 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінулі: ураджэнец в.Крыштопаўшчына МОНІЧ Сцяпан Васілевіч (1903); ураджэнец в.Граніт (Малыя Жаберычы) ЧАРНЯЎСКІ Цімафей Ігнатавіч (1895); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 01.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 07.1944); ураджэнец в.Восава БУРЫ Цімафей Цімафеевіч (1898); радавы 84 сд, прызваны 06.1944.

З дакументаў Крупскага райваенкамата. Из подтверждения: *Мы, нижеподписавшиеся демобилизованные, даём настоящее подтверждение гражданке дер.Осово Бурой Екатерине Савельевне в том, что её муж Бурый Тимофей Тимофеевич находился в 3-м Белорусском фронте 84 стрелковой дивизии 3-го батальона 1 роты 1-го взвода и был убит при наступлении 15 июля 1944 года за рекой Неман. Находились мы вместе с одной деревни. На что и подписуем настоящее подтверждение: Толстик Фёдор Ф., Бурый Павел Т., Хацкевич Андрей Г., Толстик Фома Б., Хацкевич Иван З., Титовец Иосиф И., Толстик Дмитрий И., Толстик Антон И., Хацкевич Григорий И., Бурый Иван Д.*

***На фота: уласнаручныя подпісы ветэранаў вайны – жыхароў в.Восава пад сведчаннем аб пагібелі Цімафея Цімафеевіча Бурага.***



## 16.07.1944 (297 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)

Загінуў ураджэнец в. В.Жаберычы КУЛЕШ Сяргей Яфрэмавіч (1918); радавы 247 сп 84 сд; (†) г.Алітус, Літва.

## 17.07.1944 (296 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)

**Гэты дзень павінен стаць днём памяці землякоў, што не вярнуліся з вайны, – днём жалобы: гэта самы трагічны і крывавы дзень для жыхароў з вёсак сучаснага Дакудаўскага сельсавета – у гэты дзень загінула больш нашых землякоў, чым у любы іншы. На дзевяць чалавек былі адпраўлены пахаванкі!** Ды і сярод тых, хто стаў лічыцца прапаўшым без вестак у ліпені 1944 года, пераважная большасць, здаецца, загінула таксама ў гэты дзень.

**Загінулі:**

- Ураджэнец в.В.Жаберычы БУДНІК Леон Міхайлавіч (1909); радавы 247 сп 84 сд; в.Неманайцы, Алітускі раён, Літва
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Уладзімір Пятровіч (1924); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд; (†) в.Неманайцы, Алітускі раён, Літва
- Ураджэнец в.Дакудава ДРАНІЦА Рыгор Паўлавіч (1898); радавы 84 гв.сд; (†) в.Конюхі, Алітускі раён, Літва
- Ураджэнец в.Прыкленак КАПТУР Міхаіл Канстанцінавіч (1926); радавы 84 гв.сд; в.Німанайцы, Алітускі раён, Літва
- Жыхар в.Дакудава (ураджэнец в.Слоўч Выдрыцкага сельсавета) СІНЯК Іван Сямёнавіч (1915); радавы, 03.07.1944; (афіцыйна прапаў без вестак 07.1944).



- Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Аркадзь Яўсеевіч (1923); радавы; (†) в.Німанайцы Алітускага р-на, Літва
- Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Уладзімір Паўлавіч; радавы 2-й роты 247 сп 84 сд; памёр у медсанбаце; (†) в.Святаларэчча Алітускага р-на, Літва.
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ЧАРНЯЎСКІ Яўген Цімафеевіч (1922); радавы, прызваны 1944 (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944).

Адправілася пахаванка на салдата, які застаўся ў жывых, – гэта ўраджэнец в.Дакудава ЛУКАШЭВІЧ Мікалай Аляксеевіч (1897); радавы, 247 сп, якога палічылі загінуўшым і пахаваным у в.Неманайцы, Алітускі раён, Літва.

З ліста ўраджэнца в.Клён радавога 247 гв.сп 84 гв.сд Сцяпана Васілевіча МАКАРЭВІЧА дадому ад 17.07.1944: *«Здравствуйте, уважаемая семья: Мама, Зина, Соня. Во-первых, сообщаю, я жив, дальше не знаю, очень тяжелое положение, так что ничего не сделаешь, кое-как надо переносить. Затем, дорогая моя семья, пишите мне письмо, как Вы настоящую жизнь проводите, пишите все подробно обо всем, что за это время получилось. Я вас буду хоть редко, но буду поведомлять, пока буду ….. Новости у нас каждую минуту. <u>Толика Лебедок сегодня ранили в руку, и Ивана Устиновича, и Голуб Федора</u>. Ну, пока! <u>Больш писать нельзя</u>. Что про Саню слышно – я только мечтал о Сани. <u>Чернявского Женю убили</u>. Зина и Соня, как для коровы себе соберете кормов? Кобылы, возможно, уже нет у Вас. Охота знать. Всё писать, но не лично говорить. Прощайте пока. С.В.Макаревич. Очень скучно, не охота писать. Адрес: п/п 01929 «П», 4 рота, Макаревич Степан»*

<u>З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА:</u>

***"16–17 июля. Взяли районный центр Литов-***

*ской ССР Алитус. Немец начинает усиливать сопротивление. Население относится враждебно, и есть за что: продолжается мародерство, на приказ командиров не обращают внимания.*

З ваенных мемуараў М.Г.Григоренко "И крепость пала...": *"Командир 5-й гвардейской стрелковой дивизии генерал-майор Петерс [на самой справе ў гэты час Г.Б.Петэрс камандаваў 84-ай стралковай дывізіяй], бывший в молодости сапером, человек смелый, но невыдержанный, еще до полного окончания строительства моста выстроил в очередь к нему всю дивизию. Проводящий непрерывную воздушную разведку противник, конечно, не мог не обнаружить такого скопления войск. На части дивизии и на строящийся мост обрушились бомбы. Дивизия понесла большие потери, понесли потери и саперные части. Мост, еще недостроенный, был частично разрушен, требовалось его восстановление."*

18.07.1944 (295 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)

Загінуў ураджэнец в.В.Жаберычы ХАЕЦКІ Іосіф Адольфавіч (1912); радавы 247 гв.сп; (†) Алітускі раён, Літва.

Адправілася пахаванка на салдата, які застаўся ў жывых, – гэта ўраджэнец в.Восава ТОЎСЦІК Мікалай Барысавіч; радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, якога палічылі загінуўшым і пахаваным у в.Неманайцы, Алітускі раён, Літва.

**19.07.1944 (294 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

**Загінулі:**

- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ДАЛЬЧАНІН Мікалай Сцяпанавіч (1910); радавы 84 гв.сд; (†) в.Німанайцы Алітускі раён, Літва
- Ураджэнец в.Дакудава КРУКОЎСКІ Аляксей Астапавіч (1893); радавы 84 гв.сд; (†) в.Бендры, Алітускі раён, Літва
- Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Іван Іванавіч (1914/1909); радавы 84 гв.сд; (†) в.Бендры, Алітускі раён, Літва.



***ХАДАСЕВІЧ Іван Іванавіч (злева) і Хадасевіч Уладзімір Рыгоравіч*** *(афіцыйна 1926, а ў сапраўднасці 1927 года нараджэння; таксама прызваны ў Чырвоную Армію ў 1944 годзе) (фотаархіў – Варановіч Аляксандра Рыгораўна).*

- Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Сямён Пятровіч (1911/1918); радавы 245 гв.сп 84 гв.сд; (†) в.Бендры, Алітускі раён, Літва

З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА: *"18—19 июля. Наш полк в числе первых форсировал Неман, многих участников этой операции представили к званию Героя Советского Союза.*
*Вот она, могучая и красивая река Неман! Сколько значительных исторических событий совершалось на ее берегах, сама седая история России и Литвы перед нами. Противник бомбит переправы, несем потери. Под бомбежками переправились на западный берег реки. "*

122-і (магчыма, і 119-ы) бамбардзіровачны авіяполк пакінуў аэрадром Дакудава і пераляцеў на аэрадром Рускае Сяло.

**20.07.1944 (293 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Восава ШУРШЭЛЬ Мікалай Іванавіч (1912); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 03.07.1944; быў паранены ў правае бядро з выхадам у пахвіну; памёр (афіцыйна прапаў без вестак 08.1944).

З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА: *"20 июля. Ведем упорные и тяжелые бои. Противник в 6 км от берега закрепился и дальше*

*нас не пускает. Мы потеряли почти весь личный состав, с которым вышли из-под Орши. Получили пополнение, наспех мобилизованных мужчин из освобожденных районов, трусливое и не обстрелянное воинство – от выстрела или шума бегут как зайцы".*

**21.07.1944 (292 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА:

***"21–24 июля. Составлял отчет за прошедший месяц боев: из 395 членов и кандидатов партии потеряли ранеными и убитыми около 200 человек. Таких потерь полк еще не видел, но эти жертвы окупились очищением родной земли. Роем траншеи, окопы — полк перешел к обороне. Передышка перед новой волной наступления".***

**22.07.1944 (291 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**

З ліста ўраджэнца в.Клён радавога 247 гв.сп 84 гв.сд Сцяпана Васілевіча МАКАРЭВІЧА дадому ад 22.07.1944 (гэтае пісьмо стала апошнім – С.В.Макарэвіч прапаў без вестак, як лічыцца – у жніўні месяцы): *«Здравствуйте, мои дорогие дети и мать. Во-первых, я спешу Вас сегодня . . ., я жив, иду на первую линию держать оборону, как судьба подействоваеt. Ничего писать не могу больш, ибо я теперь пред секундой жизни. Живите, живите как можите без меня, в опасном положении я теперь. Затем будьте здоровы, я теперь прикомандирован к пехоте – номер почтового ящика тот самый 01929 «П», почтовый ящик в роте я еще незнаком, теперь я в штабе на формировании, т.е. пополнение части. Дорогие мои детки, мама! Простите мне все; когда меня не будет, старайтесь сами. Ваш С.Макаревич. 22.07.1944».*

**24.07.1944 (289 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Памёр ад раны, атрыманай раней ураджэнец в.Малыя Жаберычы ЛЫЦІН Васіль Іларыёнавіч (1923/1924); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 1944; памёр ад ран (асколачнае раненне левай галёнкі з пашкоджаннем косткі, памёр ад анаэробнай інфекцыі); (†) г.Вільнюс, Літва.

**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

Два гады таму (у 1942 годзе) "Чырвоная Зорка" ("Красная Звезда") надрукавала артыкул вядомага публіцыста ваеннага часу Іллі Эрэнбурга. З газетнага артыкула: *«Мы знаем все. Мы помним все. Мы поняли: немцы не люди. Отныне слово „немец" для нас самое страшное проклятье. Отныне слово „немец" разряжает ружье. Не будем говорить. Не будем возмущаться. Будем убивать. Если ты не убил за день хотя бы одного немца, твой день пропал. Если ты думаешь, что за тебя немца убьет твой сосед, ты не понял угрозы. Если ты не убьешь немца, немец убьет тебя. Он возьмет твоих и будет мучить их в своей окаянной Германии. Если ты не можешь убить немца пулей, убей немца штыком. Если на твоем участке затишье, если ты ждешь боя, убей немца до боя. Если ты оставишь немца жить, немец повесит русского человека и опозорит русскую женщину. Если ты убил одного немца, убей другого — нет для нас ничего веселее немецких трупов. Не считай дней. Не считай верст. Считай одно: убитых тобою немцев. Убей немца! — это просит старуха-мать. Убей немца! — это молит тебя дитя. Убей немца! — это кричит родная земля. Не промахнись. Не пропусти. Убей!»*

**УБЕЙ!**

из трех писем, найден-
немцах:
Рейнгардт пишет лейте-
Шираху:
от нас забрали на завод
русских из Минского ок-
вдо выносливей французов.
них умер, остальные про-
тать в поле и на ферме.
ничего не стоит и мы не
ать от того, что эти звери,
может быть убивают на-
едят немецкий хлеб. Вчера
кой экзекуция двух русских
ые тайком пожрали свято-
дназначавшееся для свиных
своему брату еф-

к себе, надеваются, доводят их го
до безумия, до того, что, умирая,
едят траву и червей а поганый
с тухлой сигарой в зубах философст
«Разве это люди?..»
Мы знаем все. Мы помним все. М
няли: немцы не люди. Отныне слов
мец» для нас самое страшное про
Отныне слово «немец» разряжает
Не будем говорить. Не будем воз
ся. Будем убивать. Если ты не
день хотя бы одного немца, тв
пропал. Если ты думаешь, что
немца убьет твой сосед, ты не п
розы. Если ты не убьешь нем
убьет тебя. Он возьмет твоих и
чать их в своей окаянной Герма
ты не можешь убить немца пу
штыком. Если на твое

**25.07.1944 (288 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 26.07.1944 (287 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ).**
Загінуў ураджэнец в.Восава ХАДАСЕВІЧ Іван Канстанцінавіч (1913); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд; (†) в.Наруны Алітускі раён, Літва.

**27.07.1944 (286 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА:
*"25–27 июля. Занимаем прежние рубежи. Противник сопротивляется. Мы удерживаем плацдарм на западном берегу Немана".*

**28.07.1944 (285 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Загінуў ураджэнец в. Малыя Жаберычы ШУКАЙЛА Іосіф Станіслававіч (1890); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 30.06.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944).

З дакументаў Крупскага райваенкамата. Из подтверждения: *«Мы, нижеподписавшиеся Баран Василий Кузьмич и Акуневич Григорий Григорьевич, жители дер.М.Жаберичи,.. даём настоящее подтверждение в том, что мы призваны в РККА были 30 июня 1944 года в 247 стрелковый полк 81 (памылка! правільна – 84 дывізіі) стрелковой дивизии... Проходя с боями по Барановичской области (?), пришлось 28 июля 1944 года опознать труп нашего односельчанина, призванного совместно с нами Шукайло Иосифа Станиславовича. Последний был смертельно ранен. Последствия, как-то: похороны и пр. нам неизвестны...»*

Из второго подтверждения: *«Я, Акуневич Григорий Григорьевич, 1909 г., житель дер.М.Жаберичи, по существу подтверждаю, что Шукайло Иосиф служил со мной в одном полку и в одном из боёв в июле месяце при форсировании реки Неман был смертельно ранен и когда я подошёл к нему на поле боя, то он лежал без сознания...»*

**29.07.1944 (284 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**
У в.Дакудава адноўлены калгас (канкрэтная дата невядома). Старшынямі калгаса ў 1944 годзе былі: Хадасевіч Аляксей, Парфяновіч (з Неманіцы), Шідлоўскі (чэкіст з КДБ), Круцікаў (з Начы), Васільеў (з ліку 30-тысячнікаў). З канца 1944 і ў 1945 годзе старшынёй быў Хадасевіч Віктар Ціханавіч.

**30.07.1944 (283 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**
З газетнага артыкула *"Дапаможам адбудаваць дамы", І.Іваноў, "Голас калгасніка", г.Крупкі, 1947, 15 чэрвеня: "Адступаючы пад магутнымі ўдарамі Савецкай арміі, нямецкія варвары знішчалі на сваім шляху ўсё, што пападала пад рукі. Выгнаўшы насельніцтва з хат, яны запалілі вёску Дакудава. З вёскі, у якой налічвалася 83 хаты, ні адной не засталося ад пажараў. Пагарэлі ўсе дваравыя і грамадскія пабудовы. І калі тэрыторыя была вызвалена доблеснымі воінамі Савецкай Арміі ад нямецкіх за-хопнікаў, на месцы былой вёскі жыхары ўбачылі толькі папялішчы. Нямала знішчылі нямецкія фашысты ў гэтай вёсцы і мірных жыхароў. Каб адпомсціць фашысцкім катам за пралітую кроў нявінных людзей, за ўсе прычы-неныя насельніцтву мукі і гора, у баявыя рады сталі усе мужчыны гэтай вёскі. На франтах яшчэ грымелі гарматныя раскаты, ішлі крывавыя баі, а савецкі урад ужо клапаціўся аб сваіх людзях, якія пацярпелі ад нямецкай акупацыі. Дзяржава выдала гра-шовую дапамогу жыхарам вёскі Дакудава больш паўмільёна рублёў, адпусціла бясплатна каля трох тысяч кубаметраў лесаматэрыялу. Людзі, якія пакутавалі у зямлянках, атрымаўшы ад дзяржавы такую велізарную да-памогу, прыступілі да будаўніцтва новых дамоў."*

**31.07.1944 (282 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**
Прапалі без вестак у ліпені 1944:
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Мікалай Аляксандравіч (1926); радавы, прызваны 30.06.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)

•Ураджэнец в.Восава БУРЫ Сцяпан Раманавіч (1902); радавы, прызваны 01.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)

•Ураджэнец в.Восава КУР'ЯН Іван Рыгоравіч (1894); радавы, прызваны 05.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)

•Ураджэнец в.Вялікія Жаберычы ПАПОК (ПАПОЎ) Фёдар Піліпавіч (1913); радавы, прызваны 03.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)

•Ураджэнец в.Восава ТОЎСЦІК Андрэй Данілавіч (1908/1903); радавы, прызваны 01.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)

•Ураджэнец в.Восава ТОЎСЦІК Андрэй Іванавіч (1899); радавы, прызваны 01.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)

•Ураджэнец в.Восава ТОЎСЦІК Антон Адамавіч *(фота)* (1911); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944)(фотаархіў – Буры Віктар Віктаравіч)



•Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Аляксей Васілевіч (1896); радавы, прызваны 04.07.1944; (†) д.Малькау, Гданьскае ваяводства, Польшча

•Ураджэнец в.Брышча ХАДАСЕВІЧ Дзмітрый Фёдаравіч (1922); радавы (афіцыйна прапаў без вестак 12.1944)

•Ураджэнец в.Нявераўшчына ХАДАСЕВІЧ Пётр Фёдаравіч (1916/1902); радавы (афіцыйна прапаў без вестак 08.1944)

•Ураджэнец в.Нявераўшчына ХАДАСЕВІЧ Сяргей Іванавіч (1910); радавы (афіцыйна прапаў без вестак 08.1944)

•Ураджэнец в.Вялікія Жаберычы ХАЕЦКІ Казімір Адольфавіч (1923); радавы, прызваны 03.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 09.1944)

**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

**01.08.1944 (281 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**

Жыхары, якія вярнуліся ў Дакудава, рабілі спробы наладзіць мірнае жыццё. Вёска была спалена. Жылі ў зямлянках, у пабудовах, што засталіся на месцы лагера для ваеннапалонных: бункерах, дзотах, бараках.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Лапарэвіч (Дайнека) Ніна Феафілаўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *“Пад жыллё прыстасавалі круглы бункер памерам каля шасці метраў, сцены з нейкага кардону былі зробленыя. А яшчэ ў лагеры дзот быў: таксама круглы, сцены з танкамера – адна вонкавая, адна ўнутраная, а ў прасценку таўшчынёй каля метра зямля была засыпаная; яшчэ некалькі байніц было для абстрэлу – гэты былі “вокны”, дзверы былі адны. А вось печы не было: людзі самі зрабілі невялікую пячурку”.*

Гмыза(Хадасевіч) Аляксандра Дзям'янаўна (1928 г.нар.), ураджэнка і жыхарка в.Дакудава - запісана ў 2009 годзе: *“Падчас вайны жылі ў Восаве: спачатку прытуліліся ў Мельнік Аляксандры, а потым перайшлі ў пустую хатку там жа ў Восаве. Як прыйшлі нашы, вярнуліся ў Дакудава, занялі барак для ваеннапалонных. Не, не вялікі ён быў – як зямлянка”.*

**02.08.1944 (280 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 04.08.1944 (278 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в. Прыклёнак ГОЛУБ Рыгор Данілавіч (1912/ 1909); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, *(па раённай кнізе “Памяць. Крупскі раён” загінуў 02.08.1944)*

<u>З “Дзённіка апалчэнца” Пятра ПШАНІЧНАГА:</u>

*“4 августа. Наступали. Вели тяжелые бои. Противник укрепился на возвышенностях, а мы наступаем с низменностей. Косоприцельный и фланговый огонь режет наши ряды. <u>В ротах по 15–18 человек</u>.*

*К 15 часам 3-й батальон потерял весь свой командный состав, был атакован тремя немецкими танками; противотанковых средств у нас не было. И вот случилось то, что случилось — малоустойчивые бойцы из нового пополнения, еще не обстрелянные, начали отходить под воздействием пулеметно-пушечного огня противника, а затем один батальон побежал. Мы, парторг 3-го батальона, комсорг и я, останавливали людей и водворяли на место. Через час положение было восстановлено".*

**05.08.1944 (277 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА:
*"5 августа. Генерал, командир дивизии дал шифровку Военному Совету 11-й армии, чтобы меня и зам. командира полка по политчасти Богача снять с работы, разжаловать и отправить рядовыми в штрафную роту из-за того, что не обеспечили высокий наступательный дух солдат и допустили отход батальона с занимаемых рубежей, то есть уход с поля боя".*

**06.08.1944 (276 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Загінуў ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Мікалай Іванавіч (1913); радавы 243 гв.сп 84 гв.сд; (†) каля м.Кальварыя, Літва.

**07.08.1944 (275 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Загінуў ураджэнец в. Дакудава ДРАНІЦА Васіль Дзмітрыевіч (1906); радавы 174 сд; (†) воз. Серва Сувалкаўскае ваяводства, Польшча.
З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА:
*"7 августа. Прибыла комиссия из политотдела 11-й армии для расследования фактов, изложенных в шифровке. В результате — дело на меня передать в ДПК, дивизионный партийный контроль, для привлечения меня к партийной ответственности за то, что сразу, в партийном порядке, не реагировал на произошедший отход батальона с исходных рубежей."*
13.08.1944 (269 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)
З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА:
*"13 августа. Я и Богач вызваны в политотдел 11-й гвардейской армии для личного объяснения с полковником Романовым. Он сказал следующее: «Ваш генерал отказался от своего предложения о снятии вас с работы, он хотел, чтобы мы вас только пожурили». Этим дело и кончилось, а нервов потрепали достаточно".*

**14.08.1944 (268 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 15.08.1944 (267 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Загінуў ураджэнец в.В.Жаберычы МОНІЧ Аляксандр Мікалаевіч (1917); радавы, партызан з 18.03.1944; яго аднапалчанін Бабіцкі Кароль паказваў, што бачыў А.М.Моніча 15.08.1944 забітым; начальнік штаба часці сцвярджае, што А.М.Моніч выбыў па раненню ў шпіталь. На паседжанні Крупскага РАНА прынята рашэнне аб адкрыцці ў в.Дакудава школы.

**16.08.1944 (266 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Загінуў жыхар або ўраджэнец в.Малыя Жаберычы БАЗДУЧАН Панцялей Мацвеевіч; радавы; (†) в.Віентам Калварыйскі р-н, Літва.

**20.08.1944 (262 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**
Прапалі без вестак (або загінулі) – не вярнуліся з разведкі каля в.Падмароўск:
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Іван Рыгоравіч (1924); радавы 16 гв.сд; прапаў у Кальварыйскім раёне
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ХАДАСЕВІЧ Васіль Уладзіміравіч (1913); радавы 16 гв.сд прапаў у Кальварыйскім раёне
- 21.08.1944 (261 дзень да Перамогі) - 22.08.1944 (260 дзён да Перамогі)
- Загінуў ураджэнец в.Малыя Жаберычы

АШКЕР Павел Аляксеевіч (1905); радавы 27 гв.сп 11 гв.сд; (†) в.Саусенкі, Вілкавішкскі р-н, Літва.

**23.08.1944 (259 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

З "Дзённіка апалчэнца" Пятра Пшанічнага:

*"23 августа. Нам дали большой срок до 10 октября для тщательной боевой подготовки. После чего, обученные и отдохнувшие, начнем наступать. Будем усиленно готовиться".*

**24.08.1944 (258 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 25.08.1944 (257 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА:

*"25 августа–1 сентября. Получены директивы о том, что наш учебный процесс увеличивается еще на один месяц, то есть до 10 октября. Усиленно готовим людей к боям. Ежедневная учеба в поле, приближенная к боевым условиям, – тактика стрельбы, изучение материальной части оружия, политическая подготовка".*

**26.08.1944 (256 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 29.08.1944 (253 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Памёр ураджэнец в.Вялікія Жаберычы ПАТАПАЎ Барыс Аляксеевіч (1900); радавы 494 сп 174 сд, прызваны 1944; памёр ад дызентэры (захварэў 28.08.1944) ў інфекцыйным шпіталі; (†) в.Копцава.

**30.08.1944 (252 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Крыштопаўшчына (пражываў – Вінніцкая вобласць) МОНІЧ Сяргей Андрэевіч (1916); тэхнік-інтэндант 2 ранга 764 сп 232 сд; (†) с.Фюляхаза, Рэгінская валасць, Паўночная Трансільванія (сучасная Румынія)

**31.08.1944 (251 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў у жніўні 1944 жыхар в.Малыя Жаберычы (ураджэнец в.Кузубец, Хацюхоўскі сельсавет) БАГАДЗЯЖ Цярэнцій Іосіфавіч (1901); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 03.07.1944; загінуў пры выбуху міны.

**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

Прапалі без вестак у жніўні 1944: ураджэнец в.Малыя Жаберычы ЛЫЦІН Васіль Іванавіч (1925); радавы, прызваны 03.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 10.1944). Ураджэнец в.Клён МАКАРЭВІЧ Сцяпан Васілевіч (1895); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 06.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 11.1944) *Гэта ягоныя поўныя трагічнага прадчування лісты дадому прыводзіліся вышей (17 і 22 ліпеня).* Ураджэнец в.Крыштопаўшчына МАРЦЫНКЕВІЧ Пётр Іванавіч (1909/ 1920); радавы, прызваны 01.07.1944. Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Ягор Якаўлевіч (1903); радавы, прызваны 04.07.1944

**01.09.1944 (250 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

У хаце Грамянок Алены (в.Нявераўшчына) ў вялікай комнаце адкрылі школу. Збіралі па людзях лавы, сталы. У школу запісалася 120 чалавек. У першы клас прыйшло 42 вучні (1934-1936 гадоў нараджэння). Вучыліся ў дзьве змены. Бумагу здабывалі ў вайскоўцаў, выпрошвалі шпалеры ў родзічаў з навакольных незгарэўшых вёсак.

Першым дырэктарам стала Хадасевіч Раіса Фёдараўна. Настаўнікі: *Хадасевіч Тамара Міхайлаўна (вучылася потым завочна), Хадасевіч Надзея Ігнацьеўна, Хадасевіч Надзея Пятроўна* (у ролі ваенкіраўніка выступала да ліквідацыі пасады ў 1947 годзе).

**10.09.1944 (241 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**

Прапаў без вестак ураджэнец в. Клён КРУЧОК Сямён Дзмітрыевіч (1911); радавы, прызваны 03.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 05.1945; дата 10.09.1944 дадзена па кнізе "Памяць. Крупскі раён").

**14.09.1944 (237 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

У сярэдзіне верасня 102-гі авіяцыйны полк далёкага дзеяння пакідае аэрадром Дакудава, на якім базаваўся больш за два месяцы, і пералятае на новае месца

**16.09.1944 (235 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец (?) в. Дакудава (прызваны - Плешчаніцкі райваенкамат) ХАДАСЕВІЧ Іван Сцяпанавіч (1913); капітан, афіцэр штаба сувязі 93 ск, у Чырванай Арміі з 11.1939.

Пачалася падрыхтоўка 84-й гвардзейскай стралковай дывізіі (84 гсд), у якую ўваходзіў 247-ы гвардзейскі стралковы полк, дзе служыла большая частка нашых землякоў, да будучага наступу на Усходнюю Прусію. Па плану 84-й дывізіі адводзілася рашаючая роля ў прарыве варожай абароны на ўчастку 36-га гвардзейскага стралковага корпуса.

**17.09.1944 (234 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Падрыхтоўка да будучага наступу на Усходнюю Прусію вялася з улікам асаблівасцей варожай абароны перад фронтам 84-й гсд.

З ваенных мемуараў. К.Н.Галицкий "В боях за Восточную Пруссию": *"К началу нашего наступления немецкий оборонительный рубеж вдоль государственной границы был оборудован и представлял собой организованную систему укрепленных позиций, включавших долговременные огневые точки (дот) и убежища, надолбы, противотанковые рвы, проволочные и другие противопехотные, а также противотанковые препятствия. Дот состоял из блиндажа с двумя – пятью железобетонными казематами (для размещения личного состава, боеприпасов и продовольствия), колодца, выводящего на поверхность земли и прикрытого сверху стальным колпаком с тремя – шестью амбразурами для пулеметов и орудий. Диаметр стального колпака был равен 2,5 м, высота – 2,8 м, толщина стены – до 30 см, общий вес – около 53 т. Толщина наружных стен дота достигала почти 2 м, внутренних – 1 м. Перекрытия покрывались железобетоном толщиной до 1,2 м и земляным слоем около 50 см. Все сооружение углублялось в землю на 6–8 м и на поверхности возвышалось до 1 м, что облегчало его маскировку. Прочность стен и покрытия позволяла дотам выдерживать попадания нескольких снарядов 203-мм калибра. Численность гарнизона дота зависела от числа амбразур и колебалась от 15 до 20 человек. В 15–20 м впереди дотов были отрыты окопы для круговой обороны с пулеметными площадками и стрелковыми ячейками, прикрытые проволочной сетью на низких металлических кольях. Перед дотами и между узлами сопротивления прохо-*





*дили позиции полевой обороны шириной 400–500 м, обычно состоявшие из двух линий траншей. В отличие от остальных оборонительных рубежей противотанковые и противопехотные препятствия здесь в основном были созданы между первой и второй траншеями. По углам траншей либо в 15–20 м впереди них сооружались железобетонные стрелковые ячейки, одежду крутости которых составляли железобетонные кольца высотой 1,5 м, диаметром 1,2 м и толщиной стен до 20 см. “*

**21.09.1944 (230 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

З успамінаў мясцовых жыхароў. Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *“Прыйшла пара калгасныя палі апрацоўваць: мужыкоў няма, а плошча вялікая – дык падлеткі баранавалі: кожны браў шэсць коней, чапляў да кожнага па баране - і так і кіраваў адразу ўсімі: каб больш апрацаваць”*

**25.09.1944 (226 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 30.09.1944 (221 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**

Прапалі без вестак у верасні 1944:

- Ураджэнец в.Дакудава АРЛОЎСКІ Дзмітрый Іосіфавіч (1894); прызваны 15.07.1944
- Ураджэнец в.В.Жаберычы БУДНІК Уладзімір Іванавіч (1907); радавы, прызваны 03.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 11.1944)
- Ураджэнец в.Вялікія Жаберычы (прызваны – Смаленскі райваенкамат) ДЫКА Гаўрыла Васілевіч (1909); радавы
- Ураджэнец в.Ярашоўка КАВАЛЕНКА Яфім Васілевіч (1922); радавы, прызваны 15.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 11.1944)

**08.10.1944 (213 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

З “Дзённіка апалчэнца” Пятра ПШАНІЧНАГА:

*“8 – 12 октября. Работаем напряженно, готовим полк к боям. Все говорят, что бои ожидаются тяжелыми. Народ возбужден, требует быстрейшего наступления”.*

**09.10.1944 (212 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Вайна палыхала ўжо далёка за межамі Беларусі, а працягвала забіраць людзей і тут – у мірным жыцці.

З успамінаў мясцовых жыхароў. Гмыза(Хадасевіч) Аляксандра Дзям’янаўна (1928 г.нар.), ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *“Брат Коля пайшоў аднойчы за дровамі – ссекчы слуп, які стаяў у центры барака-зямлянкі на тэрыторыі былога лагера для ваеннапалонных. А мы і не ведалі, куда пайшоў і навошта. Ноч і дзень шукалі. І толькі праз суткі зайшлі ў тую праклятую зямлянку. Бачым: абвалілася столь і зямля, што зверху была, а ўнізе з-пад зямлі толькі локаць тырчыць. А вопратка побач ляжала: скінуў, мусіць, каб зручней тапаром махаць было. Сам жа яшчэ малы Коля быў – усяго толькі 13 гадоў. Не куляй, але і яго забіла вайна… Не было б яе – і жыў бы хлопчык…”*

**10.10.1944 (211 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ) - 11.10.1944 (210 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

12:30. Аддадзены баявы загад па 11-й гвардзейскай арміі (камандуючы – Галіцкі), у якім выкладаліся задачы войскам (у тым ліку і для 84-й гвардзейскай стралковай дывізіі, дзе служыла большая частка нашых землякоў) на прарыў варожай абароны і наступ у напрамку г.Гумбінен на Усходнюю Прусію, да мяжы якой заставалася каля 17 кіламетраў.

**12.10.1944 (209 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

З “Дзённіка апалчэнца” Пятра ПШАНІЧНАГА:

*“12 октября передвинулись на новый участок, западнее г.Мариамполя, в 8 км от границ Восточной Пруссии. Отсюда будем наносить*

*главный удар. В прорыве будет участвовать вся 11-я гвардейская армия, отдельными дивизиями своих корпусов. Так, в 36-м корпусе из трех дивизий в первый день прорыв будет осуществлять наша 84-я гвардейская стрелковая дивизия, а в ней наш 247-й гвардейский стрелковый полк, остальные — 243-й, 245-й стрелковые полки будут играть вспомогательную роль. Следовательно, мы будем осуществлять самую сложную и трудную задачу.*
*План наступления таков: мы со своим полком делаем прорыв по фронту на протяжении 800 м. Средства усиления и поддержки следующие – один наш полк поддерживают 4 артиллерийских гаубичных и пушечных полка, один полк самоходных орудий, один полк танков, два дивизиона «катюш», один полк сверхмощных минометов 150 мм, у которых один снаряд-мина весит 48 кг и имеет страшную разрушительную силу фугасного действия. Невиданная до сих пор плотность огня.*
*На участке дивизии будут действовать 800 самолетов; три залета – стало быть, 2400 самолето-вылетов. При таких средствах мы, безусловно, прорвем оборону противника, но выйдем ли мы к границе и, самое главное, за границу, сказать трудно".*

**15.10.1944 (206 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Прыклёнак (або М.Жаберычы) БАЧЫШЧА Іван Еўдакімавіч (1917/1914); радавы 3 сб 247 гв.сп 84 гв.сд, старшы тэлефаніст, прызваны 07.07.1944, Бягомльскі райваенкамат; камсамолец; верагодна, быў паранены 14.10.1944, памёр у медсанбаце; (†) м.Акелайцы Марыямпольскі р-н, Літва.

Увечары камандаванне 3-га Беларускага фронту аддала загад распачаць на наступны дзень Гумбіненскую наступальную аперацыю.

**16.10.1944 (205 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Пачалася Гумбіненская наступальная аперацыя, у якой вызначальную ролю адыграла 11-ая гвардзейская армія.

07:00 – пачалі дзейнічаць разведвальныя атрады дывізій першага эшалона; 09:30 – пачалася артпадрыхтоўка да наступу; 11:00 – за паўгадзіны да заканчэння артпадрыхтоўкі савецкая авіяцыя пачала бамбаваць варожыя пазіцыі; часці першага эшалона пачалі рух на зыходныя атакуючыя пазіцыі11:30 – войскі перайшлі ў атаку; 12:30 – узята апошняя (трэцяя) лінія варожых траншей; 18:00 – 84-я гсд пачала бой за мястэчка Кугінішкі.

Загінуў ураджэнец в.Прыклёнак ХАЕЦКІ Пётр Францавіч (1904); радавы 144 сд, прызваны 28.07.1944 (247 гв.сп 84 гв.сд); (†) раз'езд Альвіта, Кібартэскі р-н, Літва.

У час прарыву варожай абароны ўраджэнец в.Малыя Жаберычы АКАЛОВІЧ Іван Ілліч першым уварваўся ў траншэю і ў рукапашным баі знішчыў трох гітлераўцаў. Тады ж Іван быў паранены, але застаўся на полі бою і, як адзначалася ва ўзнагародным лісце, *"одним из первых вышел на государственную границу с Восточной Пруссией"*. За гэты подзвіг ён быў спачатку прадстаўлены да ордэна Чырвонага Сцяга, але пры зацвярджэнні камандуючы бронетанкавымі вайскамі 11-й гвардзейскай арміі зрабіў прыпіску, што І.І.Акаловіч дастойны, каб яго ўзнагародзілі ордэнам Славы 3-й ступені. Так Іван Ілліч АКАЛОВІЧ атрымаў другі ордэн Славы.

З "Дзённіка апалчэнца" Пятра ПШАНІЧНАГА:
*"16 октября. День генерального наступления. Задача: подойти к границе Восточной Пруссии и перейти ее, вторгнувшись в пределы Германии. А я в связи с ухудшающимся состоянием здоровья получил приказание отправиться в госпиталь, находящийся в 3 км от передовой.*

*Слышен сплошной гул нашей артиллерийской подготовки. Пробыл в госпитале 3 дня, за это время наши войска перешли границу Восточной Пруссии. Это победа!".*

***На гэтым заканчваецца "Дзённік апалчэнца" - хроніка баявых падзей Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікам якіх быў Пётр Паўлавіч ПШАНІЧНЫ ((фота пасляваеннага часу). Дзякуючы яго дзённікавым***



***запісам мы, нашчадкі сваіх продкаў – салдат 247 гвардзейскага стралковага палка, змаглі хаця б крыху пражыць з імі гэтыя дні ў сваім ўяўленні і паспрабаваць адчуць тое, што адчувалі яны: усю праўду, жорсткасць і безлітаснасць вайны, удзел у якой ужо сам па сабе з'яўляецца подзвігам!***

**18.10.1944 (203 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Трэці дзень Гумбіненскай наступальнай аперацыі. 11-я гвардзейская армія ўвайшла на тэрыторыю фашысцкай Германіі!

З ваенных мемуараў. К.Н.Галицкий "В боях за Восточную Пруссию": *"171-й гвардейский стрелковый полк и 213-я бригада … первыми в армии пересекли границу Восточной Пруссии... Это был незабываемый момент. Выскочивший вперед расторопный солдат приколачивал к столбу лист фанеры с надписью: «Здесь 18 октября 1944 г. в 11 часов 30 минут комбаты Мирза Мамедов и Казаков первыми со своими гвардейцами прорвали границу».*



На фота: Старшы лейтэнант Мірза Мамедаў

*С востока и северо-востока на Кибартай – Эйдткунен наступали части 144-й стрелковой дивизии 5-й армии, с юго-востока – наша 83-я гвардейская дивизия. Завязались упорные бои. Развивая успешное наступление, <u>248-й гвардейский полк</u>, овладев Довгелайце, немедленно ворвался на южную окраину Кибартай, где завязал уличные бои. В 18 час. Кибартай был полностью очищен от немецко-фашистских войск.*

*Наступление левофлангового 36-го гвардейского стрелкового корпуса началось так же, как и в других соединениях, в 9 час. 30 мин. после артиллерийской подготовки. Отбив контратаки и перейдя в преследование противника, части 84-й гвардейской стрелковой дивизии к 12 час. продвинулись на юго-запад до 3,5 км и завязали бой с противником за Татаркеме, Ржечуны. Развивая наступление, 243-й гвардейский стрелковый полк (командир полковник П.Г.Чурусов* [загіне праз 4 дні – 20.10.1944- *аўт.*]*) 84-й дивизии и батальон 77-го тяжелого танкового полка* [цалкам верагодна, што ў складзе батальёна побач са сваімі землякамі з 84-й дывізіі мог знаходзіцца і ураджэнец в.Малыя Жаберычы кавалер ордэна Славы Іван Акаловіч, які быў камандзірам аддзялення аўтаматчыкаў 77-га цяжкага танкавага палка] *обошли населенный пункт Ржечуны с юга и стремительным ударом выбили немцев из Небудкеме, непосредственно на границе Восточной Пруссии.*

*Примерно в 12 час. 30 мин. этот полк пересек государственную границу... Главные силы дивизии, подтянув отставшую на сильно пересеченной местности артиллерию, возобновили наступление, в 17 час. овладели опорным пунктом Ташитен и завязали упорные бои за Венцловишкен. Таким образом, войска 11-й гвардейской армии, ведя в течение 18 октября исключительно жестокие бои, в основном прорвали оборонительный рубеж на государственной границе … и, продвинувшись на запад*

*на 6–8 км, вышли на подступы к укрепленному рубежу, созданному гитлеровцами вдоль западного берега р. Писса. Фронт прорыва армии к исходу дня достиг почти 35 км, войска пересекли границу Восточной Пруссии во всей полосе наступления. За день боя наши войска захватили 18 орудий, 11 минометов и 28 пулеметов, уничтожили 25 орудий и минометов, подбили и сожгли 13 танков и штурмовых орудий. Кроме того, они захватили крупные населенные пункты Кибартай, Пиллюпенен, Виштынец.*

**З успамінаў савецкага салдата:** *«. . . когда вышли на границу Пруссии, нас встречал большого размера плакат со словами: «СОЛДАТ, ТЫ СУДЬЯ!» – и подпись: «Илья Эренбург»*

**19.10.1944 (202 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінулі ураджэнец в.В.Жаберычы РАЛЕЙНА Уладзімір Аксёнавіч (1896); радавы 233 сп 97 сд; (†) в.Абраскемен, Усходняя Прусія (п.Ілюшына).

Жыхар в.Малыя Жаберычы (ураджэнец в.Белае, Барысаўскі раён) САЛАЎЁЎ Рыгор Ісакавіч (1911); радавы 77 сп(?) 26 сд(?), прызваны 03.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 01.1945); аднапалчане Лапарэвіч і Голуб засведчылі, што ён не выйшаў з бою.

21.10.1944 (200 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)

Загінуў ураджэнец в.В.Жаберычы АКУНЕВІЧ Аляксей Рыгоравіч (1925/1895); радавы 245 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 01.07.1944; (†) г.Гусеў Калінінградскай вобл.

**22.10.1944 (199 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

**Яшчэ адзін трагічны дзень у календары – загінула пяцера землякоў:**

- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы БАЧЫШЧА Максім Гаўрылавіч (1898); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 01.07.1944; (†) в.Мельданен, Гальдапскі павет, Усходняя Прусія
- Ураджэнец в.Восава БУРЫ Аляксандр Цімафеевіч (1910); радавы 46 гв.сп; (†) в.Вірбельн (п.Ясная Паляна Несцераўскі раён)
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы БЫЧКОЎ Павел Максімавіч (1907/ 1908); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 01.07.1944; кулямётчык
- Ураджэнец в.Клён (або Малыя Жаберычы) КАПТУР Канстанцін Пятровіч (1905); тэлефаніст 247 гв.сп; (†) в.Мельданен, Гальдапскі павет, Усходняя Прусія
- Ураджэнец в.Крыштопаўшчына КРУЧОК Рыгор Рыгоравіч (1914); радавы 247 гв.сп 84 гв.сд, прызваны 01.07.1944; памёр ад ран 22.10.1944 (або 24.10.1944); (†) м.Клайнлегмешкен, Усх. Прусія (зараз – п.Калініна, Калінінградская вобласць)

**23.10.1944 (198 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Заключны дзень Гумбіненскай наступальнай аперацыі: камандуючы 3-ім Беларускім фронтам аддаў загад перайсці да абароны, для чаго патрабавалася адвесці войскі 11-й арміі назад на зручныя пазіцыі.

**27.10.1944 (194 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

У Мінску як “памагатая немцаў” арыштавана ўраджэнка в.Дакудава настаўніца САМЦЭВІЧ Фёкла Андрэеўна, 1905 года нараджэння, - сястра славутых братоў Самцэвічаў. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала настаўніцай мінскай СШ №42. Падчас Вялікай Айчыннай вайны вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Была асуджана 21.07.1945 да 5 гадоў працоўна-папраўчага лагера. Вызвалена ў 1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 25.10.1957 калегіяй Вярхоўнага Суда БССР.

**28.10.1944 (193 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

З успамінаў савецкага лётчыка-штурмавіка

Штангеева Мікалая Іванавіча: *«Первые несколько дней, когда мы летали над территорией Восточной Пруссии, мы просто мстили. Нам сказал замполит, что мы подошли вплотную к логову врага и должны ему показать силу и решимость отомстить за все страдания, которые он принес нашему народу. Есть приказ Сталина: «Кровь за кровь!». Вы, летчики, должны показать свое умение. Мы пошли с Колей Оловянниковым на дорогу, по которой отступали и военные, и гражданские. Расстреляли боекомплект. Сопротивления почти не было. Решили зайти над дорогой и рубануть винтами по головам. Но мы могли там и остаться. Запросто. Особенно когда винтом рубанул по головам. Все в крови. Надо было красить самолет. Во втором заходе я, видимо, зацепился за землю и лопасти винта согнулись. Самолет завибрировал, но продолжал лететь. Вернулись благополучно. У меня левая плоскость была вся в крови, а у Кольки в правой плоскости торчал кусок черепа. . .»*

**29.10.1944 (192 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ) - 31.10.1944 (190 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Клён ПАТАПЁНАК Іван Пятровіч (1912); радавы 293 сп 97 сд; памёр ад ран; (†) м.Задарген, Усходняя Прусія.

Прапалі без вестак у кастрычніку 1944:

- Ураджэнец в.Восава МЕЛЬНІК Канстанцін Васілевіч (1903); радавы
- Ураджэнец в.Дакудава МІКУЦКІ Мікалай Антонавіч (1921); радавы

**01.11.1944 (189 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 05.11.1944 (185 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**



Ураджэнец в.Малыя Жаберычы, камандзір аддзялення разведкі 5-й гвардзейскай асобнай разведроты (1-я гвардзейская паветрана-дэсантная дывізія, 53-я армія, Другі Ўкраінскі фронт) гвардыі старшы сяржант Зміцер Канстанцінавіч ЛЫЦІН у ноч на 5 лістапада 1944 г. з аддзяленнем фарсіраваў р.Ціса, авалодаў невялікім плацдармам і адбіў да 15 контратак праціўніка. Дзейнічаючы з групай байцоў па пашырэнні плацдарму, знішчыў варожую батарэю. За гэты подзвіг быў прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза.

**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

Біяграфічная даведка: <u>ЛЫЦІН Зміцер Канстанцінавіч</u> (1920-1954). *Нарадзіўся ў в.Малыя Жаберычы. У 1928 г. сям'я пераехала ў п.Лебядзінка Іркуцкага раёна. Вучыўся ў пачатковай школе, затым у сямігодцы. Працаваў старшынёй калгаса "Праца", затым вучыўся на курсах свідравых майстроў у Іркуцку. У Савецкай Арміі з 1939 г. У баях Вялікай Айчыннай вайны са студзеня 1942 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.03.1945 г. Удзельнік савецка-японскай вайны 1945 г. У 1950 г. дэмабілізаваны. Працаваў фізруком і ваенным кіраўніком у школе с.Нікольск Іркуцкага раёна. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Айчыннай вайны 1 ст., Чырвонай Зоркі, Славы 3-й ступені, медалямі. Памёр у 1954 г. Пахаваны ў Іркуцку. Аб братах Лыціных Павел Клачкоўскі напісаў кнігу "Адважныя браты".*

**06.11.1944 (184 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ) - 11.11.1944 (179 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Ураджэнец в.Дакудава ТОЎСЦІК Уладзімір Цімафеевіч за мужнасць і адвагу, што былі ім праяўлены ў кастрычніцкіх баях, прадстаўлены да Ордэна Славы 3-й ступені



Біяграфічная даведка: <u>ТОЎСЦІК Уладзімір Цімафеевіч</u> (09.12.1921 – 08.05.1995). *Беларус, беспартыйны. Адукацыя: Барысаўскі лясны*

*тэхнікум (скончыў у 1941 годзе), спецыяльнасць: тэхнік-лесавод. Прызваны на ваенную службу ў чэрвені 1944 (прыняў прысягу 13 ліпеня 1944). Чэрвень - ліпень 1944 стралок, 247 гв.стралковы полк, ліпень- кастрычнік 1944 стралок, 46 гв. стралковы полк, кастрычнік- красавік 1945 стралок, 12 стралковы полк, красавік- лістапад 1945 стралок, 774 аўтабатальён, лёгкае раненне ў нагу (16.07.1944), цяжкае раненне ў плячо (22.10.1944). Інвалід Вялікай Айчыннай вайны*

*Узнагароды: Ордэн Славы 3-й ступені ( №667031) (загад ад 11.11.1944); Ордэн Чырвонай Зоркі (№36-44066) (загад ад 08.02.1945, уручаны толькі ў 1970 з-за памылкова напісанага ў загадзе прозвішча Толстиков). Пасля вайны - супрацоўнік Міністэрствы Ўнутраных спраў - малодшы лейтэнант міліцыі.*

**12.11.1944 (178 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**



**Статут ордена Славы.** *Учрежден 8 ноября 1943 года. Орденом Славы награждаются лица рядового и сержантского состава Красной Армии, а в авиации и лица, имеющие звание младшего лейтенанта, проявившие в боях за Советскую Родину славные подвиги храбрости, мужества и бесстрашия. Орден Славы состоит из трех степеней: I, II и III степени. Высшей степенью ордена является I степень.*

*Орденом Славы награждаются за то, что (прыведзены вытрымкі з дакумента):*

*Ворвавшись первым в расположение противника, личной храбростью содействовал успеху общего дела;*

*В минуту опасности спас знамя своей части от захвата противником;*

*Из личного оружия меткой стрельбой уничтожил от 10 до 50 солдат и офицеров противника;*

*В бою огнем противотанкового ружья вывел из строя не менее двух танков противника;*

*Уничтожил ручными гранатами на поле боя или в тылу противника от одного до трех танков;*

*Уничтожил огнем артиллерии или пулемета не менее трех самолетов противника;*

*Презирая опасность, первым ворвался в ДЗОТ (ДОТ, окоп или блиндаж) противника, решительными действиями уничтожил его гарнизон;*

*В результате личной разведки установил слабые места обороны противника и вывел наши войска в тыл противника;*

*Лично захватил в плен вражеского офицера;*

*Ночью снял сторожевой пост (дозор, секрет) противника или захватил его;*

*Лично, с находчивостью и смелостью пробравшись к позиции противника, уничтожил его пулемет или миномет;*

*Будучи в ночной вылазке, уничтожил склад противника с военным имуществом;*

*Рискуя жизнью, спас в бою командира от угрожавшей ему непосредственной опасности;*

*Пренебрегая личной опасностью, в бою захватил неприятельское знамя;*

*Будучи ранен, после перевязки снова вернулся в строй;*

*Из личного оружия сбил самолет противника;*

*Уничтожив огнем артиллерии или миномета огневые средства противника, обеспечил успешные действия своего подразделения;*

*Под огнем противника проделал для наступающего подразделения проход в проволочных заграждениях противника;*

*Рискуя жизнью, под огнем противника оказывал помощь раненым в течении ряда боев;*

*Находясь в разведке, добыл ценные сведения о противнике;*

*Награждение орденом Славы производится Указом Президиума Верховного Совета СССР.*

**13.11.1944 (177 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 30.11.1944 (160 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Прапалі без вестак у лістападзе 1944:

- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы МІЦКЕВІЧ Пётр Ігнацьевіч (1918); радавы

•Ураджэнец (?) в.Дакудава НАТАЛЕВІЧ Міхаіл Аляксеевіч; радавы

**01.12.1944 (159 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 05.12.1944 (155 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Ураджэнец в.Вялікія Жаберычы кавалер ордэнаў Чырвонай Зоркі (№ 275152 – жнівень 1943) і Айчыннай вайны 1-й ступені (№ 43651 – студзень 1944) камандзір артылерыйскага дывізіёна 53-га гвардзейскага артылерыйскага палка 25-й гвардзейскай стралковай дывізіі гвардыі маёр Васіль Паўлавіч ШПІЛЕЎСКІ вызначыўся ў баях па прарыву абароны праціўніка, што папярэднічалі ўзяццю сталіцы Венгрыі г.Будапешта.



УДОСТОВЕРЕНИЕ ЛИЧНОСТИ

Серия ГУ № 12042

Предъявитель сего генерал-майор артиллерии Шпилевский Василий Павлович Начальник ракетных войск и артиллерии войсковой части 11705

Министерство обороны СССР

1971 г.

Біяграфічная даведка: Васіль Паўлавіч ШПІЛЕЎСКІ (1920 – 1998). *Нарадзіўся ў в.Вялікія Жаберычы. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі у жніўні 1939 года паступіў у артылерыйскае вучылішча, якое скончыў 2 чэрвеня 1941 года. З самога пачатку вайны прымаў удзел у баявых дзеяннях. Выйшаў з акружэння. 22 верасня 1941 года лейтэнант Шпілеўскі атрымаў кулявое раненне ў правую нагу. Ваяваў пад Смаленскам, у Данбасе, вызваляў Украіну, Венгрыю. Дзень Перамогі сустрэў пад Прагай. Пасля вайны скончыў Артылерыйскую акадэмію. Быў камандзірам 518-го артылерыйскага палка, начальнікам штаба 115-й гвардзейскай артылерыйскай дывізіі, дыслакаванай у Беларусі. Займаў пасаду камандзіра 152-й ракетнай брыгады, дыслакаванай ва Ўсходняй Германіі. Потым – начальнік ракетных войскаў і артылерыі 1-й гвардзейскай арміі. Пастановай Савета Міністраў СССР № 297 ад 20.06.1971 яму прысвоена воінскае званне "генерал-маёр артылерыі". У 1972 годзе ён атрымлівае прызначэнне на пасаду начальніка ракетных войскаў і артылерыі 8-й гвардзейскай арміі. Генерал-маёр В.П.Шпілеўскі - кавалер ордэнаў Чырвонага Сцяга, Аляксандра Неўскага, двух ордэнаў Айчыннай вайны 1-й ступені, трох ордэнаў Чырвонай Зоркі, ордэна "За службу Радзіме ва Ўзброеных Сілах СССР" 3-й ступені і вянгерскага ордэна Чырвонага Сцяга.*



**06.12.1944 (154 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ) - 13.12.1944 (147 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Артылерыйскі дывізіён пад камандаваннем ураджэнца в.Вялікія Жаберычы гвардыі маёра В.П.ШПІЛЕЎСКАГА вызначыўся ў баях за г.Будапешт. За умелае кіраўніцтва дывізіёнам, мужнасць і адвагу, што былі праяўлены гвардыі маёрам В.П.Шпілеўскім у перыяд штурма г.Будапешт, ён быў прадстаўлены да другога ордэна Чырвонай Зоркі.

З прадстаўлення да награды: *«5 декабря 1944 года дивизион под командованием гвардии майора Шпилевского открыл ураганный артиллерийский огонь по огневым точкам противника с целью уничтожить глубоко эшелонированную оборону противника и дать возможность нашей пехоте вести наступление. После подавления огневых точек на передовом рубеже обороны и прилегающей территории, пехота перешла в атаку. Товарищ Шпилевский корректировал огонь артиллерии, лично находясь в наступающих рядах пехоты. Только за период с 5 по 12 декабря 1944 года его дивизион уничтожил 11 тяжелых пулеметов, 5 легких пулеметов, 4 артиллерийские и 2 минометные батареи противника, 8 вагонов с военным имуще-*

*ством, 2 танка, подавил огонь 2 артиллерийских и 2 минометных батарей, а также уничтожил около 160 вражеских солдат и офицеров. Несмотря на тяжелые погодные условия и гористо-лесистую местность, его дивизион наступал вместе с пехотой без отставаний, поддерживал ее огнем и не давал противнику возможности закрепиться на промежуточных линиях обороны. Во время боя за населенный пункт Северные Дуканози 13 декабря 1944 года дивизион Шпилевского отразил четыре вражеские контратаки, поддержанные танками и бронетранспортерами, нанеся противнику тяжелый урон. Огнем дивизиона было уничтожено:* 




Франтавыя сябры (здымак 22.12.1944): трэці злева ў верхнім радзе – В.П.Касцюкевіч; першы злева ў ніжнім радзе – Іван Сідаравіч Арлоўскі (загінуў 12.02.1945) – абодва ўраджэнцы в.Дакудава, разам у 1942 годзе пайшлі ў партызаны. Другі ў ніжнім радзе – кіраўнік разведвальна-дыверсійнай групы Фёдар Чыгуноў. Верагодна, астатнія воіны – таксама ўдзельнікі гэтай групы.

*3 тяжелых пулемета, 1 ручной пулемет, около 80 немецких солдат и поврежден 1 танк».*

**14.12.1944 (146 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

У роднай вёсцы Батуры (Крупскі раён) арыштаваны БАРЭЙКА Уладзімір Феліксавіч (1902 года нараджэння, з сялянскай сям'і, атрымаў сярэднюю адукацыю), які падчас вайны, застаўшыся на акупаванай тэрыторыі, працаваў настаўнікам школы ў в.Малыя Жаберычы. Быў жанаты, гадаваў трое дзяцей. Асуджаны 24.11.1945 асобай нарадай пры НКВД за "антысавецкую агітацыю" да 5 гадоў працоўна-папраўчага лагера. Этапаваны ў Карагандзінскі лагер НКВД Казахскай ССР. Вызвалены роўна праз пяць гадоў пасля арышту - 14.12.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 20.11.1989.

**15.12.1944 (145 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 22.12.1944 (138 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Сябры-партызаны Віктар Піліпавіч Касцюкевіч і Іван Сідаравіч Арлоўскі і ў дзеячай арміі былі разам у дыверсійна-разведвальнай групе пад кіраўніцтвам Фёдара Чугунова, якая здзейсняла рэйды па тылах ворага ва Ўсходняй Прусіі

**23.12.1944 (137 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 30.12.1944 (130 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Восава БУРЫ Фёдар Фёдаравіч (1924); яфрэйтар 758 сп 88 сд, прызваны 27.07.1944; (†) раён Дубенінскей Усходняя Прусія (сучасная Польшча).

**31.12.1944 (129 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Прапаў без вестак у снежні 1944 ураджэнец в.Малыя Жаберычы СТАРАДУБЕЦ Афанасій Дзям'янавіч (1911); лейтэнант.

**01.01.1945 (128 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 03.01.1945 (126 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Памёр ад ран ураджэнец в. Дакудава ТОЎСЦІК Іван Цімафеевіч (1917/1918); радавы 69 сд, прызваны 01.07.1944; памёр ад ран; (†) в.Старэ, Плутускі павет, Варшаўскае ваяводства, Польшча.

**04.01.1945 (125 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Тэкст лістоўкі, якая масава распаўсюджвалася за подпісам вядомага савецкага публіцыста Іллі Эрэнбурга сярод савецкіх салдатаў у 1945 годзе: *«Убивайте, убивайте! Нет такого, в чем немцы не были бы не виновны – и живые, и еще не родившиеся! Следуйте указанию товарища Сталина – раздавите фашистского зверя насмерть в его собственной берлоге. Сбейте расовую спесь с германских женщин. Берите их, как законную добычу!»*

**09.01.1945 (120 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
З ваенных мемуараў. К.Н.Галицкий "В боях за Восточную Пруссию": *"Военнопленный солдат … 9 января заявил: «Несмотря на разговоры о возможном наступлении русских, настроение солдат было спокойным. Еще не приходилось слышать панических разговоров. Офицеры в беседах с солдатами постоянно ставили задачу стойко удерживать занимаемые рубежи и говорили, что для выполнения этой задачи у нас имеется достаточно техники. Большинство солдат верили в победу Германии. Они говорили: «Неважно, что мы отошли назад — мы все-таки победим. Когда и как, это дело фюрера». Важно отметить, что личный состав оборонявшихся здесь войск противника в подавляющем большинстве состоял из уроженцев Восточной Пруссии, преимущественно добровольцев…".*

**10.01.1945 (119 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 12.01.1945 (117 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Увечары арміі першага эшалона пачалі займаць зыходныя рубяжы для атакі, прызначанай на раніцу наступнага дня – дня пачатку Інстэрбургскай наступальнай аперацыі. У 28-й арміі, якая знаходзілася ў першым эшалоне, у складзе 77-га гвардзейскага асобнага танкавага палка знаходзіўся ураджэнец в.Малыя Жаберычы двойчы кавалер ордэна Славы камандзір аддзялення аўтаматчыкаў гвардыі малодшы сяржант АКАЛОВІЧ Іван Ілліч. 11-й армія павінна была уступіць у баявое сутыкненне з ворагам праз некалькі дзён пасля пачатку аперацыі. Пры гэтым 84-я гвардзейская стралковая дывізія, дзе служыла большая частка нашых землякоў, на гэты раз знаходзілася ў другім эшалоне 11-й арміі і павінна была уступіць у бой яшчэ пазней. 83-я гвардзейская стралковая дывізія, якая 29 чэрвеня прайшла праз тэрыторыю Дакудаўскага сельсавета, знаходзілася ў трэцім эшалоне.



З дакумента "Загад камандуючага 3-ім Беларускім фронтам ад 12.01.1945" (вытрымкі): *«…Две тысячи километров прошли мы вперед и видели уничтожение всего того, что было создано нами за двадцать лет. Теперь мы стоим у берлоги, откуда фашистские захватчики напали на нас. Мы не остановимся до тех пор, пока не очистим ее.Пощады не будет никому, как и нам не было пощады. Нельзя требовать от солдат Красной Армии, чтобы они щадили врага. Они пылают ненавистью и местью. Земля фашистов должна стать такой же пустынной, какой стала после них и наша земля. Фашисты должны умирать, как умирали и наши солдаты».*

**13.01.1945 (116 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Дзень пачатку Інстэрбургскай наступальнай аперацыі. У падраздзяленнях 11-й арміі з нагоды пачатку аперацыі палітработнікамі былі праведзены гутаркі з асабовым складам. З

ваенных мемуараў. К.Н.Галицкий "В боях за Восточную Пруссию": *"За час до начала артиллерийской подготовки во всех подразделениях было зачитано обращение Военного совета 3-го Белорусского фронта. «Сегодня Родина зовет вас на новые ратные подвиги, на штурм фашистской берлоги, на решающие битвы с врагом... Сокрушайте всякое сопротивление немецко-фашистских захватчиков! Не давайте им ни одной минуты передышки! Преследуйте, окружайте, истребляйте фашистскую нечисть без всякой пощады!» А далее в обращении говорилось об естественных для нашего воина понятиях — о достоинстве советского человека, о гуманном отношении к мирному населению Германии, к пленным и раненым врагам, о великой освободительной миссии Советского Союза в Европе. Командиры и политработники рассказывали бойцам о насилиях, грабежах и убийствах, совершенных гитлеровцами на нашей земле. Только в одном* ***252-м полку*** [які 29 чэрвеня 1944 года прайшоў праз в.Брышча] ***83-й гвардейской стрелковой дивизии*** *фашисты убили и замучили близких родственников у 158 воинов, угнали в Германию семьи 56 военнослужащих, у 152 воинов семьи остались без крова, у 293 человек фашисты разграбили имущество и угнали скот и т. д.*

**14.01.1945 (115 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Другі дзень Інстэрбургскай наступальнай аперацыі.

Ураджэнец в.Малыя Жаберычы, камандзір аддзялення аўтаматчыкаў 77-га гвардзейскага асобнага танкавага палка (28-я армія, 3-і Беларускі фронт) гвардыі малодшы сяржант АКАЛОВІЧ Іван Ілліч пры прарыве абароны праціўніка ў раёне г.Шталупенен (цяпер Несцераў Калінінградскай вобласці) 13-19.01.1945 у ліку першых уварваўся ў варожыя траншэі. 14.01.45 у крытычны момант бою ў населенага пункта Альт-Будупенен (цяпер пас.Калінаўка Несцэраўскага раёна) узначаліў стралковае падраздзяленне, замяніўшы параненага камандзіра, і падняў байцоў у атаку. 31.01.45 узнагароджаны ордэнам Славы 2 ступені (№9309).

З узнагароднага ліста: *«В боях на территории Восточной Пруссии в период с 13 по 19 января 1945 г. по прорыву сильно укрепленной обороны противника . . . гвардии младший сержант Околович, воодушевляя бойцов личным примером, первым ворвался в траншею противника и в рукопашном бою уничтожил трех гитлеровцев. В бою за овладение опорным пунктом противника Альт-Будупеном Околович, видя, что в соседнем пехотном подразделении убит командир, смело принял командование на себя и поднял подразделение в атаку, чем способствовал успеху боя»*

**17.01.1945 (112 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Неацэнную дапамогу стралковым падраздзяленням у баях па авалоданню Будапештам у студзені 1945 года аказвалі батарэі 53-го гвардзейскага артылерыйскага палка, адным з дывізіёнаў якога камандаваў ураджэнец в.Вялікія Жаберычы гвардыі маёр В.П.ШПІЛЕЎСКІ. Іх гарматы дзейнічалі непасрэдна ў баявых парадках пяхоты. Як правіла, гарматы высоўваліся на прамое навядзенне ў некалькіх дзясятках метраў ад праціўніка. Стралковыя батальёны, якія даўно не папаўняліся людзьмі, былі вельмі малалікімі. Таму наперадзе гарматаў стралкоў было вельмі мала, і асабістаму складу ўзводаў кіраванняў батарэй, частцы гарматных разлікаў часцяком прыходзілася ўдзельнічаць у рукапашных сутычках.

**18.01.1945 (111 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Артылерыйскі дывізіён пад камандаванем ураджэнца в.Вялікія Жаберычы гвардыі маёра В.П.ШПІЛЕЎСКАГА прымае ўдзел у штурме

будынка парламента у Будапешце (накшталт берлінскага рэйхстага). За выдатнасць у баях па авалоданні сталіцай Венгрыі гвардыі маёр В.П.ШПІЛЕЎСКІ зноў быў прадстаўлены камандзірам палка да ордэна Чырвонага Сцяга. Аднак камандзірам дывізіі прадстаўленне было паніжанае да ордэна Айчыннай вайны 2 ступені. Камандуючы артылерыяй корпуса пагадзіўся з паніжэннем і пакінуў яго без змен. І усё жа камандуючы 2-м Украінскім фронтам Маршал Савецкага Саюза Р.Я.Маліноўскі ўзнагародзіў маёра Шпілеўского ордэнам Аляксандра Неўскага. Яму быў уручаны ордэн з нумарам 40955.

З прадстаўлення да награды: *«При сокрушении тяжелых оборонительных укреплений на подступах к Будапешту, дивизион под командованием гвардии майора Шпилевского поддерживал артиллерийским огнем наступающие стрелковые подразделения. Все артиллерийские позиции неприятеля на пути наступления стрелковых частей были уничтожены или подавлены огнем дивизиона. Командир лично корректировал огонь и засекал огневые точки противника, находясь в боевых порядках наступающих стрелковых частей. За период с 1 по 17 января 1945 года его подразделение уничтожило 9 тяжелых пулеметов, две артиллерийские и три минометные батареи, 12 повозок и 3 автомобиля с военным имуществом, 2 танка, бронетранспортер, самоходное орудие и до 170 вражеских солдат и офицеров. 18 января 1945 года во время сражения за здание парламента дивизион отразил 8 контратак врага, уничтожив при этом две артиллерийские батареи, три пулемета и около 80 гитлеровцев».*

Статут ордена Александра Невского: *"Орденом Александра Невского награждаются командиры Красной Армии, проявившие в боях за Родину в Отечественной войне личную отвагу, мужество и храбрость и умелым командованием обеспечившие успешные действия своих частей".*



**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

**21.01.1945 (108 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Камандуючы 2-ім Беларускім фронтам Канстанцін Ракасоўскі раней за іншых разглядзеў негатыўныя паследствы гвалтоўных адносінаў чырвонаармейцаў да насельніцтва захопленых тэрыторый і выдаў адмысловы загад сваім войскам. Падобная дырэктыва Стаўкі ў дачыненні да ўсей Чырвонай Арміі будзе прынятая толькі 20.04.1945.

З дакумента – Приказ командующего Вторым Белорусским фронтом К.К. Рокоссовского. № 006 от 21.01.45: *«…направить чувство ненависти людей на истребление врага на поле боя и строго, вплоть до расстрела, карать за мародерство, насилия, грабежи, бессмысленные поджоги и разрушения».*

**22.01.1945 (107 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Дзясяты дзень Інстэрбургскай наступальнай аперацыі – трэці дзень армейскай аперацыі.

**Загінулі:**

- Ураджэнец в.Крыштопаўшчына КАСЦЮКЕВІЧ Васіль Аляксеевіч (1926); радавы 46 сп; (†) г.Інстэрбург, Усходняя Прусія
- Ураджэнец в.Дакудава КАСЦЮКЕВІЧ Васіль Архіпавіч (1927); радавы; (†) г.Інстэрбург, Усходняя Прусія

У бой уступіла 84-я гвардзейская стралковая дывізія.

З ваенных мемуараў. К.Н.Галицкий "В боях за Восточную Пруссию": *«В 0 час. 30 мин. части 84-й дивизии …перешли в наступление в юго-западном направлении. Очистив от противника лес .., ее полки решительными атаками овладели опорными пунктами Гросс Шункерн, Цвион, Георгенталь. Командир 84-й дивизии генерал-майор*

*И.К.Щербина умело воспользовался этим успехом и смелым маневром отрезал противнику пути отхода на запад севернее р.Прегель. Немцы забеспокоились — они боялись «котлов», в их действиях все сильнее стала наблюдаться нервозность.*

**23.01.1945 (106 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

**Яшчэ адзін трагічны дзень у календары – загінула пяцера землякоў:**

•Ураджэнец в.Дакудава БАРАБАНАЎ Іван Васілевіч (1900); (на фота), радавы 245 гв.сд 84 гв.сд; загінуў в.Каркецен, Усходняя Прусія, (†) (па кнізе “Памяць. Крупскі раён”) пас.Нізоўе, Калінінградская вобласць.






*На фота: фрагмент помніка загінуўшым савецкім воінам у Калінінградскай вобласці з прозвішчам нашага земляка – І.В.Барабанава*

•Ураджэнец в.Восава БУРЫ Аляксей Рыгоравіч (1924); камсамолец; радавы 171 гв.сп 1 гв.сд; (†) в.Вальдхаузен, Усходняя Прусія

•Ураджэнец в.Ярашоўка ГУДЗІЛІН Лаўрын Савельевіч (1906); радавы 12 гв.сп 5 гв.сд; (†) Магаметэн, Усходняя Прусія (пас.Знаменск, Гвардзейскі раён)

•Ураджэнец в.В.Жаберычы ЗАНЯМОНЕЦ Уладзімір Цімафеевіч (1923); радавы 79 гв.сп 262 сд; (†) в.Аугкен, Усх. Прусія (перапахаваны - пас.Знаменск Гвардзейскі раён); па аб’яднанай базе даных загінуў 25.01.1944

•Ураджэнец в.Клён (жонка пражывала у Халопенічах) КРУЧОК Якаў Майсеевіч (1919/1911); малодшы сяржант (камандзір аддзялення), прызваны 05.07.1944; (†) Штацагаўзен, Усходняя Прусія.

•Адзінаццаты дзень Інстэрбургскай наступальнай аперацыі – чацвёрты дзень армейскай аперацыі. Актыўныя баявыя дзеянні вяла 84-я гвардзейская стралковая дывізія. Сярод войскаў, што адзначыліся ў Інстэрбургскай аперацыі, у гэты дзень выдзяляўся 17-ы гвардзейскі стралковы полк – той самы, што, як можна меркаваць, 29 чэрвеня 1944 года прайшоў праз паўночную частку Дакудаўскага сельсавета – вёскі Малыя Жаберычы, Крыштопаўшчына, Прыклёнак, Клён.

**24.01.1945 (105 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

**Загінулі:**

•Ураджэнец в.Малыя Жаберычы МІЦКЕВІЧ Настасся Ігнацьеўна (1921); камуніст (кандыдат); старшына (сястра медслужбы) 50 сд, у Чырвонай Арміі з 24.06.1944; (†) в.Ульберсдорф, Германія

•Ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Аркадзь Усцінавіч (1923); кулямётчык, радавы 97 гв.сп 31 гв.сд, прызваны 05.07.1944 (Бугульмінскі райваенкамат, Татарская АССР); (†) калонія Бюрдастфок ва Усходняй Прусіі.

Дванаццаты дзень Інстэрбургскай наступальнай аперацыі – пяты дзень армейскай аперацыі. 84-я гвардзейская стралковая дывізія часова выведзена з бою.

**25.01.1945 (104 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Восава КЛІМКОВІЧ Яфім Мартынавіч (1901); радавы 1229 сп 371 сд, прызваны 1944; (†) Кляйн Меданау, Усходняя Прусія (перапахаваны - пас.Чарапанава, Гур’еўскі раён).

**26.01.1945 (103 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в. Малыя Жаберычы СІДЛЯРОНАК Іван Дзмітрыевіч (1906/1901); радавы 628 сп 174 сд; (†) в.Куццень, Растэнбургскі раён.

**27.01.1945 (102 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Чатырнаццаты дзень Інстэрбургскай наступальнай аперацыі – сёмы дзень армейскай аперацыі. 84-я гвардзейская стралковая дывізія зноў уключана ў актыўныя баявыя дзеянні.

З ваенных мемуараў. К.Н.Галицкий *"В боях за Восточную Пруссию": "Для наращивания удара и развития успеха первого эшелона генерал П.К.Кошевой ввел в разрыв между 16-й и 18-й дивизиями свой второй эшелон — 84-ю гвардейскую дивизию... 84-ю дивизию ввели в бой без учета сил немцев на этом направлении. Командиры ее частей не успели ознакомиться со своими участками, противник не был изучен. Да к тому же и взаимодействие между родами войск не было достаточно организовано. В результате встреченные плотным огнем врага части залегли и пролежали в мокром снегу несколько часов, пока организовали реальное взаимодействие с артиллерией и авиацией. После этого дивизия подошла вплотную к крупному опорному пункту Штайнбеку. Этот населенный пункт целесообразнее было брать с севера... Но командир 84-й дивизии генерал-майор И.К.Щербина, видимо, не решился войти в полосу соседа и атаковал Штайнбек с фронта. Эти атаки не принесли успеха. Пришлось вмешаться командиру корпуса. После ударов бомбардировочной и штурмовой авиации совместными усилиями 84-й и 16-й дивизий Штайнбек к 22 час. был очищен от гитлеровцев. . . . 84-я дивизия продвинулась за день только на 2 км."*

**31.01.1945 (98 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Прапалі без вестак у студзені 1945:

- Ураджэнец в.Крыштопаўшчына Зароўскі Франц Палікарпавіч (1909); радавы, прызваны 01.07.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 03.1945)
- Ураджэнец в.Гарошава Казлоўскі Уладзімір Міхайлавіч (1927); курсант, прызваны 12.1944 (афіцыйна прапаў без вестак 03.1945)
- Ураджэнец в.Шэйка (да вайны пражываў – г.Шарашава, сям'я знаходзілася ў в.В.Жаберычы) КАРАЛЁЎ Васіль Аляксеевіч (1907); радавы, прызваны 28.10.1941 – Кушчаўскі райваенкамат (афіцыйна прапаў без вестак 03.1945)



**02.02.1945**
**(96 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Нямецкія бежанцы гінулі нароўні з нямецкімі салдатамі пры бамбёжках авіяцыяй.

З успамінаў Хухрыкава Юрыя Міхайлавіча, лётчык 566-га штурмавога авіяпалка: *«. . . Под Пилау, через залив, по льду была проложена прямая, как стрела, двенадцатикилометровая дорога, по бокам которой высились снежные валы, оставшиеся после расчистки снега и не позволявшие отбежать при атаке с воздуха. По ней отступали войска, эвакуировались гражданские. Это ужас, что на ней творилось, когда мы заходили четверкой, бросали тонну двести 25-килограммовых бомб, пускали шестнадцать РС и поливали их из пушек и пулеметов. Там после нас кровавая каша оставалась. Страшно смотреть».*

**06.02.1945 (92 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ) - 08.02.1945 (90 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**



Ураджэнец в.Дакудава заражаючы гарматы батарэі 45-мм гармат 46-га гвардзейскага стралковага палка гвардыі радавы ТОЎСЦІК Уладзімір Цімафеевіч загадам па 16-й гвардзейскай стралковай дывізіі прадстаўлены да Ордэна Чырвонай Зоркі за тое, што ў адным з баёў у складзе свайго гарматнага разліку да канца змагаўся з буйнай групай прарваўшыхся фашыстаў.

Статут ордена Красной Звезды: *"Награждение орденом Красной Звезды производится за личное мужество и отвагу в боях (вытрымка із Статута ордэна Чырвонай Зоркі).*

**12.02.1945 (86 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

**Немцы спынілі спробы пацясніць савецкія войскі з займаемых пазіцый пад Кёнігсбергам.**



Загінуў ураджэнец в.Дакудава АРЛОЎСКІ Іван Сідаравіч (1923); камсамолец (або камуніст) радавы 67 сп, партызан з 1942; па кнізе "Памяць. Крупскі раён" - памёр ад ран; (†) каля г.Цынтэн, Усх.Прусія (пас.Корнеўка, Баграціёнаўскі раён). *Фотаздымак ад 22.12.1944 (за 51 дзень да смерці; на грудзях бачны два ордэны Айчыннай Вайны).*

Статут ордена Отечественной войны. Орденом Отечественной войны I степени награждаются (вытрымкі):



*Кто метко поразил и разрушил особо важный объект в тылу противника;*
*Кто, презирая опасность, первым ворвался в ДЗОТ (ДОТ, окоп или блиндаж) противника, решительными действиями уничтожил его гарнизон и дал нашим войскам возможность быстрого захвата этого рубежа;*
*Кто, в результате личной разведки, установил слабые места обороны противника и вывел наши войска в тыл противника;*

Орденом Отечественной войны II степени награждаются (вытрымкі):



*Кто гранатами, бутылками с горючей смесью или взрывпакетами уничтожил на поле боя или в тылу противника вражеский танк;*
*Кто пробрался к огневым позициям противника и уничтожил не менее одного орудия, трёх миномётов или трёх пулемётов противника;*
*Кто ночью снял сторожевой пост (дозор, секрет) противника или захватил его;*
*Кто, борясь с превосходящими силами противника, не сдал ни пяди своих позиций и причинил противнику большой урон;*

**13.02.1945 (85 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

**Кёнігсберг уяўляў сабой вельмі добра ўмацаваны вузел абароны.**

З ваенных мемуараў. К.Н.Галицкий "В боях за Восточную Пруссию": *"Местность на подступах к Кенигсбергу представляла собой равнину с небольшими пологими возвышенностями высотой в 20–30 м. Грунт в основном суглинистый. Юго-западнее города по обоим берегам р.Прегель местность сильно заболочена, и передвигаться вне дорог могли только пехота и легкая артиллерия. Протекающая юго-западнее Кенигсберга р.Бе-ек шириной 15–20 м и глубиной 1,2–1,5 м имела пологие берега и твердое дно. Сама по себе эта река не представляла значительного препятствия, но ее более чем полукилометровая пойма была залита весенними водами и заболочена. В целом местность на подступах к Кенигсбергу, как и сам город, способствовала созданию прочной обороны, особенно южнее города в полосе 11-й гвардейской армии. Первая позиция общим протяжением 50 км проходила в 6–8 км от центра города... Она включала 2–3, а местами 6–7 траншей, связанных между собой большим количеством ходов сообщений, 12 основных и 3 промежуточных старых форта... Первую позицию прикрывали противотанковый ров шириной 6–8 м и глубиной 3 м, эскарпы и противотанковые надолбы .., проволочные заграждения и минные поля… Вторая позиция проходила по окраинам пригородов Кенигсберга. Основой ее обороны служили созданные в каменных зданиях опорные пункты, опоясанные траншеями… Все улицы пересекали баррикады,*





**Барыкады і супрацьтанкавыя прыстасаванні на вуліцах Кёнігсберга**

*на перекрестках были устроены железобетонные огневые точки. Всего вторая позиция имела 38 дотов, 25 дзотов и 214 убежищ. Окраины города были заминированы. Третья позиция размещалась в самом городе (в 1,5–2 км от центра) по старой городской чрте, длина окружности которой не превышала 10 км. Здесь находились девять старых фортов и цитадель, рассчитанная на гарнизон в несколько сот человек. Особенно сильно были укреплены городские районы Амалиенау на правом берегу р. Прегель, в полосе наступления43-й армии, Нассер-Гартен и Понарт — на левом берегу, в полосе наступления 11-й гвардейской армии. Всю территорию Кенигсберга … немцы превратили в сплошную систему различного рода укреплений. Они приспособили к обороне отдельные здания, замки, дворцы (до 600 зданий), парки и даже кладбища. Многие дома города были заминированы, а на перекрестках улиц установлены фугасы.*

**25.02.1945 (73 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ) - 07.03.1945 (63 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Віктар Аляксандравіч (1926); радавы 35 гв.сд, прызваны палявым райваенкаматам (г.зн. у 1944); (†) с.Занцыг каля г.Брандэнбург, Германія.

**12.03.1945 (58 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Аляксандр Уладзіміравіч (1917/1901); яфрэйтар; (†) каля г.Граўдзянец, Польшча

**13.03.1945 (57 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ).**

36-ы гвардзейскі стралковы корпус пачаў баявыя дзеянні супраць групоўкі праціўніка на паўднёвы захад ад Кенігсберга.

Ураджэнец в.Малыя Жаберычы, камандзір аддзялення аўтаматчыкаў 77-га гвардзейскага асобнага танкавага палка (28-я армія, 3-і Беларускі фронт) гвардыі малодшы сяржант АКАЛОВІЧ Іван Ілліч пры ліквідацыі акружанай групоўкі праціўніка ў населенага пункта Ланк (13 км на паўночны ўсход ад Хайлігенбайля - цяпер г.Маманава Калінінградскай вобласці), Бладыаў (цяпер пасёлак Пяцідарожнае Баграціёнаўскага раёна) 13-18.03.1945 забіў некалькіх гітлераўцаў, выратаваў параненага афіцэра. Быў паранены, але поля бою не пакінуў. 29.06.45 узнагароджаны Ордэнам Славы 1-й ступені (№447). Такім чынам, АКАЛОВІЧ Іван Ілліч стаў поўным кавалерам Ордэна Славы.

З узнагароднага ліста: *«... в боях по уничтожению окружённой восточной группировки противника и ликвидации его опорных пунктов … в боях с 13 по 18 марта 1945 года проявлял образцы мужества и отваги. Ворвавшись первым в траншеи противника, огнем из автомата и гранатами уничтожал оборону гитлеровцев. Сопровождая*

*танки, первым со своим отделением ворвался в опорный пункт противника Баумсгартен, уничтожил огнем автомата 5 гитлеровцев. Во время боя 13 марта под сильным огнём вытащил из поврежденного танка и доставил в пункт медицинской помощи раненого офицера-танкиста. В бою за опорный пункт противника Бладиау ночью вышел на разведку местности и, выявив самоходные орудия гитлеровцев, быстро известил об этом командование. Огнем подошедших танков были уничтожены самоходки врага. При встрече с гитлеровской пехотой вступил в неравный бой, был ранен, всю ночь отбивался от наседавших фашистов. Поле боя И.Околович оставил только после того, как подошли наши танки»*

**14.03.1945 (56 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Малыя Жаберычы АКУНЕВІЧ Уладзімір Фёдаравіч (1918/1908); радавы 43 гв.сп 16 гв.сд; (†) Вардэнен, Усх.Прус. (перапахаваны – пас.Ушакова, Гур'еўскі раён)

**15.03.1945 (55 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

З успамінаў ХАДАСЕВІЧ (у замужжы – КАЗЛОЎСКАЯ) Надзеі Міхайлаўны (05.01.1924), ураджэнкі і жыхаркі в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Летам 1942 года з в.Дакудава была накіравана ў Германію першая група мясцовай моладзі. Усяго нас забралі дзевяць дзяўчат: мяне, Лісакоўскую Тоню, Пятроўскую Яніну, Цяцерскую Ганну, Таразевіч Зіну, Лукашэвіч Зіну, Хадасевіч Ніну, Касцюкевіч Марыю (сястру Віктара Піліпавіча – будучага старшыні нашага калгаса) і Лушу (прозвішча не памятаю [маецца на ўвазе – Міцкевіч Лукер'я Мікалаеўна]) з другога канца вёскі. І пачаліся пакуты. Таварны вагон быў набіты за дарогу так, што спалі па чарзе… Ехалі доўга, галодныя, у холадзе. І так да самога горада Берліна. А там ўпершыню далі гарачы суп - пойла з жытняй мукі з нярубленай крапівой. У Берліне было нешта накшталт размеркавальнага пункта, куды прыязджалі "бауэры" і падбіралі сабе "гастарбайтэраў". Нам удалося застацца разам, калі немец адбіраў людзей на прадзільную фабрыку, што знаходзілася ў горадзе Дэльменхорст [Ніжняя Саксонія]. Там мы і працавалі. Жылі ў адным з баракаў, акружаных калючым дротам, ахоўваемых узброенымі салдатамі і злымі аўчаркамі. На фабрыку хадзілі строем пад аховай. Часам ахоўнікі, каб павесяліцца, нацкоўвалі сабак на адну з палонніц, але загрызці не давалі: працоўную сілу трэба было берагчы. Строем жа хадзілі і ў сталовую. Пастаянна хацелася есці. Кармілі аднастайна: суп з кармавых буракаў і бульбяных*

**15.03.1945 (55 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**




***На фотаздымку, які зроблены менавіта ў гэты дзень, – ХАДАСЕВІЧ Надзея Міхайлаўна** – ураджэнка в.Дакудава, якая ажно ў ліпені 1942 года разам з іншымі дакудаўскімі дзяўчатамі была прымусова вывезена ў Германію на прымусовую працу. Здымак зроблены палякам-"гастарбайтэрам". Надпіс на адваротным боку: "Зиночка! Пусть это фото напомнит тебе образ мой мёртвой жизни в Германии в г.Eisenach. 15.03.1945»*

*ачыстак з дадаваннем нечышчанага і нярэзанага лука, нешта падобнае на кашу з мукі і нейкай крупы. Ліпкае, клейкае варыва захрасала ў горле, але праглынуць яго трэба было хутка. Інакш застанешся галодным… Але неўзабаве саюзнікі пачалі бамбіць горад. Мы ў гэты час хаваліся ў бомбасховішчы, якое было пры фабрыцы. Аднойчы выбухам бомбы ў сховішча былі выбітыя дзверы. Была пашкоджана і фабрыка. Нас перавялі на такую ж фабрыку у г.Эйзенах [Цюрынгія; радзіма кампазітара Іагана Себасцьяна Баха]. У Германіі на працы было шмат людзей з іншых краін. У свой вольны час яны маглі свабодна выходзіць у горад, але тым з нас, хто меў пазначэнне "Ost" ("Усход"), гэта значыць хто быў з Расіі, Беларусі або Украіны, гэта не дазвалялася рабіць. Са мной побач працавала палячка, дык яна шкадавала мяне і спрабавала падкармліваць. Гэта дапамагала выжыць"*



### 17.03.1945 (53 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)

Павелічэнне выпадкаў насілля, марадзёрства і згвалтаванняў нямецкіх жанчын з боку савецкіх ваеннаслужачых стала не толькі дэмаралізаваць армію, але і выклікаць негатыўныя наступствы як для баяздольнасці самой арміі, так і ў арганізацыі жыцця на захопленых тэрыторыях. Вышэйшае кіраўніцтва краіны вымушана было прыняць меры па выкараненню падобных з'яў

З дакумента "СПЕЦСООБЩЕНИЕ Л.П.БЕРИИ, И.В.СТАЛИНУ И В.М.МОЛОТОВУ О НЕДОСТОЙНОМ ПОВЕДЕНИИ ВОЕННОСЛУЖАЩИХ КРАСНОЙ АРМИИ":

*17 марта 1945 г.*

*№ 306/6 Копия Совершенно секретно*

*НАРОДНОМУ КОМИССАРУ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ СССР*

*Генеральному комиссару государственной безопасности товарищу Л.П.БЕРИЯ*

*СПЕЦСООБЩЕНИЕ*

*о настроениях немецкого населения и некоторых фактах недостойного поведения отдельных военнослужащих Красной Армии.*

*Согласно поступающим материалам от агентуры, работающей среди арестованных и среди лиц, проходящих через пункты фильтрации, а также в процессе следственной работы, настроение оставшегося в нашем тылу немецкого населения характеризуется следующим образом:*

*(…)*

*Имеют место открыто враждебные высказывания, часть которых явилась результатом недостойного поведения отдельных военнослужащих наступающих передовых частей Красной Армии, чинивших насилия над женщинами-немками.*

*Многие немцы заявляют, что в Восточной Пруссии все оставшиеся в тылу Красной Армии немецкие женщины изнасилованы бойцами Красной Армии.*

*Житель гор. Гранц немец ШЕДЕРАЙТЕР Вильгельм на пункте фильтрации заявил, что ночью 12 февраля с.г. к нему на квартиру ворвались несколько военнослужащих и стали насиловать всех женщин, несовершеннолетних девушек и старух. Его дочь Гертруда, будучи неоднократно изнасилованной, заявила о том, что немцев, оставшихся в тылу Красной Армии, ожидает голод, эпидемии и репрессии НКВД, которые скоро придут.*

*Немец ХОРЛИНГ Эрнст, 1907 года рождения, заявил, что его жену 8 февраля ... в процессе фильтрации гражданского населения оперативно-войсковой группой НКВД 43-й армии у женщин-немок м.Шпалейттен ЦЕПАНЦИК Гертруды, ЗИМАНЦИК Гелырады, и КОРН Эммы и у всех имеющихся у них 12 детей в возрасте от 3 до 6 лет были обнаружены перерезанными лучезапястные суставы правых рук.*

*При опросе о причинах нанесенных саморанений КОРН Эмма показала: «Перед отступлением командование немецкой армии предложило нам эвакуироваться в город Кенигсберг, заявляя, что "красные азиаты" производят неслыханные зверства над немецким населением.*

*По совету немецких солдат мы не эвакуировались и остались... 3 февраля с.г. в наше местечко вошли передовые части Красной Армии, солдаты ворвались к нам в подвал и, наставив оружие мне и другим двум женщинам, приказали выйти во двор. Во дворе ... меня поочередно изнасиловали, остальные солдаты поступили так же с моими соседками. Ночью того же числа к нам в подвал ворвались ...*

*5 февраля к нам в подвал зашли 3 солдата, а 6 февраля 8 пьяных солдат, которыми мы ... Под воздействием немецкой пропаганды о том, что Красная Армия издевается над немцами, и увидев действительное издевательство над нами, мы решили покончить жизнь самоубийством, для чего 8 февраля себе и детям перерезали лучезапястные суставы и вены правых рук».*

*По показаниям задержанного ... члена национал-социалистской партии .., значительная часть немецкого населения не верила фашистской пропаганде о жестоком отношении Красной Армии к немецкому населению, но под воздействием некоторых бесчинств, допускаемых солдатами Красной Армии, часть населения кончает жизнь самоубийством.*

*Самоубийства немцев, особенно женщин, принимают все более распространенный характер. В связи с выселением населения из прифронтовой полосы за 18 и 19 февраля с.г. в гор.Гранц зарегистрировано до 10 случаев самоубийства.*

*О настроениях немецкого населения и поведении личного состава отдельных частей нами информирован Военный Совет Земландской группы войск.*

*Уполномоченный НКВД СССР по Земландской группе войск — комиссар государственной безопасности — ТКАЧЕНКО*

*Разослано: т. Сталину т. Молотову*

Цяжка аб гэтым казаць, але сярод гвалтаўнікоў знаходзіліся і мужчыны, мабілізаваныя на тэрыторыі Дакудаўскага сельсавета. Па словах адной з жыхарак сельсавета, яна чула аб выпадку згвалтавання нямецкай жанчыны адным з землякоў-франтавікоў, двое іншых пры гэтым утрымлівалі немку.

Натуральнае пачуццё помсты, якое валодала многімі салдатамі, якія бачылі зверствы фашыстаў на роднай зямлі, якія згубілі сваіх родных або сяброў, чые хаты былі парушаны, а сем'і вымушаны былі сам на сам змагацца за жыццё ва ўмовах пасляваеннай разрухі, пад уздзеяннем непрадуманых прапагандысцкіх лозунгаў міжволі прывялі да згубы чалавечнасці ў чалавеку... Горка і сорамна!.. Але аб гэтым таксама трэба казаць, бо мінулае можа быць урокам для нашчадкаў толькі тады, калі яно штучна не "ўпрыгожана"

Гістарычная даведка: *"3 лютага па май 1945*

*года ўключна, за злачынствы супраць грамадзянскага насельніцтва асуджана ваеннымі трыбуналамі ўсіх франтоў 4148 афіцэраў і салдат. Некалькі паказальных судовых працэсаў над вайскоўцамі завяршыліся вынясеннем ім смяротных прысудаў. Варта дадаць, што на акупаваных гітлераўцамі савецкіх землях аб падобных судовых працэсах над фашысцкімі акупантамі нічога не было чутна, хаця насілле, грабяжы, гвалтаванні з боку гітлераўцаў і іхніх памагатых мелі непараўнальна большы маштаб*

**18.03.1945 (52 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**
Загінуў ураджэнец в.В.Жаберычы (пражываў – Масква) МОНІЧ Фёдар Емяльянавіч (1913); малодшы сяржант 345 гв.сп 105 гв.сд, прызваны 1941; загінуў пры варожым авіяналёце; (†) в.Чакбярэж, Венгрыя.

**19.03.1945**
**(51 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**
Таразевіч Зінаіда Іосіфаўна (*фота*). Настаўніца Нацкай і Дакудаўскай школ. Таксама была сярод тых, хто быў угнаны ў Германію. Нарадзілася Зінаіда Іосіфаўна у маленькай, але вядомай у Беллярусі вёсачцы Дальва – той самай, якую яшчэ называюць “малодшай сястрой Хатыні”, бо яна таксама ў гады акупацыі была спаленая разам з усімі сваімі жыхарамі.



**20.03.1945 (50 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Загінуў ураджэнец в.Клён (пражываў – Іркутск) ГОЛУБ Фёдар Фёдаравіч (1922); камсамолец, дэсантнік, старшы сяржант (памочнік камандзіра ўзвода) 322 гв.сп 103 гв.сд; (†) в.Іната, каля г.Будапешт, Венгрыя

**26.03.1945 (44 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**
Гайдук Зінаіда (здымак 02.02.1947) таксама была сярод тых, хто быў угнаны ў Германію. Пасля вайны стала жонкай нашага земляка, пісьменніка Хацкевіча Рыгора Мікітавіча (фотаархіў – Хадасевіч Вольга Мікітаўна).



**31.03.1945 (39 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**
Прапалі без вестак у сакавіку 1945:
- Ураджэнец в.Малыя Жаберычы ДАВІДОВІЧ Мікалай Іванавіч (1912); радавы, прызваны 03.07.1944; быў узнагароджаны 27.02.1945 (афіцыйна прапаў без вестак 05.1945, па першасным заключэнні ваенкома – 02.1945)
- Ураджэнец(?) або жыхар(?) в.В.Жаберычы КУКУЕВІЧ Васіль Канстанцінавіч (1910); радавы.

**06.04.1945 (33 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**
Пачаўся штурм Кёнігсберга, у якім прымала удзел і 84-я гв. стралковая дывізія, у якой ваявалі нашыя землякі.
/09:00/ Пачалася артпадрыхтоўка (доўжылася дзве гадзіны) /09-20/ Пачалося бамбаванне варожых пазіцый авіяцыяй /11:00/ Артылерыя была выведзена на прамую наводку і на працягу 20 хвілін страляла па варожых умацаваннях /11:20/ Артылерыя перанясла агонь у глыбіню абароны праціўніка /12:00/ Пяхота і танкі перайшлі ў атаку на ворага.

**08.04.1945 (31 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**
Памёр ад ран ураджэнец в.В.Жаберы-

чы МОНІЧ Пётр Рыгоравіч (1909); радавы 247 гв.сп; памёр ад ран; (†) ст.Зэапатэн, Усх.Прусія (перапахаваны – г.Калінінград).

Трэці дзень штурму Кёнігсберга.

З ваенных мемуараў. К.Н.Галицкий *"В боях за Восточную Пруссию": "Генерал-лейтенант П.К.Кошевой, переправившись ... на северный берег Прегель, доложил мне утром 8 апреля, что 16-я дивизия наступает на Ратсхоф для соединения с частями 43-й армии, 18-я – на Амалиенау, а 84-я, находясь во втором эшелоне, будет переправляться вслед за 18-й. ...в 14 час. встретились на двух участках – в районе Амалиенау части 18-й гвардейской дивизии с частями 87-й гвардейской дивизии и в районе Ратсхофа 16-я гвардейская дивизия с 24-й гвардейской дивизией 43-й армии, завершив тем самым окружение кенигсбергского гарнизона... Основная задача дня ... была выполнена: противник окружен, наши части ворвались в центр города, коридор, отделявший кенигсбергскую группировку от 4-й немецкой армии, расширен до 5 км.*

**10.04.1945 (29 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Малыя Жаберычы ЛІННІК Іларыён Прохаравіч (1906); радавы 232 сд, прызваны 1944; (†) в.Зволенская Слаціна, Чэхаславакія.

**Падзенне Кёнігсберга:** камандаванне Кёнігсберга капітулявала перад 11-й гвардзейскай арміяй – а значыць і перад нашымі землякамі, прызванымі з тэрыторыіі сучаснага Дакудаўскага сельсавета!




Кёнігсберг. Красавік 1945г.

**12.04.1945 (27 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 14.04.1945 (25 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

У Германії знаходзіліся землякі, якія былі прымусова адпраўленыя сюды на працу. Хадасевіч (Ермаловіч) Надзея Аўрамаўна.

Надпіс па-нямецкі на адваротным боку фотаздымка: "O.168", хутчэй за ўсё азначае: "Ost №168"




– Ost азначае, што чалавек з Савецкага Саюза *(фотаархіў– Барабанаў Мікалай Іванавіч).*

З успамінаў мясцовых жыхароў. Міцкевіч Таісія Міхайлаўна, 1931 г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Восава (запісана ў 2009 годзе): *"Аб жыцці сагнаных у Германію на прымусовыя работы расказалі нашыя дзяўчаты, калі вярнуліся дадому пасля вайны. Стануць расказваць – божа мой! не вытрымаць, аж плакаць хочацца: і білі там іх, і здзекваліся, і галадалі яны - "шалупкі" падбіралі, каб хаця б нешта з'есці. . ."*

**15.04.1945 (24 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

У другой палове красавіка саюзнікамі (амерыканцамі) быў вызвалены горад Эйзенах, дзе на прадзільнай фабрыцы працавалі дзевяць дзяўчат з в.Дакудава.

З успамінаў ХАДАСЕВІЧ (у замужжы – КАЗЛОЎСКАЯ) Надзеі Міхайлаўны (05.01.1924), ураджэнкі і жыхаркі в.Дакудава – (запісана ў 2009 годзе): *"Пасля таго, як горад быў захоплены амерыканцамі, нам выдалі даведкі, у якіх былі запісаны прозвішча, імя, імя па бацьку былога "гастарбайтэра", назва фабрыкі, дзе мы працавалі, а таксама дата вызвалення. Нам прапанавалі пачакаць у спецыяльна для такіх, як мы, створаным лагеры, пакуль нас пачаргова не адправяць дадому. Але мы з Янінай Пятроўскай вырашылі не чакаць і, дамовіўшыся, збеглі з лагера, селі на цягнік і заехалі ў Польшчу. Там нашыя вайскоўцы пасадзілі нас на цягнік, і мы рушылі далей – да Мінска, а ўжо адтуль дабраліся да Барысава, дзе пражывалі да пачатку вайны"*

**16.04.1945 (23 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ) - 17.04.1945 (22 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.Дакудава КАСЦЮКЕВІЧ Сцяпан Іванавіч (1908); радавы 82 сп 33 сд, прызваны 01.07.1944; (†) в.Найфельд, Германія.

**18.04.1945 (21 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)**

Прапаў без вестак ураджэнец в.Дакудава ХАДАСЕВІЧ Уладзімір Адамавіч (1910); радавы, прызваны 28.09.1944; быў паранены 18.04.1944 і накіраваны ў медсанбат (афіцыйна прапаў без вестак 05.1945) .

11-я армія праводзіла разведку боем на Пілаўскім паўвостраве, які меў даўжыню каля 15 км і шырыню ад 2 км на поўначы да 5 км у паўднёвага ўскрайка. Пачатак штурму вырашана адкласці да 20 красавіка.

**21.04.1945 (18 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Загінуў ураджэнец в.В.Жаберычы КУЛЕШ Іван Дзмітрыевіч (1926); радавы, мінамётчык 830 сп 238 сд, партызан з 1943; (†) в. Ніпервізе, Германія.

Дывізіі 16-га і 36-га стралковых карпусоў 11-й арміі працягвалі наступаць на Пілау. З ваенных мемуараў – К.Н.Галицкий "В боях за Восточную Пруссию": *"Также медленно продвигались мы и на*

*второй день наступления. На этот раз немцам помогала плохая погода, сковывающая нашу авиацию. Немцы организовали девять ожесточенных контратак силами до батальона пехоты при поддержке танков и штурмовых орудий.*

**25.04.1945 (14 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Войскі 11-й арміі ўварваліся ў Пілау . Сярод тых савецкіх воінаў, хто вызначыўся ў гэты дзень, быў, магчыма, і наш зямляк па прозвішчы ГОЛУБ! З ваенных мемуараў (К.Н.Галицкий "В боях за Восточную Пруссию"): *Сержант Голубь заметил, что около 30 немцев пробираются по береговому скату в тыл подразделения. Подтянув свое отделение, смелый и находчивый сержант внезапно атаковал фашистов. Восемь гитлеровцев уничтожили немедленно, а остальных взяли в плен...*

**28.04.1945 (11 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ) - 29.04.1945 (10 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

Пачаліся вясновыя работы на асабістых участках. З успамінаў мясцовых жыхароў. Міцкевіч Таісія Міхайлаўна, 1931 г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Восава (запісана ў 2009 годзе): *"Самі цягалі плугі: некалькі баб цягнуць, а адна за плугам ідзе".*

Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна, ураджэнка і жыхарка в.Дакудава (запісана ў 2009 годзе): *"Здаровых мужыкоў амаль не было, і таму, каб паспець сваечасова апрацаваць калгасныя палі, адзін падлетак кіраваў адразу шасцю конямі , да якіх былі прычэпленыя бароны – тады ахоп атрымліваўся нашмат больш".*

Варановіч Аляксандра Рыгораўна (прадставіла свае ўспаміны сама): *"На агародах засталіся зямлянкі нямецкія, мабыць, ужываліся імі як склады. Яны аказаліся замінаваныя. Але нашы салдаты размініравалі іх, і людзі сталі ў іх жыць. Потым бацька зрабіў сваю зямлянку. Потым "врамянку" ("румянку") з бярвёнаў. І толькі затым - хату, у якой і зараз жывем. Абжывацца ізноў было вельмі цяжка. Жылі бедна. Будавалі ўсё ўручную. Саматробнымі піламі пілавалі бярвёны на дошкі. Узводзілі хатнія пабудовы. Так і сталі абжывацца і будаваць ізноў калгас і нажываць калгасную гаспадарку. Тэхнікі ніякай не было. Касілі, ціснулі, малацілі - усё ўручную. І лён уручную апрацоўвалі.*

**30.04.1945 (9 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

**Апошняя ахвяра Вялікай Вайны** – памёр ад ран ураджэнец в.Дакудава ПЯТРОЎСКІ Мікалай Рыгоравіч (1907); радавы 981 сп 253 сд, прызваны 30.07.1944; (†) в.Тайпітц, Германія.

**01.05.1945 (8 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

11-я армія закончыла вайну на касе Фрышэ-Нерунг, дзе былі разбітыя апошнія гітлераўскія войскі ва Усходняй Прусіі.

**02.05.1945 (7 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ) - 04.05.1945 (5 ДЗЁН ДА ПЕРАМОГІ)**

***Лёс роду – лёс народу.*** У славутага савецкага салдата – адзінага сярод ураджэнцаў вёсак Дакудаўскага сельсавета поўнага кавалера ордэна Славы – Акаловіча Івана Ілліча пасля таго, як яго сям'я з'ехала ў Расію, у роднай яго вёсцы Малыя Жаберычы засталіся сваякі з тым жа прозвішчам – Акаловічы. Сярод іх былі чатыры браты: Уладзімір, Фёдар, Пётр і Аляксандр. Двое з іх – Фёдар і Пётр ***(абодва – на фотаздымку)*** – пераехалі ў Оршу, дзе жылі і працавалі на чыгуначнай станцыі электрыкамі. Уладзімір адправіўся яшчэ далей – у Маскву, дзе працаваў зваршчыкам station назаводзе. І толькі Аляксандр застаўся ў роднай вёсцы і працаваў трактарыстам на Крупскай МТС. Але лёс у іх аказаўся аднолькавы – усе браты былі арыштаваныя і прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. Тыя, што пражывалі ў Беларусі былі расстраляны ў адзін







**Браты Фёдар і Пётр Акаловічы. Пётр Акаловіч з роднай сястрой Ефрасінняй** *(фотаздымак, датаваным 20 сакавіка 1931 года).* **У Пятра ў руцэ кніжка – "Беларуская чытанка". Турэмнае фота Уладзіміра Акаловіча.**

дзень – 10 лістапада 1938 года – разам з яшчэ з 28 землякамі – ураджэнцамі або жыхарамі вёсак з тэрыторыі сучаснага Дакудаўскага сельсавета (усяго, такім чынам, у гэты дзень работнікамі НКВД быў расстраляны 31 чалавек). Уладзімір быў расстраляны ў тагачасным прыгарадзе Масквы – у Бутаве – на палігоне НКУС 28 лютага 1938 года. Таксама жудасны дзень у гісторыі сваёй малой Радзімы ў межах сучаснага Дакудаўскага сельсавета, бо разам з ім быў пакраны смерцю яшчэ 21 ягоны зямляк, што спрабавалі знайсці сваё шчасце на чужыне (усяго, такім чынам, у гэты дзень было расстраляна 22 чалавекі).

А чым кожны з братоў Акаловічаў аказаўся б праз 4 гады горшым за свайго славутага сваяка-земляка – Івана Ілліча – поўнага кавалера ордэна Славы?

У архівах НКУС захавалася наступная інфармацыя аб іх:

АКОЛОВИЧ Федор Адамович – (в базе данных – ОКОЛОВИЧ) Родился в 1906 г., д.Жаберичи Крупского р-на БССР; белорус; образование начальное; электромеханик, ст.Орша, распределительный пост. Проживал: Витебская обл., Оршанский р-н, Орша. Арестован 23 августа 1937 г. Приговорен: Комиссия НКВД СССР и Прокурора СССР 20 октября 1937 г., обв.: 68 УК БССР - агент польских разведорганов. Приговор: ВМН Расстрелян 10 ноября 1937 г. Место захоронения - Орша. Реабилитирован 11 февраля 1958 г. Военный трибунал БВО

АКОЛОВИЧ Владимир Адамович – Родился в 1908 г., БССР, Крупский р-н, с.М.Жеберичи; белорус; образование низшее; б/п; завод 'Красная труба' в г. Москве: сварщик. Проживал: Москва, Филевский пр., барак №2 завода 'Красная труба'. Арестован 14 ноября 1937 г. Приговорен: Комиссией НКВД СССР и Прокуратуры СССР 15 февраля 1938 г., обв.: участии в контрреволюционной шпионско-диверсионной террористической повстанческой организации. Расстрелян 28 февраля 1938 г. Место захоронения - Московская обл., Бутово. Реабилитирован 6 сентября 1957 г.

АКОЛОВИЧ Александр Адамович – (в базе данных – ОКОЛОВИЧ) Родился в 1911 г., д.Жаберичи Крупского р-на Минской обл.; белорус; образование начальное; тракторист, МТС Крупки. Проживал: Минская обл., Крупский р-н, д.Жаберичи. Арестован 9 октября 1937 г. Приговорен: Комиссия НКВД СССР и Прокурора СССР 26 октября 1937 г., обв.: 72, 76 УК БССР - член к/р орг-ции. Приговор: ВМН Расстрелян 10 ноября 1937 г. Место захоронения - Орша. Реабилитирован 4 февраля 1958 г. Военный трибунал БВО.

АКОЛОВИЧ Петр Адамович – (в базе данных – ОКОЛОВИЧ) Родился в 1916 г., д.Малые Жаберичи Крупского р-на; белорус; образование н/среднее; аккумуляторщик, ст.Орша, Электрическая централизация. Проживал: Витебская обл., Оршанский р-н, Орша. Арестован 23 августа 1937 г. Приговорен: Комиссия НКВД СССР и Прокурора СССР 20 октября 1937 г., обв.: 68 УК БССР - к/р деятельность. Приговор: ВМН Расстрелян 10 ноября 1937 г. Место захоронения - Орша. Реабилитирован 11 февраля 1958 г. Военный трибунал БВО.

Дарэчы, яшчэ адна сястра загінуўшых братоў – Аляксандра Адамаўна Акаловіч выйшла замуж за Барабанава Івана Васілевіча, які быў прызваны ў Чырвоную Армію ў 1944 годзе і загінуў пад Кёнігсбергам (фотаздымак – у хроніцы за 23.01.1945).

Барабанаў Мікалай Іванавіч – іх сын і родны пляменнік загінуўшых – усё жыццё прапрацаваў у калгасе трактарыстам і быў выдатным працаўніком. Барабанава Марыя Прохараўна – жонка Мікалая Іванавіча – таксама працавала ў калгасе. Ды так працавала, што была ўзнагароджана ордэнам Леніна! А павага да яе з боку аднавяскоўцаў і іншых людзей выразілася ў тым, што яе абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР!

Дык чым жа кожны з братоў Акаловічаў аказаўся б і ў мірным жыцці горшым за сваіх сваякоў?

### 05.05.1945 (4 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)



***Лёс роду – лёс народу.*** У жыхара в.Дакудава Рыгора Хадасевіча было чатыры сыны: Міхаіл, Пётр, Фёдар і Васіль. Міхаіл Рыгоравіч Хадасевіч – быў удзельнікам Першай сусветнай вайны. Па словах жыхара і ўраджэнца в.Брышча Хадасевіча Валянціна Міхайлавіча (1938 г.нар.): *"...па Барысаўскім павеце было тры салдаты, якія падчас Першай сусветнай вайны сталі поўнымі георгіеўскімі кавалерамі. Сярод іх як раз быў і Міхаіл Рыгоравіч Хадасевіч (Дакудава ў тыя часы адносілася да Лошніцкай воласці Барысаўскага павета). І больш поўных георгіеўскіх кавалераў з тэрыторыі сучаснага Крупскага раёна няма!" Па словах дачкі салдата – Казлоўскай Надзеі Міхайлаўны (1924 г.нар.), "Можа, гэта і так: ёсць (але не ў мяне) фотаздымак бацькі ў ваеннай форме тых часоў. Дык на ім сапраўды бачны нейкія ўзнагароды".*



*Пётр Рыгоравіч Хадасевіч па словах пляменніцы Казлоўскай Надзеі Міхайлаўны: "...дзядзька падаўся ў "прымы" да заможнай жанчыны: ажаніўся з ёю і з'ехаў на нейкі хутар у нашым раёне. Там неўзабаве іх раскулачылі і выслалі ў Расію недзе каля 30-га года. Дадому не вярталіся – жылі на Урале".*

А ў архівах НКУС-КДБ Беларусі захоўваецца справа з наступнай інфармацыяй: "ХОДАСЕВИЧ Петр Григорьевич. Родился в 1889 г., д.Докудово Лошницкой вол. Минского окр.; белорус; образование н/начальное; крестьянин, единоличное хоз-во. Проживал: Минская обл., Холопеничский р-н, х. Нешково. Приговорен: ОСО 22 июня 1929 г., обв.: 17-59-3 УК РСФСР - соучастие в банде. Приговор: 3 года высылки. Реабилитирован 7 февраля 1996 г. Прокуратура БВО".

Фёдар Рыгоравіч Хадасевіч – жыў у роднай вёсцы, працаваў у калгасе, але ў 1937 быў арыштаваны і знік. У архівах НКУС-КДБ Беларусі захоўваецца справа з наступнай інфармацыяй: "ХОДОСЕВИЧ Федор Григорьевич. Родился в 1896 г., д.Докудово Крупского р-на Минской обл.; белорус; образование н/начальное; колхозник, К-з "Новый быт". Проживал: Минская обл., Крупский р-н, д.Докудово. Арестован 6 августа 1937 г. Приговорен: Комиссия НКВД СССР и Прокурора СССР 28 октября 1937 г., обв.: 68 УК БССР - член к/р орг-ции. Приговор: ВМН. Расстрелян 10 ноября 1937 г. Место захоронения - Орша. Реабилитирован 14 июля 1958 г. Военный трибунал БВО".



Васіль Рыгоравіч Хадасевіч – самы малодшы з братоў *(на фота)*. У 1944 годзе пасля вызвалення вёскі ад фашысцкіх акупантаў быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Ваяваў на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Застаўся жывы. Вярнуўся дадому.

**АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА ПЕРАМОГІ**

Казлоўская (па мужу) Надзея Міхайлаўна – дачка Міхаіла Рыгоравіча Хадасевіча. У 1942 годзе была ўгнана ў Германію на прымусовую працу. Пашчасціла выжыць і вярнуцца дадому. Яе гісторыя і фотаздымак таго часу – у дадзенай хроніцы за 15.03.1945.



Казлоўскі Павел Аляксандравіч – муж Надзеі Міхайлаўны. Слесар і музыкант. Адслужыў у арміі яшчэ да вайны. З 1943 года быў у партызанах. Пасля вызвалення Беларусі – зноў у Чырвонай Арміі. Ваяваў на франтах Вялікай Айчыннай вайны. На фронце быў і камандзірам аддзялення, і старшынёй музычнага звода. Атрымаў раненне. Застаўся жывы.



**06.05.1945**
**(З ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)**

Дзень праваслаўнай Пасхі. У 1945 годзе Дзень праваслаўнай Пасхі супаў з днём Святога вялікапакутніка Георгія Пераможца. Расійскі георгіеўскі крыж названы менавіта ў гонар гэтага Святога, выява якога знаходзіцца у цэнтры гэтай адзнакі салдацкай доблесці, які паслужыў правобразам савецкага ордэна Славы.

## 07.05.1945 (2 ДНІ ДА ПЕРАМОГІ)

Землякі, якія былі прызваныя ў Чырвоную Армію пасля вызвалення і дата пагібелі якіх або час знікненя без вестак невядомыя, але з дастатковай ступенню ўпэўненнасці можна лічыць, што яны загінулі менавіта ў апошні год Вялікай вайны:

Ураджэнец в.Дакудава БАРАБАНАЎ Іван Андрэевіч (1918), загінуў у Польшчы
Ураджэнец в.Дакудава БАРАБАНАЎ Іван Іванавіч (1905)
Ураджэнец в.Дакудава БАРАБАНАЎ Іван Фёдаравіч (1919)
Ураджэнец в.В.Жаберычы БУДНІК Мікалай Міхайлавіч (1921)
Ураджэнец в.В.Жаберычы БУДНІК Ілья Аляксандравч
Ураджэнец в.Восава БУРЫ Васіль Рыгоравіч (1922)
Ураджэнец в.Восава БУРЫ Дзмітрый Адамавіч (1924)
Ураджэнец в.Восава БУРЫ Лявон Рыгоравіч (1921)
Ураджэнец в.Восава БУРЫ Міхаіл Кузьміч (1918)
Ураджэнец в.Восава БУРЫ Уладзімір Адамавіч (1922)
Ураджэнец в.Восава БУРЫ Уладзімір Паўлавіч (1925)
Ураджэнец в.Клён ГОЛУБ Фёдар Апанасавіч (1897), прапаў без вестак у Польшчы
Ураджэнец в. Клён ГУДЗІЛІН Лаўрэнцій Сямёнавіч
Ураджэнец в.Прыклёнак ЕРМАЛОВІЧ Цімафей Міхайлавіч
Ураджэнец в.Клён КАПТУР Канстанцін Пятровіч
Ураджэнец в.Восава КАПТУР Канстанцін Рыгоравіч
Ураджэнец в.Восава БУРЫ Васіль Рыгоравіч
Ураджэнец в.Дакудава КАСЦЮКЕВІЧ Васіль Аляксеевіч (1915)
Ураджэнец в.Дакудава КАСЦЮКЕВІЧ Іван Іванавіч (1925)
Ураджэнец в.Дакудава КАСЦЮКЕВІЧ Сцяпан Сямёнавіч (1915)
Ураджэнец в.Клён КІТОЎ Ісак Сямёнавіч
Ураджэнец в.Брышча КРУКОЎСКІ Аляксей Іванавіч (1905)
Ураджэнец в.Восава КРУЧОК Емяльян Антонавіч (1904)

## 08.05.1945 (1 ДЗЕНЬ ДА ПЕРАМОГІ)

Каля апоўначы па еўрапейскім часе Германія падпісала “Акт аб капітуляцыі”.
ВАЙНА СКОНЧЫЛАСЯ!

Гвардзейцы 11-й арміі пасля штурму Кёнігсберга ўзвялі ў горадзе на брацкай магіле, куды былі перанесены рэшткі загінуюшых героеў, помнік – манумент Перамогі. З ваенных мемуараў (К.Н.Галицкий “В боях за Восточную Пруссию”): *“Это монументальное сооружение занимает площадь 150 Х 40 м. В центре его возвышается 26-метровый гранитный пятигранный обелиск. На нем высечены слова: «Вы прославили Советскую Родину, и Родина будет славить вас вечно». У основания каждого из пятигранников – бронзовый венок. Их пять: от Верховного Главнокомандующего И.В.Сталина, <u>от правительства Белорусской республики</u>, от правительства Литовской республики, от боевых друзей – красноармейцев, офицеров и генералов 11-й гвардейской армии,от Военного совета 3-го Белорусского фронта.*

*Полукругом обелиск охватывает 140-метровая невысокая стена из искристого серого гранита. На ней – эмблемы разных родов войск. <u>Около стены четыре братские могилы, в которых похоронены 1200 гвардейцев</u>, павших в боях за Кенигсберг. На белом мраморе высечены и червонным золотом написаны их имена и названия гвардейских дивизий, в рядах которых они сражались с врагом.*

## 09.05.1945 (ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ)

**Унікальны фотаздымак – зроблены ў Дзень Перамогі.** Ураджэнец і жыхар вёскі Дакудава – франтавік Арлоўскі Уладзімір Сідаравіч, у якога адзін брат – Андрэй – першы дзень вайны сустрэў у Беластоку і прапаў без



хрэст. А як на в.Стаўпы йсьці – маяк стаяў высокі, нават бачна з яго быў Бялыначскі сабор. Мая сястра яшчэ лажала туды... У Гібайлавічах царква раней стаяла, на могілках, ці каплічка – не ведаю як правільна называецца. Там яшчэ крынічка ёсьць – дзяды з Альшанцаў туды хадзілі босыя і боты хромавыя нясуць – у царкве надзене, пастаіць, а дамоў зноў босы ідзе і ваду з крынічкі нясе. Адзін дзед казаў: “Сорак гадоў гэтым ботам!”.

**ПРА ТРАЕЦКІЯ ДЗЯДЫ:** *У сэботу, перад Троіцай – Дзяды. Рыхтуем стравы, абязацельна нада каб былі буракі, каша, ладкі, блінчыкі – усяго павінна было быць 7 ці 12 ці 13 страў на стале. Ўвечары засьцілаюць скацерку, становяць сьвечку, моляцца Богу і садзяцца вячэраць. Памінаюць усіх сваіх нябожчыкаў, прыглашаюць каб прыхадзілі: “Сьвятыя Дзяды прыхадзіце к нам ведаваць”.Дзяды посныя не бываюць (г.зн. бедныя) – Дзяды толькі багатыя. Гэта Каляда бывае бедная і багатая, а Дзяды толькі багатыя, каб не гнявіць Дзядоў, Дзядоў нельзя гневаць. Два, тры дні перад Троіцай прыбіралі хату, мылі подлогу, а ў суботу, ўвечары падмятаюць двор і ходзюць у лес адсякаюць бярозкі, клёну і торкаюць ў хаці і на дварэ ля вокнаў, ля дзьвярэй, а бярозкі ставюць пад вокны. Гэтыя бярозкі на Йвана носюць у рэчку і топяць, каб затанулі – каб дождж быў – прасілі Бога, маліліся, каб саслаў Бог дажджя нам.*

**ПРА РУЧНІКІ:** ...дуб вышывалі на ручніку каб здароўя было шмат.

---

**ВЯСЕЛЬНАЯ**
*А вясельлейка Бог*
*нам даў (2)*
*Ажанілася Марусь-*
*ка – Пецька ўзяў...*

**Як жаніх едзе за**
**нявестай**
*Міколачка па сенях*
*пахадзіў (2)*
*Ёе сваю мамачку й*
*пабудзіў (2)*
*А ўстань мамачка,*
*даўно сьпіш (2)*
*Ай пара радачку й*
*радзіці (2)*
*А скольки конікаў*
*карміці (2)*
*А скольки баяраў*
*садзіці (2)*
*Карміця конікаў*
*– скольки ёсьць (2)*
*Садзіця баяраў*
*– скольки дос (2)*
*Чужую чужыну ні*
*саджайця (2)*
*А сваю радзіну ні*
*кідайця (2)*

**Як нявесту садзюць за стол**
*Красіва Алеська*
*– красіва (2)*
*Ці цябе сонейка*
*радзіла(2)*
*Ці цябе месічак*
*гадаваў (2)*
*Што цябе Колячка*
*спадабаў (2)*

**Як вяночак адзяюць маладусі**
*Дзе твой,*
*Алесячка, старшы*
*брат (2)*
*Чаму цябе ні вядзе*
*й на пасад (2)*
*А мой старшы*
*брат у каморы (2)*
*Выбірае мне прыборы (2)*
*А як выбіра – пакладзе (2)*
*Тады мяне на пасад*
*павядзе (2)*

---

**V. АЎХІМОВІЧ Марфа Апанасаўна,** 1910г. нар. в.Гібайлавічы (зараз Знаменка) Крупскага раёну, 29.05.2000 запіс зроблены Андрэем Аляхновічам і Міхалам Баравулям разам са скаўтамі Малога Палесься ў в.Гібайлавічы, касэта №3 (АХСМП):

**ПРА КАЛГАСЫ:** Кароў забіралі, калі дзьве маеш, дык дзьве і забяруць. А калі адну карову маеш, але цьвердавік, то і й тую забяруць. Калі ты цьвердавік, дык ты доўжан здаць карову і хлеба скольки накладаюць – доўжан здаць і бульбы. Потым цьвердавікоў раскулачылі і ў Сібір адпраўлялі. А каторыя ўжо самі папаехалі, ужо расьледалі, што там удабней – нашых многа ў Сібіры, у нас была вёска бальшая – Бог Сьвяты ведае, скольки народу было, можа дамоў 60, а можа й болі.

Мы ў калгас не пайшлі, на месцы сядзелі. А як

мельніцу спаліў...(?) дык лесу далі і мы адстроіліся неяк на месцы...

**ЯК СЬВЯТКАВАЛІ ТРОІЦУ:** Раней хадзілі поле асьвішчалі з абыходам хадзілі народ увесь і сьвятых насілі. Гэдак па вуліцы ідуць – ім вуліцу засьцілаюць каўрамі, скацеркамі, пасьцілкамі ля кожнага дому і гэдак да кладбішча дзе цэркаўка стаяла і бацюшка йшоў разам з людзьмі на малебен. А ў хатах вешалі вяночкі ля іконы, ці проста кветкі лугавыя ў вазы ставілі на куце стала.

**ПРА ТРАЕЦКІЯ ДЗЯДЫ:** У сэботу варым буракі, кашу, крупеню варым, мяса, сала, яешню пячом і тады вячэраем увечара і пакідаем да раніцы ежу на стале. Дзядоў звалі: "Хадзіця свае й родныя і чужыя, куды каму некаму, хадзіця ўсе к нам вячэраць, хадзіця дзедаць,просім Вас, ня гордайце, хадзіця к нам – бо й мы там скора будзем..."

**ЯК ЦАРКВУ ЗБУРЫЛІ:** Камсамолцы ухвальскія, самрацкія, атусюль былі, разьбіралі цэркву ў 1963 гаду, цэлая дружына (у нас камсамолцаў не было). Адзін палез, як хрэст сьнімалі, і сарваўся – каб не ўхапілі, дык ба й разьбіўся. І тады ўжо стаяў, ні куды ня лез, нічога ні крануў. А сын Сяргея Рагулі з Сомраў, школьнікам тады быў, дык яны яго застаўлялі званы ськідаць – ён і ськідаваў. Тут быў Казлоўскі, ухвальскі учыцель, храмы тожа ўчыцель, ён дірэктар быў школы, а цяпер я ня ведаю... А мы ж ноч зь вілкамі стаялі і з качэргамі – міліцыі многа было крупскай – да раньня ні далі разьвярнуць. А тады раніцой яшчэ болей міліцыі прыехала і тут старых гэтых, агітатары-камуністы гэтыя, забіралі ў машыну, кідалі ўжо ў лятучку гэтую, Хвядоса дзеда і яшчэ каго... будта павязуць куды іх...(плача)... і Божа, й плакалі й галасілі..., прасілі Бога каб пакараў хоць аднога... мы ж тут маліліся, чысьціліся... толькі тэй... як адтуль пераняялі яго... тэй ўжо стаяў, ні чапаў нічога... толькі ня ведаю хто ён, ці ён настаўнік, ці ён... я не магу сказаць хто, памяць ужо дрэнная – быццам бы яго звалі Юра Разумоўскі... . А царкву ўсю забралі й на Ўхвалу павезьлі, а што з яе зрабілі – ня ведаю...

Яшчэ як царква стаяла поп у нас быў тут, ён сам пышацкі (в. Старыя Пышычы Кр.р-ну), а ў нас жыў. Тады ўжо забралі яго ў міліцыю, ужо ні далі папу... Далі новага папа, чорнавосаўскага (в.Чорнавосаў Кр.р-ну) у яго ў Чорнавосаве й дзеці жывуць. Дык гэты поп сказаў, што цэрква нягодгая, слабая, будта яна людзей пацісьне, пабье, яе можна разьбіраць, яна гнілая... . Мой тата 100 гадоў пражыў, дык пыталася даўней: "Ці помніш ты калі гэта цэрква строілася?". Дык нека, - "маі дзеткі", кажа:"не пры маёй памяці гэта строілася". Як сталі развварачаць – дык як звон... цэрква... крэпкая, крэпкая. Перакрылі яе ў нахабу гэту,(нахаба - жыцьцё гэткае паганае пры савецкай ўладзе, калі нахалюгі і нахабнікі да ўлады прыйшлі) яна й ні цякла, харошая была цэркаўка, яшчэ б стаяла 100 гадоў. Папа пышацкага звалі Ўладзімір Уласавіч... . Потым мае дзеці казалі што па нейкіх там сьпісках нашу цэркаўку не паложана было разварочаць, яна як каплічка стаяла... звалася. Гэта яе ўжо разукрасілі й яна ўжо цэркаўка была. Прыход наш быў, гэта вёскі Дзевяніца, Стаўпы, Барсукі, Глінішча, Замасточча і Харчычы (усе Бярэзінскага р-ну). Гэта па віне бацюшкі мы царкву паціралі...

**ПРА КРЫНІЧКУ ЛЯ МОГІЛАК:** Яна ад веку стаіць, дзетачка, вада харошая. Раней, як поп хадзіў сьвяціць рэку і крынічку заўсёды асьвяшчаў. А як сталі забараняць яму, дык мы прыносілі ваду з крынічкі ў цэркву.

**ПРА РУЧНІК-АБЫДЗЁНЬНІК:** абыдзёньнік, бывала ткалі, во дождж ня йдзець – зьбіраюцца, абыдзёньнік прадуць і ткуць за дзень. А потым просюць Бога каб дождж пайшоў і вешаюць на "Ростанькі" (як на Дзевяніцу йсьці) і з другога боку вёскі таксама "Ростанькі", і там вешалі.

**ПРА СЬВЯТА "ПІВА":** няма ўжо яго – вывелі. А раней (у 50-х гадох) было, было на Пакрова 14 акцябра, ой, сьвяткавалі (сьмяецца) – гарэлку пілі, па хатах хадзілі, сасед к саседу сазываліся, госьці з дзярэўня другія прыходжалі ў госьці, радня прыходзіла. Дзе мы самі былі, адтуль і прыходжалі, даўгі аддавалі – доўг за доўг, прымерна вы ў мяне пап'янствавалі, я ў вас. . . У Бялавічах "Піва" на Прачыстаю, у Стаўпах – 21 сінцябра, у Харчычах - ...?, у Пышачах на Міколу – 22 мая – так і хадзілі адзін да аднаго... . На піва сьпявалі піўныя песьні, але я іх ужо не памятаю, - усё больш розныя сабіронікі сьпяваем (г. зн. сабраныя з розных сьвятаў і абрадаў). Тады ўжо падапьюць і моладзь танцы танцаваць на вуліцы будзе, а потым біцца, асабліва калі хто чужы прыйдзе, біліся і частаколам, і бязьменам... было, і даўбешкамі. Во Сьвірыдаўка ў нас вёска ёсць, дык іх жа і завуць даўбешнікі. Як пойдуць туды ў піва, дык яны даўбешкамі й біліся. Ці не ў 1958 годзе быў случай, здаецца ў Куплінцы на "Піва" сьвірыдаўскага забілі хлопца маладога...
Цяпер "Піва" ўжо німа – цяпер і так алкагалікаў хапае...

**ЧАМУ ВЁСКА ГІБАЙЛАВЧЫ НАЗЫВАЕЦЦА:** таму што тут было гіблое месца – балоты, лашчыны, нізіны – таму й назвалі Гібайлавічы.

**Сьпяваць песьні адмовілася:** *"Не сьпяваецца ўжо, зараз жа і сьвят ужо няма – адны хаўтуры...*
Наступныя песьні нагаварыла на дыктафон:

**А што цяпер за сьвет настаў...**
А што цяпер за сьвет настаў,
Што сын мамку з двара прагнаў
Ідзі мамка з сыньні двара
Ты ўвесь сыньні хлеб паела (2)
Жонку маю абідзела (2)
Дзетак маіх зьнявідзела.
Пашла мамка заплакаўшы
Свайму сыну не дзякуўшы
Ішла поле, йшла другое
А на трэцьцяе ўзыходзе
К лесу цёмнаму падходзя
Стала мамка пад лясочкам
Стала плакаць галасочкам
Стала сынку тошна, млосна
Пайшоў сынку мамку шукаць
Ішоў поле, йшоў другое
А на трэцьцяе ўзыходзя
А стаў сынку пад лясочкам
Гукаў мамку галасочкам
Хадзі дамоў мамулечка
У мяне ў домі бяда стала (2)
Жонка сыночка прыспала
Буду жонку біць-караці
Буду дзетак навучаці
Каб на мамку ні брахалі
Каб мамульку паважалі.

**А ў садзе, у садзе...**
А ў садзе, у садзе зязюля кукуе
А ў другім садочку салавей шчабеча
А ў трэцім садочку сын з мамкай гавора
Ой сынку, мой сынку, хто табе наймілейшы
Ці жонка, ці цешча, ці родная мамка?
Добрая мне цешча для майго заезда
Добрая мне жонка для майго савета
Наймілей мне мамка над усяго сьвета
Яна мяне насіла – цяжэнька хадзіла
Яна мяне раджала – канала, умірала
Яна мяне калыхала – ручкі пасьцірала
Яна мяне гадавала – ночы недаспала
Яна сабе помачы дажыдала.
(2 варыянт – Яна сабе немачы дажыдала.)






# З лексікі в. Луцішча Крупскага раёна

РОДНАЕ СЛОВА / В.Д. СТАРЫЧОНАК

*Вёска Луцішча Бобрскага с/с знаходзіцца ў 25 км на паўночны ўсход ад г.п.Крупкі Мінскай вобласці. Гаворка гэтай вёскі адносіцца да полацкай групы паўночна-ўсходняга дыялекту. Рэгіянальныя асаблівасьці гаворкі: выпадкі вымаўлення пачатковага ц замест ч (цугун, цапля), наяўнасць канчаткаў –аць у трэцяй асобе адзіночнага ліку першага пераднаціскнога складу дзеясловаў першага і другога спражэння (бачаць, гавораць, кажаць, пішаць, сочаць), наяўнасць часціцы –сь у зваротных дзеясловах (бачылась, гаварылась, паслась, адхілялась, атхіналась) і інш.*

**АБАРТО'ЎКА** ж. Бакавыя дошкі ў возе. *Ні забудзь жа абартоўкі ўзяць, а то будзеш на сваіх плячах насіць бульбу.*

**АСКАЛЁПАК** м. перан. Несур'ёзны, неразумны чалавек. *Кап ты разбіраўсь у чым-небудзь, а то ж нейкі аскалёпак, дык сядзі і маўчы.*

**АТЛЕ'ЦІЦЦА** зак. Крыху нагрэцца. *Вада ня ўспела яшчэ атлеціцца.*

**АТО'ПАК** м. Ахапак трэсак, дроў. *Я укінула тры атопкі, дык на групку ні сесці.*

**БІНДЗЮ'ГА** ж. Калёсы з доўгай трайнёй для перавозкі бярвенняў, жэрдзя. *За дзень успеў толькі тры біндзюгі жэрдзяў прывезці.*

**БУЛА'БУШКА** ж. Здобная аладка, пампушка. *Як напяку булабушак, дык уся дзярэўня спытаць прыходзіць.*

**ГА'ХНУЦЬ** зак. Ударыць, стукнуць. *Віламі гахнула па банцы, дык тая і разляцелася ўдрэбезгі.*

**ГРА'НКА** ж. Баразна. *Тры гранкі бульбы прапалола, а нявестка яшчэ карову ні падаіла.*

**ДЖВІ'ГНУЦЬ** зак. Моцна ўдарыць рэменем, пугай. *У дзецтве ён быў дужа смелы, бацька яго добра па спіне джвігне, а слязы ці плачу не даб'ецца.*

**ЗАШПЛІКНУ'ЦЬ** зак. Зашпіліць. *Колька, ідзі зашплікні гузік, бо прыразка нейкая малая.*

**ЗБАЁ'ДАЦЬ** зак. Згубіць, збыць з рук. *Цябе луччы нікуды ні пускаць, а то ўжо збаёдаў дзве капы.*

**ЗГАЛАВА'ШКА** ж. Перадок воза з воссю. *Згалавашку трэба замяніць у возе.*

**ЗЫ'РЫЦЦА** незак. Вылупліваецца. *Толькі галаву адвярну, а ён ужо зырыцца на мяне, як бы пяць гадоў не бачыў.*

**КАПАНІ', КО'ПАНІ** толькі мн.Палазы саней, зробленыя з выкапаных дрэў. *Верхняя*



**СПА'ДЫШ** м. Ападак. *Цвёрдае яблыка ні магу ўкусіць, бо зубоў німа, а спадышы люблю.*

*планка ў нас – гэта намаражні, а такія палазы называем копані або капані.*

**КАРА'СЬ** м. Жалезная шайба, якая насаджваецца на вось, каб не звальвалася атоса. *Як спудзіўся конь, дык і загваздка і карась вылецелі, чуць паспеў выскачыць з воза.*

**КА'РАЦ** м. Невялікая, плеценая з лазы пасудзіна для мукі. *Толькі карац мукі з бацьвіннем замешваю, а ўсё роўна ўсяго ні з'ядуць.*

**КАРНІ'К** м. Спецыяльна абсталяваная частка хлява для захоўвання сена. *Ні люблю я работаць у карніку, душна ўсё урэмя.*

**КА'РЫ** толькі мн. Маленькія санкі, якія выкарыстоўваюцца пры перавозцы доўгага бярвення, падсанкі. *Кары ў нас ужо ні дзелаюць, а большыя броўны трактарам перавозім.*

**КІ'ЛІШАК** м. Невялікая пасудзіна для малака ў выглядзе чайніка. *Карову запускаць трэба было, а я ўсё роўна даіла па кілішку малака, бо дзецям не было чаго есці.*

**КЛАДЗІШЧА** н. Могілкі. *Старая згарода кладзішча абвалілась, дык мужчыны цяпер новую ставяць.*

**КУРДО'ПА** ж. Сорт ранняй бульбы. *На гародзе расце позняя, а ў гароччыку пасадзіла сотак пяць курдопы.*

**ЛАЙНО'** н. Бялізна (адна штука). *Шэсць лаён дзеўка высцірала, а яшчэ толькі ў шосты клас ходзіць.*

**ЛА'ХАНЬКІ.** Абы-што. *Рамы ў вокны здзелаць – гэта табе не лаханькі.*

**ЛЯЖЭ'ЙКА** ж. Верхняя і ніжняя паралельныя планкі драбін воза. *Шчэрбы ўжо павываліваліс з ляжэек, а бацька і не думаіць аб гэтым.*

**МЫ'ЗГАЦЬ** незак. Перабіраць страву, есці з неахвотай. *Ні мызгай у місцы, а то січас з-за стала.*

**НІ НА МАК.** Нікольki, нічога. *Не заснула сяння ні на мак: то сына ўспомню, то з дачкой здаецца, нешта случылась.*

**ПАЛА'ЦІ** толькі мн. 1.Палаці. 2.Вышкі ў хляве. *На палацях летам у нас куры, а зімой сена кладзём, пудоў трыццаць можна пакласці.*

**ПІРАДО'К** м. Маленькі ўслончык. *Падстаў пірадок і закрый комін.*

**ПЛЮ'СКА** ж. Кароткая куртка з плюшавага матэрыялу. *Плюску дзе б купіць: і цёпла, і модна яе цяпер насіць.*

**ПЯ'РНУЦЬ** зак. Моцна ўдарыць. *Так пярнула па капе, што яна разарвалась.*

**РАШПЛІКНУ'ЦЬ** зак. Расшпіліць. *Рукі акачанелі, а ніяк ні магу гузік рашплікнуць.*

**РО'ЗВАЛЬНІ** толькі мн. Развалкі. *Цяпер часта замест розвальняў палок ложам на любыя санкі.*

**СКАПЕ'Ц** м. Капец. *Пудоў семдзесят бульбы засыпалі ў скапец, абы ні змёрзла.*

**СКЛА'ПКА** ж. Стрэмка. *Паліц апух, бо склапку зразу ні выняла.*

**СТАРО'ШКА** ж. Будынак на калгасным двары для захоўвання вупражы. *Дзеці нашы дык усігда ля старошкі у хуванкі гуляюць.*

**УНЕ'Т** прысл. Ушчэнт. *Мой разлаваўся, дык усе банкі ўнет пабіў.*

**ХУ'РА** ж. Павозка з скрынкай для перавозкі зерня, мукі, бульбы і іншых рэчываў. *І чаму ён такую поўную хуру нагрузіў? Высыпацца па дарозе ўсё будзіць.*

ЦІЛУНДРО'ПІК м. Цялятка. *От і любіў Васіль нашага цілундропіка, жалка, што здалі.*

**ЦЫПКІ'** толькі мн. Палок у лазні. *Як залезу на цыпкі, дык усе ўжо крычаць пачынаюць, каб быстрэй злазіў.*

**ЧУХО'НКА** ж. Выязныя сані. *Як едзем у госці, дык чухонку запрагаем.*

**ША'РНУЦЬ** зак. Ударыць, адпіхнуць. *Петрачыха дык так шарнула свайго, што мне жалка стала.*

**ШВЭ'РГАЦЬ** незак. Шкрабаць. *Ты еш нармальна, ні швэргай па місцы.*

**ШАРГУ'НЧЫКІ** звыч. мн. Частка выязной вупражы, шамкі. *Здалёк было чутна, калі едзіць конь, бо шаргунчыкі звінелі.*

**ШПА'Р** м. Кіпень. *Як несла цугун, дык усе рукі шпарам абліла.*

**ШЧЭ'БРЫ** мн. Вузкія папярочныя дошчачкі ў драбінах воза. *Шчэбры ўсе вылецелі з драбін, бо дужа сільна гнаў каня.*

*Л-ра: Жывое слова, Мн., 1978, ст.134-137.*



# Моладзь з усходняй Беларусі наведала Варшаву

**МОЙ РОДНЫ КУТ. ЛЕОН БРАДОЎСКІ**



**Вінцэнт Брадоўскі**

*Агульнапольскі клуб аматараў Літвы на працягу 15 год сваёй дзейнасці заўсёды апераджаў сваёй дзейнасцю і чынам прафесійную дыпламатыю, ажыццяўляючы грамадцкую, народную дыпламатыю.*

І гэтым разам, менавіта з нашай ініцыятывы, ламаючы ўсялякія стэрэатыпы і забабоны, 30 вучняў сярэдняй школы з вёскі Хацюхова, якая знаходзіцца 45 кіламетраў ад Барысава над ракой Бярэзіна, пад апекай дырэктара школы Васіля Барысенкі, прыехала выдатным аўтобусам, пераадолеўшы 700 км да Варшавы. Вучні знаходзіліся тут з 9 па 11 мая 2004 г.
Такім чынам яны зрабілі візіт у адказ на нашу трохасабовую дэлегацыю, якая была ў іх 6 снежня 2003 г. Тады мела месца незвычайная ўрачыстасць, якая сведчыла аб тым, якую вялікую вагу беларусы аддаюць сваім караням. Паколькі святкавалі заснаванне вёскі у 1573 годзе, што вынікае з найстарэйшага, на той час, архіўнага дакуманту. Можа быць вёска існавала тут і шмат гадоў раней. Аб каранях жыхароў гэтай вёскі можа сведчыць польскае гучанне прозвішчаў шмат каго з іх. Гэты раён Беларусі быў адабраны царскай Расіяй ад Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў гвалтам ў выніку другога разбору 1793 г.

Многія жыхары гэтай вёскі здолелі ўцячы ад гітлераўскай агрэсіі 22 чэрвеня 1941 года і асяліліся на пяць год ва Ўсходняй Сібіры, а потым шчасліва вярнуліся да ўласнага, хаця і знішчанага акупантам, гнязда.

Дзіўным чынам захаваўся ў гэтай ваеннай завірусе двор польскіх зямян, якія тут прабывалі ажно да выбуху бальшавіцкай рэвалюцыі у 1917 годзе. Апошнім дзедзічам быў Вінцэнт Брадоўскі, якога сын Леон разам з жонкай Данутай, у кампаніі знаўцы беларускай культуры Чэслава Сенюха, прадстаўлялі менавіта наш клуб падчас юбілейнага візіту. Феноменам з’яўляецца тое, што ў вёсцы дзейнічае выдатна зарганізаваная сучасная сярэдняя школа. У школьным музеі, прысвечаным гісторыі вёскі, таксама ёсць куток,



**Ягамосьць Леон Брадоўскі падчас візіту ў в.Хацюхова 6 снежня 2003г., прымае шчырыя віншаваньні ад дырэктара школы Васіля Барысенкі. Зправа гісторык Герман Брэгер – аўтар кнігі "Хацюхова".**

прысвечаны апошняму дзедзічу Вінцэнту Брадоўскаму, дарожнаму інжынеру, які закончыў палітэхнічны інстытут у Харкаве, памёр у сакавіку 1937 года ў Вільні, дзе яго пахавалі на могілках Росса. У памяці унукаў захаваліся добрыя успаміны аб ім, як аб шляхетным чалавеку, які заўсёды пагаджаў перасвараных, таму яго называлі "клей".

Прайшло 80 год з тых часоў і з ініцыятывы нашага клубу малады архівіст з Мінску Герман Брэгер выдаў накладам 230 асобнікаў кнігу, якая была напісана на падставе 2,5 тысяч дакумантаў - найстарэшы з XV стагоддзя – аб гісторыі маёнтку Хацюхоў. Кніга аказалася ў гэтай галіне піянерскай працай і была вельмі высока ацэненая выбітнымі беларускімі і польскімі гісторыкамі. Маючы на увазе інтарэс, у тым сэнсе, каб беларуская культура шырэй распаўсюджвала свой уплыў, можна разлічываць на тое, што беларускія навукоўцы выйдуць з ініцыятывай яе выдання па-польску.

---

**БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ З ХАЦЮХОВА ПРЫБЫЛА ДА ВАРШАВЫ** *першы раз у сваім жыцці. Была тут вельмі кароткі час, але пры дапамозе дзеячоў нашага клубу і Фонду Цэнтральнай Еўропы "Літуанія" яна правяла час вельмі інтэнсіўна. Мы мелі шчасце, што ўся 35-асабовая група (моладзь плюс два апекуны і 3 кіроўцаў) магла начаваць і харчавацца ў найлепшым маладзёвым кэмпінге на вуліцы Каралькова 53 А.*

Першы дзень побыту, 9 мая, пачаўся з ускладання вянка беларускіх кветак ля магілы Невядомага жаўнера на плошчы Пілсудцкага. Потым моладзь вельмі падрабязна і грунтоўна наведавала залі і пакоі Каралеўскага замку, асаблівую увагу звяртаючы на Сенатарскую Залу, дзе 3 мая 1791 года была ухвалена першая ў Еўропе, і другая пасьля амерыканскай, Кастытуцыя. Таксама назіралі панараму Старога Горада з правага берага Віслы. Яшчэ наведалі Стары Горад, звяртаючы асаблівую увагу на гістарычны музей Варшавы на рынку Старога Места. Менавіта тут бесперапынна, на працягу апошніх 15 год адбываліся найважнейшыя палітычныя, культурныя і таварысцкія сустрэчы Агульнапольскага Клубу аматараў

Літвы. Шмат часу маладыя беларусы правялі, шпацыруючы па парку Лазенкі.

На другі дзень яны былі зачараваныя прыгажосцю даўнейшага маёнтку Юліана Урсіна Немцевіча на вуліцы Новаурсіноўскай 166, дзе змяшчаецца сёння Галоўны Універсітэт Сельскай Гаспадаркі. Экскурсаводамі у іх былі прафесары гэтай, хіба што найбольш сучаснай навучальнай установы ў Еўропе. Менавіта тут беларуская моладзь пастанавіла вучыцца польскай мове, каб магчы навучацца далей у гэтым Універсітэце.

Вялікім патрыятычным перажываннем быў візіт у новы цудоўны будынак Беларускай Амбасады на вуліцы Вертнічэй 58 у Вілянаве, дзе іх прыймаў і доўга з імі размаўляў Яго Эксцэленцыя Амбасадар падкрэсліваючы, што гэта была першая група маладых людзей з Радзімы у новым будынку, які быў збудаваны за сродкі Рэспублікі Беларусь. Таго ж дня шмат часу беларуская моладзь правяла ў Цэнтры Беларускай Культуры на вуліцы Гагарына, недалёка ад уваходу ў Лазенкі.

На трэці дзень, 11 мая, па запрашэнні дырэктара Міхала Ягеллы, нашыя маладыя госці наведалі Нацыянальную бібліятэку на Алеі Незалежнасці і больш усяго гадзін правялі у сядзібе Вышэйшай Грамадцкай Педагагічнай Школы на вуліцы Драўскай па запрашэнні Пана Рэктара прафесара Юліана Аўляйтнера, выбітнага грамадцкага палітыка. Менавіта там вучні сярэдняй школы у рэгіянальных строях прэзэнтавалі студэнтам гэтай навучальнай установы беларускія спевы, танцы, музыку і тэатральныя сцэнкі. Навязаўся сардэчны кантакт паміж маладымі беларусамі і, трошкі старэйшымі за іх, польскімі студэнтамі. Гэтая экскурсія ажыццявілася таксама дзякуючы фінансавай дапамозе з боку Польскага Міністэрства Нацыянальнай Адукацыі і Спорту і фінансавай дапамозе Таварыства "Веды", якое з'яўляецца уладальнікам Вышэйшай Педагагічнай Школы.



На заканчэнне побыту былі выказаны прапановы далейшага працягу супрацы. У будучым, 2005 годзе, беларускі бок мог бы запрасіць польска-літоўскую моладзь на лагер па веславанні на возеры Нарач (82 кв.км), якое да вайны было любімым месцам скаўцкіх летнікаў, перадусім Блакітнай Мараходнай Адзінкі і вучняў гуманітарнай гімназіі імя Караля Жыгімонта Аўгуста з Вільні. У наступным 2006 годзе, з ініцыятывы польскага боку можна было б заарганізаваць супольны з беларускай моладдзю лагер у жніўні у Славацкіх і Польскіх Татрах.

На думку выбітнага гісторыка беларускай культуры Адама Мальдзіса арганічная праца беларусаў ва ўсіх галінах жыцця з'яўляецца найлепшай дарогай да поўнай незалежнасці Беларусі.

*Часопіс "Lituania" №2 (46) 2004, Варшава. Пераклад з польскай мовы і падрыхтоўка да друку: Алесь Стральцоў-Каравацкі і Андрэй Аляхновіч.*

# Крупшчына ў газэце “Томан Барысаўшчыны (1996 – 2007гг.)



**У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКАМ І КРАЯЗНАЎЦАМ** / Валеры АРЦЮХОВІЧ

| № п/п | Год | | Аўтар | Назва артыкула | Каментарый |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | **1996** | №1 | Белы І. | Барысаўшчына ў іх лёсе. | Прыводзяцца біяграфічныя звесткі пра паэта Г. Камянецкага. |
| 2 | **1997** | №1 | Белы І. | Барысаўшчына ў іх лёсе. | Ёсць звесткі пра В. Зуёнка. |
| 3 | | №2 | Барэвіч А. | Погляд у мінулае. | Фрагменты запісаў В. Самцэвіча аб вандроўцы па поўдню Барысаўшчыны з часопіса “Наш край” №11 – 12 за 1929г. |
| 4 | **1998** | №1 | Мацельскі М. | Барысаўшчына ад найстаражытных часоў да сучаснасці. | Згадваюцца землі на правым беразе Бабра, якія ўваходзілі ў склад Барысаўскага княства. |
| 5 | **1999** | №1 | Мацельскі М. | Стары шлях. | Згадваецца тракт праз Бобр і Ігрушку, які ўпамінаецца ў 1765г. |
| 6 | | №2 | Мацельскі М. | Барысаўшчына ад найстаражытных часоў да сучаснасці. | Узгадваюцца абоз князя Аляксандра ля Бабра ў1500г. і бой на рацэ Бобр 28 жніўня 1514г |
| 7 | **2000** | №4 | | Наша гасцёўня. | Пра Т. Каваленку. Надрукаваны яе верш “Маё вяселле”. |
| 8 | | №7 | Мацельскі М. | Барысаўшчына ад найстаражытных часоў да сучаснасці. | Згадваецца пастанава генеральнага савета расійскай арміі ў Чашніках 13 чэрвеня 1708г., згодна якой расійская пяхота павінна была заняць тэрыторыю ад Чарэі да Бабра. |
| 9 | | №8 | Лазар М. | Вёска Хрост. | Упамінаецца дарога Барысаў – Халопенічы. |
| 10 | | | Белы І. | Літаратурная карта Барысаўшчыны. | Падаюцца звесткі пра В. Зуёнка, Г. Камянецкага, Р. Хацкевіча. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 11 | **2000** | №9 | Мацельскі М. | Барысаўшчына ад найстаражытных часоў да сучаснасці. | Пра пабудову ў 60-я гг. XVIIIст. шляху з Бабра праз Ігрушку і Хацюхова. |
| 12 | | №11 | Мацельскі М. | Барысаўшчына ад найстаражытных часоў да сучаснасці. | Апісваецца спыненне Паўла І ў Начы. |
| 13 | | №12 | | Прырачэнне скаўтаў. | На мерапрыемстве прысутнічала моладзь з Крупак. |
| 14 | **2001** | №1 | Салаш С. | Рыцар беларускага духу. | Інтэрв'ю ў А. Пушкіна. |
| 15 | | №2 | Мацельскі М. | Барысаўшчына ад найстаражытных часоў да сучаснасці. | Згадваецца Халопеніцкі кантон у складзе Барысаўскай падпрэфектуры -1812г. |
| 16 | | №3 | Белы І. | Трагічны лёс. | Біяграфія Р. Хацкевіча. З 1933г. па 1936г. працаваў у Крупках, з 1950г. па 1953г. — у Крупскім раёне. Памёр у в. Дакудава. |
| 17 | | №5 | Шустоўскі А. | Наркам — ваўкалак. | Пра камісара Бенгера. Згадваюцца Халопенічы. |
| 18 | | №6 | Мацельскі М., Нялюбін С. | Мядоцкі край — зямля талентаў. | Згадваецца зямляк У. Лайкоў. |
| **19** | | | | Пра свята, пра "Берагіню" і пра традыцыі. | Прыводзяцца словы У. Лайкова. |
| **20** | | | Мацельскі М. | Барысаўшчына ад найстаражытных часоў да сучаснасці. | Упамінаецца пра злучэнне французскага войска ў Бабры. |
| 21 | | №10 | Шустоўскі А. | Ён у складзе экскорту суправаджаў Джавахарлала Нэру. | Пра І. М. Шустоўскага, які нейкі час працаваў у Крупскім ДАІ. |
| 22 | | | Пагадзінская С. | Фестываль эстраднай песні. | Згадваюцца ўдзельнікі з Крупак. |
| 23 | | | | Карані з Барысаўшчыны. | Перадрукоўваецца ліст С. Галадкова з газеты "Крупскі веснік". |
| 24 | | | Лайкоў У. | Друцкія карані і галіны майго радаводу. | Наш зямляк распавядае пра сваіх продкаў і сваё жыццё ў в. Астроўкі і наваколлі. |
| 25 | | | Мацельскі М. | Барысаўшчына ад найстаражытных часоў да сучаснасці. | Згадваецца перанясенне павятовай школы з Барысава ў Халопенічы з 1816 па 1831г. |
| 26 | | №11 | Шустоўскі А. | Назвы нашых вуліц — як "радзімыя плямы" на целе. | Пра І. А. Адамовіча. У пачатку XXст. ён працаваў на фабрыцы ў Крупках. |
| 27 | | | Шустоўскі А. | Прапагандуйце сваю гісторыю. | Пра налепку "Маім Халопенічам". Упамінаецца А. Аляхновіч. |
| 28 | | | Лайкоў У. | Друцкія карані і галіны майго радаводу. | Працяг расповяду нашага земляка. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 29 | **2001** | №12 | Лайкоў У. | Друцкія карані і галіны майго радаводу | Працяг расповяду нашага земляка. |
| 30 | **2002** | №1 | | Вандроўка на "машыне часу". | Перадрукоўка з часопіса "Наш край" №1, 1929г. Згадваецца В. Самцэвіч у якасці экскурсавода па Барысаву. |
| 31 | | | Шустоўскі А. | Партызанскімі сцежкамі. | Пра П. А. Шустоўскага, які змагаўся ў складзе партызанскай брыгады імя Кірава на тэрыторыі Халопеніцкага і Крупскага раёнаў. |
| 32 | | | Лайкоў У. | Друцкія карані і галіны майго радаводу. | Працяг расповяду нашага земляка. |
| 33 | | №2 | Мацельскі М. | Невядомае навокал нас. | Пра брашуру "Экспедыцыя "Малога Палесься". |
| 34 | | | Лайкоў У. | Друцкія карані і галіны майго радаводу. | Заканчэнне расповяду нашага земляка. |
| 35 | | | Мацельскі М. | Барысаўшчына ад найстаражытных часоў да сучаснасці. | Апісваюцца баі паўстанцаў 7 траўня 1863г. каля Падбярэззя і паміж Халопенічамі і Шчаўрамі. |
| 36 | | №3 | | Рака Бобр. | Прыводзяцца агульныя звесткі пра раку. |
| 37 | | №4 | Турко А. | З глыбінь жыватворных народнага руху. | Згадваецца У. Лайкоў. |
| 38 | | №7-8 | Белы І. | Пішуць пра Барысаўшчыну. | Пра 14-ты том Беларускай Энцыклапедыі. Упамінаюцца браты Самцэвічы. |
| 39 | | | Букініч Г. І. | Барысаў у дарожных нататках вандроўнікаў мінулых стагоддзяў. | Ёсць звесткі пра Начу і Крупкі. |
| 40 | | №11 | Шустоўскі А. | Мітынг на "Батарэях". | Прысутнічалі хлопцы з Крупак. |
| 41 | | №12 | | Нашы суседзі. Халопенічы. | Некаторыя факты з гісторыі і фотаздымкі. |
| 42 | **2003** | №1 | Раховіч В. | Горад мёртвых. | Пра нямецкія ваенныя могілкі. На іх хавалі вайскоўцаў, што змагаліся і на тэрыторыі Крупскага раёна. |
| 43 | | №2 | Служба інфармацыі "ГБ". | Візіт. | Пра наведванне У. Кавалёнкам танкавага завода. |
| 44 | | №6 | Служба інфармацыі "ГБ" | Семінар БАЖа. | Згадваюцца ўдзельнікі з Крупак. |
| 45 | | | Дуброўскі В. | Звесткі пра цэрквы і прыходы Барысаўскага павета за 1901 год. | Узята з "Памятнай кніжкі Мінскай епархіі за 1901 год". Упамінаюца выдрыцкая, грыцкавіцкая, нацкая, пышацкая, ухвальская, халопеніцкая і хацюхоўская цэрквы. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 46 | **2003** | №7 | Раховіч В. | Ахвяры па разнарадцы. | Пра Яраша І. і яго партызанскую групу, якая была накіравана ў Крупскі раён. |
| 47 | | №8 | Мацельскі М. | Загадкавы Радзівілаў. | Пра населены пункт Радзівілаў, які адзначаны на шэрагу старых мапаў. Мажліва ён знаходзіўся на тэрыторыі сучаснага Крупскага раёна. |
| 48 | | | Раховіч В. | Барысаўшчына на стыку дзвюх эпох. | Паведамляецца пра дзейнасць Л. Семянюка ў Халопенічах. |
| 49 | | | Раховіч В. | Ахвяры па разнарадцы. | Згадваецца пра накіраванне партызанскай групы №28 у Крупскі раён. |
| 50 | | №9 | | Нашы суседзі. Крупкі. | Некаторыя факты з гісторыі і фотаздымкі. |
| 51 | | | Раховіч В. | Ахвяры па разнарадцы. | Маецца інфармацыя пра дзейнасць групы №28 у Крупскім і Халопеніцкім раёнах. |
| 52 | | №11 | Белы І. | Папаўненне мясцовага кнігазбору. | Пра кнігу У. Лайкова "Трэба дома бываць часцей". |
| 53 | | | Раховіч В. | Ахвяры па разнарадцы. | Паведамляецца пра дзейнасць групы І. Яраша каля Бабра і Жаберычаў. |
| 54 | **2004** | №1 | Белы І., Паваротная Н., Пучыла М., Чарпакова Л. | Самцэвіч Васіль Андрэевіч. | Біяграфія знакамітага краязнаўцы. |
| 54 | | №2 | Раховіч В. | Барысаўшчына пад нямецкай акупацыяй. | Згадваецца Казыра А. В., які нарадзіўся ў Халопенічах. Ёсць звесткі пра Данілава, які працаваў у Халопенічах. |
| 55 | | | Мацельскі М. | 80 год заснавання Барысаўскага краязнаўчага таварыства. | Ёсць звесткі пра старшыню – В. Самцэвіча. |
| 56 | | №4 | Служба інфармацыі "ГБ" | Прапанавана стратэгія развіцця рэгіёна. | Пра кнігу "Барысаў і рэгіён: стратэгія развіцця". Згадваецца зямляк Іваноўскі А. – адзін з аўтараў. |
| 57 | | №8 | Раховіч В. | Барысаўшчына пад нямецкай акупацыяй. | Згадваецца Грыгаровіч Н. з Крупскага раёна, якая працавала ў нямецкім шпіталі Барысава. |
| 58 | | №9 | Дылько К. | Архітэктура мядоцкіх могілак у кантэксце гістарычных падзей XX стагоддзя. | Згадваецца Лайкоў У. П. |
| 59 | | №10 | | Яшчэ параўнальна нядаўна тут было зусім інакш. | Апісанне шляху з Барысава ў в. Гара В. Самцэвічам з часопіса "Наш край" №11 за 1929г. |
| 60 | | №11 | Служба інфармацыі "ГБ" | Барысаў стане цэнтрам аграпрамысловага аб'яднання. | Згадваецца Крупскі раён. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 61 | **2004** | | Служба інфармацыі "ГБ" | Лепей не хварэць… | Упамінаецца Крупскі раён. |
| 62 | | №12 | Барэвіч А. | Курганы паміж вёскамі Гара і Глівін. | Згадваецца В. Самццэвіч. |
| 63 | **2005** | №2 | Шустоўскі А. | Трагічны лёс вязняў Навасадскага лагера. | Пра патапленне каля 300 зняволеных ў адным з балотаў Крупшчыны летам 1941. |
| 64 | | №3 | Служба інфармацыі "ГБ" | Заказнік. | Пра Заказнік "Чарневіцкі". У склад яго ўвайшлі і землі Крупскага раёна. |
| 65 | | | Мацельскі М. | Былы фальварак Весялова. | Згадваецца шлях з Бабра на Зембін. |
| 66 | | №5 | Граковіч Е. | Спаборнічалі махнатыя паляўнічыя. | Упамінаюцца сабакаводы з Крупскага раёна. |
| 67 | | | Шустоўскі А. | На вогненных скрыжаваннях лёсу. | Пра партызана П. А. Шустоўскага (брыгада імя Кірава) і яго дзейнасць на тэрыторыі Халопеніцкага раёна. |
| 68 | | | | Няведанне гісторыі не вызваляе ад адказнасці. | Згадваецца Бобр. |
| 69 | | №9 | Рахові В. | Лёс каштоўнасцей "залатога цягніка". | Пра атрад Ю. Моніча. |
| 70 | | №10 | Панцялей А., Мацельскі М. | Бажніцы Зачысця. | Пад 1839г. згадваецца капліца Св. Георгія ў в. Ігрышча. У 1879г. бажніца ў Ігрышчы мела статус прыходскай царквы. |
| 71 | | №11 | Перац М. | Аб'яднаныя "Святлом Мяноры" | Згадваюцца Крупкі. |
| 72 | | | Шустоўскі А. | Жахлівая знаходка. | Пра знаходку чалавечых парэшткаў ля сажалкі ў в. Вялікія Жаберычы. |
| 73 | | №12 | Балябін А. | 1812 год у вядомай працы Я. Тышкевіча. | Згадваецца ваенны этап у Начы. |
| 74 | **2006** | №4 | Герасімёнак Г. | Бярэзіна – транспартная артэрыя Полацкай зямлі. | Згадваюцца рэкі Бобр і Эса. |
| 75 | | | Баравуля М. | Асілак з Барысаўшчыны. | Згаданы Шастакоў М. Ф. з в. Нача. |
| 76 | | №5 | Служба інфармацыі "ГБ" | Агляд – конкурс. | Згадваецца каманда з Крупак. |
| 77 | | | Балябін А. | 1812г. ў вядомай працы Я. Тышкевіча. | У 1816г. павятовыя школы Барысава былі перанесены ў Халопенічы да 1831г. |
| 78 | | №6-8 | Дуброўскі А. | Гістарычны дэтэктыў. | Упамінаецца рака Эса. Каля в. Ігрышча знаходзіцца "вялікая гара, дзе было капішча з гульнямі". |
| 79 | | №9 | | Паводка. | Ў барацьбе з жнівеньскай паводкай у Барысаве прынялі ўдзел выратавальнікі з Крупак і работнікі Крупскага лясгаса. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 80 | **2006** | | Шустоўскі А. | Найглыбейшы вадаём Крупшчыны – 21м. | Пра воз. Сялява. |
| 81 | | | Мацельскі М. | Траянаўка. | Адзначаецца, што в. Траянаўка ў 1777г. адносілася да Халопеніцкага графства. У 1864г. на вясковых могілках вядома царква, якая была прыпісана да Мхерынскай. |
| 82 | | | Белы І. | Зачараваная рака. | Згадваецца А. Шустоўскі. |
| 83 | | | Шустоўскі А. | На перакатах ліхалецця. | Пра жыхарку в. Дубы і яе лёс падчас прымусовай працы ў Германіі. |
| 84 | | | Аніскевіч Г. | Сялянскі атаман Лукаш Семянюк. | |
| 85 | | №10 | Герасімёнак Г. | Сухапутныя дарогі Барысаўшчыны перыяду Полацкай зямлі. | Выказваецца меркаванне, што адзін старажытны шлях праходзіў па "густанаселеннаму міжрэччу Бабра і Бярэзіны" на Друцк, другі – у напрамку Лошніца – Нача – Крупкі на Оршу. |
| 86 | | | Шміт Т. | Рэпрасаваныя землякі. | З кнігі І. Кузняцова "Беларускі індэкс рэпрасаваных". Згадваюцца Пліска С. П. з в. Узнацк, Скалубовіч М. М. з Халопенічаў, Старадубцаў І. В. з в. Казубец. |
| 87 | | | Мацельскі М. | Невялічкая вёска Рубеж. | Ёсць інфармацыя пра мхерынскую царкву. |
| 88 | | №11 | | Вернутыя імёны. | Згадваецца Юзаф Бяляеў – селянін з маёнтка Халопенічы, які ўдзельнічаў у паўстанні 1830 – 1831гг. |
| 89 | **2007** | №1 | Аніскевіч Г. | Паўстанне 1863 года ў нашым краі. | Упамінаецца бітва 7 траўня 1863г. паміж Халопенічамі і Шчаўрамі. |
| 90 | | | Мацельскі М. | Айконімы Барысаўшчыны. | Згадваецца в. Мхерына 2-е. |
| 91 | | | Шміт Т. | З абшараў краіны ГУЛАГ. | Згадваецца Бернатовіч П. І. з с. Нача. |
| 92 | | | | Ён так любіў зоркі (урывак з кнігі). | Згадваецца В. Зуёнак. |
| 93 | | №2 | Барэвіч А. | Выбары 1795 года. | Інфармацыя пра тое, што Станіслаў Ваньковіч арганізаваў сустрэчу Паўла І у Начы. |
| 94 | | | Мацельскі М. | Айконімы Барысаўшчыны. | У спісе змешчана назва "Радзівілава". |
| 95 | | №3 | Шміт Т. | З абшараў краіны ГУЛАГ. | Згадваецца Байдак М. І. з в. Галькі. |
| 96 | | №4 | Васілеўскі А. | На скразняку бяспамяцтва. | Згадваецца А. Шустоўскі. |
| 97 | | | Шміт Т. | З абшараў краіны ГУЛАГ. | Ёсць звесткі пра Варановіча В. С. з Ухвалы, Гвоздзева І. З. і Гвоздзева С. І. з Начы. |
| 98 | | №9 | Служба інфармацыі "ГБ" | Злёт ветэранаў турызму. | Пра злёт на беразе Бабра ў Крупскім раёне. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 99 | **2007** | | | Ушанаванне бязвінна рэпрасаваных. | Маецца інфармацыя пра Біруковіча Л., Вержбаловіча В. – святара Халопеніцкай царквы, Земюка І. – святара з Начы, Івашку Я. – з Мхерына. |
| 100 | | №10 | Кандзідава Т., Мацельскі М. | Краязнаўцы Барысаўшчыны. | Пра В. Самцэвіча. |
| 101 | | | Шміт Т. | З абшараў краіны ГУЛАГ. | Ёсць звесткі пра Леановіча П. І. і Леановіча С. П. з в.Забалацце. |
| 102 | | №11 | Розенблюм А. | Імёны на п'едэстале. | Згаданы святар В. Вержбаловіч у сувязі з тым, што ім была выратавана Вера Самцэвіч. |
| 103 | | | Рэянтовіч А. | Старажытныя валокі. | Мяркуецца пра існаванне волаку паміж рэкамі Бобр і Ўсвейка. |
| 104 | | | | Ушанаванне бязвінна рэпрасаваных. | Ёсць звесткі пра Тарановіча М., які служыў пэўны час у Іллінскай царкве в. Мхерына і Труніна, які ў 1943г. быў настаяцелем Мікалаеўскага прыхода ў Крупках, пасля – царквы ў Худаўцах. |
| 105 | | | Дуброўскі А. | Таямніцы Барысаўшчыны. | Згадваецца музей У. Кавалёнка ў в. Зачысце. |
| 106 | | №12 | Шміт Т. | З абшараў краіны ГУЛАГ. | Маюцца звесткі пра Пятухову М. А. з Сомраў , Прыся А. з Выдрыцы. |
| 107 | | | | Юбілеі адметных людзей Барысаўшчыны. | 100 год з дня нараджэння Веры Самцэвіч – заслужанай настаўніцы Беларусі. |
| 108 | | | Кандзідава Т. | Настаўнік, краязнаўца, арганізатар турыстычных паходаў. | У 1956г. У. К. Уладзіміраў здзейсніў вандроўку, у маршрут якой уваходзілі Халопенічы. |

УСІХ, КАГО ЗАЦІКАВІЛІ ВЫШЭЙЗГАДАНЫЯ НУМАРЫ ГАЗЭТЫ "ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ", ПРОСІМ ЗЬВЯРТАЦЦА ПА ТЭЛЕФОНЕ: 56-8-96, Г.КРУПКІ. ТАКСАМА ПРАПАНОЎВАЕМ ПОЎНУЮ ПАДШЫЎКУ ГАЗЭТЫ ЗА ПЕРЫЯД 1996 – 2007ГГ. (МАЕМ ДЛЯ РАСПАЎСЮДУ НЕКАЛЬКІ КАМПЛЕКТАЎ).







# Агляд культурнага жыцьця ў 2004 годзе

*Суб'ектыўныя зацемкі зь дзёньніка мастака з Бабра Алеся Пушкіна*

**ДЫЯРЫУШ** / Алесь ПУШКІН



УСТУП

**Прашу загадзя вельмішаноўнага чытача пранікнуцца разуменьнем суб'ектыўнасьці бачаньня падзеяў жыцьця мінулага году, як у культурніцкім, гэтаксама і ў палітычным плянах і рэфлексіях. Але ж і высокае, і – нават трагічнае, ці штадзённа-бытавое, мастак, у моц яго асаблівага, абвострана-пачуцьцёвага ўспрыманьня сьвету, бачыць вобразна, абагулена, таму ягоны местачковы погляд з Бабра прымусіць вас задумацца над сэнсам падзей 2004 году, якія вяршыліся на нашых вачох, у нашай старонцы.**

**СТУДЗЕНЬ/** Год пачаўся з гучнай падзеі, якую ўведалі й не толькі ў нашым Крупскім раёне, але й на ўсёй Беларусі, і ў суседніх Польшчы ды Расеі, бо напісалі пра гэта і паказалі па REN-TV у першых днях студзеня такія выданьні, як: «Народная воля» (09.01.04. №1), «Комсамольская правда» (09.01.04. №2), «Салідарнасьць» (09.01.04. №1), «Советская Белоруссия» і «Rzecz pospolita» (24.03.04. №71), апроч хіба нашага «Крупскага весьніка», які да апошняга адмоўчваўся, ды й потым няўцямна, скупа асьвятляў гэту падзею. А падзея гэта была і ёсьць найхарактэрнейшай ілюстрацыяй нашага часу, бо ў ёй, як у кроплі вады адлюстравалася самае балючае і пякучае пытаньне сёньняшняга грамадцтва – сапраўдныя адносіны маленькага працоўнага чалавека, беларуса, – зь яе вялікасьцю Дзяржаўнай Уладай, якая ад імя гэтага маленькага чалавека й вяшчае дэмагагічна пра клопат аб яго дабрабыце, жыцьці, здароў'і, шчасьці й сямьі. *Прыйдзе час, і партрэт абгарэлага качагара, ці, як цяпер па-сучаснаму гучыць – аператара газакацельнага абсталяваньня Бобрскага сьпіртзаводу, Уладзімера Валянцінавіча Карпекі будзе вісець сярод іншых партрэтаў змагароў супраць розных чужынцаў, якія йшлі, шчаміліся, ці сьвядома пушчаліся існуючай уладай дзеля нажывы і зьдзеку над народам нашай старонкі, нашай Бацькаўшчыны.* Я бачу, што ў гэтай залі будуць вісець не толькі партрэты змагароў супраць ваенных інтэрвентаў розных часоў, але і змагары-атаманы (а яны ў нас былі – вунь адзін Юрка Моніч чаго варты!) супраць баль-

шавікоў, супраць «друзей» - «братьев» расейцаў, і, як Уладзімер Карпека — супраць каўказцаў, якія ясна ж, зь першага дня было бачна, прыехалі ў наш раён не дзеля ўздыму гаспадаркі і прамысловасьці, а пастаўлены існуючай дзяржаўнай вертыкальлю — а г. зн. дзяржаўным ладам дзеля імітацыі гэтага «уздыму»... Самі ж тым часам (удумайцеся: - не зьяўляючыся грамадзянамі РБ (!), на вачох у людзей — бяз году тыдзень тут жыўшы, зь ведама міліцыі і КГБ, аформіўшы фіктыўны шлюб і ўзяўшы, паводле яго, від на жыхарства (!), атрымаўшы жыльлё (!), якое тутэйшыя беларусы, чые палі і лясы дзяды палівалі потам і крывёй — доўга не могуць сабе пабудаваць ці прыдбаць (!) — пачалі атрымоўваць бюджэтныя грошы, крэдыты на аднаўленьне Бобрскага сьпіртзавода, робячы імітацыю дзейнасьці і пуска вытворчасьці. А самі ў той час — маецца на ўвазе ён — антыгерой 2004 — грамадзянін Рэспублікі Грузія Тамаз Гаргадзэ, пастаўлены зь ведама і па пратэжэ старшыні Крупскага РВК Гарнака А., зацьверджаны ж ясна, старшынём Мінскага Аблвыканкаму Дамашкевічам М., - сам жа ў гэты час не плаціў беларусам, што жывуць тут спрадвеку і працуюць — не плаціў заробкаў, паводзіў сябе нахабна, брыдка лаяўся расейскім матам на работніц заводу (па сьведчаньню Надзеі Палонскай, якая там працуе) папрывозіў сваіх грузінаў і думаў, ой як яшчэ разгарнуцца, набіваючы сабе кішэні, ды й, галоўнае — тым, хто яго паставіў, хто даў яму гэту пасаду і адкрыў крэдытаваньне зь бюджэту на мільёны.

Ды ёсьць яшчэ на нашай зямлі у некаторых мужчынах дух змаганьня, дух гонару за сябе і свой край! Знайшоўся на грузіна Гаргадзэ беларус Валодзя Карпека з Худаўцоў!

Вось ён, на здымку — абгарэлы, у нашай крупскай райбальніцы, у хірургіі, падчас лячэньня там у студзені 2004 году. Гэты здымак пабачыла Беларусь, зразумеўшы — якую мужнасьць трэба мець, каб змагацца за свае людцкія, годныя правы. І хоць не гуманны, жахлівы, нецывілізаваны шлях змаганьня ім быў абраны — але час і сытуацыя паказала — ён быў адзіна верны, гэты шлях.
Каб нашта зьмяніць, каб была справядлівасьць Уладзімер, сам таго не ведаючы, пайшоў за ўвесь наш прыбіты, прыгнечаны народ, які славіцца сваёй лагоднасьцю і цярплівасьцю. І калі б ня прэса, масс-мэдыі, - дзеючая улада яшчэ б схавала яго за краты на доўгія гады, а грузін, выйшаўшы з больніцы, дагэтуль бы «гаспадарыў» у нашым старажытным беларускім мястэчку,

**ДЫ ЁСЬЦЬ ЯШЧЭ НА НАШАЙ ЗЯМЛІ У НЕКАТОРЫХ МУЖЧЫНАХ ДУХ ЗМАГАНЬНЯ, ДУХ ГОНАРУ ЗА СЯБЕ І СВОЙ КРАЙ! ЗНАЙШОЎСЯ НА ГРУЗІНА ГАРГАДЗЭ БЕЛАРУС ВАЛОДЗЯ КАРПЕКА З ХУДАЎЦОЎ!**



зьдзекваючыся над людзьмі Бабра і Сакалавіч.

Такі зараз час. Такая цынічная улада. Бо адразу ж пасьля здарэньня, калі 30-31 сьнежня 2003 году Уладзімір Карпека абліў сябе і Т. Гаргадзэ бензінам і падпаліў, пратэстуючы супраць нявыплаты заробку (між тым Гаргадзэ штамесяц атрымліваў свой заробак у памеры прыкладна 1.200.000 бел. рублей!), іх абодвух паклалі ў Крупскую райбальніцу – грузіна у асобную палату, дзе яго навяшчала раённае начальства, а Уладзімера ў агульную палату – народнага героя разам са сваім народам (!), і супраць яго адразу ўзбудзілі крымінальную справу па падозраньню ў ваўсьвядомленым забойстве, ці дакладней – спробе яго (арт.14 КК ч.1 і арт. 139 ч.2 КК РБ). Ні адзін сьвятар (хоць і У.Карпека і Т.Гаргадзэ зьяўляюцца хрысьціянамі, і факт грахоўных жарсьцяў тут навідавоку і нецывілізаваны, нялюдцкі спосаб іх вырашэньня абраў пад узьдзяньнем Д'ябла наш герой – беларус), - ніводзін сьвятар наш, ні Крупскі – а. Віктар Арлоў, ні Бобрскі – а. Віктар Белацаркоўскі не наведалі падчас сьвятаў Божага Нараджэньня, а потым і Вадохрышча Гасподня, не наведалі, паўтаруся, райбальніцы і хворых, найперш душамі, людзей – рабоў Божых Уладзімера Карпеку і Тамаза Гаргадзэ.

А варта было б! Гэта вельмі гучная падзея ўскалыхнула людзей і царкве было б варта быць там, дзе ёсьць змаганьне Д'ябла з Богам, тым больш, што перамагаў Д'ябл… Але нашы папы любяць толькі вертыкальшчыкам граматы ад імя свайго іерарха ўручаць («Крупскі веснік» 25.09.04.), ды «художников-исправителей» у цэркву пушчаць, каб там зьнішчыць, ці па-іхняму «привести в канонический вид местную «самодеятельность», што была напісана мастаком, які нарадзіўся, вырас і навучыўся на сваёй зямлі, як яму даў Бог маляваць, славіць прыгажосьцю свой Край.
Дык вось, баліць душа і сэрца за тое, што рабілася ў студзені 2004 году ў Крупскім раёне, у мястэчку Бобр!

**Так пачаўся год, з такой «культуры», з такой запамінальнай падзеі! Яна выклікала цэлы шэраг наступстваў:**

1) былі выплачаны за 2003 год заробкі калгасьнікам Бабра і Баброўскага сьпіртзаводу. Людзі, дзякуючы геройскаму ўчынку Уладзімера Карпекі, атрымалі ўрэшце зaробленыя грошы (але ніхто з гэтых людзей не прыйшоў у залю суда 27 ліпеня 2004 году, калі судзілі Уладзімера – вось такая Беларуская Салідарнасьць!?).

2) Адбылася рэарганізацыя калгаса і сьпіртзавода «Бобр». Прыехала высокае начальства зь Менску – старшыня Нацбанку Пётр Пракаповіч і старшыня аблвыканкаму Мікалай Дамашкевіч – вырашылі правесьці ў нашай мясцовасьці макраэканамічныя зьмяненьні і на базе калгасаў Бобр і Колас утварыць агракамбінат тыпу «Сноў». Пачаліся нейкія зрухі. Паглядзім, які будзе іх вынік, ці ўдасцца яшчэ на пэўны час рэанімаваць гаспадараньне калектыўнае на нашай зямлі… (напрыклад, у Ізраэлі асноўнай формай сельскагаспадарчай вытворчасьці зьяўляюцца сельгаскааператывы – кібуцы).

3) Уладзімера Карпеку судзілі, але да суда (да 27.07.04.) ён быў дома, а не за кратамі і атрымаў умоўны тэрмін, – зараз ён са сваёй сямьёй, зь дзецьмі, і пачуваецца чалавекам, упэўненым у сваёй праваце.

Чаго не скажаш пра Тамаза Гаргадзэ, які пасьля лячэньня ў Крупскай больніцы, цяпер *(на сакавік 2005г. – рэд.)* усё яшчэ ў турме, пад следствам, і думаю, пачувае сябе ня так, як Карпека – бо ці добра пажылому, хвораму чалавеку, далёка ад дзяцей і ўнукаў, ад сваёй зямлі чакаць вырака суда за свой нячэсны бізнэс і прагу лёгкіх грошай, што штурхнула яго ў далёкую Беларусь зарабляць сабе на багатае жыцьцё, абабіраючы бедны мясцовы люд – цярплівы і рахманы.

Гэты ўрок жыцьця павінен доўга яшчэ быць у галовах нашага грамадцтва, хаця, яшчэ раз падкрэсьліваю – ён, гэты выпадак 2004 году – люстэрка Улады сёньняшней найперш, а падругое – мяжа той прорвы чалавечых адносінаў у сучасным беларускім грамадцтве, куды яно, гэта грамадцтва, дабраахвотна, усенародна прагаласаваўшы, крочыць. Зразумейце гэта людцы беларускія і, зразумеўшы – адхісьніцеся ад гэткай мадэлі народаўладзя!

**17 СТУДЗЕНЯ/ Учора, 16 студзеня наведаў выставу «ПРАВАСЛАЎНЫЯ ІКОНЫ» да 10-годдзя адраджэньня праваслаўнага іконапісаньня у епархіях Беларускага Экзархату Расейскай Праваслаўнай Царквы. Блізу 50-ці майстраў працуюць зараз над напісаньнем абразоў для патрэбаў Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Усе яны вырасьлі і выгадаваліся тут, дома, а некаторых я ведаю, бо скончылі нашу акадэмію – А.Косікаў і Дзьмітрыеў – графіка, С.Бышнёў – манументальна-дэкаратыўнае мастацтва.**

Можна адзначыць, што цалкам адчуваецца тэндэнцыя «быть русскими» іканапісцамі. Нічога зь Беларускай школы іканапісу, за выключэньнем дзьвух, на мой погляд, аўтараў: сьвятара Міхаіла Мядзелкі (ягоны Спас Нерукатворны вельмі нагадаў нешта зь беларускіх твораў), ды О.Семашкевіч з Брэсцкай епархіі – яе вышытыя бісерам і штучнымі камянямі абразы і аклады – гэта традыцыі Веткаўскай школы.
Астатнія – проста рускія, нічога беларускага ў іх няма, ніякіх адметнасьцяў мясцовай школы не ўвабралі, хоць узровень і вельмі высокі, ня горш за вялікарасейскіх.
Найлепшы зь іх, сучасных іканапісцаў Беларусі, якія пішуць у традыцыях «Залатога веку Расейскага іканапісу» - гэта А.Жароў. Потым – А.Дзьмітрыеў, муж Ані Балаш, мастачкі-лялечніцы, якога я памятаю яшчэ з часоў навучаньня іх з А.Косікавым на графіцы Акадэміі Мастацтваў, Яны тады захапляліся, асабліва Косікаў – Паблам Пікаса, ды вось, пасьля заканчэньня – шарахнуліся ў іканапісцы. У А.Дзьмітрыева вельмі прафесійная і добра, з доляй уласнага творчага пагляду, зробленая ікона Прп. Андрэя Сьвірскага зь Св.Троіцай над ім. Яшчэ хочацца адзначыць і абразы Уладзімера Жураўлёва зь Віцебскай епархіі, з Куцейна, яго майстэрня вельмі прафесійная, і ўжо даўно яна там ёсьць. Але найлепшы, усё ж Жараў – ягоны абраз Маці Божай «Страсной» – самы лепшы на выставе.
Мінскі дом Міласэрнасьці – гэта найлепшая сучасная майстэрня шыцьця, абразоў, царкоўнага начыньня.
А вось Сяргей Бышнёў – ня



**“Я ДУМАЮ, ШТО НАРОДНЫ БЕЛАРУСКІ АБРАЗ – ХУТЧЭЙ НАВАБЕЛІЦКАЯ, СЬЦІПЛАЯ ІКОНА”.**

вельмі тонка піша, але што ж – вялікія посьпехі і ў тым, што ён цэльны і шмат год ідзе па шляху іканапісу.
Я думаю пісаць зусім у іншым

рэчышчы – няхай і не так высокапрафесійна, але па-свойму, – па-беларуску. І нашая зь Янай (жонка аўтара – рэд.) прыдумка – аздабленьне з саломкі на каўчэгу (дарэчы каўчэг – гэта не уласна беларускае, не характэрнае для Беларусі – гэта чыста бізантыйскі, раньне-расейскі канон).
Яшчэ – разны ляўкас. На гэтае – забыліся. Была на выставе толькі, на асобных абразах, цыроўка і залачэньне.
Я думаю, што народны беларускі абраз – хутчэй Навабеліцкая, сьціплая ікона. Вось яе б і спалучыць з інкрустацыяй саломкай і разным ляўкасам (напрыклад фота-2). Тады было б вельмі маляўніча, сьціпла і па-народнаму, як у XVIII – XIX – XX стст.!!
Плюс твары, – твары гэта вельмі важна! Яны павінны быць беларускімі!
А так атрымліваецца, што ў Маскоўскіх новапабудаваных храмах – тое і ў храмах Расейскай Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Поўная адпаведнасьць! Навошта тады было пісаць назвы на беларускай мове, пісаць прадмову на беларускай мове да выставы Надзеі Фёдараўне Высоцкай і хваліць гэтых іканапісцаў, калі яна ўсёй сваёй дзейнасьцю і кнігамі сьцьвярджала наадварот, - нашу адметнасьць, інсітнасьць, самабытнасьць абразоў. І навошта было дырэктару Нацыянальнага Музэя РБ Уладзіміру Пракапцову казаць па БТ (ОНТ), што ў мінулым усё, што было напісанае ў беларускіх цэрквах – напісана беларусамі, а цяпер – таксама? Навошта прыцягваць адно да другога? Якраз цяпер, на гэтай выставе і бачна, што адметнасьцяў няма

**ЛЮТЫ**

**УВОГУЛЕ 30 ГОД ТЭЗІСУ А. САЛЖЭНІЦЫНА – «ЖЫЦЬ НЕ ПА ІЛЖЫ» ПАКАЗАЛІ, ЯК ВЫВЕЎ С.ДУБАВЕЦ У ПЕРАДАЧЫ «ВОСТРАЯ БРАМА» АД 8 ЛЮТАГА 2004Г. – ЛЕПЕЙ НЯ СТАЛА – НІ Ў РАСЕІ, НІ Ў НАС.**

І, больш таго, шмат тых, хто жыў не па ілжы – зломлены, зьнішчаны ці выпіхнуты ў маргінэс. І гавораць праўду, і ня хлусяць, і ходзяць на пратэсты, і галасуюць на выбарах – а ўсё ж не перамагаюць – і не паменела зла... Ні ў Расеі, ні ў нас – выходзіць, што прынцып не даў выніку, прынцып ня дзейсны.
Жыць асабіста не па ілжы – заклікаць іншых – і не мяняецца адносіны дзяржавы да чалавека, ня меньшае зла. Правіцелі – горшыя, войны палыхаюць, і ў параўнаньні з Заходняй Эўропай (хоць і ў яе шмат заганаў – збачэнствы, духовая дэградацыя, etc') мы ўсё ж і жывем горш, і не дагонім іх ніяк ні ў дэмакратыі, ні ў павазе да чалавека і яго правоў на годнае жыцьцё. Адзінае, што зьменьшылася – брутальнае ўварваньне дзяржавы ў асабістае жыцьцё. Няма ні «чорных воранаў», ні псіхушак, ні проста правакацый, зьбіваньняў (на сяньня – 2004г.). Але ж за 10 год, з 1994 году, краіна і людзі перажылі гэта – і зьбіваньне, і зьнікненьне, і правакацыі, і ярлыкі.
Ды вось думка: «Бог ня ў сіле, а ў праўдзе – а праўда – ў чыстых сэрцах!». І Васіль Быкаў: «Сёньня за вамі перамога – ды за намі ісьціна!».
Калі час паказвае, што праўда адступае, уладарыць сіла, дык ці значыць, што ад нас адступае Бог? І шмат моў, народаў зьнікла за гэтыя часы (3-2 тысячы год) – дык значыць Бог іх за невашта пакінуў?
А жыды жывуць і не зьнікаюць як народ – значыць – Бог зь імі!
Няўжо мой народ зьнікне і гэтыя матэрыяльныя артэфакты, што я, прынамсі, пакідаю – ці будуць каму цікавыя і ці узбудзяць чыесьці душы? Ці песьні Вольскага? Ці вершы Хадановіча? Можа са

– як і на тым БТ, ОНТ, расейскіх тэлеканалах – усюды Масква!
У духе часу сёньняшняга! Як называюць расейскамоўную папсу, што пяюць нашай гадоўлі беларускія К.Слука і Л.Грыбалёва – беларускай папулярнай песьняй!
У дзяржаве і Царкве навідавоку пэўная тэндэнцыя – Беларусь без Беларускага, самабытнага, характэрнага, уласнага – але суверэннага. Падмена беларушчыны ўва ўсіх сфэрах жыцьця – як грамадцкай, палітычнай, культурнай усім правінцыйна расейскім, чаканьне як з Масквы пагладзяць за гэта па галоўцы, пахваляць за «уподобление истинному, православному, чисто русскому!». І – вось вам пятак на хлеб!
А тых, хто не хоча гэтага «уподобления» – да пазногця, не даць ім работы, замовы, адмежаваць ад падтрымкі беларускіх, сваёй гадоўлі бізнэсоўцаў, – няхай здыхаюць, зьнікаюць, маргіналізуюцца, ходзяць прыніжаныя, бедныя, нікому не патрэбныя, маўляў!
Ці даўно так? – Ужо 200 год, як і зь беларускай мовай.
Ці надоўга яшчэ? – Відаць надоўга, дай Бог пад старасьць, пасьля 70-ці год атрымаць замову на росьпіс сабораў у Вітабску, ці на напісаньне храмавых абразоў уласна беларускай школы і стылю.
Зьвяртае на сябе увагу тое, што ўсе сьвятыя – расейскія, былі толькі выявы Св.Св.Еўфрасіньні, Афанасія Берасьцейскага і Гаўрыіла Беластоцкага.
Было некалькі абразоў расейскага цара Мікалая II !?
Вось ён – «белорусский» іканапіс!

---

сьмехам будуць кінуты ў вагонь як непрыгожыя, жахлівыя, незразумелыя, непрывабныя і запануюць іншыя каштоўнасьці, іншыя героі – як цяпер на кубку Дэвіса па тэнісу – героі ордэнаў «Ацечаства», «Мужнасьці», тэнісісты Мірны і Ваўчкоў. І захапленьне ў вачох мільёнаў маладых, прыгожых, не размаўляючых па-беларуску, дзяўчат і хлопчыкаў – вось Вы – Новыя Героі!
Белоруссия, зялёна-чырвоны сьцяг, корты, культ спорту, сілы – а не праўды. Праўда ў сіле, бо так папусьціў на сёньняшні дзень Гасподзь.
Што будзе? Ці так і здарыцца ўжо: мы сыйдзем, наш набытак будзе асьмяяны, ня варты ўвагі, а жыцьцё на плянэце вымушае спадзявацца на культ сілы і перамогі. Амерыка, Расея – вось прыклады: сіла і перамога.
Першая – над знешнімі сваімі пагрозамі і сыравіннымі патрэбамі – каб лепей за ўсіх на сьвеце жыць. Другая – над унутранымі «сепарацістамі», каб сьцьвердзіць сваю месіянскасьць Трэцьцяга Духоўнага Рыму.
Але ў мяне будзе сынок і мушу гэтае сваё, што мне за жыцьцё напішацца – перадаць.
І Бобр, і домік, і царкву, і карціны – і хочацца верыць, што яму гэта будзе патрэбна.

---

23 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ/ У пятніцу быў сабраўся пайсьці на юбілейны канцэрт «Харошкаў», Лёша Гаявы, мой сябар дзяцінства (потым у Акадэміі вучыліся разам – яго маці, дзякуючы свайму становішчу і сяброўству з Стальмашонкам, уладкавала – бо першы раз не паступіў), правёў мяне на канцэрт у Палац Рэспублікі. Але ў залі не было вольнага месца, у мяне ж быў запрашальнік бязь места – дык ахова, убачыўшы мой бел-чырвона-белы значык папрасіла пакінуць Палац, што я і зрабіў, зразумеўшы, што так будзе лепей.

Разважаючы над з'явай «Харошкі», над постацьцю балетмайстра, Народнай Артысткі Беларусі Валянціны Іванаўны Гаявой зноў прыхожу да высновы, што ўсё ж спланаваная стаўка афіцыйнага міністэрства Культуры як рабілася, так і робіцца на людзей прышлых, рускіх (Мулявін, Селіханаў, цяпер Елізар'еў і Гаявая), якія нам, беларусам паказваюць беларускае, робячы зь яго эфектнае, відовішчнае гледзішча.

Гэта добра і вялікае ім дзякуй. Але ёсьць і тэндэнцыя парадніць, а то й замяніць беларускае ментальнае, сапраўднае з гэтай чужой, не ўласьцівай беларусам штучнасьцю. У скульптуры – гэта апяваньне Партызаншчыны, Супраціву немцам – чаго амаль не было насамрэч, а штучна накінута нашаму народу правакатарамі з Усходу. У танцах – гэтай «разудалью», ухарствам, узьвізгам як у расейскіх танцавальных калектывах. Школа клясічнага расейскага балету прывілася ў нас на Беларусі, у Грузіі і дала вельмі своеасаблівую, прызнаную ў сьвеце форму. Гэта добра, гэта манументальна – Хатынь, Елізар'еў, «Харошкі», «Песьняры», але й гэта мае адваротны бок – карыстаючыся зьнішчэньнем у 30-гады ўсяго цьвету нацыянальнай інтэлігенцыі, пасьля II сусьветнай вайны беларускую (па назве) культуру запоўнілі прыезджыя пралетарскія рускія усходнія інтэлігенты, выхаванцы сацрэалізму і пачалі «рабіць» нам нібыта нашу беларускую культуру. І трэба сказаць дасягнулі вельмі высокіх вынікаў, прызнаных усім сьветам. Але былі, і найперш мной цэняцца, Шырма, Цітовіч, Забэйда-Суміцкі, Быкаў, Раманюк, Барадулін і г.д., сваёй гадоўлі асобы-творцы, прызнаныя ў сьвеце.

Толькі чаму ў дзяржаве з такой помпай, з такім афіцыёзам славяцца ўсё ж прыезджыя і зусім не надаецца належнай увагі нашым? Прыклад: сьмерць Мулявіна і яго ўшанаваньне і сьмерць Быкава і яго ўшанаваньне.

Вось што думалася мне пасьля «наведваньня» канцэрту «Харошак».

Затое сустрэў у файе Палацу Рэспублікі Гаўрыіла Харытонавіча Вашчанку і ён прапанаваў мне выставіцца разам зь ім у верасьні-кастрычніку ў ліку 21 ягонага вучня ў Нацыянальным Музэі Гісторыі і Культуры на К. Маркса 21.

Я з радасьцю прыняў гэтую прапанову выставіць 3 працы разам з Настаўнікам.

Дзеля гэтага і трэба было схадзіць на канцэрт «Харошкаў».



**6 САКАВІКА/ СЁНЬНЯ ПРЫЯЗДЖАЛА Ў БОБР ЗДЫМАЧНАЯ ГРУППА РТР «ВЕСТИ»** з Андрэем Качурам – рэжысэрам, Сяргеем Пушкіным – апeратарам і кіроўцам аўто. Здымалі ў царкве фрэску з Лукашэнкам на Судным Дні, потым у мяне дома пыталіся пра маё стаўленьне да Саюзу Беларусі і Расеі. На жаль, калі вярнуліся з царквы, я прапанаваў ім выпіць гарэлкі, каб сагрэцца, дый сам выпіў. Таму нёс акалесіцу, нешта казаў пра «прыклад Расеі ўва усяленскай Любові», а што газ трэба перакрыць на 10 ці больш, а не на 1 дзень – тады любоў гэтую мы б адчулі!

Карацей, з разумным тварам нёс усялякую палітычную акалесіцу, бо быў п'яны. На жаль, відаць гэта ўсё запішуць і крутануць па РТР, во будзе хохма! Але што зробіш – не хавацца ж мне было ад іх і хлусіць, маўляў – не магу, не ведаю, не разумею. Ды ясна, мелкая я сошка, хіба ад майго меркаваньня і размоў нешта залежыць.




**ХРОНІКА ПАДЗЕЙ**

Пасьля паказу на РТР «Вести. Панарама» за нядзелю, 7 сакавіка а 20-й вечара, назаўтра (8 сакавіка 2004г.) у панядзелак дзесьці а 15-й па абедзе прыехаў з Менску у Бобр сакратар Мінскай епархіі пратаіерей Мікалай Коржыч (службовы тэл. 209-42-99) з двума невядомымі. Загадалі айцу Віктару Белацаркоўскаму адамкнуць нашу царкву і, прыставіўшы драбіну, прывезенай з сабой фарбай замазалі фрагмэнт фрэскі «Судны Дзень» ( там дзе «ошуюю» - грэшнікі перад Судным Днём ). «Прапрацаваўшы» паўтары гадзіны – зьехалі.

9 САКАВІКА, АЎТОРАК/ прыкладна а 9-й раніцы прыехаў старшыня Крупскага выканкаму Гарнак А. і яго намесьнік Загорскі У. Агледзілі ўсё і паехалі.

10 САКАВІКА, СЕРАДА/ Дзесьці а 12-гадзіне ідучы ад бацькоў я ўбачыў выканкамаўскі ўазік каля царквы. Нешта прадчуваючы, зайшоў у царкву. . . .
Там былі:

канкаму Пархімовіч Леанід Сямёнавіч (пр. тэл. 223-99-77, працоўная адрэса: пл. Свабоды д. 13 кабінет 52), айцец Віктар, старшыня раённай вертыкалі Гарнак А. і яго намесьнік па ідэалёгіі Загорскі Ул. Я падыйшоў бліжэй – яны павіталіся. Я прамаўчаў.

*– А что, художников не учат здороваться?* - Запытаўся пагардліва Гарнак. Я пайшоў моўчкі да абраза Св. Міколы, перахрысьціўся, тры разы пакланіўся, пацалаваў ікону, толькі тады павярнуўся да іх:

*– Добры дзень.*

Яны выйшлі і пачалі зваць бацюшку. Я папрасіў яго затрымацца на некалькі хвілін і запытаўся:

*- Калі і хто зафарбаваў белай водаімульсіёнкай гэтую фрэску (правую частку Суднага Дня)?*

*- Чаму ў панядзелак ціха званілі званы ўвечары, калі садзілася сонца, якраз а 17-гадзіне?*

Ён адказаў, што не ведае, чаму і хто званіў ў званы…

Потым прыбег Загорскі і пазваў бацюшку. Днём, а 16-й бачыў оперупаўнаважаннага КГБ па Крупскаму раёну, які выходзіў ад бацюшкі (побач з домам стаяў вайсковы уазік). Ён прыпыніўся і пачакаў пакуль я не падыйшоў:

*-Не узнаёте?*

*- Не.*

*- Гапеев.*

*- А, таварышч капітан!*

*- Не капітан, а маёр!*

*- Чаму вы да бацюшкі? Чаму КГБ служыць рэжыму? Чаму няма сярод КГБ дысыдэнтаў?*

Ён не схацеў мне адказваць. А бацюшку запрашаў нібыта на пахаваньне (?) некуды (?). І



нашага сьвятара, айца Віктара Белацаркоўскага не было аж да 21 гадзіны…

Пад вечар мы ўпершыню купалі Міколку. Яму ўжо 8 дзён. Былі: мая сястра Света з дачкой Кацяй, мама, тата. Перад гэтым, удзень яго агледзіла наш доктар Маргарыта Пятроўна Гулікава і патранажная сястра Яніна. Яны засталіся задаволеныя ягоным станам.

Вельмі сонечны, цёплы, з веснавымі капелямі быў сёньня дзень, 10 сакавіка 2004 году. …

Госпадзі, памілуй нашу сямью!



**САКАВІК/ ПАДАРОЖЖА Ў АПОЛЕ – КРАКАЎ НА ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ ЗІМОВЫ РЫЦАРСКІ ФЭСТ.** *Выехалі 11 сакавіка аўтобусам у 18,30. Наш кіраўнік – Ігар Міхна. Прыемна было ўбачыць хлопцаў з Наваполацку Ігара (Чорнага) і, асабліва Юрася Усьціновіча.*

Першы ранішні прыпынак – у Чэнстахове, ля манастыра айцоў Паўлінаў – Ясна Гура, дзе абраз Маці Божай Чэнстахоўскай. Вельмі прыгожы, стары, XIV ст. кляштар, галоўная сьвятыня Польшчы!!! Пры ўваходзе – схілены кардынал Стэфан Вышыньскі – вялікая бронзавая скульптура на каленях (ахвяра якогайсьці сямейства палякаў ў ЗША). Далей – праход да самога касьцёла Дзевы Марыі і там, у бочнай левай капліцы – санктуарый Маці Божай Чэнстахоўскай з мноствам вотаў на сьценах – і мыліцы, і крыжыкі, і часткі целаў з срэбра і золата, і памятныя шыльды ад розных арганізацыяў – гэта ўсё вельмі ўражвае – відно, як уся Польшча моліцца і наведвае гэта месца.

У капліцы-санктуарыі йшла імша для моладзі – і я вырашыў больш не хадзіць анікуды тут – ні ў збраёўні, ні ў касьцельны музэй, а памаліцца Маці Божай Чэнстахоўскай аб дараваньні нам, нашай радзіне – здароўя, шчасьця і ўсялякіх даброта ў – найперш падзякаваўшы Богу і Дзеве Марыі за шчасьце – сыночка, што нарадзіўся ў нас зь Янай на сёмы год жыцьця. На каленях я абыйшоў на заканчэньні імшы, разам з многімі маладымі людзьмі (такі звычай), вакол каплічкі (прэсьбітэрыя) абраз Найсьвяцейшай Панны Марыі Чэнстахоўскай.

Час, адведзены на наведваньне санктуарыюма скончаўся, і я вымушаны быў пасьпяшацца да аўтобуса. На выхадзе бачыў запамінальную сцэнку з жыцьця такой веруючай, Польшчы – маліўся, схіліўшыся хлапец, а моладзь, якая разыходзілася пасьля імшы – сьцябалася зь яго ўтарапёнасьці і пабожнасьці. Падумалася – можа гэта вельмі характэрна для Новай Польшчы, што вось-вось уступіць 1-га траўня ў Эўразьвяз? Ці можа гэта не характэрны выпадак, не трэба яго трактаваць, як нейкі там знак?

Яшчэ адно прыкрае здарэньне напаткала мяне на самым выхадзе з санктуарыюма, акурат дзе стаяў схілены укленчаўшы бронзавы кардынал Стэфан Вышыньскі: цыганаватага выгляду кабета бордзенька прышпіліла мне каталіцкі пластыкавы крыжык і усунула 3-4 паштоўкі ў разгубленыя мае рукі. Я кіўнуў ёй, падзякаваў і рушыў далей.

- Стой, пан, заплоць 10 злотых (2,5 USD).

- Ого!

За што так шмат? І чаму гэта ахвяра табе? Якое ты маеш дачыненьне да Маці Божай Чэнстахоўскай, апроч таго што тут суеш у рукі мінакам паштоўкі па 10 грошаў і патрабуеш ахвяры? Ахвяра ж даецца ў храме – у спецыяльныя скарбонкі, прычым Яна дабраахвотная і невызначаная – ні 10, ні 20, ні 1 злоты?

Усе гэтыя пытаньні мне хацелася задаць ужо потым, у аўтобусе, калі мы ехалі далей… А тады я сказаў, што ў мяне толькі манетай 7 злотых і аддаў ёй.

- О’кей! Вясёла прамовіла яна і хуценька адышла.

У гэтым здарэньні я ўбачыў Каталіцкую Заходнюю Царкву. Нідзе ў Праваслаўі я такога не сустракаў. Але бачыў іншае – шмат нібыта жабракоў, якія сьмірэнна і пакорна шыхтуюцца каля праваслаўных храмаў і ты, праходзячы скрозь шыхт іх вачэй, рук і выклікаў: «Падайце Хрыста Радзі!», унутранна адчуваеш дыскамфорт, сваеасаблівы шантаж і псіхалягічны ціск. Але зь іх боку няма прамых фізычных дзеяньняў – і ты чым можаш – падасі, ці скажаш

«Бог подаст!». Ні яны, ні ты не крыўдуюцца на гэта. Такое правіла шмат вякоў.

Прыехалі ў Аполе (Opole) – гарадок на 120 тысячаў жыхароў з унівэрсытэтам. Увечары пайшлі па горадзе – цэнтр (стара мяста) прыгожы: Катэдра Сьвятога Крыжа, Касьцёл, Пляц Сьвятога Себасьцьяна, Ратуша, стары рынак, вежа Пястоўска.

А на заўтра цэлы дзень быў зімовы фэстываль (бо пад вялікім дахам у спартовай спарудзе гэта праходзіла) сярэднявечнай культуры: бойкі, гульні рыцараў, выступы гуртоў сярэднявечнай музыкі, і ў фінале – бугурт. Спадабаліся мне дудары з Эдынбургу – 8 дудароў і 2 барабаншчыкі ў нацыянальных шатляндзкіх строях. Так слаўна яны адкрылі гэты фэст сваёй музыкай… . Малітвай нас усіх благаславіў біскуп Апольскі.

Далей ўжо было звычна глядзець гэты фэстываль, бо ў нас у Палацы Моладзі праходзяць такія ж. Дарэчы нашыя больш шчырыя і імпэтныя – бойкі рыцараў больш жорсткія.

Але абед, вячэра-пір – гэта запамінальна! Ды й бугурт заключны – выдатнае відовішча (бойкі шматлікіх групаў рыцараў). Сярэднявечны кірмаш – бедны і кошты на ўсё высокія (абутак, фібулы, пярсьцёнкі, бранзалеты, геральдыка, зброя, самаробная папера, пячаткі, манэты, ежа – бліны, печаныя нашымі дзяўчатамі са Стоўпцаў). Да слова – зь Беларусі было 5 клюбаў – Наваполацак, Менск, Магілеў. Гэта дапаўняла украінскія, расейскія, латысскія, чэскія і польскія клюбы. Зразумела польскіх рыцараў было найбольш – каля 40 клюбаў. У нядзелю, 14 сакавіка выехалі на Кракаў, дзе я вельмі марыў пайсьці ў Палац Чартарыйскіх, каб падбачыць «Панну з гарнастаям» Леанарда да Вінчы… . І вось я ў той зале – за браніраваным шклом, паўтара метры ад мяне – трэцьцяя праца да Вінчы, якую я бачу ў сваім жыцьці. Першыя дзьве аглядаў ў Эрмітажы – «Мадонна Літта» і «Мадонна Бенуа».

Побач з карцінай пані наглядальніца строга робіць заўвагі.

Я доўга гляжу на «Панну з гарнастаем»… . Першае ўражаньне – Леанарда не быў жывапісцам, не ўражвае яго калярыстыка, стасунак чырвонага і блакітнага, гэта проста мысленьне з пэндзлем і спосабам малюнка й жывапісу амаль грызайлевага, шэравата-стрыманага.

Але ж – партрэт Эпохі! Квінтэсэнцыя густа, гонару, высокародства, велічнасьці і жаноцкасьці! Чысты, сьвецкі партрэт высокароднай, багатай пані – эліты тых часоў.

Якая невялічкая праца і, як шмат ён над ёй працаваў – прыгнушыся, я ўбачыў, як доўга воджана пэндзлем і які слой фарбы над тварам і рукамі….. Уласна Леанардаўскімі засталіся: рукі, гарнастай, плячо – астатняе – шмат рэстаўрацый. Нават бачна вялікая шчыліна, ці адбіты край у левым верхнім куце абраза. Ён невялікі – 60х80 см., (пісаны на дошцы), але адразу адчуваеш, што ў такім малым фармаце «Панне…» вольна ў карціне, ёй хапае паветра! Асабіста для мяне – гэта урок Мастака.

Яшчэ ў адной залі Мастацкага музэю вельмі ўразіў, менавіта сваёй колеранасычанасьцю і жывапісам «Пейзаж з самарыцянінам» Рэмбранта. Як быццам лямпачка сьвяцілася за палатном, высьвечваючы апошнім промнем з-за насоўваючыючайся навальніцы мост праз раку, млын, нейкага вазьніцу, а ўпоцьмах, у правым куце карціны, у цяні дрэў і быў той добры самарыцянін, які на асьле вёз хворага. Вельмі багаты жывапіс, сьветлыя экспрэсіўныя мазкі пэндзля, цікавая, цёплая імпрэматура пад прапісаным экспрэсіўна і тэмпераментна навальнічным небам! Якое сонца і далёкі зялёны паплаў за ракой… .

Несумнеўна, гэта вялікі шэдэўр, бо пад незвы-

чайным жывапісам – да таго ж глыбокі падтэкст і мудры, вялікі біблейскі сюжэт.
Многаму мяне навучыла гэтая карціна. Якія там пэрфомансы!, якія канцэптуальныя загагуліны стануць упоравень з гэтай геніяльнай прастатой і у той жа час – глыбінёй.
Кракаўская Нацыянальная Мастацкая Галерэя ганарыцца зборам гэтых майстроў: Леанарда да Вінчы, Рэмбрант, ёсьць Пітэр Брэйгель («Казань сьв. Яна Хрысьціцеля»), Лукас Кранах, ёсць з італійцаў здаецца Франчэска Гвардзі… . Шмат рымскіх скульптур, зброі (з калекцыі Радзівілаў, прынамсі), слуцкія паясы.
Таксама зайшлі мы да Марыяцкага Касьцёлу – найбольш густоўнага з усіх польскіх касьцёлаў (бо ў Яснай Гуры – там такі багаты перабор: вітражы, роспіс, скульптура, пазалота алтароў і мэблі – то ўжо багацьце, дык багацьце!). У Марыяцкім жа геніяльны алтар, паліхромны, разны і вызалачаны Віта Стома – немцам, якому Кракаўскі Магістрат за гэтую працу заплаціў гадавы бюджэт гораду! Да таго ж густоўны жывапіс бочных алтароў і капліц – дзе выявы эвангелістаў і айцоў Каталіцкага Касьцёлу.
Жывапіс вельмі прафэсійны й шыкоўны, у стылі позьняга барока. Добрыя, запамінальныя арнамаентальна-геральдычныя вітражы ў вокнах сабора, вежы асімэтрычныя, кожную гадзіну гукі трубача-гейнала… На рынкавай плошчы – шмат прагульваючыхся людзей. Багатыя японцы едуць на брычках параконных па старых прылеглых вулках да Сукеніц.
На вуліцы, што йдзе з Вавельскага пагорку ўбачыў вулічнага пэрформера: ён увесь белы, у грыме, граў ролю помніка пісьменьніку. Гэты нерухомы жывы бюст белага, як мармур, чалавека з пяром і кнігай, ажываў і хуценька пісаў белым гусіным пяром нешта ў сваю кнігу толькі тады, калі ў кружку кідалі грошай. Над ім, заміраючым і нерухомым, віліся белыя мухі, хоць было не горача, а дзесьці каля +6*С.
Мне падалося гэта тленьнем Духа і Старой Эўропай, над якой прадчуваючы яе загніваньне віюцца мушкі як першыя зьвесьніцы мярцьвячыны?
Можа мне варта б было ўбачыць у гэтых мухах над вулічным гаерам нешта іншае?
Але ўспамінаецца верш Уладзімера Набокава пра акрабата, які высока над натоўпам выраб-ляў цуды, здаваўся незямным стварэньням і ў вачох дзіцёнка быў амаль Богам. А потым – «дешёвый, потный гаер – за подояньем к ним сошёл…».
Ужо надвячоркам мы выехалі з Кракава. Па дарозе да дому хлопцы з Наваполацкага рыцарскага клюбу «Жалезны Воўк» хораша сьпявалі беларускія песьні, асабліва Юрка Усьціновіч.

---

**18 САКАВІКА – ВЕЧАРЫНА ПАЭТА АНДРЭЯ ХАДАНОВІЧА Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА.** Я ў ёй удзельнічаў сваеасаблівым чынам – зрабіў малюнак на сэрцы Андрэя ягонага вобразу – рукі рыцара з пяром і тарчай з Скарынаўскімі Сонцам і Месяцам. Зьнялі гэты працэс на лічбавую камэру і пад верш Андрэя «Бароняць норы свае» гэта размаляваньне сэрца паэты білася. Далей, адчыняючы вечарыну, я зьняў з Хадановіча коўдру, пад якую ён залез у крэсьле на сцэне, і аккуратна яе склаўшы – запёр у чамаданчык, перавязаўшы чырвонай лентай. Найбольш запамінальныя вершы Андрэя Хадановіча – «верш на Свабоду», сэрыя лімэрыкаў, лепшыя пераклады з Бадлера, Рэмбо, песьні пад «Гатэль Каліфорнія» ды «Бел-чыр-

вона-белы трактар-патрыёт» і «Бэз сама ірву я» - вясёлыя, сьмешныя, глыбокія. Пра Андрэя Лявон Баршчэўскі сказаў, што ягонай кніжкай «Лісты з-пад коўдры», магчыма пачнецца XXI стагодзьдзе беларускай паэзіі. Яму 31 год, і Валянцін Акудовіч сказаў яму: «Маладых паэтаў любяць, старых – не. Мёртвых паэтаў любяць, жывых паэтаў – імгненьне. Хваля пройдзе – чым займацца будзеш?».

Мяне гэтыя словы глыбака кранулі і, увесь вечар я думаў – кім стане Андрэй Хадановіч? Перакладчыкам, празаікам, філёлягам, прафэсарам і выкладчыкам унівэрсітэту?

Ня ведаю, але не ўяўляю сабе 36-й кніжкі паэзіі беларускага паэты, які яшчэ не згубіў вастрыні і піку такой цікавасьці да яго, як зараз, 18 сакавіка 2004 году, у свае 31 год жыцьця.

20 сакавіка Сяньня, у субботу, ізноў прыязджа-Дзяржавы.

Далей, калі журналісты сышлі, хвілін праз 40 пагрукаўся ў хату аперупаўнаважаны міліцыі па Бабру капітан Сімановіч Аляксей Уладзіміравіч. Пагрукаўшы, ён доўга стаяў на ганку, гледзячы на раку і нешта сабе думаючы. У вакно я ўбачыў гэта і ўявіў пра што ён думае, гледзячы на разліваючуюся ўсё больш і больш нашу раку?

Далей, калі я запытаў чаго ён? – Па службе. Ты выклікаў журналістаў?

*- Не, самі прыехалі.*

*- Усё на гэтым, да пабачэньня…*

**23 САКАВІКА/ СЁНЬНЯ ТЭЛЕФАНАВАЎ САКРАТАРУ МІНСКАЙ ЕПАРХІІ ПРАТАІЕРЕЮ МІКАЛАЮ КОРЖЫЧУ,** каб запытацца, хто ж тыя двое асобаў, што былі зь ім, якой яны нацы-

У БАЦЮШКІ ЗАПЫТАЎ: АЙЦЕЦ ВІКТАР! НА ЯКОЙ МОВЕ РАЗМАЎЛЯЛІ ТЫЯ, ХТО ЗАФАРБОЎВАЎ ФРЭСКУ – НА БЕЛАРУСКАЙ, ЦІ НА РАСЕЙСКАЙ? "НА РУССКОМ ЯЗЫКЕ" - ПАДТВЕРДЗІЎ НАШ СЬВЯШЧЭНЬНІК, АЙЦЕЦ ВІКТАР БЕЛАЦАРКОЎСКІ.

лі і пастукаліся ў сені расейскія тэлежурналісты з праграмы «Вести». Папрасілі даць камэнтар адбыўшыхся падзей пасьля трансляцыі 7 сакавіка на РТР у праграме «Вести недели» сюжэта пра Бобрскую царкву і фрэску «Судны дзень». Фрэску пасьля гэтага зафарбавалі белай фарбай. Дакладней – тое месца, дзе Лукашэнка і Філарэт на Судным дні.

Я сказаў, што лічу гэта «осквернением храма» - чужая рука замалявала тое, што Воляй ці папушчэньнем Бога зрабіў тут вырашчаны мастак, якога нарадзіў і вывучыў на тое ягоны Край, бацькі, які даглядае іх старасьць, зрабіў сьвядомы выбар жыць тут, на сваёй радзіме, не бегаць па заграніцам ды прасіць палітычнага прытулку, з жоначкай нараджае тут сына і марыць аб свабодзе і незалежнасьці сваёй янальнасьці, чые рукі зафарбавалі твор беларускага мастака, што вырас, вывучыўся на сваёй зямлі і выканаў Волю Госпада – распісаў храм, што пабудавалі мясцовыя людцы.

Сакратар гаварыў са мной на расейскай мове, быў строгі, сказаў, што бласлаўленьне трэба было браць у епархіяльным упраўленьні, а не ў благачыннага царквей Барысаўскага Округа айца Іаана Міхеюка. Адмовіўся назваць прозьвішчы і імёны гэтых людзей, што зафарбоўвалі фрэску.

Я сказаў, што больш турбаваць яго не буду. Гэта было ў 13, 25.

У бацюшкі запытаў: *Айцец Віктар! На якой мове размаўлялі тыя, хто зафарбоўваў фрэску – на беларускай, ці на расейскай?*

- *На русском языке* - Падтвердзіў наш сьвяшчэньнік, айцец Віктар Белацаркоўскі.

**24 САКАВІКА/ У 16,30 ДАЎ ІНТЭРВЮ РУСКАЙ СЛУЖБЕ РАДЫЁ «СВАБОДА»** (Любові Чыэнавай). Будзе гучаць ў этэры ў суботу.

**29 САКАВІКА УЧОРА ПРЫЯЗДЖАЛІ ІТАЛІЙЦЫ ЗЬ НЕЙКАГА ГУМАНІТАРНАГА ФОНДУ,** нарэшце я дапісаў карціну «Паміж» на памяць добрым тым італьянцам, што дапамаглі маленькай Лізе Белай, якой 10 месяцаў. Была зроблена апэрацыя на сэрцы і Ліза – жывая, добрая дзяўчынка!
Агледзілі Бобр, заехалі ў Сакалавіцкае лясьніцтва, там Бруно (кіраўнік фонду) спадабалася сцэна «Паляваньне на зубра» з роспісу «Паляваньне на Беларусі». Ён замовіў напісаць да кастрычніка карціну 200 х 100 дакладнай такой сцэны – «Паляваньне на зубра».
Калі вярталіся па маёй вуліцы Горнай да хаты, былі перастрэты купкай пьяной баброўскай моладзі. Адзін зь іх прыйшоў тады на мой двор вымагаць пару тысяч грошай.
Мол, да цябе інастранцы прыехалі – дай! Я вывеў яго за брамку, параіўшы не ўскладняць сабе жыцьцё.... Брыдка....
Вось яны рэаліі, у якіх пішуцца і сярод якіх ствараюцца творы ў Бабры. Гэта – мая чаша, зь якой я буду піць да канца свайго жыцьця – жыць і ствараць сярод такога народа.
І гэта ўсьвядомлены выбар.
Пасьля Радуніцы, дзесьці пад 15 красавіка адбыўся вельмі прыкры выпадак. Падыйшоў да мяне зямляк Сяргей Акуневіч і распавёў, што ў сакавіку, недзе пасьля 15-га, яго прама з працы забраў аперупаўнаважаны УКГБ па Крупскаму раёну маёр Гапееў Сяргей Мікалаевіч і завёз на допыт у Барысаў, ва упраўленьне КГБ. Дапытваў яго падпалкоўнік, начальнік Барысаўскай Управы КГБ пра тое, ці ведае ён, што Пушкіну (мне) далі з Алегам Кулікам (таксама аўганцам – аўт.) па 6 тысячаў даляраў каб мы ўзарвалі ў Менску метро. Больш таго, выязджалі у Бобр, на вул.Чабатарова 15, да Кулікаў і ў адсутнасьці іх (дома нікога не было) увайшлі у хату, зрабілі якісьці вобыск, сарваўшы хліпкі кручок зь дзьвярэй. Сьведчылі пра гэта майму тату 18 красавіка і 25 красавіка Аляксей Ільіч і Зінаіда Рыгораўна Кулікі, ды й сам Алег Кулік зараз баіцца, што й яго будуць выклікаць на допыт у КГБ.
Цяпер Сяргей Акуневіч вельмі недавольны, што праз маю асобу яго цягаюць у КГБ, яму гэта страшэнна не падабаецца.
Не ведаю – добра ці дрэнна, што ён мне расказаў усё гэта? І да чаго гэта прывядзе?
Вельмі брыдка й непрыемна!

---

**6 МАЯ, ЧАЦЬВЕР – Я ЎЖО СЁМЫ ДЗЕНЬ ЖЫВУ Ў МІХАЛІШКАХ,** у плябаніі касьцёла Сьвятога Арханёла Міхала, пішу абраз Маці Божай Ружанцовай. Яшчэ трэба будзе напісаць Сьвятую Ганну з Сьвятой Дзевай Марыяй і Госпада Ўседзяржыцеля – гэтыя абразы з бочных алтароў былі скрадзеныя. Таму я пішу новыя. Пляную таксама напісаць пару відаў самога касьцёла і дапісаць два клюмчанскіх нацюрморта для выставы ў Вільні. Алесь Юркойць прасіў таксама зрабіць да 5 чэрвеня абраз разным – на якісь каталіцкі канон – яшчэ буду ўдакладняць.
Як прыехаў, то адразу наведаў Рымдзюны, літоўскую школу. Там праходзіла выстава фатаграфіі Станіславаса Будрайціса, Алеся Юркойця і Андрэя (прозьвішча забыў), настаўніка гісторыі з Спондаўскай школы. Там жа сустрэўся з Аленай Субаткевіч, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры гэтай літоўскай школы. Школа ўразіла – гэтак дзяржава Літва клапоціцца пра сваіх суродзічаў на памежнай

тэрыторыі: выдатны комплекс, большасьць настаўнікаў прыязджае зь Вільні, жывуць пяць дзён у інтэрнаце і потым – на выходныя – дамоў. Гэта жа і дзеці, якіх у клясах па 6 – 8 – 10. Алена жыве пры школе, у інтэрнаце. Якраз быў дзень Маці ў Літве і вучні давалі канцэрт – усё па-літоўску. Перашэптваліся тож па-літоўску – як за мяжой апынуўся.

У першую ж нядзелю траўня мяне ўразілі Міхалішынскія людзі на самой працэсіі вакол касьцёла – вельмі дысцыплінаваныя, сьціплыя і на такую вёску (700 чалавек) – вельмі пабожныя і мужчыны, і жанчыны. Прыходзяць дапамагаць ксяндзу па першаму ж зову, - прыбіраюць, парадчаць дровы і г.д.

Зусім іншыя адносіны з парафіяй чымсьці ў нас на Усходзе. У нас і у нядзелю так шмат не ходзіць, і так бацюшку ня слухаюцца.

Мне тут падабаецца.



ПІШУ МАЦІ БОЖУЮ РУЖАНЦОВУЮ МІХАЛІШСКУЮ...
КСЁНДЗ-ПРОБАШЧ ПАБАЧЫЎШЫ ТВАР М.Б. СКАЗАЎ, ШТО ЁН ПАДОБНЫ НА ТВАР МЯСЦОВАЙ АРГАНІСТКІ З АЛЬХОЎКІ, ЯКАЯ ПА НЯДЗЕЛЯХ ГРАЕ НА АРГАНАХ У КАСЬЦЁЛЕ, І ЗАГАДАЎ ВЫПРАВІЦЬ.

**14 МАЯ/ ВЫВУЧАЎ ГІСТОРЫЮ КАСЬЦЁЛА,** якому ў кастрычніку 2003г. было 350 год. Прачытаў і гістарычны нарыс пра Міхалішкі.

Выдатны архітэктар – Крыштаф Пэнс, выдатны майстар аздобы – П'етро Перэцці, майстры Жан Галі (са Швайцарыі), сын архітэктара р. Пэнс і беларускі майстар Мікола Жылевіч з 1686 па 1700 год аздаблялі гэты касьцёл стукко – ляпнінай.

У сераду з ксяндзом-пробашчам Леанардам (Чухоньскім) рабілі як-бы інвэнтарызацыю найбольш каштоўных рэчаў:

*а) Абраз «Сьмерць Сьвятога Юзафа» 1783 года (узгадваецца ў інвэнтарах).*

*б) Амбон канца XVI пачатку XVII ст.ст. з гэрбам Бжастоўскіх, які трымае арол над амбонам.*

*в) Кавальства ў касьцёле.*

*г) Арлы з падстаўкі у капліцы Св. Юзэфа, якія несьлі грабавец з мошчамі сьвятых.*

*Грабавец зьнік у 1937 годзе, а вось арлы з распасьцёртымі крыламі засталіся.*

*д) Пахаваньне Ксавэрыя Котвіча, што быў у Швэцыі – надгробная пліта ў капліцы «Укрыжаваньне Езуса».*

Агледзілі з А. Юркойцем і Анатолем Міхнаўцом склепы і падвалы пад галоўным алтаром (чыста, сьветла і добра праветрываецца) і пад капліцай Сьв. Юзэфа.

Пішу Маці Божую Ружанцовую Міхалішскую. Гэта мой трэці абраз пасьля Бобрскай і Раўбіцкай Маці Божай. Ён барокавы.

Ксёндз-пробашч пабачыўшы твар М.Б. сказаў, што ён падобны на твар мясцовай арганісткі з Альхоўкі, і якая па нядзелях грае на арганах у касьцёле, і загадаў выправіць.
Маці Божая лунае на хмарках над Міхалішкамі, з водсьвітам цёплым зьнізу. . . . Унізе – касьцёл з працэсіяй, якую я надоечы бачыў у першую нядзелю мая. Май – месяц Марыйны.
Квецень садоў, мост праз Вілію, далі туманныя і цьвітучы бэз – вось такія убачыў я Міхалішкі.
Працэсія вельмі ўрачыстая. Яе парадак: наперадзе мужчына з крыжам, потым два дзядзечкі з ліхтарамі (старымі і цёмнымі), потым бабкі нясуць, кульгаючы на высокай траве і кратавінах, велічэзныя пацеры ружанца (гэта так камічна!). Іншыя кабеты у белых хусьцінках (яны іх з сумачак дастаюць перад гэтым) нясуць пераносныя алтарыкі. Потым – цётачкі нясуць харугвы, а ленты ад гэтых харугваў узбоч трымаюць дзяўчынкі. За імі йдуць хлопцы-міністранты ў чырвона-белых вопратках з кадзілам (старым). Далей – дзяўчынкі ў белых строях кідаюць пад ногі пялёсткі кветак. А ўжо за дзяўчынкамі чатыры пажылыя і хтось сярэдняга веку паважаныя мужчыны нясуць покрыў – пад ім ксёндз-пробашч нясе Манстранцыю з Найсьвяцешым Сакрамантам. Ну а за пробашчам – вернікі. Хлопчык-міністрант, з старэйшых, на званіцы, што на касьцельным двары, безупынна б’е ў звон.
Працэсія пад сьпевы бабулек пасоўваецца вакол касьцёла, выйшаўшы зь левых дзьвярэй барбакана-прытвора і, абыйшоўшы храм, уваходзіць у правыя дзьверы.
Гэта я бачыў у Міхалішскай парафіі у нядзелю, 2 мая 2004 году.

---

**22-23 МАЯ/ ПАЕЗДКА Й ВЫСТАВА Ў ВІЛЬНІ.** Ехалі з МГА «Бацькаўшчына» разам зь яе кіраўнікам Аленай Макоўскай і гуртом «Стары Ольса». Вельмі прыемныя ўражаньні ад Алены Макоўскай – выдатны стратег, разумная, парадачная, адказная! Прыехалі амаль у 24,00. Кватараваў у нумары разам з Ігарам Шаховічам з Калінінграда і Сьцяпанам Разанка з Эстоніі.
Нараніцу раставіў перад уваходам у залю на сталах творы свае і расклаў касэты і часопіс «Дзеяслоў» №4 з артыкулам Пётры Васілеўскага пра мяне. Заля Патрэбкааперацыі на прашпекту Канстытуцыі 11, каля магазіна «Эўропа», а насупраць – гатэльня «Летува», побач «Форум-Палас» – самы хмарачосны раён Вільні.
І вось нараніцу, у 10,00 на месцы пакараньня сьмерцю Кастуся Каліноўскага мы, усе ўдзельнікі-госьці Канфэрэнцыі да 15-х угодкаў Беларускага Культурнага Таварыства Хведара Нюнькі сустрэліся на Лукішскім Пляцу, ля Крыжа. Тут я, нарэшце, больш шчыльна пазнаёміўся з Пятром Кузьмічом Краўчанкам (былы міністр замежных спраў і былы пасол Беларусі ў Японіі). Тут і з Арловымі сустрэўся, і з Генадзем Бураўкіным, і пазнаёміўся з Юркам Станкевічам, і Сяргеем Скарулісам (братам Арсена Скаруліса, што прыязджаў з Рымашэўскім Андрэям (Партыя аматараў піва) на зьезд Нацыяналістаў у маю галерэю у 1996г.). Юрка Станкевіч і Сяргей Скаруліс з Прагі, там існуе таксама Беларуская суполка, праўда пытаньне – хто яе утрымоўвае?
Дык вось, яны прапаноўваюць мне прыехаць у Прагу восеньню, на пэўны час пажыць, памаляваць. Мяркую, што пасьля 15 верасьня здолею паехаць туды.
Па Віленскім сустрэчам і ўражаньням прыемна яшчэ

ўзгадаць Яўгена Вапу, ягоныя шчырыя аповяды пра свой беларускі праваслаўны лёс на Беласточчыне, пра бацьку, які казаў яму: «Памятай, засранец, твой дзед, я і ты былі і ёсьць беларусінамі!»

**1 ЖНІЎНЯ ЗА ГЭТЫ ЧАС АДБЫЛОСЯ НАСТУПНАЕ – СКОНЧАНА ПРАЦА Ў МІХАЛІШКАХ, УДЗЕЛЬНІЧАЎ У «ДЫЗАЙН-БІРЖЫ 2004»,** дзе выставіў Беларускія Tattoo і Скрыпку Пушкіна.
Атрымаў дыплём Нацыянальнага Выставачнага Цэнтру і Саюза Дызайнэраў «за інтэрпрэтацыю культурнай спадчыны».
У ліпені адбыўся «Наваградак 2004» - фэст сярэднявечнай культуры. Крыху псавалася надвор’е, быў то дождж, то сонца. Але вельмі ўсё спадабалася, начавалі на возеры Сьвіцязь у доміку Тані Царук. Увечары – дуда на возеры, вогнішча ля доміка, душэўныя размовы, – было хораша. . . .
Рыхтуюся да паездкі ў Прагу.
*Працяг будзе*



Валеры Грышановіч

# "Пагоня" вяртаецца на Беларусь

## паэма надзеі

**ПАЭЗІЯ**

*Трымаю ў рукох невялічкую ксёнжачку (усяго 15 старонак) і успаміны плывуць у, няблізкі ўжо, 1992-гі год. . . . А за ўспамінамі прыходзяць пачуцці, шмат пачуццяў: гонар за паэта-земляка, які напісаў такую моцную рэч; шчымленне сэрца ад пьянкога водару свабоды, якім мы дыхалі і натхняліся ў тэй час; трывога й горыч расчаравання пасля выбараў 1994-га…; скруха і адчай пасля рэферэндуму 1995-га; паступовы выхад з комы і абвостранае адчуванне адказнасці за сваю сямью і краіну; шукання праўдзівага духовага апірышча, якое прывяло ў Храм; адчуванне супакою і сапраўднай свабоды, якую дае толькі Вера; і шмат іншых. Пачуцьці, пачуцьці, пачуцьці. . . .*



Але апякае душу пачуццё жалю і сораму за тое, што не зрабіў для яго тое, што мог зрабіць…, не сказаў тыя важныя словы, што хацеў сказаць.

Падчас нашых рэдкіх сустрэчаў ён абавязкова пытаўся: *"Ну калі ты ўжо надрукуеш маю паэму ў "Малым Палесьсі"?"* Памятаю, што аднекваўся, маўляў – "Яна ж выйшла тыражом ў 11 тысячаў, няхай спачатку чытачы раскупяць…" і шчыра цікавіўся: "Навошта табе гэта?".




Вокладка выданьня 1992 году.

І толькі нядаўна, перачытваючы паэму, – зразумеў – ён хацеў быць надрукаваным менавіта тут, на сваёй малой радзіме! Для яго было зусім не прынцыпова, што мы выходзім тыражом ўсяго 150 экзэмпляраў і раздаем бясплатна наша выданьне. Памятаю, як у 2003-м, атрымаўшы першы нумар нашага альманаха, ён шчыра радаваўся і перадаваў віншаваньні усім краязнаўцам Крупшчыны з пажаданьнем далейшай плённай працы. А зь якой радасьцю, прачытаўшы ў "Малым Палесьсі" невядомыя факты з гісторыі яго любімых Халапеніч, патэлефанаваў у дзьве гадзіны ночы: – *"Няўжо гэта праўда? Гэта ж проста цудоўна! Які гонар!". . . .*

Светлай памяці паэта, патрыёта сваёй Бацькаўшчыны, аддаю доўг і пашану нашаму земляку, просячы Неба аб душы яго.

***Андрэй Аляхновіч***

# "Пагоня вяртаецца на Беларусь

## паэма надзеі

***Пад градам няспынным***
***камення,***
***пад грай не птушыны,***
***а ядраў чыгунных,***
***пацэленых***
***нацыі ў цела,***
*пад скрыгат*
*іклатай*
*шалёнай*
*ад чырвані зграі*
*вятрыста,*
*крылата*
*ляцела,*
*ляцела,*
*ляцела –*
*Пагоня!*
*Агонь і Агонія!*

***Азорана неба***
***спустошанай***
***Маці-Краіны***
***зоркай Венерай –***
***новая эра!***
***Хрыстос уваскрэс***
***у Менску, Гародні…***
*Гараць абабітыя скурай*
*ш ч ы г р ы н а в а й*
*троны і крэслы…*
*Са скуры ж ваўчынай*
*вылузваюцца,*
*ў статак збіваюцца,*
*непрыкаянна каюцца*
*неакаінаўцы,*
*гора-васалы,*
*цароў цараня-*
*ты,*
*а ў душах*
*– авечкі.*

***Зацэпліце свечкі!***

*Васал,*
*зняславіўшы*
*мову дзяржавы,*
*часовы, бязродны.*

***У Веры Святой і Адзінай***
***Народ – Бессмяротны!***

*Смяротна стаміліся*
*белыя коні.*
*Спыніліся на скрыжаванні*
*р а с х р ы с т а н ы х*
*з клубамі пылу – дарог.*
*Пакутныя людзі*
*зямлі беларускай*
***насустрач Пагоні***
***выносяць іконы.***
***Рамонкі цалуюць***
***іх ногі,***
*пазбіваныя ў кроў.*
*Жыватворныя росы*
*іх пояць…*
*Сама Багародзіца,*
*як напрадвесні,*
*склікае гракоў.*
*Чужынец!*
*Вяртайся*
*з далёкага выраю.*
*Раю:*
*няспыннай Пагоні*
*у пояс ніжэй*
*пакланіся.*
*Тут,*
*у краіне тугі і самоты,*
*дзе на свет нарадзіўся*
*і рос.*
*А можа яшчэ*
*пры жаданні*
*і ты прыгадаеш*
*маўклівы пагост,*
*гаманлівы пакос?!*

***Пакайнага сына***
***аблуднага меч не сячэ,***
***калі ў яго сэрцы***
***рачулка дзяцінства цячэ.***

***Віну патапіўшы ў віне,***
***як чорт – безаблічны,***
***ці д'ябал бязвінны,***
***пад небам Краіны***
***свабоднай,***
*ікаючы як Каін,*
*табе застаецца*
*павіннасць такая:*
*нястрымнай Пагоні*
*прынесці ахвярна даніну.*

*Таварыш!*
*Я з лесвіцы*
*камуністычнага раю,*
*што крута*
*абрынуўся ўніз,*
*параю:*
*урэшце рэшт*
*атаварыўшы*
*(на авёс ці на жыта)*
*з наздроўскім нахрапам*
*рулоны талонаў,*
*з тоны –*
*хоць жменьку*
*зярнятак,*

*(якіх растаптаў бы*
*“жалезны парадак!”)*
*без стогну*
*ад казны і сябе адарві*
*і велічных коней,*
*якія не здрадзілі*
*Маці-Краіне,*
*у пене ляцелі да нас*
*і ў крыві, –*
*з дрыготкіх*
*вільготных далоняў*
*кармі!..*
***Хоць раз у жыцці,***
***перапёлкай у жыце па-***
***плач,***
***калі ты народу свайму***
***не крумкач.***

***А лепей у храме, ці келлі,***
*калі – толькі! – цепліцца*
*сорам пякельны,*
*стань на –*
*ка-ле-ні!..*

*Няхай камарылля уся*
*ў здранцвенні,*
*няхай апявае*
*заплыўшых далёка*
*з ігрышча іх ідаліщ,*
*чый перакульнуўся*
*човен учора.*
*Я веру, што*
*ночы ўчарашняй*
*паўзучыя змрочныя цені*
*нашчадкам маім*
*нагадаюць*
*бяскрылых*
*хрушчоў.*

***Я веру,***

*пад сцягам дзяржаўным*
*пасля адпявання*
*татальнай*
*“кастрычніцкай ночы”*
*ўчарашняй*
*палі*
*і дубровы*
*і сам Усявышні*
*абвесцяць навечна –*
*Бясстрашша!*

*Маўчанне травы*
*і сумлення маўчанне,*
*жаданне гняздо*
*крумкачоў пад*
*сцягам кума-кумачовым*
*на абпаленым дрэве*
*зноў звіць, –*
***касіце касой і будзіце***
***не стрэлам з бярданкі –***
***мячамі, мячамі…***
***пад велічны спеў***
***пракаветных***
***дубоў,***
*што ў сэрцы*
*звініць.*
*Агонь і Агонія!*

*Пад*
*зоркай*
*Венерай,*
*пад*
*зоркай*
*Венерай*
*наў-*
*перадзе*
*зграі*
*паганай*
*ваўчы-*
*най*

*да нас даляцела*
*на Яблычны Спас*
*цудадзейна –*

***Пагоня!***

***З надзеяй і верай***
***сустракае Пагоню***
***Айчына.***
***Сцеле на долы і долю***
***васільковы абрус***
***хрышчоная горам і небам***
***святая Краіна***
***Маці Адзіная ў свеце,***
***мая і нашчадкаў маіх –***
***Беларусь!..***

*жнівень 1991.*
*Яраслаўль – Менск*



# Цар-сом Самвусон і Яснейка

**ТВОРЧАСЬЦЬ НАШЫХ СЯБРОЎ** / Серж МІНСКЕВІЧ

*Ужо колькі сезонаў запар, да нас на археалягічныя раскопкі прыязджае з канцэртам бард, паэт і празаік Серж Мінскевіч. Многія яго песьні скаўты і краязнаўцы ўжо ведаюць і сьпяваюць з задавальненьнем. Але летась мы адкрылі для сябе яшчэ адін талент нашага сябры – казкі. Натхнёны пачутымі легендамі й паданьнямі аб возеры Сялява, Серж падарыў яе скаўтам Харугвы Малога Палесься і ўсім жыхарам Крупшчыны.*

## ЦАР-СОМ САМВУСОН І ЯСНЕЙКА



Калісьці ў старажытныя часы ў возеры Сялява жыў цар-сом. Клікалі яго Самвусон Першы. Як жыў? Спаў на самым дне. Пахрапваў бурбалкамі. А прачнецца цар-сом Самвусон – рыбінкі яму проста ў рот водарасьцяў салодкіх дый чарвячкоў мясістых пакладуць. Цар-сом Самвусон есьць, а сам слухае, што расказваюць яму кроплі дажджу, якія за час яго сну ў возера нака́паліся і накапіліся.

Гэта так толькі здаецца, што азёры адно ад аднаго адасобленыя. Насамрэч як толькі кроплі дажджу распавядуць якому-небудзь цару возера апошнія сусьветныя навіны, падымуцца на паверхню і – хопля – зловяць вецер і ў неба лятуць. Да іншага возера, каб тамтэйшаму цару паведаць, што ў вадзе і на зямлі дзеецца. Вось так азёры адзін з адным звязваюцца. Яшчэ бывае птушка аднекуль прыляціць, прынясе якую-небудзь навіну, а хвалі разнясуць тую навіну па ўсім тоням і завадзям. Іншага разу жабкі так раскрумкаюцца – пачнуць перагукацца з жабулямі, якія на суседнім балоце жывуць. А тыя балотныя жабулі – расказваюць, што ім жабухі з бліжэйшай да іх рэчкі распавялі. А жабухі, што на той рацэ крумкаюць, пераказваюць тое, што пачулі ад жабенцый з вясковай сажалкі. А жабенцыі, якія ў сажалцы сядзяць, распавядаюць, што чулі ад жабаквакаў з ляснога ручаю. Вось такі жабіны тэлеграф атрымліваецца. Тэлекваф.

Дык вось жаваў цар-сом Самвусон вадарасціну, ужо амаль засынаў, бо адно

вока ўжо заплюшчылася, а другое толькі замружылася і бурбалка пад вусам пачала надзімацца. А тут запозненая кропля пазаўчарашняга дажджу яму і кажа:

– Я прыляцела ажна з Жанеўскага возера, гэта што ажна ў Швайцарыі, дык жанеўскі кароль-сом Журмоль перадае табе, цар-сом Самвусон, вялікае прывітанне. Кажа, што зайздросціць табе, бо на паўвыспе ў тваім возеры, у замку жыве найпрыгажэйшая прынцэса. Такая прыгожая, што рыбы ўсплываюць да паверхні вады і, заміраючы, глядзяць на яе, калі прынцэса па беразе праходзіць.

– Гэта хто такая? – зацікавіўся цар-сом Самвусон, шырока раскрыў прымружанае вока. Яго правы вус змейкай завіўся ад цікаўнасці.

– Гэта, Ваша Самавітасць, – падплыў да цара ўюнок, – маладая князёўна Яснейка, дачка князя Селявона.

– А тая маляпуха, якая каменьчыкі у возера кідала, малькоў палохала.

– Так, Ваша Самавітасць.

Цар-сом Самвусон пашкрэбаў плаўнікам па пузе, пазяхнуў вялікай бурбалкай:

– Дык яна малая.

– Як сказаць, Ваша Самавітасць, пакуль вы спалі, яна падрасла.

Але цар-сом Самвусон ужо амаль нічога не чуў – драмаў.

І тут яго вусы моцна завіхлялі, нават колцамі пайшлі – такая моцная хваля прайшлася па возеры.

– Што гэта? – абудзіўся цар.

– Даруйце Ваша Самавітасць, – сказала плотка, – Вялікі лебедзь прывадніўся, крыламі лапоча. Прыляцеў ён здалёку, як быццам з Байкала, кажа што хан-валадар Кіргулей збірае свaё войска, хоча ісці на князя Селявона, каб той дачку замуж за яго аддаў. Бо па ўсім Усходзе ідзе пагалоска, што ў Яснейкі прыгажосць гаючая. Параненыя ваяры, гледзячы на такую прыгажосць, вылечваюцца. Кіргулей хоча з такой жонкай увесь свет заваяваць.



– Ну так, – прабулькаў цар-сом Самвусон, – пакуль Кіргулей з Байкала прыйдзе, сам так састарыцца, што не захоча ўжо жаніцца.

– Хі-хі-хі, – нема засмяяліся, – карасікі і акунькі.

– Добра, трошкі падрамлю і сам паплыву паглядзець, на гэта дзіва дзівоснае.

Цар-сом Самвусон заплюшчыў левае вока, і толькі заплюшчыў правае, як пачалося такое неймаверна гучнае крумканне-кваканне.

– Чаго там усё гэтае жабства-нахабства разгарланілася. Спаць мне не даюць? – прабуркатаў ён

– Дык вось, Ваша Самавітасць, – сказаў трытон, – жабы распавядаюць, што ў возера Нарач з далёкага паходу вярнуўся цар-вугар. А быў ён у Саргасавым моры, ля самай Амерыкі. Яго там ледзь не вылавіў індзеец.

– Які індзеец? – цопнуў плаўнікамі цар-сом.

– Індзеец Хітрае Вока. Ён залез на пірогу, злавіў цара-вугра за хвост, і кажа: я чуў, што ёсць за морам-акіянам такая зямля, шырокая, а на той зямлі ёсць краіна, дзе на возеры Сялява стаіць замак. А ў тым замку дзеўчына-зорка жыве. Адвязі мяне да таго замку. Дый цар-вугар адказвае: не магу я цябе туды адвезьці, бо гэта вельмі далёка ад тваёй зямлі, у цябе пірога вельмі малая, трэба зрабіць большую. Не, усе роўна, – загадвае індзеец Хітрае Вока, – вязі мяне. Я буду трымаць цябе за хвост, а ты плыві, і плыві як мага хутчэй! Але ж цар-вугар не любіць, калі яму загадваюць. Ён пусціў па сваёй скуры залатога вогніка, які як дасць па руцэ Хітраму Воку, што ў таго з таго вока толькі іскры пасыпаліся.

– Так, я ведаю, што ў вугроў ёсць такая вогненная моц, – пацвердзіў цар-сом Самвусон.

– Ну і паплыў цар-вугар назад да Нарычы. А індзеец так і застаўся ў няведанні.

– А тая дзеўчына-зорка – гэта наша Яснейка? – спытаў цар-сом Самвусон.

– Так, Ваша Самавітасць. І цар-вугар сам хоча сюды прыплыць, паглядзець на яе, – завяршыў свой расказ трытон.

– Значыцца і мне трэба на тое паглядзець, – сказаў цар-сом Самвусон, – а то зараз які-небудзь бусел прыляціць з Афрыкі, і раскажа, што і там малпы на рэчцы Лімпапо ведаюць пра нашу прыгажуню... А я ў вочы яе небачыў. . .

– Як толькі наступае вечар Яснейка прыходзіць на бераг возера, павітацца з зоркамі, – сказаў рак, шлёпнуў хвастом і паплыў далей, як і ўсе ракі, хвастом наперад... – Я напрыклад ужо спяшаюся да той паўвыспы.

– Добра, я яшчэ пасплю, а вы мяне надвячоркам разбудзіце, – сказаў цар-сом Самусон.

Як сонца села за далёкі бераг, рыбкі разбудзілі цара-сома.

– Што вам трэба? – пазяхнуў ён.

– Не нам, а вам, Ваша Самавітасць, – Яснейку пабачыць.

Страпянуўся ўсім сваім мажным целам цар-сом Самвусон і павольна паплыў да паўвыспы. Толькі вузкая каса аддзяляла яе ад берага. На ўзгорку стаяў драўляны замак з чатырма вежамі. За яго сценамі быў горад.

Яшчэ здалёк цар-сом Самвусон убачыў чародкі малькоў і рыб паболей, што срэбрам і золатам зіхацелі ля паверхні. Шмат рыбак выскоквалі з вады, радаваліся і весяліліся. А смаўжы і ракі выпаўзлі на бераг, сядзелі пад каменнямі і варушылі сваімі – смаўжы – рожкамі, а ракі – вусамі.

І раптам цар-сом Самвусон заглядзеўся. Нават перастаў плаўнікамі і хвастом шалопаць, і незаўважыў, як у бярвенца ўткнуўся, на якім уселася сямейка жабак.

– Прабачце, – ціха прабулькаў цар-сом Самвусон, а сам, не адрываючыся, глядзеў на Яснейку.

Яна ціхутка ішла па беразе. Ад яе валасоў струменілася срэбнае святло. І чым болей змяркалася, тым ярчэй было святло.

– Добры дзень! – сказала яна зоркам.

Праўда ніхто не зразумеў, і здаецца не пачуў гэтыя словы, бо Яснейка казала на мове зорак. Яшчэ ў маленстве, Яснейка ўбачыла падаючую зорку і паспела загадаць жаданне – "хачу разумець мову зорак". Жаданне здзейснілася. Цяпер яна магла кожны вечар слухаць і размаўляць з зоркамі. А яны, у знак вітання – уплятали ёй у валасы па тоненькім промнейку. І цяпер валасы Яснейкі свецяцца. Асабліва, калі яна іх распусціць. А зоркі аказаліся вясёлымі. Гуляліся ў даганялкі і хованкі. Таньчылі. І жартавалі з Месяца, які спачатку як заўсёды таўсцеў, набраўшыся сонечнага святла, а потым вымушаны быў садзіцца на дыету – бо перад вытанчанымі зоркамі саромеўся сваёй паўнаты.

Цар-сом Самвусон глядзеў на Яснейку, і адчуваў, што робіцца больш бадзёрым, моцным, маладым. Ён, сам ня ведаючы з чаго, захістаў хвастом і плаўнікамі, хутка паплыў каля паверхні возера – разагнаўся і падскокнуў над вадой, на метраў пяць. Нібыта сам хацеў дастаць зоркі. Аж пяць хвілін ляцеў у паветры. Яго мокрая луска і залатая карона на галаве зырка бліскалі ад святла зорак і месяца. Пасля ён так плюхнуўся ў ваду, што хваля сагнала сямейку жабак з берваяна.

– Штосьці наш цар-сом разбушаваўся, – сказала Яснейка і ўсміхнулася.

І запала гэтая ўсмешка ў душу цара-сома. Ён хацеў падплыць да самай кромы берага. Але Яснейка ўжо развіталася з зоркамі і пайшла па непрыкметнай сцяжынцы да замка.

Прыплыў цар-сом Самвусон да свайго падводнага гроту. А спаць ужо не можа. Зразумеў ён, што хоча ажаніцца з Яснейкай.

Цар-сом Самвусон – быў сапраўдным царом. Ён прыслухоўваўся да просьбаў сваіх падданых, абараняў іх. У цара-сома Самвусона на дне возера ў самай глыбокай яміне накопліваўся чароўны глей. Калі ім абмазацца, з хваста да галавы, можна было прыняць любы воблік – ці іншай рыбы, ці вадаплаваючай птушкі, і нават чалавека. Калі на возеры з'яўляліся браканьеры, цар-сом Самвусон абмазваўся гэтым глеем, выходзіў на бераг і палохаў іх. Асабліва добра было ў чалавечым аблічы выходзіць у дажджлівыя і туманныя дні.

–А-аа! Вадзянік! – з крыкам разбягаліся браканьеры.

Наступным днём абмазаўся цар-сом Самвусон чароўным глеем, і ўюнка абмазаў – каб пасыльным быў. Уюнок атрымаўся танклявым юнаком, высокім і худым, а цар-сом – пузатым і круглашчокім, з доўгімі вусамі, лупатым вачыма і вялікім, ад вуха да вуха, ротам. Хаця такі выгляд нікольки цара-сома Самвусона не бянтэжыў, бо так і павінен выглядаць цар азёрнай краіны: вялікім і важным. Накінуў царову мантыю. Але тут выйшла недарэчнасць. Мантыя доўга ляжала ў вялікім куфры. Даўно яе цар-сом не апранаў. Яна сталася яму па спіне – малая. Давялося склікаць усіх малюскаў, каб яны далі свайго перламутру і пашырылі мантыю. За гэты час уюнок прынёс з таемнай схованкі смарагдаў, рубінаў, дыяментаў. Паклаў іх у адзін збанок. А ў другі па загадзе цара-сома набраў чароўнага глею – гэта падарункі для

Яснейкі.

Усе зборы занялі дзень. Таму пайсці ў горад да людзей вырашылі назаўтра. Цар-сом адмыў мыльнай водарасьцю з сябе чароўны глей, лёг спаць, бо ў чалавечым вобліку – яму цяжка было засынаць, – перашкаджалі доўгія рукі. Ён ня ведаў куды іх падзець. А ўюнок не стаў адмывацца. Так і спаў у вобразе юнака.

На раніцу цар-сом Самвусон зноў абмазаўся чароўным глеем. Прыняў чалавечы воблік. Потым абмазалі самага вялікага смаўжа, домік якога – зрабіўся карэтай, а сам смоўж – канём. Потым абмазалі яшчэ трох слімакоў – смаўжоў без домікаў, – яны таксама зрабіліся канямі. Усіх чаторох коней запрэглі ў карэту. Уюнок – сеў за фурмана. І выехала гэтая карэта, проста са дна возера на пясчаную касу – на адзіную дарогу, што вяла ў замак.

Вартаўнікі пабачылі такое відовішча – паведамілі князю Селявону. Той шаноўна прыняў у сваіх харомах незвычайнага госьця. Пачаставаў смачнымі стравамі. Цару-сому Самвусону вельмі спадабалася прасяная каша. А ўюнку – салаты.

– Хачу, цябе папрасіць, княжа, – пачаў цар-сом, – пазнаём мяне са сваёй дачкой. І аддай яе за мяне. Я валадар гэтага возера, ваш народ з маім будзе жыць заўсёды ў згодзе. Будзеце багатымі, сытымі, заможнымі.

Цар-сом Самвусон высыпаў на стол са збанка каштоўныя камяні.

– Дзякуй! – сказаў князь Селявон. – Але не я вырашаю, за каго пойдзе Яснейка.

– А хто? Матуля? – спытаў цар-сом.

– І не я, – сказала княгіня Ладаслава.

– А сама Яснейка і вырашае, – усміхнуўся князь Селявон.

– Добры дзень, госці дарагія, – прамовіла Яснейка, – яна зайшла ў святліцу, пакланілася гасцям, потым пакланілася маці і тату. – Вельмі рада вас усіх бачыць.

Яе валасы пяшчотна ззялі. Іх святло трапіла на рукі Ўюнку. А глей на яго целе быў учарашні, тонкім ужо, Уюнок адчуў, як на руках і шчаках пачаў пакрывацца рыбінай лускай.

– Ой, – сказаў ён, узяў трошкі глею з другога збанка, – хутка памазаў рукі і шчокі, – і зноў стаў нармальным, з выгляду чалавекам.

Амаль ніхто гэтага не заўважыў, апрача Яснейкі.

– Ваша Самавітасць, а як жа я буду жыць з царом-рыбай? – запытала яна.

– Не хвалюйся, прыгажуня, – адказаў, як мага прыветлівей цар-сом Самвусон. – Мы прынеслі табе чароўны глей. У кожным возеры, у самай глыбокай яміне такі глей тысячы год назапашваецца. Гэты глей збірае ў сябе ўсю моц возера. Калі ім нашмаравацца цалкам, можна пераўтварыцца ў любую жывую істоту: напрыклад птушку, аленя... Ты будзеш ператварацца ў таўстую саміху, будзеш прыплываць да мяне, будзем абдымацца. І калі-некалі я буду рабіцца чалавекам і завітваць да цябе.

Але ж не вельмі падабаўся Яснейцы тоўсты і стараваты цар-сом. Аднак не хацела яна яго пакрыўдзіць, дый і вялікую цікавасць адчувала.

– Ваша Самавітасць, – сказала Яснейка, дайце мне вашага глею, паспрабаваць. – Мне ж трэба праверыць, ці спадабаецца мне быць саміхай.

– Добра, – уздыхнуў цар-сом Самвусон, – бяры збанок з глеем. Праз тры дні мы прыйдзем за адказам.

Цар-сом і Уюнок усталі, развіталіся з гаспадарамі.

У першы вечар ператварылася Яснейка аляняткам. Бегала, скакала па лужках.

У другі вечар – яна зрабілася рыбкай. Хуткай і юркай, а не тоўстай саміхай. Вольна плавала па возеры.

А ў трэці дзень яна стала птушкай – ластаўкай. Свабодна лётала ў паднябессі між зоркамі. Толькі яна была ня чорна-белай, звычайнай ластаўкай, а бліскуча срэбранай, нібыта лятучая зорка...

Яснейка была танклявай, таму у яе яшчэ засталося глею на адзін раз. Яна прыпасла яго на будучыню.

І вось зноў прыйшоў у замак цар-сом Самвусон. Яго стрэлі смачным абедам – наварылі цэлы чоп проса.

– Ну што, Яснейка, – запытаў цар-сом Самвусон. Ён чарпаком закладаў у свой рот гурбы прасяной кашы, – Ці спабабася табе быць рыбаю? – забубнявіў цар-сом ротам поўным кашы.

– Так, – адказала Яснейка.

– Значыць ты пойдзеш за мяне замуж? – радасна ўсміхнуўся цар-сом Самвусон, дый так што яго губы сталіся даўжэйшымі за яго твар.

– Але быць птушкай мне спадабалася болей, – сказала Яснейка.

Зразумеў цар-сом Самвусон, што атрымаў адмову. Стаў змрочны, на яго твары выступіў шэры колер – сапраўдны, сомаўскі.

– А можа, а можа, – сказаў Уюнок, – ты будзеш лятучай рыбкай?

Лятучай саміхай? А? – падтрымаў думку Ўюнка царс-сам Самвусон.

– Лятучыя рыбкі лётаюць толькі над паверхню вады. А я хачу лётаць высока ў небе.

– Пойдзем адсюль! – глуха сказаў цар-сом Самвусон Уюнку.

Яны ўсталі і, не дзякуючы гаспадарам за гасціннасць, пайшлі са святліцы.

– Ты ўсё роўна будзеш маёй жонкай, – сказаў цар-сом Самвусон на развітанне.

Князь Селявон успрыняў гэта як папярэджанне, і згадаў сваім ваярам рыхтавацца да абароны.

Цар-сом Самвусон прыплыў у свой грот і выдаў указ: збірацца ўсім ваярам. Прыйшлі да яго шчупакі, акунькі, іншыя самы. Абмазваліся яны чароўным глеем, пераўтвараліся ў закаваных у латы рыцараў. Увесь глей, які за тысячы гадоў назапашваўся ў возеры амаль змазалі. Некалькі тыдняў так збіраліся, вучыліся ваяваць па-чалавечы. Фехтавалі мечамі, калолі дзідамі у стромыя берагі, стралялі з лукаў – цеціва якіх была скручана з тонкіх водарасцяў.

Да князя Селявона прыходзілі трывожныя чуткі. Ён спешна рыхтаваў замак да

аблогі. І вось адной раніцай вышлі з возера сотні рыцараў, у металічных латах, аблажылі замак.

– Аддавай князь Селявон Яснейку за мяне, – сказаў апрануты у баявыя даспехі цар-сом Самвусон, інакш, больш ня будзеш князем, дый і горада твайго на паўвыспе не будзе.

І пацягнулася доўгая аблога. Геройскі трымаліся гараджане. Не пускалі да сябе рыбаў-рыцараў.

Яснейка прасіла прабачэння ў жыхароў. Але ўсе яны былі за яе. Як гэта так, без яе волі выходзіць замуж, і яшчэ за каго, за рыбіну.

Гэтым часам да возера Сялява падышоў з незлічоным войскам хан Кіргулей. Ён адразу здагадаўся, што рыбы-рыцары – яго канкурэнты. І загадаў хітра, пакуль яны трымаюць замак у аблозе, напасць на іх са спінаў.

І пачалася вялікая бітва.

Адчайна і мужна біліся рыцары-рыбы з ваярамі Кіргулея. І дружына князя Селявона прыйшла на дапамогу рыбам-рыцарам. Святло Ясьнейкі – лячыла параненых. Яны, хоць яшчэ слабыя, зноў уставалі ў шэрагі. Але ўсё роўна сілы былі няроўныя. Занадта шмат прывёў з сабой войнаў хан Кіргулей.

І калі зусім мала засталося рыбаў-рыцараў, дый і дружына князя Селявона зрабілася ўсяго толькі невялікім атрадам, не на жарт раззлаваўся цар-сом Самвусон.

Ён зноў стаў вялікім сомам і... як разгонецца, як выскачыць з вады над возерам, як шалопне хвастом па вадзе. Такія хвалі пайшлі, што вада выйшла з берагоў. Накрыла воінаў Кіргулея і самаго хана.

Але ўдар хваста цара-сома Самвусона быў такі моцны, што адна хваля пайшла ў дно возера, штурханула вялікі камень, які закрываў падземную крыніцу. Камень раскрышыўся на маленькія кавалкі. Падземная вада хлынула ў возера. Яно пачало разлівацца, як мора. Хутка размыла касу – паўвыспа, на якой стаяў замак – стала выспай. Жыхары забраліся на дахі дамоў, але вада ўсё прыбывала.

Ужо сам цар-сом Самвусон занепакоіўся, кінуўся сваім целам закрыць падземную крыніцу. Пратрымаўся дзень, а потым, калі цалкам выбіўся з сілаў, вада яго адкінула, аднесла далёка-далёка.

Вада прыбывала дзень і ноч. Жыхары ўзняліся на вежы замка. Разам з імі былі і маці Яснейкі княгіня Ладаслава, і бацька, князь Селявон. А Яснейка ўстала на зубчатыя сцены вежы. Яна, умела размаўляць на мове зорак, і таму пачала прасіць сваіх сяброўак:

– Зорчакі, месячык! Дапамажэце, выратуйце маіх землякоў!

– Я і так вельмі шчарбаты, – першым адказаў Месяц, – Калі яшчэ кіну вам свой кавалак, магу сам увесь рассыпацца.

– Позна ўжо, то-бок, ужо рана. Сонца ўстае, нам трэба самім уцякаць, – казалі зоркі і адна за адной пачалі знікаць.

Засталася толькі адна ранішняя зорка – Заранка.

– Добра, Яснейка, я табе дапамагу. Я ўпаду ў возера Сялява і закрыю падземную крыніцу. Але калі Сонца ўстане і заўважыць, што мяне няма на месцы – вельмі раззлуецца. Спапяліць ня толькі вашую краіну, але ўсю Зямлю ператворыць у пустэльню.

– І што ж рабіць, Заранка? – запыталася Яснейка.

– Ты, Яснейка, ужо шмат маеш зорнага святла. Таму ты зоймеш маё месца. Я ўпаду ў возера ў той момант, калі Сонца пачне ўставаць. Першы прамень Сонца – зялёны. У той час Сонца нічога не бачыць, яму здаецца што на Зямлі ўсё ўпарадку – усё зялёнае і прыгожае. У гэтае імгненне, ты можаш па зялёным промні падняцца ў неба, якраз на маё месца. Але гэтая імгненне вельмі хуткае, вокамгненнае, ты павінна паспець. Інакш уся Зямля загіне! Рыхтуйся! Увага!

На даляглядзе, на ўсходзе, успыхнуў зялёны прамень. Заранка ўпала з неба, дакладна ў возера, закрыла сабой падземную крыніцу.

А Яснейка – успырхнула срэбнай ластаўкай, праляцела па зялёным промні і ўстала на небе як раз на тым самым месцы, дзе была Заранка.



Вось і прыдаўся глей, падораны царом-сомам Самвусонам. Як толькі Заранка сказала “Увага”, Яснейка разбіла збанок, хутка абмазалася глеем і пераўтварылася ў ластаўку.

І Сонца не заўважыла гэтую замену. Толькі людзі на зямлі, якія ў гэты час глядзелі на Заранку, маглі падумаць, што ранішняя зорка на міг міргanула.

Гэты “мірг” заўважыў цар-сом Самвусон і вельмі засумаваў, бо Яснейка цяпер стала жыць далёка на небе... І з гэтай пары прыдворныя клічуць яго не Ваша Самавітасць, а Ваша Сумавітасць.

Таксама заўважыў, як мірганула Заранка кароль-сом Журмоль. Ён ужо сам сабраў сваіх рыбаў-рыцараў і ішоў да возера Сялява, браць замуж Яснейку. Кароль-сом Журмоль, пазнаў на небе Яснейку. Развярнуў сваё войска і сказаў:

– Вось табе і Се-Ля-Ві.

Праўда ён хацеў сказаць – вось табе і Ся-ля-ва, але атрымалася па-французску. Бо па-французску Се-Ля-Ві – значыць “вось табе і такое жыццё”...

Заўважыў Заранку і індзеец Хітрае Вока. Ён склаў прыгожую песню, падняўся высока ў скалістыя горы і спеў яе Яснейцы. Той было вельмі прыемна.

Возера Сялява паступова супакоілася, лягло ў свае новыя берагі. Сумна было на душы у князя Селявона і княгіні Ладаславы... Хаця кожны вечар і раніцу яны бачылі сваю дачку на небе. І ўсе жыхары былі вельмі ўдзячны Яснейцы, што выратавала іх.

Вось такая гісторыя адбылася даўным-даўно на возеры Сялява. І дагэтуль на ім ёсць выспа, на якой яшчэ відаць старажытнае замчышча.

А цар-сом Самвусон дагэтуль дзесьці у самай глыбі возера жыве... Удзень спіць, а ноччу– любуецца зорамі. Бывае, гучна бурболіць – злуецца на рыбакоў, што сваімі чаўнамі закрываюць яму начное неба.

К нам, у рэдакцыю, трапіў 14-ты нумар “Информационно-аналитического бюллетеня – Альтернатива” што распаўсюджваецца на тэрыторыі Крупскага раёна (як пазначана ў выданьні) з 2005 году. Нумар выйшаў тыражом 50 экз. і цалкам прысвечаны падзеям, што адбыліся на могілках вв.Малыя і Вялікія Жаберычы Дакудаўскага с/савету – усталяваньне крыжа з памятнай тарчай і наступнага (праз некалькі дзён) яго зьнікнення. Зьмяшчаем перадрук гэтага выданьня без скаротаў. Ад сябе дадаем згаданы (далёка не поўны) спіс нашых землякоў. Далучаемся да думак і пачуцьцяў невядомага аўтара й цьверда стаім ў Веры, што рана ці позна духоўнасьць пераможа бездухоўнасьць…



# Усталяваньне крыжа ў памяць рэпрэсаваных землякоў



**ПАДЗЕЯ – 2009**

## ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ ВАМ, ДАРАГІЯ ЗЕМЛЯКІ!

**23 мая 2009 года на жабярыцкіх могілках быў усталяваны крыж у памяць тых жыхароў і ўраджэнцаў вёсак Вялікія і Малыя Жаберычы, большасць з якіх ў вядомы ўсім час былі рэпрэсаваны: арыштаваны, а потым растраляны (акрамя сямі чалавек, якія атрымалі іншае пакаранне).**

У спісе - 68 чалавек. Абсалютная большасць з іх былі пазней рэабілітаваны. Гэта значыць, што ўлада прызнала, што яны былі пакараны без аніякай уласнай віны. Ніхто з іх не мае ўласнага месца пахавання, куды маглі бы прыйсці родзічы, каб памянуць блізкага чалавека: бацьку або маці, деда або бабку, дзядзьку або цётку, брата або сястру, проста сваяка ці чалавека... Ніхто з іх не мае ўласнага месца пахавання, куды мог бы прыйсці, каб пакаяцца, той, хто так або інакш мае дачыненне да гвалтоўнай і трагічнай смерці каго-небудзь з гэтых людзей... Гэта, канечне, калі б у яго хапіла сумлення пакаяцца. Усталяваны памятны крыж павінен быў стаць іх умоўным месцам пахавання. Да якога можна было б прыйсці на Радуніцу, на Дзяды або проста прыйсці, каб ускласці звычайныя кветкі, успомніць тых людзей і той безлітасны час – каб, барані божа, трагедыя не паўтарылася зноў...Павінен быў, але... не стаў. Бо праз два-тры дні яго вырвалі – прадстаўнікі... праваахоўных органаў (якое нашае права яны пры гэтым спрабавалі абараніць?) Каб пазбавіць нас памяці... Па загаду ўлады. Улада і катавала. Улада і рэабілітавала нявінных, не пакараўшы пры гэтым нікога з тых, хто быў павінен у смерці нявінных. А зараз яна жадае, каб людзі забыліся і пра тое, і пра другое... Усталяванне крыжа, безумоўна, сведчыць аб маральным абліччы тых, хто яго стварыў. Знішчэнне крыжа, безумоўна, таксама сведчыць аб маральным абліччы тых, хто яго знішчыў. Адно з гэтых абліччаў - гэта, безумоўна, абліччa маральнага убоства... Але пройдзе час – і памятны крыж зноў апынецца на гэтым жа месцы. Бо рана ці позна, але... духоўнасць перамагае бездухоўнасць, сумленне перамагае бессаромнасць, праўда перамагае хлусню... Менавіта такім змагаром быў Юрка Моніч, Настаўнік, Георгіеўскі кавалер, Беларус – адзін з тых нямногіх, хто не быў рэабілітаваны ўладай, бо не скарыўся і адважыўся выступіць супраць уладнага насілля над сялянамі. Яго не змаглі арыштаваць. Яго проста забілі. Першым з усяго спісу землякоў. А каб не забілі, каб перамог ён – магчыма, і наогул не было б такога сумнага спісу. Таму – яго выява на памятным крыжы. Як першага... Як не скарыўшагася... Астатніх арыштавалі, потым большасць пакаралі смерцю. Сямёра атрымалі або лагер, або высылку. А што атрымалі мы?

## СПІС ЖЫХАРОЎ ВВ. ВЯЛІКІЯ І МАЛЫЯ ЖАБЕРЫЧЫ, РЭПРЭСАВАНЫХ САВЕЦКАЙ ЎЛАДАЙ Ў 1919 – 1944ГГ.:

МОНІЧ Юрый Адамавіч, 1890 / 23.5.1924.
АКАЛОВІЧ Васіль ?, 1877 / ?.
АКАЛОВІЧ Піліп Васільевіч, 1900 - ?.
АКАЛОВІЧ Андрэй Васільевіч, 1910 / 17.12.1937
АКАЛОВІЧ Уладзімер Адамавіч, 1908 / 28.2.1938.
АКАЛОВІЧ Аляксандр Адамавіч, 1911 / 10.11.1937.
АКАЛОВІЧ Фёдар Адамавіч, 1906 / 10.11.1937.
АКАЛОВІЧ Пётр Адамавіч, 1916 / 10.11.1937.
АКУНЕВІЧ Ілья Рыгоравіч, ліпень 1912 / 10.11.1937.
АКУНЕВІЧ Фёдар Рыгоравіч, 25.8.1893 / 10.11.1937.
АШКЕР Георгій Самуілавіч, 1901 / 28.3.1938.
АШКЕР Міхаіл Самуілавіч, 18.12.1906 / 10.11.1937.
АШКЕР Надзея Самуілаўна, 1907 / 10.11.1937.
АШКЕР Рыгор Самуілавіч, 1912 / 10.11.1937.
АШКЕР Сафія Ермалаеўна, 1877 / 10.11.1937.
АШКЕР Самуіл Сямёнавіч, 1870 / 10.11.1937.
БУДНІК Віктар Аляксандравіч, 1905 / 28.2.1938.
ДРАНІЦА Іван Паўлавіч, 1870 / ?
БЫКАЎ Іван Паўлавіч, 1899 / 8.11.1937.
ДЫКА Міхаіл Елісеевіч, 1882 / 13.4.1938.
ДЫКА Іван Елісеевіч, 1885 / 13.4.1938.
ДЫКА Павел Елісеевіч, 1886 / 1944.
ДЫКА Піліп Елісеевіч, 1895 / ?
ЕРМАЛОВІЧ-ЛЫЦІНА Алена Аксенцьеўна, 1889 / 28.2.1938.
КАСЦЮКЕВІЧ Лаўрэн Іванавіч, 1890 / 28.2.1938.
КАТОЎСКІ Васіль Міхайлавіч, 6.4.1893 / 10.11.1937.
ЛАЗАРЭВІЧ Алена А., ? / ?.
ЛАЗАРЭВІЧ Сямён Канстанцінавіч, кастрычнік 1894 / 10.11.1937.
ЛАЗАРЭВІЧ Аляксандр Адамавіч, 26.12.1896 / 10.11.1937.
ЛАПАРЭВІЧ Максім Іванавіч, 30.7.1895 / 10.11.1937.
ЛАПАРЭВІЧ Пётр Іванавіч, 1900 / 10.11.1937.
ЛЫЦІН Лявон (Леон) Зіноўевіч, 1887 / 10.11.1937.
ЛЫЦІН Уладзімер Аксёнавіч, 2.9.1907 / 10.11.1937.
ЛЫЦІН Васіль Прохаравіч, 1910 / 10.11.1937.
МАЛАСАЙ Аляксандр Мікітавіч, 1900 /?.
МАРЦЫНКЕВІЧ Іван Іванавіч, 1903 / 28.2.1938.
МОНІЧ Павел Антонавіч, 1907 / 20.2.1938.
МОНІЧ Яфрэм Васільевіч, 1902 / 28.2.1938.
МОНІЧ Ігнат Іванавіч, 1889 / 28.2.1938.
МОНІЧ Лідзія Ігнатаўна, 1912 / 28.2.1938.
МОНІЧ Фёдар Ігнатавіч, 1914 / 28.2.1938.
МОНІЧ Парфен (Парфірый) Васільевіч, 1906 / 28.2.1938.
МОНІЧ Адам ?, ? / ?.
МОНІЧ Аўгіння (Матруна?) ?, 7 / ?.
МОНІЧ Пётр Адамавіч, 1908 / 28.2.1938.
МОНІЧ Васіль Емельянавіч, 1874 / 10.11.1937.
МОНІЧ Ціт Ільыч, 24.8.1895 / 10.11.1937.
МОНІЧ Цімафей Аляксеевіч, 1872 / ?.
МОНІЧ Андрэй Марцінавіч, 1891 / 10.11.1937.
МОНІЧ Іван Максімавіч, 1924 / ?
НІШЧАНКА Максім Язэпавіч (Фёдаравіч), 1893 / 10.12.1937.
ПЁТУХ Антон Сцяпанавіч, 6.1.1912 / 3.11.1937.
РАЛЕЙНА Сяргей Аксёнавіч, 1905 / 10.11.1937.
РАЛЕЙНА Раман Венядзіктавіч, 1907 / 28.2.1938.
СІДЛЯРОНАК Марцін Дзмітрыевіч, 15.7.1910 / 5.11.1937.
СІДЛЯРОНАК Ягор Дзмітрыевіч, 1913 / 17.12.1937.
СІДЛЯРОНАК Міхаіл Мікітавіч, 5.11.1895 / 10.11.1937.
СІДЛЯРОНАК Васіль Мікітавіч, 1898 / 28.2.1938.
СМАЛЯГА Пётр Барысавіч, 1877 / 17.1.1938.
СМАЛЯГА Уладзімер Пятровіч, 1908 / 19.1.1938.
СТАРАДУБЕЦ Язэп Паўлавіч, 4.4.1886 / 10.11.1937.
СТАРАДУБЕЦ Канстанцін Арцем’евіч, 1902 / 28.2.1938.
СТАРАДУБЦАЎ Аляксандр Леонавіч, 1892 / 10.11.1937.
ТУМАНАЎ (Тумар) Гаўрыіл Іванавіч, 1882 / 1975.
ТУМАР Васіль Іванавіч, 30.1.1895 / 5.11.1937.
ТУМАР Міхаіл Мацьвеевіч, 1900 / 22.3.1938.
ТУМАР Панцялей Мацьвеевіч, 1903 / 28.2.1938.
ХАЕЦКІ Антон Дамінікавіч, 1902 / 8.3.1938.




Вечны супакой
дай ім, Пане,
а святло вечнае
няхай ім свеціць.
Няхай адпачы-
ваюць у супакоі.
Амэн.

**МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ/2009** *Patria Super Omnia B*

Гісторыка-краязнаўчы альманах Друцка-Бярэзінскага Краю

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР / Андрэй АЛЯХНОВІЧ

РЭДКАЛЕГІЯ / Валеры АРЦЮХОВІЧ, Міхал БАРАВУЛЯ, Яніна ДЭМУХ.

МАСТАЦКАЕ АФАРМЛЕНЬНЕ, МАКЕТ, ВЁРСТКА / Марцін КОЙДАН

**Адрас для ліставаньня:** skaut63@gmail.com

**Тыраж 299 экз.**

**Фота на вокладках/** *Баркоўская (Гласоўская) Фядора Амосаўна,1903 г. н. і Баркоўскі Астахей Кандратавіч (гл. артыкул на с.179), 1893 г. нар. м. Халапенічы /Панскія прысады ў маёнтку м. Халапенічы (гл. артыкул на с. 49).*




рэгіянальная арганізацыя

"СКАЎТЫ І КРАЯЗНАЎЦЫ МАЛОГА ПАЛЕСЬСЯ"







Dy jak nie skladać pra
was zdrawicy-pieśni,
bary sancakosyja,
chwojnyja huszczy,
Moj kraju lubimy...
Maloje Paleśsie, maja
niepaŭtornaja
Krupszczyna






**“Батурынскі шлях” – I; “Вялікі Гасцінец” – II** *(да артыкула «Шляхамі Малога Палесься», с. 9)*



ляхецкія маёнткі з часоў ВКЛ да пачатку XX ст. –
неад'емная частка архітэктурнага ландшафту Беларусі.
Пра шляхецкія сядзібы Крупшчыны чытайце
ў артыкуле Валерыя Арцюховіча
«Архітэктура маёнткаў Крупшчыны» на старонцы 49.